

5

МАЙ

МІНСК. 1970

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

Вокладка **В. Шрамякова.**

Шмуцтытулы **М. і У. Басалыгаў** (3 стар.) і фота **«Парад Перамогі на Краснай плошчы ў Маскве»** (стар. 81).



# ПАЭЗІЯ ✣ ПРОЗА

- **Генадзь БУРАЎКІН**
- **Іван СЯРКОЎ**
- **Яўгенія ЯНІШЧЫЦ**
- **Вісарыён ГАРБУК**
- **Леанід ЯКУБОВІЧ**
- **Янка БРЫЛЬ**
- **Васіль ВІТКА**







Генадзь БУРАЎКІН

● *Хатынскі снег* ●● ——————

●●● —————— ●●●● ——————



●

*„Іменем расстраляных,*
*закатаваных,*
*паўшых*
*Мы вам свет завяшчаем*
*без слёз і вайны.*
*Толькі ў вашых сэрцах,*
*у памяці вашай*
*Хай ніколі не моўкнуць*
*нашы званы!“*

**1**

Жураўлём сакавіцкая раніца зарыпела.
Бухнула ў студні аб лядок вядро.
Крактануў пад нагою снег белы.
Грымнула каля прыпечка бярэма бярозавых дроў.

Нясмела кукарэкнуў певень прастуджаны.
Дзвынкнула аб даёнку тугое малако.
Высока ўзнімаючы лапы,
прабег па ўчарашняй лужыне
Худы і ахрыплы кот.

Дымком над вёскай запахла смачна.
Шкрэбнуў па поснай патэльні шчарбаты нож.
Атрымаў першую аплявуху матчыну
Мурзаты падшыванец,
што выбег на вуліцу басанож.

Мужыкі поўла ў хлявы цягалі.
Гаспадыні няньчылі ў далонях праснакі...



А вёску сціскалі ўжо абцугамі
Карнікаў чорныя грузавікі.

І вось
чорным колам,
тупым і грузным,
Раструшчана ранішняя маўклівая стынь.
Закусіла пабялелыя вусны,
Сцялася ў страху Хатынь.

З ганкаў сонныя дзеці
злятаюць гракамі.
Маткі на іх спяшаюцца хоць пінжакі надзець.
Ад кулі
засланяецца высахлымі рукамі
Сівабароды нямоглы дзед.

Немаўляты заходзяцца плачам.
Цягнуць з печы бабулю сляпую,
Прыкладам — у плечы,
Кулаком — пад дых.
З двароў зганяюць на ўскраек
у пуню
Усіх —
і старых, і маладых.

Выкацілася круглае сонца.
На дыбачкі ўстала над гаем.
Пад промнямі
першыя вясновыя кроплі ўпалі са стрэх...
Застагнаў,
загаласіў пад нагамі
Б е л ы калючы снег.

**2**

У шэрым змроку шапталіся ціха мужчыны.
Бліжэй адно да другога тулілася радня.
Над галовамі скупа прабівалася праз шчыліны
Вясёлае святло сакавіцкага дня.

Людзі яшчэ ў збавенне верылі,
Хоць і калола над сэрцам здагадак асцё.
Але калі
пачалі цвікамі забіваць дзверы
І дыхнула бензінам —
стала ясна ўсё.

І людзі сцяліся.
І здавалася:
Гэта іх да сцен прыбіваюць цвікамі,
Гэта для іх труну збіваюць са старых трухлявых сцен.
І маці
спалоханымі рукамі
Да сябе прыціскалі галовы дзяцей.

Карнікі
бензінам
апошнюю свечку надзеі згасілі.
У шчыліны
полымя
пачало ўтыкаць чырвоныя крывыя нажы.
І бабы загаласілі:
— А дзеткі!
А вы ж не паспелі пажыць!

А вашы ж ногі не паспелі нахадзіцца.
А вашы ж рукі не паспелі напрацавацца.

А вашы ж вочы не паспелі наглядзецца.
А вы ж не паспелі ўнукамі парадаваць нас.
Крывіначкі нашы!
Сонейкі нашы!
Дзеці!
За што ж яны вас?!

Ужо не іскры,
а снапы пякельнага полымя
На галовы абрынуліся са страхі.
І людзі ад іх адбіваліся рукамі голымі.
І засквірчэлі на плячах кажухі.

Ад немага крыку
абвалілася пуня.
Грымнулі вобзем дзверы.
І ўпала,
як чырвоны куль,
Халоднага снегу шукала
сляпая бабуля,
А знайшла толькі жменю гарачых куль.

Страчылі кулямёты
па агні,
па стогнах і плачу.
Радзеў
і падаў
ахрыплы пакутны крык.
І вось застаўся адзін толькі енк дзіцячы.
Але і ён
пахіснуўся
І знік.

Тады апусціла вінтоўкі чорнашынельнае войска.
Хоць бы дзе бразнулі веснічкі.
Хоць бы заскуголіла шчаня.
Кроў астывала.
Хаты дагаралі.
Над вёскай
Вісела мёртвая цішыня.

І карнікі глядзелі вачамі пустымі,
Як ашалелы кот па вуліцы бег,
Як ляжаў,
не таячы, у Хатыні
Ч ы р в о н ы гарачы снег.

### 3

Датлявалі галавешкі,
адсвечвалі варанёнай сінявою металу.
То зусім патухалі,
то ўспыхвалі зноў.
У нізкае неба Хатынь узнімала
Абгарэлыя кульці камінoў.

Валяліся ходзікі з бляшанай зязюляй.
На іхніх стрэлках навекі спыніўся час.
Мядзведзем
пад ліпай асунуўся спалены вулей.
Як растаптаны месяц,
вытыркаўся з попелу медны таз.

Нібы на чорным абрусе ў жалобным застоллі
Вялізны жоўты пірог,
Ляжалі жорны,
што партызанам ячмень малолі
І пасля вайны
у новай хаце хацелі падперці парог.



Хмары і дрэвы чадам густым прагорклі.
Угары —
хоць бы зорка,
хоць бы крупінка святла.
А самае жудаснае —
там,
на ўзгорку,
Дзе пуня была.

Там
яшчэ ўспыхвалі вугольчыкі цёплыя.
Там
на залітай крывёю зямлі
Маці — прыгаршчамі,
А сын — жменькаю попелу
Побач ляглі.

Там
яшчэ лавілі абгарэлыя пальцы
Апошняга дыхання сінявaты дым.
І сажаю
ў прастрэленыя далоні асыпаліся
Хаты,
шпакоўні,
сады.

І раты абвугленыя
крычалі нема.
І, нібы ў жахлівым дзіцячым сне,
Падаў з чорнага начнога неба
Ч о р н ы жалобны снег.

...Зрываецца звонкі капеж са стрэх.
Разгойдвае неба дзіцячы смех.
А ў памяці
вечна
стыне
Белы снег,
Чырвоны снег,
Чорны снег
Нашай святыні —
Х а т ы н і.

●●

Колькі б ты мяне ні прасіла,
А ў далёкім краі ў журбе
Перш за ўсё ўспамінаю пра сына,
А пасля ўжо —
пра дом і цябе.

Чым бы дзень мой ні быў заняты,
Нада мною ў густой сіняве
Свецяць сынавы вачаняты —
Непагасныя зоркі дзве.

І нясе іх святло слабое
Шчасце веры
ў маю душу.
Перад імі,
як перад сабою,
Я ніколі ў жыцці не схлушу.

Усё,
    што ў памяці вечнай пакіну,
Усё,
    што ў сэрца сваё прыму,
Перадам перад смерцю сыну,
Аляксею, нашчадку майму.

●●●

Чуеш,
        наплывае цёплы гром?
Бачыш,
          зацвітае навальніца?
Не спяшайся ў свой зацішны дом
Ад сухога ветру зачыніцца.

Пачакай у садзе.
                    Не бяжы.
Хай знікае той, хто трэці лішні.
Не бяда,
            што летнія дажджы
Чохнуць з дрэў,
                    як срэбраныя вішні.

Прытаіся на грудзях маіх.
І пад лопат вымытага лісця
Неба не зямлю,
                    а нас дваіх
Зыркзю маланкай перахрысціць.

●●●●

Табе, нібы праpоку, веру,
Што пражывём шмат зім і лет.
І калі смерць мне грукне ў дзверы,
Я пяратрушчу ёй хрыбет.

Ну а калі не саўладаю,
Ты да мяне прыйдзі тады,
Прыгожая і маладая,
Як у юнацкія гады.

Падай мне рукі палахліва.
І калі ўсё ж я упаду —
Дык у цябе,
                маёй цярплівай,
Маёй адзінай,
                на віду.



● Іван СЯРКОЎ

● Мал. В. ШАРАНГОВІЧА

# МЫ—ХЛОПЦЫ ЖЫВУЧЫЯ

## АПОВЕСЦЬ

### «У ЛУКОМОРЬЯ ДУБ ЗЕЛЕНЫЙ»

Школа. Добры дзень, школа! Даўно ўжо мы не сядзелі ў класах, не бегалі на перапынках па гулкіх калідорах, даўно гэтыя сцены і старыя таполі на двары не чулі вясёлага званка. Як пайшлі мы ў маі сорак першага года на канікулы, дык не тры месяцы цягнуліся яны, а тры гады.

У школе спалі чужыя салдаты, тут спраўлялі п'янкі паліцаі, нават стаялі нямецкія коні, а потым ляжалі ў класах гурбы снегу і гуляў па калідорах вецер. А сёння раніцай у старой нашай школе зноў зазвінеў званок.

Пакуль што толькі ў старой. На цагляную, што збудавалі перад самай вайной, у сельсавета не хапае, як кажа дзядзька Скок, дзевяць грыўняў да рубля. Там па-ранейшаму пуста. Пад сценамі вырас чартапалох, вечарам пад самымі крокваміі лятаюць кажаны, ды хлапчукі, гуляючы ў жмуркі, рэжуць на бітым шкле ногі.

Пакуль што так-сяк, на жывую нітку, адрамантавалі толькі старую школу, і сёння мы зноў селі за парты. Праўда, гэта толькі так гаворыцца, што парты, а на самой справе — гэта даўжэзныя ў адну дошку сталы. За такую парту лезе восем чалавек, а калі добра паціснуцца, то і дзесяць.

---

Заканчэнне. Пачатак у № 4.

Але нам сядзець няцесна. Першакласнікаў, дык тых сабралася цёмная сіла, усе разам за тры гады сышліся, а ў нас багата хлопцаў не прыйшло. З нашых з Санькам сяброў — толькі двое. Міцька-Мангол на могілках. Яго немцы застрэлілі. А Пецька Чыжык памагае матцы карміць сям'ю. Сёння, ідучы ў школу, мы сустрэлі яго на вуліцы. Пецька ехаў вярхом на Стрыгунку.

— Дык ты не пойдзеш? — кіўнуў Санька галавой да школы.

— Не,— уздыхнуў Чыжык.— Не пайду. Трэба ж каму-небудзь і коней пасвіць, не ўсім вучонымі быць.

Ад сонца, ад начных вогнішчаў на лузе, ад дажджоў і ветру твар у Чыжыка пачарнеў, пагрубеў — з выгляду не скажаш, што гэтаму хлопцу чатырнаццаць. Мужык — і годзе. Толькі дробненькі. І голас у Пецькі сіплы, прастуджаны.

Мы прыбраліся ў школу, як хто сумеў. Санька ў новай кашулі з парашутнага палатна. Смык у штанах з брызентавай салдацкай плашч-палаткі. Яны моршчацца гармонікам і ніякай сілай іх не разраўняеш. Адцягне Пецька рукамі штаніну ўніз — роўна, толькі за другую возьмецца, а першая пстрык — і зноў гармонікам. Не штаніны, а спружыны.

Кніжак мы сабе з Санькам так і не купілі. А сшыткі ёсць: два купленыя ды яшчэ самаробныя са шпалераў. Тоўстыя, як біблія. Старонка чыстая, старонка размаляваная блакітнымі кветкамі — пішы і любуйся.

Такую ж «біблію» я пашыў і Глыжку. Ён сёння таксама прыйшоў вучыцца. Падхапіўся з пеўнямі — баяўся праспаць, сам памыў шыю. Бабуля абодвух і за парог правяла:

— Ну, ідзіце, грамацеі... Ды не хадзіце там на галовах.

Санька крыху багацейшы за нас з Глыжкам. Добра яму — немцы, калі стаяў у іх афіцэр, абляпілі іхнюю хату белай паперай. Начальству не спадабаліся абшарпаныя сцены. А цяпер, перад школай, гэта Саньку, як знаходка. Пакуль матка была ў полі, ён навёў свой парадак у хаце — абадраў сцены, ні шматка не пакінуў. Было яму ад маткі! Мы з хлопцамі нават на вуліцы чулі, як яна крычала:

— Ах ты, лядашчэ! Ах ты, гайдамака!

Санька ўсё гэта мужна пеpажыў, затое зараз у вус не дзьме: робіць сшыткі і блакноцікі.

Так мы падрыхтаваліся да школы.

І вось адчыніліся ў класе дзверы, у момант сціх гоман і смех— на парозе стаіць наша Антаніна Аляксандраўна. За вайну яна быццам і не перамянілася, такая ж дробненькая і сухенькая, толькі сіняя сукенка, якую настаўніца апранала ў святы, зусім выцвіла. Усё тыя ж бліскучыя шкельцы самі, без аглабелек, трымаюцца на носе. Цяпер мы ведаем, як яны называюцца — пенснэ. Настаўніца абвяла ўважлівым позіркам клас, і ў яе акулярах адлюстраваліся вокны, «парты», Сталін на сцяне і мы з Санькам на лаве.

— Добры дзень, дзеці!

Адказваючы на прывітанне, мы з Санькам усміхнуліся адзін аднаму вачыма. Дзеці! Сказала б ужо як-небудзь інакш. Вунь Сонька Зыкава ўжо сабе валасы накучаравіла. Напэўна, крадком ад маткі круціла на гарачы цвік. А ў Пецькі Смыка пушок пад носам расце. Адтапырыўшы губу, Смык скубе яго двума пальцамі, быццам вусы падкручвае. Ён так нашчыпаў сабе пад носам, што там аж чырвона. Праўда, у нас з Санькам яшчэ вусоў няма, бо мы не сядзелі, як Смык, па два гады ў класе. Але і мы таксама хлопцы нічога сабе. Ладныя. Калі б не вайна, то былі б ужо не ў чацвёртым, а ў сёмым.



У першы дзень мы амаль не вучыліся, а так —гаварылі пра жыццё. Антаніна Аляксандраўна ўсё здзіўлялася, як мы выраслі, расказвала пра сваю эвакуацыю на Урал, а мы ёй пра немцаў, пра мадзьяраў і італьянцаў. Пра свае геройствы таксама. Выходзіць, не толькі я з Санькам насаліў фашыстам — у кожнага з хлопцаў знайшлося што расказаць. Адзін італьянскага каня ў балота загнаў, другі — афіцэрскі бінокль з-за коміна быццам незнарок скінуў, каб той разбіўся, трэці на кухні ў суп пяску насыпаў. Во, трашчала ў фашыстаў на зубах! Былі і больш сур'ёзныя справы: кралі гранаты, хавалі раненых. Як мы, напрыклад, з дзедам Міронам — камісара.

Успомнілі, як кніжкі са школьнай бібліятэкі цягалі па хатах, калі паліцай Няўмыка павывальваў іх на падлогу з шафаў.

Антаніна Аляксандраўна ўпэўнена, што мы героі. Толькі дзякуючы нам, у школе зноў будзе бібліятэка.

Не, бібліятэкі не будзе. У хлопцаў пагарэлі хаты, а разам з імі кніжкі. У нас з Санькам хаты цэлыя, але нашымі кніжкамі ўсю вайну харчаваліся мышы. Можа, там і ўцалела якія два-тры дзесяткі.

— Усё адно героі,— пахваліла нас настаўніца.

І вось ужо тыдзень, другі і трэці ідуць заняткі, вось ужо Антаніна Аляксандраўна нам расказвае пра Пушкіна. Не пра таго, зразумела, што ля Казадоя. Пра таго мы самі ведаем. Гэта Сцёпка Піліпчыкаў, высокі, худы, чорны і кучаравы. За гэта на яго і кажуць Пушкін, хоць ён і не ўмее пісаць вершы.

У лукоморья дуб зелёный,
Златая цепь на дубе том,—

чытае настаўніца, а Саньку пад бок штурхае Пецька Смык і шэпча:

— Санька, Санька... Дай трубачку. Навошта яна табе?

У Санькі ёсць медная бліскучая трубачка таўшчынёй з аловак. З аднаго боку яна запаяна наглуха, а з другога, там дзе таўсцей,— разьба. Гэтую трубку згубіў нейкі разява, а Санька знайшоў. Цяпер ён хоча дома адпілаваць канцы і зрабіць сабе такую ручку, каб пяро хавалася ў сярэдзіну.

И днём и ночью кот учёный
Всё ходит по цепи кругом.

А Пецька з Санькавай трубкі хоча зрабіць свісток. Гэтых свісткоў у яго цэлая процьма. Робіць іх ён з палосак бляхі, з пустых гільз, з гарошынай у сярэдзіне і без гарошын, а потым прадае хлапчукам з малодшых класаў за скібку хлеба, за кавалак каржа ці за пару буйных антонавак. Хлапчукі самі бегаюць галодныя, затое свішчуць у свісткі ўдосталь.

Идет направо — песнь заводит,
Налево — сказку говорит.

А яшчэ Смык навучыўся з пятакоў каваць пярсцёнкі. Так скуе і так выблішчыць, што золата не дакажа. Гэтымі пярсцёнкамі ён надзяліў ужо ўсіх старэйшых дзяўчат і маладзіц з усяго Хутара.

Там чудеса, там леший бродит,
Русалка на ветвях сидит.

Санька не ўтрываў. Аддаў Смыку трубачку за гатовую ручку. Праўда, ручка тая была крыху ржавая і гнутая, затое прыдача добрая: пяро «86» і «жабка». Мякка так піша і зусім не драпае.

Там на неведомых дорожках
Следы невиданных зверей.



А Смык не слухае. Ён не можа дачакацца перапынку, выцягнуў з кішэні ножык і пачаў пад партай калупаць Санькаву трубачку. Робіць ён гэта даволі ўмела. Вочы пільна і аддана глядзяць на настаўніцу. Здаецца, ён увесь там, каля таго дуба, дзе ходзіць кот вучоны. З выгляду нізашто не скажаш, што ў Смыкавай галаве свісткі. А ножык так і пілуе там, пад сталом. Увесь стол ходзіць ходырам. Бутэлечка з-пад ёду, у якой Васька Мамуля трымае чарніла, ледзь не пляснулася на падлогу. Яе схапілі ўжо на ляту.

Толькі Антаніна Аляксандраўна апусціць акуляры ў кнігу, Смык зірне пад стол на сваю працу і сядзіць, як святы ўгоднік. Напэўна, медная трубка паддаецца добра, таму што выгляд у Пецькі вельмі задаволены.

Избушка там на курьих ножках
Стоит без окон, без...

Выбух грукнуў так нечакана, што ў настаўніцы выпала з рук чытанка і зляцелі з носа акуляры. Дзяўчаты віскнулі, а мы з Санькам падскочылі з месца і ледзь не павалілі парту. На гэты раз Мамуліна бутэлечка плюхнулася на падлогу, расцяклася лужынай і абпырскала сцены.



Пецька Смык белы, як нябожчык. Ад перапалоху ён не можа сказаць слова, толькі войкае:

— А-ва-ва-ва...

З-пад яго валіць шызы, едкі дым, здаецца, нібы Пецька гарыць, а на падлозе рассыпаны свежыя сасновыя трэсачкі, што адляцелі ад стала. На трэсачкі з чырвоных Смыкавых рук капае кроў.

У школе падняўся перапалох. Загаманілі суседнія класы, загрукалі дзверы. Да нас ускочыў устрывожаны дырэктар. Ён не распытваў, што тут здарылася, а, убачыўшы Пецькавы рукі, схапіў яго за плячо і павалок з сабой.

Антаніне Аляксандраўне зрабілася млосна. Яе пад пахі павялі з класа дзяўчаты. Заняткаў у той дзень болей не было. Дзяўчаты доўга сядзелі перапалоханыя, а хлопцы, крыху апрытомнеўшы, спляліся спрачацца, што гэта ўзарвалася: адны кажуць — спецыяльная міна, другія — запал.

Калі мы ішлі дахаты, па дарозе нас дагнаў Смык. Ён вяртаўся з медпункта і нёс перад сабой забінатаваныя рукі. Пецька яшчэ храбрыўся:

— На правай руцэ вельмі пальцы пабіла, а косці цэлыя. Нічога страшнага!

Дома, не паспеў я пераступіць парог, бабка, ужо дачуўшыся ад Глыжкі, што было ў школе, мяне папрасіла:

— Хоць ты ўжо не рабі свісткоў, нячысцік!

Мне аж крыўдна зрабілася:

— Што я, малы?

— Малы-немалы, а розуму хопіць.

І зноў за сваё:

— Ой, хоць бы ўжо хутчэй сам прыйшоў.

Сам — гэта, канечне, бацька. Ад яго ўжо даўно нічога не чутна. Бабка баіцца, каб нам казённага пісьма-пахавальнай не прынеслі.

Але пад вясну нам прынеслі звычайнае пісьмо. Піша бацька, што цяпер ён у нейкай Усходняй Прусіі.

Па вясне загаіліся і Смыкавы раны. Толькі адзін палец цяпер не гнецца. Захоча Пецька каму-небудзь пагразіць, сцісне кулак, а ўсе думаюць, што ён пальцам кудысьці паказвае ці варон лічыць.

## БАБУЛЬКА ЗЛУЕ НА АМЕРЫКУ

Па праўдзе кажучы, бабулька злуе не толькі на Амерыку. Яе адзіны ў роце зуб гарыць і на Германію, і на ваўкалаку, і на старшыню сельсавета дзядзьку Скока, і на старшыню калгаса таварыша Дзяка, і, вядома, на нас з Глыжкам.

Бабка злуе, што я ёй галаву здурыў і запаганіў попелам двор і, мала мне двара, дык яшчэ — і сенцы.

А пачалося гэта яшчэ зімой, калі да нас у школу прыйшоў старшыня калгаса таварыш Дзяк. Дзяк — чалавек не падлюбскі, а прысланы з раёна, завуць яго Лявонам Ігнатавічам, а прозвішча — Мароз. Але ў падлюбцаў пад уласным прозвішчам мала хто жыве. Голас у Мароза звініць, як медны звон, аж шыбы дрыжаць. Паслухалі людзі яго адзін раз і сказалі — Дзяк.

Ходзіць Дзяк у белым салдацкім кажуху, туга падпяразаны камандзірскай папругай. Твар заўсёды чырвоны, нібы бурак, а на шы-

рокім носе густая сетка сініх жылак. Пасля ранення ці пасля кантузіі, а можа, і проста ад роду ў Дзяка заўсёды галава крыху задрана ўгору, і мы толькі дзіву даемся, як гэта можна, не гледзячы сабе пад ногі, не зваліцца ў ямку або не спатыкнуцца аб камень.

Дзяк умее кругла гаварыць. Пры гэтым ён энергічна і рашуча махае рукамі, то сячэ далонню паветра, то паказвае кудысьці пальцам, то трасе кулаком. І пра што б ён толькі не пачаў — выходзіць, што гэта і ёсць самае галоўнае на свеце.

Пачаў ён гаварыць у школе пра попел, і выйшла ў яго, што ворага трэба біць не адной зброяй, яго трэба біць таксама высокім ураджаем. А для гэтага мы павінны збіраць што? Попел, ядроны корань!

Мы з Санькам думалі, што попел — гэта так сабе, нікчэмная непатрэбшчына. Усё жыццё мая бабка высыпае яго ў раўчак. Цяпер нам Дзяк растлумачыў, колькі ў ім карысці.

Кожную раніцу не паспее яшчэ бабка выграбці з печы, а я ўжо стаю над душой, кантралюю, каб чыста выграбала і, барані божа, не вынесла на сметнік.

— Дурныя вы са сваім Дзякам,— злуецца старая.— Гэта ж, каб з дроў, а з торфу куды ён варты?

А я і слухаць яе не хачу, проста з рук вырываю і хутчэй у сенцы. Тут наш класны попельны склад. Попелам засыпаны дзежкі, скрыні і ўсе куткі. Сюды свой попел цягаюць і з іншых двароў: Санька, Смык, Мамуля, нават Каця Глёкава. Праўда, калі мяне дома няма, бабуля іх і блізка на парог не пускае.

Мала бабулі, што я ёй жыць не даю, дык і Глыжка попелу хоча, так і глядзі, што з-пад рук выхапіць. Ён свой попел носіць у Скокаў двор. Там склад першага класа. А я гляджу, чаму гэта ў нашых сенцах попелу паменшала? Гэта ён цішком ад мяне бярэ і першакласнікам цягне. Добра, што заўважыў, дык прыструніў.

У тыдзень раз па вуліцы едзе калгасная падвода, і тады нашы сенцы на які дзень чыстыя, бабка з палёгкай уздыхае.

І ўсё роўна ў бабулі ўсё не так. Цяпер ёй пісары замінаюць. У нашай хаце пісараў, дзякуй богу, хапае. Калі б столькі работнікаў было, як гэтых попельшчыкаў ды пісараў, дык яна сядзела б склаўшы рукі. Асабліва ёй меншы ў пячонкі ўеўся. Такі ўжо грамацей, што не інакш міністрам будзе. Зразумела, не тым, што ў брыгадзе гной з-пад коней выкідае, а сапраўдным міністрам. Паперы ў нас няма, дык ён піша на ўсім, што пад руку трапіць: на стале, на старой газеце, на сцяне, на пабеленай да свята печы. Калі б на лбе яшчэ напісаў, дык і добра было б.

Вечарамі пры цьмяным агеньчыку каганца мы вучым урокі, калі пашанцуе выпрасіць у каго-небудзь кніжку. А цікава, што ў нашых кніжках напісана? Там не сказана, дзе ўзяць газы, якой засталося столькі, колькі кот наплакаў?

Не, пра гэта ў Санькавым задачніку нічога не сказана, наадварот, тут самі пытаюць у хворага здароўя. Колькі, напрыклад, можна пашыць штаноў са ста метраў матэрыі, калі вядома, што...

Са ста метраў матэрыі! Тут такі, як і я, целяпень, кажа бабка, нашые штаноў. Вось няхай яны возьмуць яе чорную спадніцу і рошаць, як пашыць з яе штаны ўсяго двум грамацеям. Калі пашыць мне, дык Глыжку і на латкі не застанецца, калі пашыць Глыжку, то мне яшчэ на трусы выйдзе. Гэта і так відаць, хоць бабка і не канчала ніякай школы.

Мы не вычыталі ў сваіх «бібліях», і куды падзеўся бабульчын «хрэнч». Хаця яна і без нас ведае, што без ваўкалакавых рук тут, на-



пэўна, не абышлося. Пасля таго, як ваўкалаку паганяў Максім Калдоба, той быў крыху прыціх, быццам некуды сышоў; пацяплела — зноў аб'явіўся, толькі цяпер не на цагельні, а недзе ў Ваўчыным Рове. Месца там глухое, хмызнякі непралазныя. Вось і звіў, відаць, там сабе кубло.

У Сідара Глушкі ноччу парсюка ўкраў, хлопцаў і дзяўчат, якія з далёкіх пасёлкаў бегаюць у нашу школу, неяк вечарам да смерці перапалохаў. А цяпер і да бабульчынага «хрэнча» дабраўся.

Праўда, там і «хрэнч» ужо такі. Адно званне толькі. Добрых «хрэнчаў» у немцаў спрадвеку не было. Хтосьці мне казаў, што яны сукно з бульбоўніку нейкай хіміяй робяць. Вось толькі не памятаю, хто: ці то Міністр, ці то Скок, ці бо большы Скачок — Лёшка. Дык яно і так відаць — не сукно, а гніллё. А бруд за яго бярэцца, як ваўчкі за сабаку. Вось і памыла бабка «хрэнч» на вясну і як з вечара павесіла сушыць, дык і цяпер сохне. І хто ж на такія штукі здатны, апрача ваўкалакі таго?

Але неўзабаве бабулька перастала так часта ўспамінаць пра сваю прапажу і крыху суцешылася. Па сяле разнеслася чутка: нашым Падлюбічам Амерыка прышле дапамогу. Цяпер бабуля амаль упэўнена, што, замест украдзенага, ёй дадуць новы «хрэнч», амерыканскі. А не «хрэнч», дык што-небудзь іншае, бо пра нашу згубу ведае ўсё начальства. Нездарма ж Максім Калдоба, які вярнуўся нядаўна са шпіталю, так уважліва ўсё распытваў, запісваў, а потым сказаў:

— Ну, не ўбівайся вельмі, Матрона Яўсееўна.

Мабыць, гэтым ён на нешта такое намякаў.

І вось кожны дзень, калі я вяртаюся са школы і не паспею яшчэ пераступіць парог, як старая задае мне адно і тое ж пытанне:

— Ты не чуў, Амерыка там яшчэ не прыслала нічога?

Бабуля нават пачала цікавіцца геаграфіяй. Неяк нам з Санькам трапілася карта ўсходняга і заходняга паўшар'яў. У школе мы такога яшчэ не праходзілі, а проста так разглядвалі і чыталі, дзе які акіян, дзе якое мора, дзе суша, дзе вада. І бабуля падышла да стала.

— Якая яна хоць, тая Амерыка?

Мы паказалі.

— А чаго яна такая? — здзівілася бабка.

— Якая такая?

— Ды ў поясе пераціснутая. Спачатку шырокая, потым вузкая, а потым зноў ушыркі пайшла.

Гэта і нам не вядома, чаму яна перацiснутая. Так ужо выйшла.

І вось Скок перdesignated, каб бабка прыйшла за амерыканскай помаччу.

— Добры чалавек,— пахваліла яго бабка і пабегла нават труском, потым з вуліцы назад вярнулася, кінула кашолку, а ўзяла мяшок. Мы з Глыжкам таксама кінулі вучыць урокі і з нецярплівасцю пачалі чакаць бабку з сельсавета. Цікава, што яна прынясе. Можа, кожнаму штаны ды па кашулі ў прыдачу. А можа, што-небудзь такое смачнае і вялікае, якое будзем есці-есці і не з'ядмо.

Вярнулася бабка надвячоркам, змрочная і невясёлая. Я адразу зразумеў, што мы дарма спадзяваліся на помач, а Глыжка, дык той палез са сваімі роспытамі і трапіў пад гарачую руку.

— Сядзь! — цыкнула бабка на яго.— Глядзі, разявіў рот на дармаўшчыну.

Помач была такая, што Скок не ведаў, як яе падзяліць. Зліналае паліто аддалі Нюрцы Казекінай. Той, што вунь за самым Сітнягом жыве. Яна са мной аднагодка, засталася без бацькі, без маткі, а на

руках яшчэ трое меншых братоў і сясцёр. Каму ж, як і не ёй, аддаць?

На Хутар адны боты трапілі. Здаецца, Палікарпіха ўзяла, бо сядзяць яе дзеці на печы, у школу не ходзяць: зусім няма чаго на ногі ўздзець.

А мы, выходзіць, яшчэ багацеі, нам, бачыце, і так яшчэ можна жыць, без ботаў.

— Гэта ж язык у яго павярнуўся? — кажа бабка пра Скока.

Праўда, і бабцы дасталося тое-сёе. Ведаеце, што: падцяжкі ад штаноў. Дык яна на іх у гарачцы плюнула, а потым, калі адумалася, падцяжкі ўжо нехта забраў. Прынесла яна толькі пачак яечнага парашку. У той жа вечар бабуля развяла яго з вадой, спякла блін, і мы яго ў момант з'елі.

— Вось вам і ўся Амерыка,— сказала яна.— І болей вы пра яе мне не гаварыце. Слухаць не хачу. Калі сам шчаўя не нарвеш ды бульбы не накапаеш, ніякая табе Амерыка не паможа. Падцяжкі прыслалі, а што на іх чапляць?

Ёй чамусьці і блін той з парашку не спадабаўся. Толькі, па-мойму, тут яна крывіць душой. Блін быў смачны, але малы.

Вось і злуе з той пары мая бабка на Амерыку.

А Скоку яна даравала, бо яму, беднаму, і ад Скачыхі добра перапала, што сабе толькі цыгарэт узяў, а латкамі на штанах свеціць.

## ПІСЬМЫ З ЕЎРОПЫ

Па вуліцы міма нашай хаты часта ходзіць з арэхавым кійком у руцэ вясковы паштальён Давыда. Колькі я і помню, ён працуе на пошце. Да вайны Давыда быў нібы начальнікам, сядзеў у асобным пакойчыку ў сельсавеце за невысокай перагародкай і грукаў па канвертах пячаткай, а пісьмы разносілі дзве маладзіцы.

Не працаваў Давыда толькі пры немцах. Кажуць, яго хацеў наш староста зноў пасадзіць за тую перагародку, але стары так захварэў, што і з хаты рэдка выходзіў. Калі прыйшлі нашы, ён зноў ачуняў і цяпер сам, бо маладзіц яму пакуль што не далі, носіць важкую скураную торбу. Праўда, іншы раз і мы з Санькам яму памагаем, калі нам бывае з ім па дарозе.

Торба ў Давыды заўсёды поўная. Яшчэ зімой у нашы Падлюбічы густа пайшлі пісьмы з Германіі і іншых краін, якія стары паштальён усе разам называе Еўропай. Сядзе ён перабіраць у торбе пісьмы ды паштоўкі і нам паказвае:

— Во, глядзіце, хлопцы, Будапешт!

Круцім мы ў руках паштоўку і толькі дзівімся: бач ты, якія ёсць на свеце гарады — яшчэ большыя за Гомель!

А то пакажа нам Варшаву, Бухарэст, Сафію.

Апрача гарадоў, на паштоўках — конныя рыцары або рамачка ў выглядзе сэрца, а ў сэрцы франт у чорным летніку, валасы прычасаны да бляску. Каб я так прычасаўся, дык бабка сказала б, што мяне карова языком прылізала. Побач з франтам ружовая пані. На адных картках франты і пані трымаюць крыштальныя кубкі, мабыць, з віном, і адзін аднаму ўсміхаюцца; на другіх — цалуюцца. А пад імі па-нямецку залатымі літарамі напісана: «Ich liebe dich» *.

* Я кахаю цябе.



— Во, хлопцы, паглядзіце-тка, што Макар Хоўры прыслаў — лібадзіх! — смяецца Давыда. І нам таксама смешна: мы ж ведаем таго Макара — мужык мужыком, і Хоўра босая ў калгас ходзіць. А ён — «лібадзіх»!

Пісьмы таксама бываюць розныя: у канвертах і без канвертаў, складзеныя трохкутнікамі, ды яшчэ і салдацкімі ніткамі прашытыя; на паперы са школьных сшыткаў і на нейкіх нямецкіх казённых бланках; бываюць з фотакарткамі і без фотакартак.

Густа ідуць у Падлюбічы пісьмы з Еўропы, і наш паштальён часам не паспявае іх разносіць па хатах і зямлянках. Тады пад канец заняткаў ён прыходзіць на школьны ганак і чакае апошняга званка.

— Пецька! — крычыць стары, калі мы абступаем яго з усіх бакоў.— Занясі пісьмо Алене Самахвалісе!

— Санька! Перадай Кавалям! Ды не згубі ж...

Давыда добра такі недабачвае, таму ён падносіць канверты сабе пад самы нос і, здаецца, не чытае, што там напісана, а нюхае. Выцягнуў з торбы, панюхаў.

— Коля, тваёй сястры лібадзіх!

Так і занясе на самыя далёкія вуліцы. А мы таму святу і рады: бяжым са школы і пошту раздаем. Кожны табе дзякуй скажа, а ад Давыды нам і зусім — слава і гонар. Апрача славы, перападае многа рознага дабра: то чысты аркуш паперы, то зломак алоўка, а то і леташні часопіс з малюнкамі.

Цікава насіць па хатах пісьмы. Людзі чытаюць, і ты наслухаешся. Хіба што дзяўчыне якой прыйдзе ліст — тады выбачай. Выхапіць з рук, у куток зашыецца і сама сабе шэпча. А так часцей за ўсё тут жа на прызбе ці ў двары і чытаюць. Калі ў гаспадыні граматы малавата ці за вайну акуляры згубіліся, дык і нас з Санькам папросяць.

Розныя пісьмы бываюць. Чытаючы адны, людзі радуюцца, чытаючы другія — бядуюць. Паштоўкі часцей за ўсё ставяць проста зверху ў рамку, дзе пад шклом — фотакарткі родзічаў, ці пад вышываныя ручнікі, калі ў каго засталіся. Заходзіш у зямлянку — у рамцы хоць які-небудзь Будапешт, хоць пані з франтам. Пісьмы ад камандавання або грашовыя пераводы ці іншыя важныя паперы стары носіць па дварах сам. І людзі ўжо неяк прыкмецілі, калі ён у хату ідзе, значыць, з дабром, калі ў шыбку паляпае — бяда.

Такое пісьмо ён тыдні тры таму прынёс цётцы Марфешцы. Яно было кароценькае, напалавіну друкаванае, напалавіну — ад рукі. Там паведамлялася, што Санькаў бацька Іван Макавей памёр у шпіталі.

Калі гэта пісьмо прачыталі, я думаў, што цётка Марфешка пачне зараз галасіць. А яна не галасіла і не плакала. Яна села на ўслон, абхапіўшы галаву рукамі, дык быццам акамянела. Вочы зрабіліся невідушчымі. Прыбеглі суседкі, прыбегла мая бабка, пачалі ўсё прасіць, каб паплакала, бо можа сэрца не вытрымаць, а яна маўчыць і маўчыць. Белая, як мел.

Нарэшце паднялася, хацела, відаць, некуды ісці ды ненарокам зачапіла падалом услончык і перакуліла. Хацела гаршчок на стол паставіць, дык той выпаў з рук, рассыпаўся на чарапкі, і па падлозе паплыў крупнік. Кажуць, што на яе быццам зацьменне нейкае надышло. І не дзіва — дзядзька Іван быў залаты чалавек. Ні слова крутога ад яго Марфешка не чула, ні сіняка не бачыла.

Бабы цётку Марфешку ўгаворваюць, а я — Саньку. Няхай ён так вельмі не верыць пісьмам. Вунь салдат расказваў—думалі пра аднаго, што загінуў, а ён толькі паранены быў. Людзі вылечылі, і ён дамоў

вярнуўся. Там пахавальную чытаюць, а дзверы рып — гаспадар на парозе.

Я расказваю сябру, дзе што чуў, трохі сам выдумляю. Толькі Санька мяне зусім не слухае: ляжыць у двары на траве, плечы ўздрыгваюць.

Тры дні Санька не прыходзіў у школу, прыйшоў толькі на чацвёрты і то нейкі не такі, як заўсёды. На ўроках сядзіць ціха і ўсё думае і думае. Думае цяпер Санька не пра вінтовачныя гільзы, не пра тое, як без білета пралезці ў кіно ці як па дарозе дамоў напужаць нашых дзяўчат. Санька думае пра жыццё.

Ён яшчэ добра не ведае, што яму рабіць: ці вучыцца далей, ці кінуць школу і ісці ў калгас, як той Чыжык, ці падацца ў фабзайцы, ці яшчэ куды, абы толькі матцы было лягчэй.

І на перапынках Санька не бегае па калідоры, не шпурляе шарыкі з паперы ў кучараву Соньку. І да яго ніхто не чапляецца, усе абыходзяць Саньку, быццам хворага. Толькі Пецька Смык, які, відаць, забыў пра тое пісьмо ад камандавання, аднойчы моцна штурхнуў яго ў бок:

— А ну, пасунься, Рыжы!

Мне шкада стала Саньку, і я з усяе злосці пляснуў Пецьку па яго чырвонай губе, што яна стала яшчэ чырванейшая. Праўда, я не кажу, што зрабіў вельмі прыстойны ўчынак, што за гэта мяне трэба фатаграфаваць і вешаць мой здымак на дошку гонару, але ж і Смык добры. Калі ён вырас з тэлеграфны слуп, калі ў яго прабіваюцца вусы, а на руцэ ззяе самаробны пярсцёнак з трох капеек, дык гэта яшчэ не значыць, што яму можна штурхаць кулаком маіх сяброў і сірот.

Пецька ўчапіўся мне ў віхор, а я, не доўга думаючы, схапіў яго за лапушыстае, мяккае вуха. І мы абодва пакаціліся па падлозе, як раз'юшаныя каты.

Ідучы дахаты, мы ўсю дарогу паказвалі адзін аднаму кулакі: я свой звычайны, а Смык — з адтапыраным пальцам.

Дома бабка адразу заўважыла і драпіну ў мяне на носе, і што кашуля без гузіка. Колькі я ні даказваў, усё адно яна не хоча мяне хваліць.

— Пецька — дурань, а ты яшчэ большы,— гаворыць яна.

А ў хуткім часе заглянуў Давыда і ў наш двор. У хату не пайшоў, у шыбу паляпаў.

— Ну, і мы дачакаліся,— спалохалася бабка.

Ды і я перакалаціўся, схапіў пісьмо і прачытаць не магу.

— Не вам, не бойся,— буркнуў паштальён і пайшоў на вуліцу.

Пісьмо было бабе Гапе, старой Міронісе, якая ўсё так і жыве ў нас, бо зрабіць ёй зямлянку няма каму.

Чула сэрца старой Міроніхі, што так яно і будзе, што не ўбачыць яна болей свайго Васіля — свайго саколіка, што складзе ён сваю галованьку на чужыне, і ніхто не прыйдзе на яго магілу, ніхто не прынясе яму чырвонага яечка на радаўніцу *, і што самую яе, сірату старую, некаму будзе правесці ў апошні шлях.

Мне і бабцы вельмі шкада заўсёды ціхую, добрую і ласкавую бабу Гапу. Яна нам як свая.

...З дня ў дзень ходзіць міма нашай хаты Давыда, носіць пісьмы з Еўропы: каму — паштоўкі з Бухарэстам ці Будапештам, каму — ад камандавання.

---

* Радаўніца — дзень, калі прыбіраюць могілкі і памінаюць нябожчыкаў



## ДРУГІ ВЯЛІКДЗЕНЬ

Аднойчы раніцай нам з Глыжкам бабка сказала:

— Усе людзі, як людзі, адны мы бесклапотныя. Глядзіш той кураня прыдбаў, той гуску завёў, той цялушачку. Ці не пара і нам хоць парсючка купіць?

— А за што? — здзівіўся я.

— А за твае зарабкі,— падкусіла яна мяне.

Я ведаў, што ў бабкі ёсць такі-сякі грош. Мінулым летам то бурачкі, то моркаўку на базар паціху насіла. Ды і за маё шчаўе не ўсе мне грошы на сшыткі аддала. Бабка збіралася купіць на смерць спадніцу, замест той, што адабраў пры немцах Няўмыка. Дык няўжо яна перадумала?

— А! — махнула бабка на абразы.— Калі ён добры, то і так прыме. А можа яшчэ на другую збяру...

Па нядзелях разы тры хадзіла яна на базар і ўсё вярталася так, а на чацвёрты раз прынесла ў мяшку сысунка. Брат быў аж на сёмым небе ад радасці: такі той сысунок смешны, маленькі, жвавенькі, рабенькі. Наліла яму бабка крыху заціркі ў чарапок — усю высмактаў.

— Цяпер вашаму бацьку можна ісці дамоў на ўсё гатовае,— задаволеная сама сабой, сказала бабка.

Так мы і жывём: Глыжка парсючка пасе, пакуль у школу, а я з бабкай агарод капаю. Старая ўвесь час бурчыць:

— О! Гультай за дзела, а мазоль за цела. Ты вось паглядзі — ніводнага мазоліка!

Удзёўбнуўшы рыдлёўку ў зямлю, яна паказвае мне свае рукі. Рукі ў бабкі тонкія,— косці, абцягнутыя скурай, ды яшчэ сінія надзьмутыя жылы. А далоні вялікія і цяжкія, як у мужчыны. Скура на іх тоўстая, выслізганая аб драўлянае цаўё. Дзе ж тут сядзе пухір!

А над намі кружацца буслы. Высока — пад самымі воблакамі. Калі знізу глядзіш — тонкая, доўгая палачка, нібы аловак, і два крылы. Падняцца б самому вось так і паглядзець зверху, якая яна, зямля. Кажуць, калі высока ўзнімаешся, дык людзі, як мурашкі.

Дзесьці каля школы іграе духавая музыка. У сяле ціха, і ўрачыстыя маршы чуваць аж на нашым агародзе. Гэта на трансфарматарнай будцы паставілі гучнагаварыцель. Калі маршы сціхаюць, чуваць чалавечы голас, але слоў здалёк не разбярэш. Пагавораць трохі — зноў музыка. Штосьці яна сёння разыгралася. Можа якое свята?

— Святыя лынды!...— усё яшчэ сярдуе бабка.

Лепш памаўчаць.

Па той бок вуліцы ідзе стары Давыда, шпарка так ідзе, аж падскоквае. Нешта здалёк ён нам крыкнуў, памахаў рукой, а што ён крычаў, мы не дачулі.

— Дзякуй богу, што міма,— сказала бабка.— Сон мне сёння паганы сніўся. Быццам малаціла боб. Буйны-буйны. Гапа кажа, што боб — гэта слёзы.

— Болей вер сваім снам,— адазваўся я.

— А чыім жа мне верыць? Тваім? Дык у цябе ж і сны нялюдскія.

Ані з якога боку да яе цяпер не пад'едзеш з-за тых мазалёў. Капае граду, нават не разгінаецца.

А мае вочы на вуліцы. Гляджу і не веру — Смык бяжыць. Відаць, пасля бойкі ў школе і ўсіх маіх ультыматумаў ён і не збіраецца мяне баяцца. Яго шчасце, што бабка тут, інакш я паказаў бы яму дарогу. Смык падбягае да нашага плота і крычыць:

— Капітуляцыя!
Я і ў той бок не гляджу.
— Капітуляцыя! — яшчэ гучней паўтарыў Пецька. Што ён такое вярзе? Капітуляцыя нейкая.
— Го? — не зразумела і бабка.
— Германія здалася! Па радыё перадаюць! — сказаў, нарэшце, Смык па-людску.
Дык вунь чаму радыё разыгралася і Давыда рукой нам махаў! А бабка кажа — святыя лынды! Чакайце, каб я цяпер грады капаў. Ды і бабка ўдзёўбнула рыдлёўку і адразу пабегла ў хату.
Я забыўся, што Пецька — мой люты вораг. Мы бяжым цяпер па вуліцы ўдвох і, каго толькі не сустракаем, крычым разам:
— Чулі? Капітуляцыя!
Кінуўшы сысунка, за намі ўвязаўся Глыжка. Мы прамчаліся па нашым Ніжнім Доле, сказалі жанчынам ля калодзежа, пастукалі ў шыбу Малаху, ледзь не збілі з ног Мамулю:
— Капітуляцыя! Капітуляцыя! Капітуляцыя!
Потым далі кругаля па Заглінішчу, заскочылі на брыгаду, дзе ўжо нікога не было, апрача дзеда Зязюлькі. Крыкнулі ў глухое вуха і Зязюльку. Нам здалося, што і стары хацеў разам з намі бегчы, крокаў колькі ступіў услед, а потым апомніўся і павярнуў у сенцы.
Мы ляпалі ў вароты, заглядвалі ў вокны, а Смык залез на Брыдкаву зямлянку і разоў колькі крыкнуў у комін:
— Брыдка, вылазь! Капітуляцыя!
Брыдчыха не вылезла, а выскачыла з дзеркачом у руках, а калі мы ёй расталкавалі, чаму так пашалелі, яна дзяркач кінула і перахрысцілася.
Наша цётка Марына заплакала.
Дзед Мікалай падкруціў вусы і пабег у сяло, каб самому паслухаць гучнагаварыцель.
Нінка-брыгадзірка хацела мяне абняць, ды я выкруціўся.
Антаніна Аляксандраўна ўсё ўжо ведала сама і сказала:
— Віншую вас, дзеці, з перамогай!
Чмышыха спакойна заўважыла, што ўсё ў руцэ боскай.
Санька стаў на галаве.
Скок нам загадаў:
— Бяжыце, мае таткі, па ўсіх вуліцах — мітынг будзе!
А бабка дома спытала:
— Ну, усё сяло абгойсалі? — і Глыжку паківала пальцам: — Калі б не гэта пітуляцыя, паказала б я табе кабанчыка! Кінуў-рынуў і пабег! Маліся богу, што Германія здалася, дык дарую ўжо з-за свята. Як-ніяк — другі вялікдзень.

## ЯК Я БЫЎ КАМЕНДАНТАМ

У хуткім часе пасля Перамогі наша школа давала калгаснікам канцэрт. Перад гэтым школьная прыбіральшчыца цётка Мар'я доўга выцірала мокрай анучай піяніна, знойдзенае калісьці намі на Брыдкавым агародзе. Яго толькі нядаўна прывезлі са Скокавага дрывотніка.
Выціралі і мылі доўга, але не так лёгка было выцерці. Скачыха нядаўна завяла курэй, і тыя любілі іншы раз пасядзець на піяніна. І хоць Скок засцілаў яго саломай, ды хіба ж ты ад іх упільнуешся?



А потым высветлілася, што яно расхлябанае, як старыя калёсы, і іграць на ім могуць толькі такія артысты, як мы з Санькам. Антаніна Аляксандраўна вельмі шкадавала, што ёй не давядзецца выступаць. Дырэктар яе супакоіў, паабяцаў знайсці калі-небудзь у горадзе настройшчыка, і піяніна паставілі ў настаўніцкай пакуль што дзеля мэблі.
Сцэнай быў школьны ганак. Вакол яго сабралася процьма народу: дзяды, жанчыны, інваліды-франтавікі, калгаснае і сельсавецкае начальства, непаседлівыя хлапчукі. Людзі расселіся па ўслонах, падперлі плячыма сцены і таполі, селі, склаўшы ногі ў клетку, на мурагу. Басота павісла на ганачных балясах і пазалазіла на дрэвы. А на ганку Васька Мамуля, большы Скокаў хлопец — Лёшка і Косцік Буслікаў наярваюць «Месяц». Выходзіць у іх так хораша і суладна, што люба-дорага слухаць. Васькавы і Лёшкавы пальцы часта-часта пырхаюць па струнах, і балалайкі нібы выгаворваюць:

Свеціць, свеціць ме-е-сяц.

А Буслікаў Косцік гудзе басам на гітары:

Бум-бум-бум-бум... ясны...

Нехта з мужчын нават не вытрымаў і ўголас пахваліў нашых музыкаў:
— Во рэжуць, жэўжыкі!
Пасля «Месяца» пайшла «Лявоніха», а потым наш клас паказаў спектакль. У спектаклі быў люты нямецкі камендант Ганс, храбрая партызанская разведчыца Галя і партызанскі камандзір бацька Язэп. Так здарылася, што Галя трапіла ў лапы фашыстаў. Ганс на допыце пагражаў, што застрэліць яе і махаў пісталетам, але адважны бацька Язэп са сваім атрадам наляцеў на камендатуру, і Галя, схапіўшы са стала пісталет, узяла ў палон Ганса.
Гэты спектакль мы рыхтавалі даўно, але ў нас нічога не выходзіла. Усе дзяўчаты хацелі быць Галяй, усе хлопцы — бацькам Язэпам ці хоць радавымі партызанамі. А на Ганса ахвотнікаў не было. Спачатку Антаніна Аляксандраўна прапанавала гэтую ролю Смыку. Хлопец ён быў высокі, лапавухі, з яго выйшаў бы нядрэнны Ганс, але Смык упёрся. Ён сказаў, што яму няма калі вучыць урокі, не тое што... Але быць партызанам згадзіўся ахвотна.
Выбар паў на Саньку. А Санька так пакрыўдзіўся, што аж збялеў. Няхай яму паставяць усе двойкі, якія толькі ёсць на свеце, няхай яго выганяць са школы і паскардзяцца, калі хочуць, маці, а Гансам ён ніколі не быў і не будзе. Тады Антаніна Аляксандраўна ўзялася за мяне. А я што — горшы за астатніх? Няхай мне дадуць мільён, і тады не вазьмуся. Ды яшчэ здавацца ў палон нейкай Глёкавай Каці, якая будзе храбрай разведчыцай. Што яна ў разведцы разумее? Што яна за цаца такая, каб я перад ёй падымаў рукі ўгору? Не буду — і годзе. Няхай лепш не просяць.
А мяне прасілі і ўгаворвалі. Выходзіць, у мяне здольнасці. Толькі я адзін з усяго класа магу сыграць гэтую ролю. Можа, я стану калі-небудзь славутым артыстам, калі зараз свой талент не закапаю ў зямлю. Тады буду ўспамінаць: «А помніце, як я Ганса ў школе іграў?»
Прыйшлося згадзіцца.
І вось я — нямецкі камендант Ганс. На мне сапраўдны нямецкі фрэнч, такі, як быў у маёй бабулі, пакуль яго не ўкралі. Праўда, ён

ужо залатаны на локцях і на рукавах вісяць ладныя махры, але пазнаць, што ён нямецкі, яшчэ можна. Толькі каўнер крыху шыракаваты. Як кажа Санька, мая шыя ў тым каўняры боўтаецца, як чайная лыжка ў шклянцы.

На грудзі мне прычапілі сапраўдны нямецкі ордэн, які перад гэтым трэба было доўга чысціць аб цагліну. Фрэнч падпяразаны сапраўднай нямецкай папругай, на спражцы якой напісана «Got mit uns» *. Пагоны зрабілі з паперы, затое ўзбраенне таксама амаль сапраўднае — іржавая сігнальная ракетніца.

А каб гледачы чаго-небудзь не наблыталі, каб яны адразу здагадаліся, што я немец, мне на рукаў завязалі шматок белай матэрыі, на якой чарнілам намалявалі свастыку.

І гэта яшчэ не ўсё. Санька чамусьці рашыў, што без вусоў будзе дрэнна. І пад маім носам намаляваў сажай вусы. Цот у цот як у Гітлера.

Не паспеў я паказацца з-за дзвярэй, як грымнуў рогат, быццам на зямлю з шумам і грукатам упала высачэзная таполя. Хлапчукі дык вішчаць, як парсюкі ў мяшку. Смяюцца бабы, мужчыны і тыя выціраюць слёзы ад рогату.

Ганс строга і нават сурова вядзе допыт. Партызанка, як ёй і належыць, стаіць з горда ўзнятай галавой і маўчыць. А з першых радоў шэпчуць:

— Чый жа такі комік?

— Гэта ж большы хлопец Кірылы Сырца.

І раптам зноў нашы Падлюбічы пачалі падаць са смеху. Гэта я выцягнуў з кішэні ржавую ракетніцу і нацэліўся ў Кацю.

— Вось гэта гармата!

— Уцякай, а то бабахне — касцей не збярэш!

І кепікі пасыпаліся з усіх бакоў.

Гордая і храбрая партызанка Галя павінна пляснуць нахабнаму фашысту па твары. На рэпетыцыях мы дамовіліся, што Каця пляскаць не будзе. Але тут, на сцэне, на яе нешта такое найшло, і я зусім нечакана атрымаў добрую аплявуху. Гледачы былі ў захапленні. Дзятва аж скакала ад радасці, што «нашы» не здаюцца. А мяне ўзяла сапраўдная злосць. Ах жа ты, канапліна рудая! Будзеш ісці дамоў, я табе пакажу!

Нарэшце Ганс-камендант паклаў на стол свой «пісталет» і адвярнуўся, каб партызанка непрыкметна схапіла яго. Але яна чамусьці забавілася, і хлапчукі, якія віселі на ганачных балясах, у адзін голас зашапталі:

— Каця, Каця, бяры, пакуль не бачыць!

І вось ужо Каця крычыць, наставіўшы ракетніцу:

— Рукі ўгору, бандыт!

— Правільна,— падказалі з натоўпу ўжо без смеху.

А я заўпарціўся. Буду я перад ёй рукі падымаць, ды яшчэ, калі на мяне глядзіць усё сяло.

— Рукі ўгору! — раздаецца грозны голас з другога боку. Гэта на ганак выскачыў Санька са школьнай вучэбнай вінтоўкай у руках. На грудзі яму звісае ладная жменя лёну — гэта такая барада ў партызанскага бацькі Язэпа. А далей і зусім пайшло не па п'есе. Мяне акружылі Санькавы партызаны, навалiліся гуртам, далі пару сапраўдных кухталёў, звязалі рукі вяроўкай і, штурхаючы ў плечы прыкладамі, павялі ў калідор.

* З намі бог (ням.)





Хлопцы так захапіліся спектаклем, што нават у класе не хацелі мяне развязваць і ўсё крычалі:

— Ага, папаўся, гад!

А за акном, на вуліцы, не змаўкаюць воплескі і вясёлы гоман. Нас зноў выклікаюць на ганак. Але мне не да спектакля. Бач, які гуз ускочыў на лбе!

Але гузам не абышлося. Горшай за ўсе гузы і сінякі была слава. Яна прыйшла да мяне ў той жа дзень і ганялася следам па школьных калідорах і па вуліцы:

— Хлопцы, вунь камендант ідзе!

Першакласнікі — народ перад намі рахманы, а і тыя, калі ідзеш міма, шэпчуць услед:

— Ганс, Ганс, Ганш...

Глыжка ўжо дома атрымаў за гэта добрага кухталя.

Добра, што ў школе неўзабаве скончыліся заняткі і пачаліся летнія канікулы. Мы зноў з хлопцамі пайшлі ў калгас, зноў запрагалі коней, і маё камендантства забылася.

## НЯМА МНЕ ЗА КІМ «АРТЭКАЦЦА»

Леташніх «пфэрдаў» у нас з Санькам адабралі. Праўда, спачатку нам не хацелася іх аддаваць, неяк прывыклі мы да гэтых вялізных,

марудных, але паслухмяных цяжаравозаў. Але такі загад старшыні. І «пфэрдаў» аддалі старэйшым хлопцам, якія паехалі пілаваць і вазіць лес. У калгасе яшчэ няма ніводнай стайні, ніводнага свірна. Нават праўленне пакуль што кватаруе ў старога Міхея.

Нам далі свойскіх коней: Саньку — пузатую, як дзежка-саракавядзёрка, кабылу Слепку, а мне — Стрыгунка. Стрыгунок добра падрос, падужэў і зрабіўся жвавым і цягучым конікам. Росту ён быў невялікага, і корму яму трэба было меней, чым астатнім коням. Мабыць, па гэтай прычыне, а можа таму, што яго любіў Чыжык, і выглядаў ён даволі спраўна.

Спачатку Стрыгунок на мяне глядзеў коса, усё хмыліўся, хацеў цапнуць зубамі, а потым, відаць, успомніў, што я яму свой, і перастаў натурыцца. Ходзіць ён ходка і воз цягне без панукі.

Санька мне зайздросціць. Яго «дзежка» няўклюдная, непаваротлівая, увесь час спатыкаецца, трывожна водзіць вушамі і ўсё намагаецца выйсці з баразны, а хоць звярнуць з дарогі і бегчы ўслед за сваім жарабком. Гэты жарабок Саньку ў пячонкі ўеўся: то пабяжыць туды, дзе ходзяць на поплаве цяляты, і пачне з імі нюхацца; то адстане ад воза на тры вярсты і цягнецца, як сонны; то зусім спыніцца і пачне скубці траву. А Слепка без яго кроку ступіць не хоча, хоць ты ёй сала дай.

На двары сонца, спякота, Глыжка не вылазіць з возера, а нам з Санькам і пакупацца няма калі. Хіба толькі, як прыедзеш з поля дамоў абедаць. Абеды ў нас з Санькам не з дзесяці страў — вялізная гліняная рынка шчаўя і тры-чатыры бульбіны замест хлеба. Праглынуў за пяць мінут, і трушком на возера.

Добра ўсё-такі жыць на свеце, калі няма вайны. Ціха, спакойна. Хіба толькі бабка пабурчыць, што вырваў новую дзірку на штанах. Дык гэта ж не навіна. Колькі я нашу штаны, столькі яна і бурчыць. І чаго яна хоча, калі я дзень пры дні на кані? Кавалерысты ж, відаць, не дарма абшываюць свае штаны скурай?

Пасля купання, напаіўшы коней, едзем зноў на поле скародзіць бульбу. Сёння добра пячэ, і мы паздымалі кашулі, хоць нашы спіны і так, як у неграў. Санька лупіцца ўжо другі раз.

У вузкім Міхеевым завулку нам сустрэлася Каця. Белая хустачка апушчана на самыя вочы. Відаць, наша «разведчыца» баіцца загару. А на носе і шчоках у яе столькі канапель, што хапіла б на ўсіх падлюбскіх вераб'ёў.

Пачакай! Зараз я ёй успомню той спектакль!

Каця хацела нас абысці, але не так гэта проста. Яна — у бок і я Стрыгунка — у бок. Яна — у другі, і я Стрыгунка — у другі.

— Хочаш, заганю ў крапіву? — пытаюся я.

Каця адмахваецца ад каня і спалохана плюскае вейкамі.

— Адчапіся, праціўны!

І што гэта ў дзяўчат за мода? Чуць што не па ёй, адразу — праціўны. А сама ўжо дык краля пісаная.

— Хочаш? — дапытваюся я.

— Не,— здалася Каця, а потым зусім без крыўды сказала: — Ой, хлопчыкі, вам жа школа падарункі дала. А я ўжо свой атрымала. Во, плацце нясу. Паркалёвае, у гарошыну.

Яна разгарнула пакунак і паказала абноўку: вясёленькая такая сукенка.

— А ты не хлусіш? Пабажыся!

Каця з ахвотай пабажылася, мы крыкнулі «ўра», прышпорылі босымі пяткамі сваіх скакуноў і ўзнялі такі пыл на дарозе, быццам па



ёй прамчаўся цэлы эскадрон кавалерыстаў. А каля школы схамянуліся. Калі гэта было, каб у школе давалі сукенкі? Можа, яна дзе так узяла, можа ёй хто-небудзь пашыў, а яна, каб у крапіву не загналі, абхітрыла нас.

Але Каця не хлусіла. У тым годзе ў нашай школе сапраўды далі вучням тое-сёе з адзежы: каму сукенку, каму кашулю, каму шапку, каму штаны. Дзе набралі тых падарункаў, не ведаю. Адны потым казалі, што ў раёне выдзелілі, другія — што дырэктар недзе раздабыў, аднак, як бы там ні было, Санька выйшаў з настаўніцкай з салдацкімі штанамі-галіфэ. Калі ён разгарнуў іх, каб паглядзець, доўгія яны ці не, у мяне аж сэрца затрапяталася. Вось гэта рэч!

А мяне ў настаўніцкай сустрэлі так, як быццам, апрача галіфэ, збіраліся яшчэ даць і гімнасцёрку. Праз акуляры вочы Антаніны Аляксандраўны свяціцца шчаслівай усмешкай. Яна радуецца, што мне так пашанцавала. Наш заўсёды строгі, крыху пануры дырэктар Канстанцін Макаравіч таксама глядзіць у мой бок даволі ветліва.

— Віншую цябе, Ваня! — сказаў ён, потым даў мне нейкую чырванаватую паперыну і моцна сціснуў мае пальцы сваёй левай рукой. Правая ў яго заўсёды вісіць, як нежывая, і нават летам яна ў чорнай скуранай пальчатцы.

У мяне ўжо і далонь спацела, а ён усё не дае галіфэ. Ды і не відаць іх чамусьці ні на стале, ні на канапе, ні на піяніна.

— Усяго пяць пуцёвак на раён, і вось я адну выпрасіў,— з гонарам сказаў Канстанцін Макаравіч.— Рашылі табе. У Артэк.

А мяне, як абухом па галаве. Цяпер усё зразумела — галіфэ не будзе. Ад крыўды хочацца плакаць. Каці — сукенку, Саньку — штаны, а мне — Артэк. Што я — горшы за іх?

— Не трэба ён мне, той Артэк,— задрыжаў ад крыўды мой голас.

Дырэктар, нарэшце, выпусціў маю руку і сеў на канапу. Радасныя агеньчыкі ў акулярах Антаніны Аляксандраўны раптам патухлі.

— Не трэба?

— Не трэба — і ўсё!

Яны, перабіваючы адзін аднаго, пачалі мяне ўгаворваць.

— Не паеду!

А горы я калі-небудзь бачыў? Канечне, бачыў. Наша гарадзішча не такая ўжо і маленькая гара. Зімой не кожны з'едзе на лыжах. Другі як грымнецца, дык ажно снег слупам. Бываюць, вядома, і вышэйшыя. Дырэктар кажа, што пад самыя воблакі, што на іх вяршынях жывуць арлы.

А мора я калі-небудзь бачыў? Купаўся я калі-небудзь у моры? Як быццам самі не ведаюць. Купаўся я багата, але толькі ў Сітнягу. Бачыў паводку. Іншы год яна бывае не меншая за мора. Той бераг Сожа ледзь-ледзь разгледзіш. Толькі і розніца адна, што вада несалёная.

А дэльфінаў? А сапраўдныя акіянскія параходы? А штормы? А буру?

Тут я здаўся. Нешта такое марское зварухнулася ў маім сэрцы. Забыўся пра свае дзіравыя штаны, і крыху заглухла туга па салдацкіх галіфэ. Я паеду ў Артэк, калі ён сапраўды на моры.

І, бегаючы па калгаснай бульбе за бараной, я некалькі разоў уяўляў сябе на моры. Мне ўспаміналася ўсё, што я паспеў прачытаць пра яго ў кніжках. Маё мора спакойнае і добрае, суровае і таямнічае, з вострававам Буянам, на якім «пушки с пристани палят, кораблю пристать велят». Мора — гэта капітан Нэма і Рабінзон Круза, піраты і людаеды, васьміногі і акулы, караблекрушэнні і неадкрытыя яшчэ астравы. Каля Артэка, відаць, нічога гэтага не будзе, але я магу ўбачыць

крэйсер, а хоць падводную лодку. Магчыма, што і кіт заплыве, магчыма, пад бераг прыб'е бутэльку з якім-небудзь таямнічым пісьмом і я яго знайду.

Шкада, што Санька са мной не паедзе. Праўда, я яму ўсё потым раскажу, як вярнуся.

Словам, увечары я прыйшоў дахаты поўнасцю настроены на марскі лад. Так бабцы і сказаў:

— Еду на мора! У школе пуцёўку далі.

— На акіян толькі не едзь,— папрасіла бабка, а калі зразумела, што я не жартую, і яшчэ падзякавала:

— Во, дзякуй табе, мой унук! Ты, значыць, на мора, а мы з Глыжкам куды?

Праўда, не вельмі кругла выйшла ў нас. Бабка старая: сёння ходзіць, заўтра — паваліласяя. Глыжка малы: дзе сядзеш, там з яго і злезеш. Я ж паеду, выгуляюся там за лета, адкармлюся на дармавых харчах, а зімой пакладу зубы на паліцу. Бабка, вядома, не будзе тут сядзець, склаўшы рукі, будзе рабіць, колькі здароўя хопіць. Толькі аднымі вось гэтымі яе рукамі на тры раты хлеба не наробіш. А там, к зіме, можа і бацька прыйдзе. Дык ён жа з вайны прыйдзе — не з багатых заробкаў. Тады будзе нам і Артэк...

Пачаў я думаць, і сапраўды не кругла выходзіць, не выпадае мне пабываць сёлета ў Артэку. І не толькі дзіравыя штаны не пускаюць мяне з дому: без бацькі і без маткі куды ні кінь, дык клін. Немаведама, што рабіць цяпер з гэтай іхняй пуцёўкай.

— Можа мы Глыжку пашлем? — спытаў я ў бабкі.

Бабка толькі ўздыхнула. Падкарміць гэты шкілет было б не шкодна, толькі куды ты яго пашлеш аднаго. Не разумее ён яшчэ ні вуха, ні рыла. Адстане дзе-небудзь, заблудзіцца.

— Не,— рашыла бабуля.— Хопіць яму вады і ў Сітнягу. А паперку гэтую аднясі-тка ты туды, дзе ўзяў. Так і скажы: «Вялікі дзякуй, толькі няма мне за кім артэкацца».

## З ВАЙНЫ—НЕ З ЗАРАБОТКАЎ

Бацька прыйдзе... Бацька прыйдзе... Пра гэта цяпер у нашай хаце часта ідзе гаворка: то Глыжка спытае, то бабка, даведаўшыся, што нехта вярнуўся з вайны, цяжка-цяжка ўздыхне. Пара, здаецца, і нашаму: яна ўжо доўга не пражыве. І так на гэтым свеце зажылася. Здаецца, ёй семдзесят хутка стукне, а можа ўжо і стукнула. Хто іх лічыў, тыя гады? Гэта цяпер павыдумлялі розныя метрыкі-шметрыкі, а тады ніякіх не было. Вось яна і кажа, калі лета прагавее, то і добра. Нябожчык дзед Піліп, які памёр яшчэ, калі і нас з Глыжкам не было, сніцца цяпер ёй штоночы. Быццам паставіў ён сабе новую хату супраць нашай і кліча да сябе бабулю жыць. Нездарма гэта.

А бацька прыйшоў нечакана ў канцы лета. Толькі селі абедаць, толькі бабка крупніку наліла — веснічкі рып.

— Ой, салдат нейкі! — войкнула бабка, а я глянуў у акно — бацька. Толькі з вусамі, як у дзеда Мікалая, будзёнаўскімі.

Глыжка забыўся падзьмухаць на гарачы крупнік, абпёк язык, кінуў на стол лыжку і цяпер выцірае слёзы. Я не ведаю, што мне рабіць: ці сядзець, як сядзеў, ці бегчы насустрач.

Бацька. Нейкі ён не такі, як быў, не такі, якім я яго помніў, і рос-





там быццам бы меншы і на многа старэйшы. На шынялі пагоны з жоўтымі ўжо не новымі стужкамі. Камандзір, значыць.

Усё гэта — і пагоны, і шынель, і рэчавы мяшок за плячыма — я паспяваю заўважыць, пакуль ён абдымаецца з бабкай.

Абдымаецца з бабкай. А такога, здаецца, яшчэ ніколі не было. Усё жыццё яны былі крыху, як кажуць, не ў згодзе. Бабцы не падабалася, як бацька вострыць капаніцу, сячэ дровы, коле парсюка, а яму — што без яе ўказак кроку нельга ступіць. Цяпер вось абдымаюцца.

Глыжка раскрыў рот, так і глядзі — варона ўляціць. Толькі вачыма плюскае.

Вусы ў бацькі жорсткія, як шчотка. Яны казычуць мне шчокі, лоб і нават патыліцу. А я чую, што бацька пахне не так, як раней. Раней ён пах потам, сасновай смалою і тытунём. А цяпер нечым новым, як пахне скураны рамень, і гэты пах перамешаны з тытунём.

Глыжка паслухмяна падаўся ў бацькавы рукі, але збянтэжана адвярнуўся ад вусоў і з пакутлівым выглядам глядзіць на мяне. Бацьку Глыжка чакаў, але, відаць, не думаў, што ён менавіта такі, і цяпер дзічыўся, чамусьці саромеўся яго.

Раптам бацька адвярнуўся ад нас і доўга глядзеў у акно. Бабка разгублена камячыла рукамі свой фартух. Пра маці ён нічога не спытаў, і бабка нічога не сказала. Але мне яна ўспомнілася. Успомнілася яе гарачая рука, слязіна на мочцы вуха, як пацерка, яе ціхі шэпат: «Будзьце харошыя. Шкадуй браціка. Бацька прыйдзе...»

Бацька прыйшоў, глядзіць у акно і кусае вусы. Потым ён эхнуў, правёў усёй пяцярнёй па твары, быццам таксама хацеў яго скамечыць, як бабка свой фартух, і, стараючыся, каб мы не заўважылі, як дрыжыць голас, хрыпла сказаў:

— Ну, вось і дома... Давайце будзем абедаць.

Ого, якая ў яго бляшанка кансерваў! І хлеб вайсковы, у форме печаны, а не на капусных лістах, і цукру цэлы вялікі камень. І медалі на гімнасцёрцы дзынкаюць. «Слава» ёсць сярод іх.

Пасля абеду бацька пачаў разбіраць свой рэчавы мяшок. Выцягнуў прычындалы для галення: нямецкую брытву, асялок і памазок. Усё гэта ён паклаў на месца, туды, дзе яно ляжала і да вайны. Пару салдацкай бялізны аддаў бабцы, каб схавала ў скрыню. Алюмініевы кацялок паставіў на стол. Потым падаў мне нейкі скрутак. Я разгарнуў — чорныя ў палоску штаны.

— Прыкінь,— загадаў бацька.

Штаны былі шырокія і доўгія, але амаль што новыя.

— У акурат,— заўважыла бабка.

— Сыдзе,— згадзіўся і бацька.

А Глыжку дасталася салдацкая зорка з шапкі і ножык.

Болей у мяшку нічога не было, апрача хлебных крошак ды рассыпанага тытуню. Бабка аж не паверыла. Калі бацька выйшаў з хаты, каб вытрасці сваю торбу, яна спытала:

— Што ж ён болей нічога ў той Германіі не знайшоў?

— А ты ж сама казала: з вайны — не з заработкаў,— успомніў я.

— Яно, канечне, так,— згадзілася яна.— Толькі хто з галавой, той прынёс што-небудзь: то каменьчыкаў для запальнічак, то яшчэ чаго. Вунь Ахрэм з Лапціна іголак прывалок і на рынку прадае.

Я аж разззлаваўся. Знайшла з кім раўняць бацьку, з Ахрэмам! Як бацька зрабіў, так і правільна. Будзе ён хадзіць па той Германіі і шукаць іголкі. Што ён па іголкі туды хадзіў?

Бабка адразу ж пакрыўдзілася:



— Ну, канечне, цяпер вы героі... з бацькам. Цяпер я вам не трэба. Цяпер я дурная...

І яна пайшла ў сенцы. Неўзабаве там заскрыгатаў наш млын.

А вечарам у нас была поўная хата гасцей. Кожны прыйшоў са сваім. Зараз мода такая стала хадзіць са сваім: хто бутэльку нясе, хто — капусты збан.

З дзедам Мікалаем бацька тройчы пацалаваўся.

— Ну, во... бачыш? Ну, во... і добра,— хацеў заплакаць дзед, нават губой ужо заторгаў, але тут нехта з гасцей раптам пажартаваў:

— А вусы ў пляменніка большыя за дзедавы. Вось памерайце-тка.

І дзед не заплакаў, ляпнуў бацьку па плячы і ўсміхнуўся.

Сусед Скок прыскакаў са сваім кійком, аж засопся, і яшчэ з парога сыпануў па хаце дробнай гаворкай, як гарохам:

— Чую, мой татка, чую, дзе смажаным пахне! Ну, здароў, франтавік! Многа медалёў нахапаў?

І пляснуў у захапленні ў далоні, хоць мядаляў было ўжо і не так багата:

— А, мой татка! Цэлы іканастас. Во, Сталін, напэўна, скроб патыліцу, дзе набраць столькі медзі!

Цётка Марына прыйшла са сваёй чарадой. Чарада хуценька зашылася на печ, а цётка сядзіць на ўслоне і то ўсміхнецца, паглядзеўшы на бацьку, то пачне раптам выціраць ражком хусткі пачырванелыя вочы. Хоць бы яна зараз не завяла сваё «ой, не магу я, не магу!»

Словам, усе прыйшлі: кумы, сваты, дзядзькі, цёткі. Толькі суседа дзеда Мірона няма. І цётчынага Андрэя. Адтуль, дзе яны, у госці не ходзяць.

Мы з Санькам таксама разам з усімі за сталом. Глыжка побач з бацькам утачыўся. І вельмі рады. Па вачах відаць.

Госці выпіваюць і закусваюць. Нам з Санькам таксама нейкай кісляціны налілі. Гэта бабка так дзеду Мікалаю загадала:

— Укапні і ім, Мікалай. Жаніхі ўжо. Трэба ж...

І тут такія размовы пайшлі — толькі слухай. І пра Германію, і пра рускі народ, і пра што ты хочаш.

— Ну, думалі, пад корань выкасім, каб і на развод не засталося,— пачаў крыху ахмялелы бацька.— У кожнага накіпела. А прыйшлі — не падымаецца рука. Ну, хіба ж ты яго біць будзеш, немчанё няшчаснае, калі яно... Э-э, ды што тут гаварыць? Я сам думаў — ну, толькі дайду да вашай паганай Германіі. А дайшоў — і што? Нічога.

Помню ў адным горадку было. У іх яны дорфамі * называюцца. Ну, там, скажам, Івандорф, Васільдорф. Толькі па-іхняму. І вось з дома на рагу вуліцы — трах, і ледзь мне не ў плячо. Толькі куля — дзвык у сцяну. Я туды. І што вы думаеце? Такі во, як гэтыя. З гітлераўскіх вавучанят. Забіўся ў куток, трасецца і баіцца ж, бачу, аж... не за сталом будзь сказана. Ну, што ты яго,— страляць будзеш? Выхапіў я ў яго аўтамат (шчасце маё, канечне, што ў яго патронаў не было). Выхапіў я ў яго аўтамат, ды за вуха. Ах ты, кажу, жаўтароты... А ён са страху ў тры ручаіны раве горкімі слязьмі. Тут, праўда, фраў выскачыла. Таксама ў слёзы. А, прападзіце вы пропадам!

— Лазінай трэба было,— параіў дзед Мікалай,— лазінай, каб сесці не мог.

— А ці ёсць жа ў іх лаза? — спытала цётка.

— Пра лазу не знаю. А што дрэвы ў лесе і тыя пад нумарамі — гэта факт.

* Дорф (ням.) — вёска.

А Скок раптам кінуўся ў палітыку:

— Вось ты мне скажы, мой татка. Ты там бліжэй быў. За ўсю шкоду, што яны тут нарабілі, будуць яны плаціць ці не?

— А як жа? — пацвердзіў бацька.— Рапарацыю * з іх возьмуць.

— А я так бы зрабіў на месцы Сталіна,— умяшаўся і дзед.— Я так бы ім сказаў, калі б быў Сталіным: вы мне дзяцей асірацілі? Асірацілі. Многа асірацілі. А хто іх карміць-паіць будзе? Хто ім штаны купляць будзе? Хто вучыць? Дык вось так, сказаў бы я, давайце мне на кожнага сірату, ну, там — дзесяць ці дваццаць тысяч. Словам, каб не галадалі і дараслі да свайго хлеба. І пакуль не вырастуць, нідзе вы ад мяне не дзенецеся, галубочкі! — грозна стукнуў дзед па стале і так глянуў на Скока, быццам гэта той павінен быў плаціць рэпарацыі, ды не хацеў.

— Ну, няхай і так,— згадзіўся Скок.

— Не, толькі так! — патрос пальцам стары.

І тут загаварылі ўсе разам, не слухаючы адзін аднаго. А хат колькі спалілі? А скаціны колькі загінула? А ці мала яшчэ чаго? Колькі гэта год працаваць трэба, каб зноў усё нажыць?

— І ім хапіла,— заўважыў на гэта бацька, а Скок аж узвіўся:

— Ім хапіла? — гучна перапытаў ён.— Так ім і трэба! Я іх не шкадую. Самі вінаваты. Я іх сюды не прасіў. Прасіў я іх сюды? — спытаў сусед ва ўсяго застолля і сам сабе адказаў.— Не! А яны прыляцелі і бомбу ў мой агарод кінулі. Я ім бомбы ў агарод кідаў?

— Не ўсе вінаватыя,— перабіў бацька.— Другі б, можа, і не хацеў, ды не хацела каза на базар, а яе за рогі і павялі... Многа там у народу пытаюць, чаго ён хоча?

Але Скока цяжка пераканаць.

— Люблю я цябе, Кірыла,— прызнаўся ён.— Добры ты чалавек. Толькі пра коз ты мне не гавары. То каза, а то чалавек. У чалавека шыя ёсць. Вось яна, шыя,— і сусед паказаў, дзе менавіта яна ў яго.— А для чаго чалавеку шыя? Я так думаю, што не для таго, каб папругу вешаць, калі ён, чалавек гэты, сядзіць у адным месцы... На шыі ён галаву павінен мець і думаць: куды гэта мяне Гітлер пасылае? Не, правільна дзед кажа — на кожнага сірату па сто тысяч, і не меней!

Доўга меркавалі за сталом, якія трэба ўзяць з фашыстаў рэпарацыі. І так прыкідвалі і гэтак, а ўсё выходзіла, што чагосьці яшчэ не ўлічылі. Нарэшце, Скок зноў спытаў бацьку:

— А чаму ты гармоні з Германіі не прывёз?

— Навошта яна мне? — здзівіўся бацька.

— Не, ты мне скажы,— не адступае сусед,— чаму ты гармоні з Германіі не прывёз?

— Не трэба мне іх гармоні.

— Не трэба, а дарма. Прывёз бы гармоню, зараз бы я, э-эх, як паскакаў. Не глядзі, што нага кульгавая, мой татка! Такую «барыню» табе адчаканіў бы — люба-дорага,— і Скок стукнуў пад сталом кульгавай нагой па падлозе. Мы з Санькам думалі, што дзядзька зараз пойдзе ў скокі і без гармоніка, але замест гэтага ён раптам заспяваў:

Шэрая вуця, эх, шэрая вуця
Ды на моры начу-уе-е-е!

У каганцы заміргаў агеньчык, на печы прачнуліся цётчыны малыя і глядзяць соннымі вачыма з-за коміна.

Умее і любіць спяваць цётка. Вось і зараз — паружавела, павяла плячыма, быццам скінула з іх нейкі цяжар, і падхапіла:

* Рэпарацыі — пакрыццё страт, нанесеных вайной.



Шэрая вуця, эх, шэрая вуця
Ды ўсё горачка чуу-ее.

— Ну, а вы чаго? — спытаў у нас Скок. І мы з Санькам таксама заспявалі.

Першае гора ды першае гора —
Ой, свякруха ліха-а-я.
А другое гора, а другое гора —
Ой, дзяціна мала-а-я.

На трэцім горы Скок нас з Санькам спыніў.

— Ды ну вас, хлопцы,— махнуў ён рукой.— Злазьце з даху, не псуйце гонтаў.

І зноў да бацькі, як сляпы да плота:

— Не! Чаму ты гармоні з Германіі не прывёз?

Песня разладзілася, і зноў загаманілі кожны пра сваё: дзед усё лічыць, колькі яму спатрэбілася б рэпарацыі на сірот, Скок ці то скардзіцца ці то хваліцца, як ён быў за старшыню сельсавета:

— Разумееш? Бярыся, гавораць. Ты, гавораць, мой татка, адзін можаш... А ты сам падумай, навошта гэта мне? Улады я не люблю. Я да яе не прывык. Бабы лезуць, мой татка, то ім лесу дай, то хваробы, то халеры. І не ты над кожным, а ўсе над табой. Ну, а цяпер Мікіту выбралі. Няхай круцііцца. Ён маладзейшы і граматнейшы.

І раптам схамянуўся, быццам спалохаўся, каб бацька не падумаў, што ён малое начальства, замахаў пальцам:

— Але я дэпутат! Хочаш, мы зробім цябе брыгадзірам. Я пагавару з Дзяком. Хочаш?

— Не, Захар,— усміхаецца бацька.— Не трэба. У мяне вунь струмент ляжыць, калі хлопцы не расцягнулі. Работы хопіць.

— Правільна,— узрадаваўся Скок.— Правільна. Ты нам збудуй школу... і калодзеж на нашай вуліцы... і зрубы кругом зрубі!

І ўжо збіраючыся дахаты, зноў успомніў:

— А гармоні з Германіі ты дарма не прывёз. Эх, барыня-барыня!

Так бацька прыйшоў з вайны. Раніцай у сенцах яму Глыжка паліваў на рукі. А днём, калі я з вядром ішоў да калодзежа, брат на вуліцы ўжо хваліўся таварышам:

— Во якая рана ў майго бацькі на плячы: адсюль і дасюль!

— А ў майго пальцаў на руцэ няма,— перабіў яго Пёклін хлапчук,— і два медалі ёсць.

— А ў майго...

Бацька ў сенцах корпаецца ў скрынцы з інструментам, прыцмоквае ў вусы — паржавелі. І сякеры патупіліся, павышчэрбліваліся. Гэта я пастараўся: і чарапкі для млына на іх біў, і цвікі перасякаў.

Бабка стаіць побач, рукі пад хвартух схавала:

— Крыж Адаркін зусім падгніў,— уздыхае яна.— Паставілі тады сасновы...

— Бачыў ужо,— адазваўся бацька.— Папраўлю.

І яшчэ мацней загрукатаў жалеззем у скрыні.

## МЫ НЕ БАІМОСЯ ЗАВЕІ

Спытайце ў Санькі, што такое год, і ён вам скажа — усяго зіма і лета. Мінула першае мірнае лета, і надышла зіма. Я, Санька, Каця, Сонька-Кучараўка і Ганна Пырша, самая ціхая і непрыкметная дзяў-

чынка з нашага класа, сядзім у халодным і цёмным калідоры райкома камсамола.

Да райкома ад нашай вёскі кіламетраў пятнаццаць-шаснаццаць, і, каб не спазніцца, мы выйшлі з дому яшчэ зацемна. Дзьмуў халодны сустрэчны вецер з густымі крупамі, дарогу абкавала галалёдзіца. Усе мы ў гумавых бахілах, а на Ганкіных бурках шыкоўныя бліскучыя галёшы, выпрашаныя на сённяшні дзень у старэйшай сястры. Галёшы прыгожыя, але яны раз-пораз спадаюць з ног, і Ганка хныкае, каб мы яе пачакалі. Пакуль цёмна, яна баіцца ваўкоў, якіх даўно ўжо ніхто не бачыў, але амаль кожны з падлюбцаў чуў пра іх што-небудзь страшнае ад другіх. Мы ўсе злуемся на гэтую плаксу, а больш за ўсіх кіпіць Санька:

— З такімі камсамольцамі мы далёка пойдзем! Баішся, дык вярніся дамоў і сядзі ў маткі на прыполе.

— Ой, фарсун няшчасны,— заступаецца за сяброўку Сонька,— хоць бы ўжо маўчаў.

— Вазьмі вось лепш цвік,— сказаў ён.— Валасы сабе накруціш.

Сонька пакрыўдзілася і змоўкла. Яна ўсім хваліцца, што кучары ў яе ад роду, але мы ведаем, што без гарачага цвіка тут не абыходзіцца. Сёння Сонька і хустку падвязала вышэй, каб былі відны завітушкі.

Развіднела, калі мы прыйшлі ў горад. Тут было больш зацішна, чым у полі, і здавалася нават цяплей. Выглянула сонца, і мы зусім павесялелі. Нават Ганка забылася пра свой нядаўні страх і цяпер смяецца разам з намі сама з сябе.

А ў райкоме мы зноў прыціхлі, крыху чагосьці спалохаліся, сядзім, і ў кожнага сэрца тахкае. А што, калі не прымуць?

— Ой, дзевачкі, я, здаецца, абавязкі забылася,— праз кожныя пяць мінут трывожна шэпча Ганка, і Санька можа ў дзесяты раз паўтарае ёй абавязкі. Ды і другія адчуваюць сябе неспакойна. Каці здаецца, што яна няцвёрда ведае свае правы, хоць Антаніна Аляксандраўна па ўсім статуце ў нас прыняла «экзамен».

А Сонька баіцца, што ў яе мала грамадскіх нагрузак: яна толькі «Лявоніху» танцуе.

А што я скажу, калі спытаюць пра гэтыя самыя нагрузкі? Можа, маляванне тое ўспомніць?

У нашым класе гавораць, быццам Каця добра малюе. А па-мойму, там глядзець няма на што: ружачкі, вяргінечкі, сцяблінкі, лісточкі і розная іншая лухта. Людзі і коні ў яе не выходзяць. Коней адным махам малюе Санька, а людзей — я. Аднойчы на ўроку геаграфіі я такую Кацю адмачыў, што самому зрабілася смешна. Праўда, Санька не адразу пазнаў, хто гэта такі, але інакш яно і быць не магло. Партрэт у мяне выйшаў не звычайны, а карыкатура. Асабліва наконт носа я добра пастараўся. І канапель на шчоках насадзіў у два разы больш, чым трэба.

Каці маё мастацтва не спадабалася, а нашай сярдзітай геаграфічцы Дар'і Мікалаеўне малюнак прыйшоўся па душы.

— Малайчына, Сырцоў,— сказала яна, перахапіўшы мой твор, які вандраваў па партах, і паставіла мне па геаграфіі вялізную тлустую двойку.

Відаць, слава пра мой новы талент дакацілася і да настаўніцкай, таму што пасля ўрокаў мяне з гэтай канаплістай задавакай паклікалі да дырэктара. Я думаў, што будуць распякаць, але ніхто нікога не распякаў, нам далі трубку шпалераў і загадалі намаляваць плакат. Так я выбіўся ў мастакі.

Цяпер мы з Кацяй часта, як кажа мая бабка, глумім дырэктаравы



шпалеры. Я разгортваю паперу на падлозе, ляжу на жываце і алоўкам выводжу вялізныя літары: «Няхай жыве...» Санька, які памагае нам, сядзіць побач і, звычайна, жмурыць то правае, то левае вока, сочыць, каб было роўна. Каця, як чалядніца, выконвае самую чорную працу: дзярэ на драчцы буракі, выціскае з іх сок. Добра мы прыдумалі з гэтымі буракамі. Праўда, выходзіць крыху цьмяна, не вельмі чырвона.

Канечне, усяго гэтага ў райкоме не раскажаш, але пра плакаты можна. Усё-такі нагрузка.

У райком мы прыйшлі рана, гадзін у адзінаццаць, і лічылі, што нас хуценька прымуць і мы завідна дабяромся дамоў. А нас усё не прымаюць і не прымаюць. За дзвярыма з шыльдачкай «Першы сакратар» стаіць бясконцы гоман. Час ад часу адтуль выпырхвае быстрая і рухавая, як сініца, дзяўчына. Яна то звоніць з суседняга пакоя па тэлефоне і пытаецца, ці выехаў у раён нейкі Пінчук, то патрабуе ад кагосьці нейкую зводку, то строга асякае двух незнаёмых нам хлопцаў, якія расшумеліся ў калідоры:

— Цішэй, таварышы, абмяркоўваецца важнае пытанне!

На нас гэтая сініца і не глядзіць.. Толькі адзін раз, праходзячы міма, кінула некалькі слоў:

— Пагуляйце трошкі. Вы ідзіцё пасля клубаў.

А адзін раз дык з-за тых жа дзвярэй паказаўся высокі малады мужчына. Худы, стомлены і вельмі строгі з выгляду. На ім была камандзірская гімнасцёрка, падпяразаная шырокай папругай з зоркай на спражцы, і гэта надавала яму яшчэ больш строгасці і важнасці. Накульгваючы на адну нагу, ён прарыпеў ботамі ў канец калідора і знік за другімі дзвярыма. Хлопцы, якіх дзяўчына прасіла не шумець, адразу прыціхлі. Гэта быў сам сакратар.

Такога вялікага начальства я яшчэ ніколі не бачыў. Ды і мае сябры, відаць, таксама. Яны чамусьці зусім прыціхлі. Толькі Ганка прашаптала:

— Ой, дзевачкі, не прымуць...

А за дзвярыма з шыльдай усё гамоняць і гамоняць. Мы ўжо ведаем, што там ідзе бюро. Відаць, бюро — гэта не простая рэч, калі кожны, хто туды заходзіць, спыняецца на хвіліну перад парогам, яшчэ раз аглядвае сваю вопратку і прыгладжвае рукамі валасы.

— Ой, дзевачкі, не прымуць...

Незнаёмыя шумлівыя хлопцы кудысьці зніклі і, калі вярнуліся зноў, пачалі піць ваду з карца на ланцужку і лаяць нейкую сталоўку, у якой катлеты з аднаго хлеба. Мы баімося адхіліцца нават на мінуту: а раптам паклічуць. Ды, па праўдзе сказаць, і не пры такіх мы грашах, каб хадзіць па сталоўках.

Снежаньскі дзень кароткі. Толькі што было зусім відна, і вось шэрым стала неба, пацямнела ў калідоры, пасінела ў вокнах. А нас усё не выклікаюць. У нас ужо клопат, як мы поначы будзем ісці дамоў. Усё-такі не блізкі свет. Ганка ўжо загадзя пачынае баяцца. Адна толькі Каця спакойная. Недзе тут недалёка жыве яе старэйшая сястра Варвара, якая працуе ў раённай газеце. Калі што, Каці можна будзе пераначаваць.

Нарэшце, рухавая райкомаўская дзяўчына нас узрадавала і спалохала.

— Рыхтуйцеся,— сказала яна, прабягаючы па калідоры, і ў нас у галаве ўсё на свеце пераблыталася: і правы, і абавязкі, і камсамольскія ўзнагароды, і нашы грамадскія нагрузкі. Ганка нават не можа ўспомніць, калі яна нарадзілася. Месяц забылася.



Сонька-Кучараўка крадком паглядзела ў кавалачак люстэрка. Мы таксама прыгладзілі свае чубы.

Першым рушыў Санька, сур'ёзны і крыху збялелы. Нам здалося, што яго трымаюць там доўга-доўга, ледзь не з самай раніцы. Як ён там? Што ён там? Ці скора? Каця не вытрымала і прыліпла да дзвярэй, хацела паглядзець у шчыліну, але яны нечакана адчыніліся.

— Прынялі! — выдыхнуў Санька, быццам толькі што пераплыў Сож. Яго шчокі пакрыліся чырвонымі плямамі.

— Пра міжнароднае становішча пытаюць,— папярэдзіў ён, калі мы добра разгледзелі яго камсамольскі білет. І Ганка зноў спалохалася:

— Санечка, а якое ў нас міжнароднае становішча?

— Складанае,— важна адказаў ён. Яму цяпер можна важнічаць.

Там было поўна народу, але я нікога не бачыў. Толькі таго маладога мужчыну ў камандзірскай гімнасцёрцы. Ён пільна глядзіць на мяне і тонкімі худымі пальцамі тушыць акурак. Гэтых акуркаў перад ім цэлая попельніца.

Я нешта такое гавару, здаецца, расказваю біяграфію, адказваю на нейкія пытанні, а сакратар ківае галавой, як бы падбадзёрвае: так-так, правільна, малайчына. Усё ідзе добра. Я па яго вачах бачу, што ўсё ідзе добра. І раптам нехта за маёй спіной пацікавіўся:

— Чым ты займаўся ў час акупацыі?

Ад нечаканасці я разгубіўся. Мне стала горача. Я адчуў, як шчокі наліваюцца чырванню. Не прымуць. Канечне, не прымуць. Каб я застрэліў хоць аднаго фашыста, каб я знайшоў тады партызанаў, то зараз было б што сказаць. А так — што скажаш? Як гранаты шукалі? Як нямецкіх коней не хацелі паіць. Толькі смяяцца будуць.

— Сельскай... гаспадаркай,— сказалася яно неяк само сабой.

Гэта будзе правільна — сельскай гаспадаркай. Капаў з бабкай агарод, пасвіў карову.

— Гэта не адказ,— не задаволіўся той, што задаваў пытанне.

Праўда, тут умяшаўся сакратар.

— Хопіць, Толік,— стомлена махнуў ён рукой.— Ну, чым ён мог займацца ў час акупацыі? Ты сам падумай... Хто — за?

Вось і ў маіх руках камсамольскі білет. У калідоры я параўнаў яго з Санькавым. Аднолькавы.

— У мяне нумар меншы,— усё-такі пахваліўся Санька.

На двары зусім сцямнела і быццам бы збіраецца на завіруху, сцежкі перамятае сыпкі сняжок. Але на душы лёгка і радасна. Як гара з плячэй звалілася. Нас усіх прынялі, нават гэтую румзу ў бліскучых галёшах. І няхай цяпер ідзе завіруха. Якія мы былі б камсамольцы, каб баяліся завірухі?

Санька з Кучараўкай і Ганкай захацелі зайсці ў сталоўку, а мне там не было чаго рабіць. Мяне амаль сілай зацягнула да сваёй сястры Каця.

Тут добра напалена грубка, і ў цесным пакойчыку горача, аж млосна. Каціна сястра, маладая і прыгожая жанчына, сустрэла мяне так ветліва, быццам даўно чакала ў госці. На стале дыміцца гарачая бульба і ляжыць тлусты селядзец.

Есці есці? Есці я не буду, я не галодны.

— Нічога слухаць не хачу,— строга сказала Каціна сястра і пацягнула нават за рукаў,— ідзі за стол.

Што яны, смяюцца? Буду я есці ў чужых, каб што падумалі. Няхай і не просяць. Я не галодны.

— Прасі ты. Гэта твой госць,— звярнулася сястра да Каці.

Каця пачырванела, нібы мак, нават канапелек стала не відаць, і неяк ваўкавата буркнула:

— Ну, хадзем...

Каб я ведаў, дык лепш бы і не заходзіў. Сораму не абярэшся. Не галодны я. Не хачу.

Але на чай з ледзянцамі мяне ўсё-такі ўпрасілі. Чай — гэта не ежа, чай — гэта вада, чаю можна папіць, калі ім так ужо хочацца. Да чаю Каціна сястра непрыкметна падсунула мне лусту хлеба, і я неяк непрыкметна яе праглынуў.

А пасля вячэры — новая напасць. Куды гэта мы пойдзем супраць ночы ў мароз і завею? Жартачкі гэта нам? Нікуды нас Каціна сястра не пусціць, няхай і не думаем.

Але як гэта, каб хлопцы смяяліся, што цемры спужаўся, каб потым зяцем якім-небудзь дражнілі. Ды і як я застануся, а Санька з дзяўчатамі пойдзе?

Кацю ўсё-такі сястра не пусціла. А мне яна — не камандзір. Сказаў дзякуй і пайшоў.

Ноч сапраўды была цёмная. У горадзе ні агеньчыка. На вуліцах нікагуткі. Толькі вецер вые ў каменных руінах і лепіць у вочы снегам. Кучараўка і Ганка ідуць моўчкі, стараюцца не адстаць ад нас з Санькам. Яны наслухаліся розных баек пра злодзеяў і разбойнікаў, якія ўночы распранаюць на дарозе людзей. А то бывае, што заводзяць у гэтыя каменныя трушчобы і забіваюць. На базары пра гэта ой-ё-ёй што расказваюць.

Санька не вельмі баіцца тых разбойнікаў. Навошта мы ім? Нашы буркі і світкі каштуюць нядорага, а грошай і на развод няма. Не вельмі разжывуцца. Ды і якія б мы былі камсамольцы, каб баяліся нейкіх разбойнікаў?

А на душы ўсё-такі чамусьці трывожна. Грукне вецер іржавай бляхай, рыпне ад ветру старое дрэва, і па спіне бягуць мурашкі.

Я дабраўся да хаты апоўначы. Бабка доўга вазілася з замычкай і ўсё бурчала:

— Гэта што — усе ў камсамоле ходзяць поначы? Дык табе яшчэ, мой хлопец, рана.— І, ужо залазячы на печ, злітавалася: — Бяры там бульбу за засланкай.

Бульба ўжо зусім халодная, але смачная. Не запальваючы агню, я мачаю яе ў соль і не магу наесціся.

...Хм. Чым я займаўся ў час акупацыі? Сабак ганяў! Так трэба было сказаць таму занадта пільнаму Толіку. Ды нічога, і так добра атрымалася. Прынялі. Цяпер мы з Санькам — камсамольцы. А білет трэба будзе абгарнуць чыстай паперай, каб не зашмальцаваўся.

## НАСТАЎНІЧЫНА ВАРЭННЕ І САНЬКАВА АПТЭКА

Бабка лічыць, што для супу з фасолі не трэба ні прыправы, ні заправы. Фасолевы суп, хоць і нішчымны, можна есці нават без хлеба, і заўсёды пад'ясі.

А ў мяне, у Глыжкі і ў бацькі фасоля сядзіць у пячонках. Суп — з фасолі, каша — з фасолі, камы — з фасолі. Фасоля на снеданне, на



абед і на вячэру. Фасоляй прапахлі гаршкі, збанкі, лыжкі, стол, печ — уся хата. Гэта была фасолевая зіма.

Сеяць мінулай вясной не было чым. Хоць ты сам у зямлю кладзіся. І бабка абмазгавала: бульбы на агарод трэба воз, а фасолі — на граду жменя-другая. І пабегла па суседзях. Хто даў карэц, хто — паўкарца, і назбіралася амаль два рэшаты. Яшчэ ніхто дагэтуль у нас не сеяў столькі фасолі. Звычайна ёй абсаджваюць межы, а бабка размахнулася на паўагарода.

Увосень ад фасолі не было ратунку. Каліўе са стручкамі віселa на плоце, сохла пад павеццю, у сенцах, на гарышчы, на прызбе, у дрывотніку. Да самага снегу мы пакрыху лузалі сухія струкі рукамі, малацілі іх на падлозе пранікамі. Куды ні глянеш — усюды фасоля: у мяшку, у дзежцы, у карцы, у збанку, у рэшаце. Фасоля сохне ў нас пад бокам на чарэні, і Глыжка раніцай страляе з яе па хаце, дзьмухаючы ў трубачку з паперкі, страляе, пакуль не заробіць дзеркача.

Ледзь-ледзь мы яе перасушылі і ссыпалі ў мяшкі. Але перасушылі, відаць, не вельмі суха, і суп патыхае прэлым. Канечне, гэта ад вялікага панства. Калі б мы пасядзелі, як сядзяць другія, на нішчымніцы, дык заспявалі б не тую песню.

Але па вясне фасоля стала смачнейшая. Кашу і камы бабка болей не хоча гатаваць, а супы зрабіліся не такія густыя, як увосень. Старая цяпер усё часцей уздыхае і бурчыць сама на сябе за тое, што шыкавала зімой. Бурчыць і на бацьку, калі таго няма дома. Якая карысць з таго, што ён ходзіць дзень пры дні ў калгас? Да восені яго працаднёў не ўгрызеш. Ды і там яшчэ невядома, шырока разяўляць рот ці не. Адно шчасце — трэскі.

Бацька зараз робіць калгасу праўленне, і над трэскамі ён крыху быццам бы гаспадар. Пойдзеш, набярэш мяшок, і ніхто слова не скажа. Другі раз і Санька са мной ходзіць.

Але Санька носіць мяшкі невялікія: ён супраць мяне — слабак. Сапе, крэкча, абліваецца потам і каля кожнага двара, дзе толькі ёсць лаўка, спыняецца адпачыць. Пад вачыма ў Санькі сіне, нос выцягнуўся і завастрыўся, а сам ён, як кажа мая бабка, вельмі ж цвілы. А яшчэ пры гэтым яна гаворыць так:

— Вось вы і вычвараеце: квасуля-квасуля, а яна цягучая.

Толькі гэта невядома, чаму Санька вельмі зацвіў, ці таму, што сядзіць без фасолі на адной бульбе, ці таму, што многа кніжак чытае. Яго матка, цётка Марфешка, часта скардзіцца: не адцягні ад кніжкі сілай, дык пад'есці забудзе; не выгань з хаты пагуляць — так і будзе сядзець крукам. А ноччу так і глядзі, каб хату не спаліў. Газы няма, дык ён недзе бензіну ўзяў ды солі ў яго насыпаў, каб не так пыхкала, і слепіцца пры каганцы да пеўняў. А яно пыхкае ўсё роўна, хвароба на яго.

І яшчэ Санькава матка баіцца, каб хлопец не зачытаўся зусім. Доўга тымі кніжкамі мазгі высушыць?

Любіць Санька кніжкі, і я ведаю, што ён зайздросціць тым, хто іх піша. Ён і сам бы хацеў стаць, калі не афіцэрам, то пісьменнікам. Гэта тады, калі не прыйдзецца ўсё-такі ісці ў фабзайцы.

Але байкапісцам Санька зрабіўся неяк скора. Аднойчы, калі мы прынеслі ад праўлення калгаса па мяшку трэсак, сухіх і смалістых, мой сябар, грукнуўшы іх аб падлогу ў сенцах і напіўшыся з карца вады, раптам ні з таго і ні з сяго мне загадаў:

— Пакляніся, што нікому не скажаш.

— А што такое? — здзівіўся я.

— Не, ты спачатку пакляніся...— І потым неяк збянтэжана прызнаўся: — Я ўчора на печы байку прыдумаў...

Санька байку прыдумаў! Глядзі ты, байкапісец вялікі знайшоўся! А ён палез на печ, недзе там пакорпаўся і тыцнуў мне яе пад нос:

— На, паглядзі, калі не верыш.

І пачаў чытаць, усё скубучы свае валасы.

Байка выйшла ў яго складная. Як у Крылова ўсё адно. Толькі без маралі. Пра мараль Санька думаў-думаў і нічога не прыдумаў. Мараль не так гэта лёгка прыдумаць. Але соль тут усё-такі ёсць. Пад свіннёй Санька мае на ўвазе фашыстаў, а пад гаспадаром — наш народ.

— Ты здагадаўся? — спытаўся ён.

Я не вельмі здагадаўся. Мне здалося, што тут расказваецца проста пра старога Зязюльку, які аднойчы таксама агрэў качаргой Брыдкавага парсюка, калі той залез у яго двор і нарабіў шкоды, але пярэчыць не стаў. Калі Санька мае на ўвазе пад свіннёй фашыстаў, дык і я не супраць. Добрая байка.

А на наступны дзень у Санькі — дзве новыя. У адной пад рабой курыцай разумелася Глёкава Кацця, а ў другой пад індыком — Пецька Смык. Пра Кацю мне не спадабалася. Прычым тут Кацця? А вось пра Смыка прыдумана смешна. І галоўнае — мараль выйшла.

Не будзь і ты такі Індык,
Такі Індык, як Пецька Смык.

Няхай перад дзяўчатамі так не фарсіць, гэты Смычышча. Добра было б, каб падкінуць яму ў кішэню гэтую байку, але Санька стаў на дыбкі: сакрэт — і годзе. Ніхто не павінен ведаць.

Санька здольны не толькі на байкі. Аднойчы Антаніна Аляксандраўна прыйшла на ўрок радасная. За колькі год вучобы мы навучыліся ўгадваць з першага позірку, што нясе наша настаўніца ў клас: двойкі ці нешта лепшае. Бывае, што яна ўваходзіць нейкая стомленая, вяла кладзе сшыткі на стол, здымае свае акуляры без аглобелек і пачынае церці пальцам пераноссе, націснутае спружынкамі так, што на ім заўсёды ёсць сінія ямачкі. І тут у кожнага замірае сэрца. Няўжо і мне двойка па ўчарашнім дыктанце? А бывае, што яна пачынае ўсміхацца яшчэ з парога, вось так, як цяпер, дробненька тупае да свайго стала і ўрачыста абводзіць клас сваімі добрымі, як у маці, вачыма. Тады, значыць, мы — малайцы. А на гэты раз і зусім Антаніна Аляксандраўна сказала такую навіну, што клас на хвіліну разгубіўся, перастаў дыхаць, а потым загудзеў:

— У нашым класе расце пісьменнік...

Я адразу здагадаўся. Напэўна, Санька.

— Вы паслухайце, як ён напісаў дамашняе заданне,— сказала настаўніца і пачала чытаць, і чым болей яна чытала, тым болей мой Санька наліваўся чырванню. Па класе пайшоў шэпт:

— Макавей... Санька... Чапаеў...

Дзяўчаты пачалі аглядвацца на нашу парту, а Санька, апусціўшы вочы, маляваў на прамакатцы кавалерыйскага скакуна.

— Гэта наш Колас,— абвясціла Антаніна Аляксандраўна, скончыўшы чытаць, а потым, крыху падумаўшы, паправіла: — Будучы Колас, а зараз ён наш Каласок.

Не ведаю, можа Санька крыху заганарыўся, але на перапынку ён быў спачатку нейкі важны: самавіта прайшоўся па класе, схаваўшы рукі ў кішэні сваіх салдацкіх галіфэ, задумліва паглядзеў у акно і моўчкі сеў на месца. Сонька-Кучараўка папрасіла спісаць алгебру, дык Каласок не павярнуў нават сваёй даўно не стрыжанай галавы. Дзяўчаты пачалі хіхікаць:



— Паглядзіце-тка, Каласок ужо нос задраў.

І Санька не вытрымаў, зрабіў з паперы гарошыну, заклаў яе ў трубачку з ручкі і — дзьмух Кучараўцы ў шчаку. А потым і алгебру даў перапісаць. І правільна. А чаго тут ганарыцца? Я таксама, калі б толькі захацеў, дык напісаў бы тое заданне, можа, не горш за Саньку. У мяне толькі няма ахвоты, а галава, кажа бабка, у мяне ёсць. І граматыку мог бы вывучыць лепш за ўсіх, толькі, ці будзеш кожны дзень прасіць у Каці кніжку. І так хлопцы пачынаюць дражніцца, што да Глёчыхі часта хаджу. Каб я толькі захацеў, то мог бы па ўсіх прадметах, як па геаграфіі, вучыцца.

Я па геаграфіі як бог. Нават марскія вандраванні Дар'і Мікалаеўны, на якіх тоне ўвесь клас, мяне не палохаюць. Наша геаграфічка як прыдумала? Зойдзе ў клас, яшчэ не адкрые журнал і адразу:

— Пятро Смык, праплыві мне з Мурманска ў Адэсу.

Смык, цыбаты, даўгашыі, выходзіць да карты і пачынае плаваць туды-сюды, страляе па класе вачыма, падміргвае, каб падказалі, водзіць вялікімі, як у кажана, вушамі, прыслухоўваецца, пакуль геаграфічка не скажа:

— Усё. Твой карабель патануў. Садзіся.

Калі карабель тоне, гэта значыць, што тонеш і ты, і ніхто цябе не ўратуе, пакуль не вывучыш усё як след.

А мне такія вандраванні падабаюцца. Я плыву не ўказкай па карце, што пашарпана і скрозь заклеена мучным клеем: я заўсёды плыву на караблі з ветразямі, я забываю пра клас, бачу халодныя хвалі і камяністыя берагі, гарады, як на тых паштоўках з Еўропы, тыграў, сланоў, туземцаў і яшчэ многа ўсяго, што мне хочацца ўбачыць сапраўды. І знайсці дарогу вялікай хітрасці няма. Чаго ў Адэсу ездзіць вакол Афрыкі, як той Смык, калі можна праз Гібралтар, праз Басфор і Дарданелы?

Але ў апошні час на моры мне таксама не шанцуе: ужо два разы заблудзіўся.

— Што гэта з табой такое? — дзівіцца геаграфічка і ставіць у класны журнал супраць майго прозвішча круташыяе «два».

А хіба я вінаваты? Мой карабель шчасліва выйшаў з Мурманска, са спадарожным ветрам без прыгод даплыў да Англіі, нягледзячы на густы туман, удала прайшоў праліў Ла-Манш, і тут за маёй спіной у класе нехта хіхікнуў. Гэта мяне крыху збянтэжыла. Можа не туды паехаў? Аглянуўся — Кацця прыплюшчыла адно вока і чамусьці хітра ўсміхаецца. Гэта, напэўна, нездарма. Каб не з маіх штаноў. Бабка іх сёння раніцай палатала белымі ніткамі, бо другіх у яе не было. Хаця не можа быць, каб з-за нітак: я старанна зафарбаваў іх чарнілам.

Вось зноў яны з Сонькай пераглянуліся і пырснулі ад смеху. Можа з-за таго, што на перапынку я прычасаў з вадой свой віхор? Дык смешнага тут нічога няма. Калі ты яго добранька не намочыш, дык ён тырчыць ва ўсе бакі, як у вожыка.

Пакуль у маёй галаве мітусіліся думкі, чаму тыя «каноплі» спачатку бярэ смех, а потым кідае ў чырвань, мой карабель вылез на бераг і спакойна падаўся па гарачых пясках Сахары ўпоперак Афрыкі.

— Сядай,— кажа Дар'я Мікалаеўна,— заўтра зноў спытаю.

І раптам здарылася нечаканае. Я ў школу болей не пайду ні заўтра, ні паслязаўтра. Мяне болей не цікавяць «марскія паходы» нашай геаграфічкі. І плакатаў на дырэктаравых шпалерах не буду маляваць.

Давядзецца Саньку і Каці самім, без мяне. Відаць, маё шчасце такое няўдалае: з вечара клаўся спаць — быццам бы і нічога не было, а раніцай падняўся — рукі абсыпаны дробным свярбучым макам. Паглядзела на іх бабка і спалохана забожкала:

— А божа ж ты мой! Паглядзі, Кірыла, што наш хлопец прыдбаў!

— Не можа быць? — не паверыў спачатку бацька, але ўстрывожыўся.— Адкуль ёй узяцца?

— Адкуль ёй узяцца? — перапытала старая.— Ні мыла, ні рыла. Доўга ёй? Паняньчыла ў тую, у царскую, вайну, помню, якая яна.— А потым разэлавалася на мяне:—Адкасніся ты, нячысцік: хто яна ды што яна. Кароста — вось хто...

Толькі гэтага мне і не хапала. Усё меў, а гэтага яшчэ не было. Цяпер я ў школу не пайду ні за якія грошы, няхай хоць азалацяць. Праўда, такія ж рукі і ў Смыка, і ў Мамулі, і ў многіх другіх хлопцаў. Асабліва з малодшых класаў. Але яны як сабе хочуць. Ім можа і нічога, калі даведаецца пра гэта Кацця, а мне яна і так пячонкі пераела сваімі кепікамі. Я не хачу, каб яна ведала, што ў мяне на руках. Пражыву як-небудзь і без вучобы. Не ўсім вучонымі быць, як казаў Чыжык. Пайду ў калгас разам з бацькам, а хоць падамся да Нінкі ў брыгаду. Другія ж хлопцы жывуць без вучобы. Чыжык, напрыклад. І я не памру.

— Не,— глуха сказаў бацька.— Ты на другіх не ківай. Другім, можа, хлеба няма каму зарабіць ці мазгі на месца ўправіць, а я магу яшчэ і тое і другое. Глядзі, хлопец!

Толькі і я не з баязлівага дзесятка. Усе кажуць, што ў бацьку пайшоў і па абліччы, і па ўпартасці. Няхай што хоча робіць, хоць папругай жэніць, а на вочы Каці са сваімі рукамі не пакажуся.

Вечарам, ідучы са школы, да нас завітаў Санька.

— Чаму ты сёння не быў? — пацікавіўся ён.

І не паспеў я рота адкрыць, як за мяне адказаў бацька:

— Жаніцца задумаў. Пасылай, кажа, сватоў, і ўсё тут. А ты яшчэ хіба школы не кінуў?

— Не,— разгубіўся Санька.

А бабка ўздыхнула:

— Эх, калі б серкі знайсці. Усю свярбучку як рукой зняло б. Толькі дзе ты яе зараз знойдзеш? Хіба ў пекле...

Вечарам, думаючы, што я ўжо сплю, бацька доўга гаварыў з бабкай пра мяне.

— Празяваў я хлопца,— быццам скардзіўся бацька старой.—Пакуль сабакам сена касіў, ён і вырас. Цяжка цяпер у рукі ўзяць. Ох, цяжка. Вялікі ўжо.

Усё. Маёй вучобе капцы. Бацька злуецца, а Нінка, калі я прыйшоў на брыгадны двор, узрадавалася. Усё ў тых жа вялізных салдацкіх ботах, да якіх прыкарэў гной, усё ў той жа ватоўцы, падпяразанай папругай, з чорным ад сіверу тварам, з патрэсканымі губамі, яна па-мужчынску, як з роўным, павіталася са мной і сказала:

— Вось і добра. Запрагай свайго Стрыгунка.

Дні тры я са стайні вазіў гной да парнікоў і разам з дзедам Мікалаем набіваў рамы. Школа мала-памалу пачала быццам бы і забывацца. Толькі, калі праходзіш міма з вілкамі на плячы, нешта балюча заные ў грудзях і зробіцца чамусьці крыўдна і горка. Хочацца падкрасціся на ганак і хоць адным вокам зазірнуць у акно. Што яны там робяць без мяне? Зноў плаваюць з Мурманска ў Адэсу ці ламаюць галовы над алгебрай? І няхай ламаюць. Няхай смяецца цяпер тая Кацця.



Я цяпер самастойны чалавек, я пайшоў на свой хлеб і, калі захачу, то і курыць пачну. Толькі бацькі пабойваюся.

Крыўдна таксама, што ўсе яны так хутка забыліся пра мяне. Быццам я і не хадзіў у школу, быццам я там нікому і не трэба. Толькі Санька не забыўся. Учора ён прынёс поўныя прыгаршчы жоўтай серкі.

— Дзе ты ўзяў? — узрадавалася бабка.

— А ў мяне цэлая аптэка,— пахваліўся ён.— Трэба, дык і яшчэ прынясу.

— Прынясі,— не адмовілася бабка. У яе такі характар — любіць усё мець з запасам. Цяпер бабка Санькавай серкай пудрыць мне рукі і гаворыць, што ўсё ідзе добра.

У той дзень я каля школы затрымаўся даўжэй. Трэба было дачакацца Санькі.

— Добры дзень, Ваня,— нечакана пачулася за спіной.

Павярнуўся — перада мной стаіць Антаніна Аляксандраўна, маленькая, сівенькая, і знізу ўверх глядзіць на мяне. У яе руках бярэма сшыткаў і класны журнал. Відаць, яна і сама не чакала такой сустрэчы і цяпер не ведае, што далей гаварыць.

— Гэта праўда? — нарэшце, спытала яна.

— Што праўда? — і я адчуў, як горача запалалі мае вушы.

— Што кінуў школу?

— Ыгы.

— Так,— уздыхнула настаўніца і на хвілінку задумалася, потым адразу ж схамянулася: — На, памажы мне занесці дахаты сшыткі.

Вось дык папаўся! І адмовіцца нельга, і ісці неахвота. Зноў пачнуцца ўгаворы. А мне і бацькавых хапае. Не пайду я ў яе хату, няхай не думае. Данясу толькі да парога і аддам.

Да настаўніцкай хаты недалёка. Настаўнікі жывуць побач, на ўзгорку ў былым папоўскім доме, даволі ўжо старым, як і тая ж воласць. Летам яго крыху парамантавалі, але нам вядома, што ў ім і дах цячэ, і грубкі чадныя, і ў вокны дзьме. У калідоры, куды я зайшоў услед за Антанінай Аляксандраўнай, цёмна і сыра. Вось тут і аддам яе ношку.

— Трымай! — апярэдзіла яна, і ў маіх руках апынуўся другі стос сшыткаў ды яшчэ і класны журнал, а ў цемры забразгаў ключ.

Так мне і не ўдалося ўцячы. Антаніна Аляксандраўна адразу ж папрасіла нашчапаць трэсачак, каб падпаліць у грубцы. Прыйшлося зняць шапку і світу.

— А цяпер будзем піць чай,— сказала яна неяк зусім па-свойску.— Ты любіш чай з сахарынам?

Чай з сахарынам... Хто ж яго не любіць? А ў мяне і пытаць не трэба — я яго люблю, толькі не хачу і піць не буду.

— Не-не-не-не! — загарадзіла мне дарогу Антаніна Аляксандраўна.— Гэта нікуды не варта. Ты мой госць, а госці не крыўдзяць гаспадароў. Нічога слухаць не хачу.

Антаніна Аляксандраўна мітусіцца па сваім цесным, застаўленым этажэркамі і палічкамі з кнігамі, пакойчыку, нібы да яе і сапраўды прыйшоў немаведама хто. Вось на стале з'явіліся тонкія шклянкі, лыжачкі і крыху пагнуты металічны чайнік з варам. Хлеба нарэзала тоненька, быццам у мяне рот, як у канарэйкі.

— О! — урачыста падняла яна ўказальны палец угору.— У мяне ёсць варэнне! Вішнёвае! Летась сястра падарыла. Дзе толькі я яго паставіла? Але знойдзем. Будзем піць чай з варэннем.

Мне было чамусьці сорамна, я доўга аднекваўся, упіраўся, а потым усё-такі зрабіў ласку: сеў за стол. Толькі нездарма яна гэты чай заварыла. Зараз, відаць, пачнецца: як мне не сорамна, як мне не брыдка

кідаць школу... Тут трэба вуха трымаць востра: угаворыць і — не ўгледзіш.

Але настаўніца, здаецца, і забылася пра школу. Пра сястру сваю расказала, паскардзілася, што дах над яе пакоем працёк і кніжкі заліло, што галава ў яе часта баліць і, наогул, здароўе зусім слабае.

А потым пачала распытваць пра майго бацьку: калі прыйшоў, дзе ваяваў, ці не вельмі строгі да нас з Глыжкам, ці не думае прывесці мачаху. І я неяк асмялеў, забыўся, што ў гасцях, развязаў язык, быццам з роўняй.

І пра бабку пагаварылі.

Маці ўспомнілі.

— Я вучыла яе калісьці, тваю маці. Яшчэ да рэвалюцыі,— сказала Антаніна Аляксандраўна.— Самая лепшая была вучаніца ў класе. Толькі мала пахадзіла, зімы дзве ці тры. А потым не пусцілі яе. Бацькі. Колькі я іх ні ўгаворвала.

І раптам, кінуўшы на мяне пільны позірк сваіх глыбокіх, добрых вачэй, настаўніца ціха спытала:

— Цяжка?

Я адразу зразумеў, пра што гэта: пра жыццё.

— Цяжка,— прызнаўся я.

— Вельмі цяжка,— уздыхнула Антаніна Аляксандраўна.— Сёння ў трэцім класе адзін хлопчык каля дошкі самлеў. Недаяданне. Малакроўе... А ўзяць ваш клас. Васіль амаль босы. Чаравікі яго зусім разлезліся. Помніш, як ён пальцы адмарозіў? Вось упарты хлопец. На дзіва. Другі б даўно рукой махнуў, а ён ходзіць у мароз, у непагадзь.

Гэта яна Мамулю так хваліць.

Потым крыху памаўчала, падлажыла ў маю шклянку варэння, хоць я і спрабаваў даказаць, што болей не хачу, і, як бы разважаючы сама з сабой, загаварыла зноў:

— Не ўсе гэта вытрымаюць. Многія, канечне, кінуць школу. Каторыя слабейшыя духам...

У пакоі зрабілася так горача, хоць ты дзверы адчыняй. Відаць, гэта ад грубкі. А можа і не ад грубкі. «Каторыя слабейшыя духам...» Гэта выходзіць, што і я — слабейшы.

— А вось, каб Ваня Сырцоў кінуў школу,— развяла рукамі Антаніна Аляксандраўна — не веру! Тут штосьці не так.

Мяне зусім кінула ў жар. Паднясі, здаецца, да маёй шчакі запалку, і тая ўспыхне, як ад чырвонай жалезнай грубкі.

— Я чула, што ты проста захварэў.

І, заўважыўшы, што я схаваў рукі пад сталом, уздыхнула:

— Гэта нічога. Гэта пройдзе. Гэта ва ўсіх у класе. І, між іншым, у Каці таксама...

Адкуль яна ведае, што я саромеюся Каці? Я нават Саньку не прызнаюся пра гэта. Не можа таго быць, каб яна здагадалася? Калі здагадалася, тады я загінуў, тады — канец свету... І Антаніна Аляксандраўна неяк па-змоўніцку глянула на мяне, маўляў, толькі мы з табой пра гэта ведаем і болей нікому не скажам.

— Вось яшчэ што,— напомніла настаўніца,— там расклад заняткаў памяняўся. Заўтра першы ўрок — беларуская літаратура. Мы ўжо да Коласа дайшлі.—І строга паківала пальцам:— Усё, што прапусціў, спытаю!

Не ведаю, што са мной сталася, але з гэтых гасцей я мчаўся сам не свой, радасна пераскокваў цераз лужыны, правёў палкай па частаколе — тра-та-та-та! — і забег да Санькі ў хату.



— У цябе яшчэ няма таго лякарства? — спытаў я ў яго.— Дзе твая аптэка?

Санька азірнуўся на матку, ці не пачула яна, і павёў мяне пад павець.

— Пільнуй, каб не выйшла,— загадаў ён і з-пад смецця выцягнуў гарматны снарад. Галоўка ад снарада была адкручана.—Калупай сам, — сказаў Санька.— Мне ўжо абрыдзела. Кожны дзень то таму, то другому... Там ёсць яшчэ на дне.

— Тол? — здзівіўся я.

— Тол,— пацвердзіў ён.— Адзін чорт, што і серка.

Не ведаю, што мне болей памагло, настаўнічына варэнне, Санькава аптэка, але я вярнуўся ў школу. Бацька ўзрадаваўся:

— Адумаўся, хлопец...

## «ПЫРСКІ ШАМПАНСКАГА»

Мая бабка сцвярджае, быццам кожны гад абноўцы рад. Але меншыя мы так пільна не прыглядаліся, што на нас апранута. Што ёсць, тое і добра. А з шостага класа пачалі сачыць за модай і самі моднічаць. Здаецца, простая рэч — шапка, а насіць яе трэба ўмеючы. Другі нацягне на вочы, аж дарогі не бачыць, і сунецца. Ніякай табе прыгажосці, ніякага шыку. У сапраўднага хлопца, такога, як я ці Санька, шапка павінна сядзець чортам. На самай патыліцы, каб быў відзён чуб. А можна яшчэ ссунуць яе на адно вуха: таксама добра выходзіць.

Ці, возьмем штаны. Няважна, што на іх латкі і ззаду і напераддзе, важна — як ты іх носіш. Другі ўпіхне штаніны ў буркі і ходзіць, што той целяпень. У сапраўднага малайца, такога, як я ці Санька, штаны заўсёды будуць з напускам. Крыху па-цыганску яны звісаюць над буркамі, і тады гэтых самых бурак меней відаць і здаецца, што гэта не буркі, а сапраўдныя боты.

Але мне і Саньку вельмі далёка да Ахрэмавага Лёнькі з Лапціна, які ходзіць гуляць да падлюбскіх дзяўчат. Кажуць, яго бацька прывёз з Германіі ледзь не поўную салдацкую торбу іголак і прадае іх на базары. Цяпер Лёнька ходзіць, як асэсар: у сапраўдных хромавых ботах і нават з гадзіннікам на руцэ. Адсюль, мабыць, і пайшла тая прымаўка — апрануты з іголачкі. Лёнька — хлопец большы за нас, ужо тытунь смаліць. Калі Чыжык папрасіў у яго закурыць, дык Лёнька абмацаў свае кішэні і адказаў:

— Няма. Папяросы ў тых штанах забыўся.

Адным словам: штаны мае рабы і яшчэ двое ў бабы, штаны мае сіні, яшчэ трое ў скрыні.

А як хвацка ўмее Лёнька насіць свае боты! Наваксуе іх так, што яны аж сонечныя зайчыкі пускаюць, потым сцісне халявы гармонікам, ідзе, як піша: рып-рып, рып-рып... Праўда, боты гармонікам ён носіць не кожны дзень. Іншы раз ён адварочвае халявы ледзь не напалавіну, каб усе бачылі, які там спадыспаду белы скураны паднарад.

Гледзячы на Лёньку, і мы пачалі рабіць са сваімі буркамі розныя фокусы. Першым узяўся Смык. Але яму добра. У яго буркі тонкія, з чорнай матэрыі, ваты пакладзена скупа, таму і моршчацца лёгка. А вось Санька свае з шынялёвага сукна цэлы тыдзень моршчыў. Цяпер Санька падобны на вайскоўца: зялёнае галіфэ навырасt і буркі гармоністыя, хоць ты на бахілы шпоры чапляй.

А ў мяне справы дрэнь. Вельмі шырокія халявы. Санька і Смык свае прыцiснуць, і яны трымаюцца. А я свае як ні прыцiскаю, пройдзеш крыху, і няма гармоніка. Тады я зрабіў адвароты — як у Лёнькі. Паднарады, праўда, у мяне не скураныя, але таксама белыя, са старой ільняной посцілкі. Здалёк паглядзіш, выгляд даволі зухаваты, можна на вечарынку ісці.

Так мы аднойчы вечарам і зрабілі. Згармонілі буркі, Санька ўскінуў сваю шапку на патыліцу, я сваю — на левае вуха, і падаліся. Свяціў месяц, і было марозна. Снег пад нагамі рыпеў на ўсю вёску.

Да вайны танцы былі ў царкве, з якой камсамольцы скінулі званіцу і адкрылі клуб. Цяпер у царкве ні вокан, ні дзвярэй, і дзяўчаты звычайна збіраюцца ў чыёй-небудзь хаце. Дамаўляюцца на ўсю зіму за пуд бульбы з кожнай. Адным пуды бацькі даюць, а другія бяруць іх крадком, калі дома няма бацькі і маткі. На танцы хочацца, што ты зробіш... Другая сама галодная будзе сядзець, пусці яе толькі польку скакаць.

А хлопцам добра. З іх гаспадары платы не пытаюць. Мы можам завярнуцца і на другую гулянку пайсці. Не адна яна ў вёсцы — амаль на кожнай вуліцы. А самая бліжэйшая ў старой Язэпіхі. Туды мы з Санькам і шыбуем. А дакладней будзе сказаць, крадземся, як зладзеі. Не так гэта проста першы раз на гулянку ісці. Ці мала хто можа ўбачыць? Можна і настаўніцу сустрэць і нават дырэктара. І хто-небудзь з дзяўчат убачыць, дык на ўсю школу раззвоніць. Суседцы на вочы трапіш, таксама бабцы ў вушы ўвядзе. І невядома яшчэ, як на гэта бацька паглядзіць. Словам, многа можа чалавек мець непрыемнасцей, калі ён першы раз ідзе на вечарынку.

І Санька, пакуль мы краліся паўз платы, такое прыдумаў. Хіба мы ідзём гуляць? Мы ідзём правярыць, ці не гуляюць нашы, з класа хто-небудзь. Праверым і дамоў пойдзем. Трэба нам тая гулянка, як зайцу стоп-сігнал.

У Санькі галава, як сельсавет, заўсёды што-небудзь прыдумае: канечне — правяраць. Маючы ў запасе такую хітрасць, мы даволі смела пераступілі Язэпішын парог і акінулі хату строгімі вачыма. Нас адразу заўважылі, быццам даўно чакалі.

— Хлопцы! Халасцёж прыйшла! — крыкнуў Лёнька з Лапціна і моцна зарагатаў.

— Вы толькі дзевак у нас не адбівайце,— быццам бы ўсур'ёз, сказаў нехта з хлопцаў.

А Санька ўжо адрэзаў:

— Не бойся, не будзем!

Прымасціўшыся ў самым парозе каля ражкі, мы пачалі назіраць за гулянкай.

У тытунёвым дыме закураная лямпа, быццам месяц у воблаках: то пацямнее, то праясніцца. Уздоўж сцен на лаўках, нават на ложку, сядзяць дзяўчаты і хлопцы. Усе не нашага гурту, старэйшыя. Хлопцы пыхкаюць цыгаркамі, перадаюць адзін аднаму «бычкі», а дзяўчаты лузаюць семкі.

Буслікаў Косцік, які ўсяго гады на два старэйшы за нас з Санькам, сядзіць на самым відным месцы. Схіліўшы галаву да самага гармоніка, ён лянiва перабірае пальцамі белыя гузікі ладоў і рыпае нешта несуладнае. Гэта ўжо звычай такі ў гарманістаў: раней, чым сыграць тое, што просяць, спачатку вось гэтак парыпаюць сабе пад вуха, быццам яны штосьці там чуюць. Як гэта гаворыцца, трымаюць фасон.

Косцік, звесіўшы свой бялявы чуб на мяхі, фасоніў доўга. Яго ўжо некалькі разоў прасілі дзяўчаты сыграць, а ён быццам і не чуе. І толь-





кі, калі перасталі прасіць, нечакана зайграў сам. Так яму захацелася: ён гарманіст.

Ну, і пайшла ж весялуха, аж захісталася Язэпішына хата і праз шчыліны ў столі пачала церушыцца кастрыца! Выйшаўшы ў круг, бойкая Манька Узварава, відаць, каб паддобрыцца да Косціка, заспявала, прытопваючы пад музыку:

Я любіла гарманіста,
Гарманіста цешыла,

І тут усе дзяўчаты падхапілі на розныя галасы:

Сама гармонік на плячо
Гарманісту вешала. І-іх!

А незнаёмы, відаць, з другое вёскі, хлопец б'е ў бубен. То стукне далонню, то костачкамі, то аб локаць, то аб калена. Пры гэтым яго галава то фанабэрыста задзіраецца ўгору, то схіляецца на бок, быццам і да бубна трэба прыслухоўвацца, як да гармоніка.

А паміж хлопцамі і дзяўчатамі пачалося штосьці накшталт перастрэлкі. Хто каго ў сваіх прыпеўках болей пад'ягорыць. На Маньчыну любоў да гарманіста адказаў з круга глухаваты хлапечы голас:

Гарманіста палюбіць
Мілая збіраецца.
Мажа губы, пудрыць шчокі,
Толькі не ўмываецца.

Пад Косцікаву музыку хлопцы вядуць дзяўчат наперад, потым паволі адступаюць назад, і раптам усе разам я-як гэкнуць буркамі ў гумавых бахілах, аж гнецца падлога і гойдаецца лямпа, а потым падхопяць дзяўчат і пачынаюць віхрам кружыцца ў адзін бок; гэкнуць, аж печ падскочыць, і — у другі бок! На печы дрэмле старая Язэпіха, і кожны раз, калі хлопцы б'юць нагамі па рыпучых маснічынах, паказваючы сваю сілу і спрыт, спалохана паднімае галаву і бурчыць сабе пад нос:

— Разваляць хату, анчыхрысты...

Дзяўчаты расчырванеліся. Манька, бойкая, рухавая, так круціцца перад сваім «мілёнкам», што спадніца надзімаецца парашутам:

Мой мілёнак, як цялёнак,
Толькі розніца адна:
За цялёнка возьмеш грошы,
А мілёнку грош цана!

Косцік яшчэ раз рыпнуў і змоўк. Перад ім адразу адчынілася некалькі самаробных алюмініевых партсігараў з тытунём і папяросамі. Паглядзеў Косцік, дзе таўсцейшая, і ўзяў. «Цвікоў» ён не курыць.

Пасядзелі мы яшчэ крыху з Санькам, ды і дамоў пара. Хопіць для першага разу. Толькі я за клямку ўзяўся, а нам наўздагон — новая прыпеўка:

А ў нас хлопцы гулялі,
У парозе стаялі.
Вы прыходзьце шчэ гуляць,
У парозе пастаяць.

Уся хата зарагатала, а мы насупіліся і пайшлі. Няхай цяпер самі гуляюць, калі такія. Нават прасіць будуць, дык не пойдзем. Не бачылі мы іх танцаў. Шчасце вялікае — нагамі розныя выкрунтасы выраблаяць ды горла драць прыпеўкамі.

І сапраўды, той зімой да Язэпіхі мы болей не хадзілі. Праўда, буркі моршчылі, напускалі штаны на халявы, шапкі насілі так, што невядома, як яны толькі на галаве трымаліся, а на гулянкі — ні нагой.



І вось наступіла лета. Гульбішчы выйшлі з хат на вуліцу. Цяпер каля кожнага двара — клуб, абы толькі роўнае месца было, дзе скакаць, і лавачка для гарманіста. І самае добрае летам месца для танцаў — гэта драўляны мост на шашы. Тут такую сербіянку можна адстукаць, на ўсё сяло будзе чутна. Толькі грузавікі іншы раз перашкаджаюць.

Але мост — гэта не для нас з Санькам. Тут і нагу можна застраміць і публіка занадта ганарыстая — усе абутыя. Так і глядзі, што без пальцаў застанешся, калі наступіць хто.

У нас свае вечарынкі — на Скокавай прызбе. Выйдзе з хаты Лёшка з балалайкай і дрынкае пацяху. Аднакласніцы нашы збяруцца: Каця, Сонька, Ганка. І ўсе мы тут роўныя, усе басаною — смела бяры любую. Толькі танцоры мы з Санькам пакуль што лыкавыя, тупаем, як казлы, таму нікога і не бярэм, самі з сабой танцуем, ды яшчэ дзяўчат штурхаем. І больш за ўсё Кацю з Сонькай.

Лёшка — музыка хвацкі. Ён трымае фасон не горш за Косціка: перад кожным танцам спачатку падрынкае, падцягне струны, а потым ужо і зайграе. Умее ўсё: і польку, і сербіянку, і «Страданне». А нядаўна пераняў з патэфоннай пласцінкі танга. «Пырскі шампанскага» называецца.

Спачатку гэтых «пырскаў» ніхто не ўмеў танцаваць, але потым дзяўчаты асмеліліся і пайшлі таптаць мурог. Танга дык танга. Такога моднага танца, мабыць, не ведаюць нават на мосце.

Мы з Санькам тут галоўныя завадатары. Няма нам сапернікаў. Большыя хлопцы на нашых дзяўчат глядзець не хочуць. Калі каторы і падыдзе, прыглядзіцца ў цемры, дык толькі рукой махне:

— А-а, падлётачкі!

Так вераб'ёў называюць, калі тыя пачынаюць вучыцца лётаць. А па-нашаму, дык дзяўчаты добрыя. Мы нават не першы вечар думаем, а ці не запрасіць і сапраўды каторую на танцы. Я з Кацяй бы пайшоў... Але ж не проста гэта — вось так узяць і пайсці...

Санька — хлопец смелы і то не адважыцца на такое першы. Скажуць потым: «Кучараўкін ухажор». Калі б так як-небудзь, каб непрыкметна было: у час танца «разбіць пару» ці што. Сядзім мы з боку ад усіх, шэпчамся і раптам:

— Прывет, хлопцы! Што ў вас тут? Танцы?

Паднялі мы вочы і знямелі ад здзіўлення: афіцэр — не афіцэр, генерал — не генерал. А хто такі, не пазнаем. А ён нас, як аблупленых, ведае.

— Ну, як, Іван, справы?

— Што, Санька, чуваць?

Прыгледзеліся — Юрка Калдоба, нашага ўчастковага сын. Чорт ведае, калі мы яго бачылі! Кажуць, ён разам з бацькам нейкі час у арміі служыў. Дома ў Юркі пасля смерці маці нікога не засталося, вось і забраў яго бацька да сябе ў часць. Спачатку хадзіў ён там за сына палка, а калі бацька дэмабілізаваўся, Юрку аддалі ў ваеннае вучылішча. І не то, каб у ваеннае, а ў нейкае падрыхтоўчае. І вось стаіць ён перад намі і красуецца. Куды там Лёньку з Лапціна! Тут бяры вышэй: сінія суконныя штаны з чырвонымі кантамі, зялёны фрэнч з бліскучымі гузікамі, пагоны з пазалотай. Пра чаравікі і ўспамінаць не варта: хромавыя.

Прытаілася і прызба, і лавачка, сціхла вясёлая, жартаўлівая гамана.

У нас з Санькам зусім сапсаваўся настрой. Нарэшце, мы зразумелі, якая небяспека навісла над намі. Цяпер, каб быць завадатарам, і ду-

маць няма чаго: дзяўчаты глядзяць толькі на Юрку. Мы цяпер ніхто. У нас няма пагонаў, і мы не пахнем адэкалонам. Але Юрка крыху пастаяў з намі і падаўся на мост.

Мы з Санькам толькі ўздыхнулі, праводзіўшы яго зайздрослівымі позіркамі. Вось бы самім трапіць у тое падрыхтоўчае вучылішча.

Мы і так хлопцы прывабныя, хоць Санька крыху шыраканосы і рудаваты, хоць у мяне і шыя даўжэйшая, чым трэба, але каб нам яшчэ Юркавы пагоны, дык і зусім бы да нашых дзяўчат ніхто не падступіўся.

## ШТО ТАКОЕ ЗЯМНАЯ ЮДОЛЬ

Жыта ўрадзіла рэдкае і травяністае. А ячмень і зусім яшчэ ад зямлі не адрос, як пусціў каласкі. Пачалася сухмень — ён так і сеў. Цяпер ні жняяркай яго не ўзяць, ні сярпом. Адзіны эмтээсаўскі камбайн «Сталінец», які ўпершыню пасля вайны прыслалі ў нашу вёску, і жаць ні жне і каб зусім разваліўся, дык не развальваецца. З-пад яго, бывае, цэлымі днямі не вылазіць замазучаны па самыя вочы і злосны, як чорт, камбайнер. Ён лаецца так, што ні на начальства не глядзіць, ні на бога. Нашу брыгадзірку, баявую і даволі языкатую, як мы яе завём, цётку Нінку, зусім не прызнае. Прыбяжыць яна са сваёй брыгадзірскай казой, каб змераць, колькі зжата, а мераць і няма чаго: з самай раніцы з-пад камбайна тырчаць камбайнерскія ногі. Вось тут і пачынаецца.

— Зноў стаяў са сваёй самапрадкай? — злуецца Нінка.— Каб не бабы з сярпамі...

Тады з-пад машыны паказваецца ўскудлачаная галава:

— Ідзі ты... ведаеш куды? Лепей бы акопы на полі зараўнялі...

Брыгадзірка таксама па слова ў кішэню не лезе:

— А можа, табе яшчэ тратуар намасціць і падмесці венікам?

Іншы раз камбайнер паказвае не толькі галаву, а вылазіць і сам.

— Што гэта такое, я пытаю? — і ён тыцкае Нінцы пад нос якую-небудзь жалязяку.— Ну, што?

— Ну... крылы ад бомбы,— адказвае брыгадзірка.

— «Кры-ы-лы»,— перадражнівае камбайнер.— У мяне з-за гэтых тваіх крылаў нажы паляцелі. Папрыбіраць у вас рукі адсохлі. Вось завярнуся і паеду...

Ды што яму Нінка? Ён аднойчы нават у старшыні калгаса, таварыша Мароза, пры нас спытаў, ці ведае той, куды яму ісці. Каб з кім другім, дык Мароз бы — ого, а камбайнеру абышлося.

Пра нас жа з Санькам і ўспамінаць не трэба. Тут не разбярэш, ці мы возчыкі зерня, ці камбайнерава чэлядзь. То ключ яму падай, то малаток пашукай, то збегай за вярсту да мужчын, якія косяць той нялюдскі ячмень, і папрасі ў іх тытуню на цыгарку, то вады прынясі. А цёплая, дык яшчэ паглядзіць на цябе, як бог на чарвяка. Быццам гэта мы адкручваем у яго камбайне гайкі, губляем балты, ірвем ланцуг і падкідваем пад нажы крылы ад бомб. І мы ўсё церпім. Церпім таму, што, калі яго гэта аграмадзіна ўсё-такі пацягнецца па полі, то можна ўскараскацца на верх і, быццам на капітанскім мосціку, праехаць, горда паглядваючы, як недзе там нашы дзяўчаты гнуць спіны з сярпамі. А вечарам можна з гэтакім абыякавым выглядам пры выпадку сказаць:



— У нас на камбайне цяпер парадак.

Можна слоўца падкінуць закавырыстае: шнэк, агрэгат, кантакт. Мы іх ведаем процьму.

Адно толькі кепска — не кожны вечар нам удаецца пабыць на гулянках. Іншы раз нас пасылаюць ноччу адцягваць салому ад малатарні. І не хацеў бы, дык Нінка ўгаворыць. Так ужо мякка сцеле: хлопчыкі, хлопчыкі, хлопчыкі... Мы і любенькія, мы і даражэнькія, і на нас у брыгадзе зямля трымаецца. Калі такія вялікія ўдарнікі і стаханаўцы, як мы, не пойдуць, дык ёй невядома, што тады і будзе. Мабыць, свет перакуліцца дагары нагамі. Уздыхнеш і паабяцаеш прыйсці. А потым увечары, калі сядзе сонца, калі ўжо зусім добра сцямнее і за акном, ідучы на вечарынку, заспяваюць дзяўчаты, проста свет табе не мілы.

Занавеска рэдка-рэдка,
Чарнабрывага відаць.
Калі б з гэтым чарнабрывым
Адзін вечар пагуляць! —

звіняць дзявочыя галасы на ўсю вуліцу.

А тут яшчэ бабка слова ўставіць:

— Ідзі ўжо, кліча твая піскуха.

Я заводжуся, як кажа наш камбайнер, з паўабарота. Гляну, ці не пачуў бабчынай насмешкі бацька, і ў атаку:

— Ідзі-ідзі! Табе толькі гулянкі наўме, а салому хто будзе цягаць — чорт лысы?

Але бабку так лёгка не спыніш. Яна, мыючы посуд пасля вячэры, будзе бурчэць, пакуль не пойдзеш з хаты:

— Мне гулянкі наўме... гулянкі наўме. Захаласцякавалі ўжо. І сын, і бацька. А мне гулянкі-хварабанкі наўме.

Усё гэта гаворыцца не столькі да мяне, колькі да бацькі. Маё халасцяцтва бабка прымешвае, мабыць, для зручнасці. Яна баіцца, што мы з бацькам неўзабаве навядзем поўную хату гаспадынь: адзін — нявестку, другі — мачаху. Тады яна паглядзіць, як яны паладзяць каля печы. Во будзе смеху! Толькі няхай нашы з бацькам жонкі не думаюць: бабка іх да чаленнікаў і не дапусціць. Знайшліся — на ўсё гатовае! Словам, перападае нам з бацькам ад старой на абаранкі, толькі слухай.

А ў мяне няма часу доўга слухаць: трэба хутчэй бегчы на брыгадны двор і першаму захапіць Стрыгунка, інакш будзеш усю ноч у Слепкі за павадыра.

Раніцай, вяртаючыся з малацьбы, мы з Санькам ідзём па вуліцы, не спяшаючыся, ціха, спакойна. Калі хутка прабяжыш, дык хто ж убачыць, што ты ноччу, калі ўсе спалі, малаціў? А так жанчыны кароў выганяюць з двара, праводзяць цябе ўслед соннымі вачыма. Дзяўчына па ваду да калодзежа выскачыць — глянеш на яе яшчэ непрычасаную і заспаную, як працавіты чалавек на дармаеда. Мужчына сустрэнецца — вітаешся, як з роўняй, за руку. Не, спяшацца дамоў з малацьбы ніколі не варта, калі хочаш, каб усе ведалі, адкуль ты ідзеш.

Але малоцім мы не кожную ноч. Мы не двухжыльныя, і пагуляць нам хочацца вечарам, тым больш, што і танцаваць разасмеліліся. Праўда, вальсы і полькі не вельмі ў нас выходзяць, круцімся толькі ў адзін бок. Але нічога, падрасцем — і ў другі бок пачнем. Не ўсё разам.

Вось каб асмеліцца яшчэ і правесці каторую пасля танцаў дахаты! Тады б Юрка-артылерыст так не задзіраў перад намі нос. І я думаю, што ў нас гэта павінна выйсці. Не трэба толькі ад самай прызбы, дзе ідуць танцы, пачынаць тыя праводзіны. Там усе ўбачаць, Каця з Сонь-

кай засаромеюцца і ўцякуць. Лепш нам забегчы ім наперад, дачакацца, калі яны будуць вяртацца дамоў, выйсці неспадзявана насустрач і сказаць:

— Добры вечар. Вам у які бок? У той? Значыць, па дарозе.

А потым зрабіць выгляд, што нам, сапраўды, проста па дарозе, і прайсціся. Яны і не здагадаюцца, што гэта мы знарок.

Вось я з Санькам і сяджу ў Ахонькавым завулку пад плотам. Месца для засады выбралі добрае — не мінуць і нас з Санькам не вельмі ўбачаць. Толькі заселі, відаць, ранавата. Чакаем-чакаем, а па сяле ўсё гудуць гулянкі. Грукае каля Язэпіхі бубен, грукае пад абцасамі мост на шашы, там-сям успыхваюць дзявочыя прыпеўкі.

У Ахонькавай хаце цьмяна свецяцца шыбы. З поплаву пацягнула сырасцю, на траву лягла раса, зрабілася даволі ядрана. Так можна і адубянець, чакаючы, пакуль скончацца тыя танцы. Ранавата ўсё-такі мы сюды забеглі.

Санька першы заўважыў тых, каго мы так доўга і цярпліва пільнуем. Ён вызверыўся на мяне і замахаў рукамі, каб я перастаў балбатаць, а то спуджу. У мяне аж сэрца спынілася.

Каця і Сонька ішлі абняўшыся і ціхенька спявалі. Спявалі пра Васіля, які ўсё сена касіў, пра ўдаву, якая ўмела чараваць, і пра маці, якая не дазваляла ўдаву браць. Санька вынырнуў перад імі так нечакана, што дзяўчаты спалохана віскнулі на ўсю вуліцу і гэтак панесліся наўцёкі — на матацыкле не дагоніш. Глёчышыны веснічкі з грукатам зачыніліся перад самым маім носам, ледзь я лоб сабе не растоўк. Што тут будзеш рабіць? Пастаяў, паслухаў, як Каця замыкае на засаўку сенцы, уздыхнуў і падаўся назад. Санька ўжо чакаў мяне пад вербамі. Называецца — праводзілі...

А як ісці дамоў, калі праз дзве хаты Юрка Калдоба сядзіць на прызбе з Пыршавай Ганкай? Мы ведаем, што яны там кожны вечар сядзяць. Будзеш ісці міма, а той спытае:

— Хлопцы, чаму вы так рана?

Лепш мы яшчэ тут пасядзім якую гадзіну, а потым ужо — рукі ў кішэні, засвішчам і пойдзем. Не лыкам шытыя, хоць і без бліскучых пагонаў.

А нудна ж сядзець проста так. Лічы цяпер зоркі на небе, бі настырных камароў на сваёй шыі. Калі б хоць сланечніку, што за Ахонькавым плотам, шапку скруціць, дык сядзелі б ды семкі лузалі.

— Давай скруцім! — рашыўся Санька. Ён нават стаў нагамі на лавачку, калі ў двары нехта грукнуў клямкай. Не спіць яшчэ багамолка. Відаць, нанач замыкаецца.

Ахонькава хата не на вуліцы, як усе, а ў глыбіні саду. З двара вядзе вузкі, як толькі праехаць калёсам, завулак, над якім навіслі галіны старых яблынь. Ідзеш па завулку, як па цёмным калідоры.

Падкраўшыся да варот, мы прытаіліся і праз шчыліны паміж дошак пачалі ўглядацца ў двор. Амаль побач пачуўся хрыплы голас. Той, хто гаварыў, мабыць, сядзеў на прызбе.

— О-хо-хо,— цяжка ўздыхнуў голас.— Сілы не хапае, сястра Маўра, несці крыж у гэтай зямной юдолі. Сырасць, сараканожкі бегаюць.

Мужчынскі голас нам не знаёмы і быццам бы знаёмы. А жаночы мы адразу пазналі. Так можа гаварыць толькі Чмышыха, цягуча, ліслíва.

— Усё ад бога, брат Яўсей. І цярпі смірэнна, як цярпеў Хрыстос, без наракання. Усе праведнікі былі вялікімі мучанікамі. Пісанне чытай, не паддавайся спакусе д'ябла. Вялікую надзею на цябе бог ускладае. Чую я сэрцам — святым угоднікам будзеш.



Мужчына нешта прабубнеў, але так ціха, што мы з Санькам не разабралі.

Уцякаць нам з Санькам было позна — грукнула клямка. Прыйшлося легчы там, дзе сядзелі, у крапіву. Па сцежцы паўз нас прасунулася Чмышыха, вялізная і цяжкая, як стог. Крыху пачакаўшы, пакуль усё сціхла ў двары, мы таксама рушылі па хатах.

Ідзём і думаем, што гэта за юдоля...

На наступны дзень, яшчэ да снедання, успомніўшы начную размову ў Ахоньчыным двары, я прыстаў да бабкі з роспытамі пра Чмышыхінага брата.

— Які брат? — здзівілася бабка.— Няма ў яе ніякага брата.

— А вось у Ахоньчыхі жыве яе брат Яўсей,— сказаў я.

Бацька толькі рукой махнуў:

— Разбярэш іх, гэтых святых. Яны ўсе адзін аднаго братамі і сёстрамі называюць. У іх мода такая.

— А што такое юдоля? — спытаў я ўжо ў бацькі.

— Юдоля? — задумаўся ён і пачаў успамінаць, як гэта ім калісь поп у класе гаварыў. Быццам бы тое, што і доля, толькі крыху не такая. А мы з Санькам думалі, што гэта падзямелле з сараканожкамі. Словам, без папа і не разбярэш. І навошта гэта мне? Можа і я ў папы збіраюся пасля сямі класаў?

Давялося ўсё расказаць, што мы з Санькам чулі пад Ахоньчынымі варотамі, толькі чаго нас там, як бабка кажа, нячысцікі насілі, я не прызнаўся. Бацька, які да гэтага разглядваў падэшву ў сваім падраным боце і прыкідваў, куды б гэта яшчэ забіць цвік, падняў галаву.

— Та-ак! — зацікаўлена працягнуў ён.— Не шкодзіла б на таго «брата» паглядзець.

— Трэба ён табе! — накінулася на яго бабка.

— Ды мне ён не трэба,— адказаў бацька.— А Калдобе можа і спатрэбіўся б...

Я проста не ведаю, што і думаць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На «брата» Яўсея сапраўды не шкодзіла паглядзець. Яго ўзялі проста сярод дня, у нядзелю. Ахоньчыха нарабіла гвалту, і да яе хаты збеглася паўвуліцы. Мы з Санькам прышыбавалі туды, калі Калдоба, цяпер ужо ў міліцэйскай форме, вывеў «святога» на вуліцу. І ўсе здзівіліся:

— Ці не Ахонька?

Мы яго спачатку дык і не пазналі: вялізная, ускудлачаная барада, на галаве касмылі да плячэй.

Цікаўныя бегалі ў хату паглядзець, дзе ён хаваўся. Не абышлося там і без нас. Хата, як хата, даволі чыстая, прыбраная. На сцяне плакат, намаляваны каляровымі алоўкамі: «Бог ёсць любоў». А пад печчу глыбокая, як склеп, яма. І сцены ў яме абкладзены цэглай, нават пабелены. На дне пасцель: коўдра і сяннік. На коўдры тоўстая, растрапаная кніжка. Санька сказаў, што біблія. Вось яна якая, Ахонькава «юдоля». Калі масніцамі закрыеш, дык ніхто не здагадаецца.

Міністрыха, жонка Назара Міхейчыкава, пазнала ў сенцах сваю супоньку, якую кінула разам з кашолкай, уцякаючы ад ваўкалакі. І загаманіла вуліца:

— Дык гэта ён? Ваўкалака?

Калі мы з Санькам выскачылі з двара, у завулку рабілася немаведама што. Ахонька, сплёўваючы кроў, спалохана прытуліўся да плота. Яго трымалі за рукі двое мужчын, а мой бацька стараўся вырваць у Міністра кол.

— Назар! Назар! — прасіў ён.— Каб яшчэ судзілі праз гэтую сва-лату! Супакойся, кажу я табе. Закон без цябе разбярэцца.

Убачыўшы нас, бацька крыкнуў са злосцю:

— Марш адсюль! А то шчэ ў гарачцы і вам пападзе.

Нарэшце з двара выйшаў Калдоба, увесь у кастрыцы і павуцінні. Ахонька аж галаву ў плечы ўцягнуў, калі ўбачыў, што ўчастковы вынес.

— Бач, як запакаваў, і памазаць не забыў,— паказаў Максім мужчынам нямецкі аўтамат.— І патрончыкаў прыпас. Пад страху, гад, схаваў.

— Мабыць, ён цябе гэтым тады на цагельні пачаставаў,— сказаў нехта з мужчын.

— Ды відаць,— згадзіўся Калдоба.

Калі Ахоньку вялі ў сельсавет, мы стараліся трымацца бліжэй да дзядзькі Максіма. І добра зрабілі: Сонька і Каця з Глёчышынага двара бачылі, як мы вялі таго ваўкалаку. Шкода, што Калдоба нямецкі аўтамат не даў нам несці — было б яшчэ лепш.

Мая бабка потым усё дзівілася.

— Во табе і ваўкалака... Значыць, пакуль самой не было, па цагельнях бадзяўся, а прыйшла сама — прыляцела і сава. Гэта ж колькі ён прасядзеў пад печчу? Два гады?..

Даведаўшыся, што знайшлася Міністрышына супонька, бабка ў мяне спытала:

— А мой хрэнч ты там не бачыў?

## І НАС ПРАВОДЗІЛІ З ПЕСНЯМІ

Прыезджы фатограф зняў наш клас на памяць аб заканчэнні сямігодкі. Цэлы тыдзень мы з нецярплівасцю чакалі яго картак. Асабліва хваляваліся дзяўчаты. Але, па сакрэце кажучы, і нам з Санькам карцела хутчэй паглядзець, што мы там за прыгажуны.

І вось паглядзелі. Лепш за ўсіх выйшлі дзяўчаты. У кожнай, як гэта гаворыцца, губы банцікам. Сонька спусціла на лоб завітушку валасоў, у Каці чамусьці радзімка на шчацэ ўзнікла, якую проста так, не на фотакартцы, сярод рабаціння і не заўважыш, Ганка Пыршава выставіла на паказ руку з сястрыным гадзіннікам. Умеюць падпусціць форсу!

А хлопцы, хлопцы! Кожны, быццам аршын праглынуў: такія важныя, такія строгія. Смык сычам надзьмуўся. Хлопцы стаяць, дзяўчаты сядзяць ніжэй, у цэнтры — настаўнікі, а мы з Санькам ляжым галава да галавы. Мы забыліся намачыць вадой свае чубы, і яны натапырыліся. Санька, каб не зарагатаць, скрывіўся, быццам зялёную антонаўку ўгрыз, а ў мяне ўсе зубы блішчаць. На нас напаў смех. Калі фатограф схаваўся пад чорную матэрыю за апаратам, мы ўспомнілі, як наш Глыжка некалі хаваўся ад лазы-дзеразы пад бабульчын фартух.

Адным словам, была б добрая фотакартка, каб не мы з Санькам. Бабуля дома на яе паглядзела і паківала галавой:

— Усе людзі, як людзі, а вы і тут ветрагоны.

А бацька, хмыкаючы, доўга вывучаў маё пасведчанне. Няхай, няхай чытае — там ніводнай тройкі, апрача, як па спевах, бо я, калі заспяваю, дык здаецца, што барана рэжуць. Але ў спеваке мне не ісці.

— Садзіся, сын, пагаворым,— нарэшце запрасіў мяне бацька за стол. Кашлянуў у кулак, глянуў на мяне і спытаў: — Ну, куды ты думаеш далей падацца?

Куды падацца, мы з Санькам ужо даўно надумалі. Вядома, не ў восьмы клас. Пра гэта і гаварыць не трэба. Вухнула з-за вайны наша з Санькам дзесяцігодачка. Калі яе цяпер адкрыюць, невядома. Ды каб і адкрылі, дык што толку? З усяго нашага вялікага сяла ды яшчэ іншых вёсак на фотакартцы сёмага класа ўсяго шаснаццаць чалавек. І з гэтых раз'едуцца многія. Некаму ў нас вучыцца ў восьмым класе, хоць ты яго адкрывай, хоць не адкрывай. А ў горад за дзесяць-дванаццаць кіламетраў не набегаешся: ні штаноў людскіх, ні абутку. Ды і не векаваць жа на бацькавай шыі.

— Ты паслухай мяне дурнога,— зноў загаварыў бацька.— Сам я ўсяго тры зімы ў царкоўна-прыходскую школу пахадзіў, а на чацвёртую твой дзед-нябожчык мяне не пусціў. «Хопіць,— сказаў,— лапці драць». Тады такі час быў: вучыся — не вучыся, а калі ты ад касы, то да яе і прыйдзеш. Цяпер, як гэта ў песні гаворыцца, маладым усюды ў нас дарога. Толькі што гэта за дарогі пасля вайны, ты сам бачыш. І дастачу нашу бачыш: што ў нас, тое і на нас. Кабанчыка прадалі, бо на карову трэба разжывацца. Круці, як хочаш. Вось я табе і раю. Не ганю ў шыю, а толькі параду даю: ідзі пакуль што працаваць. Зарабі сам сабе хоць на нейкі кусцюм, і то мне лягчэй будзе. А там гармоні захочаш. Я разумею,— халасцяку трэба. Заробіш — купляй. А калі ў салдаты пойдзеш, яно само пакажа. Пойдзеш вучыцца — ідзі вучыся. Толькі прама табе скажу — не памагу. Кароткія ў мяне штаны. І яго вунь трэба яшчэ і расціць, і вучыць,— кіўнуў бацька на Глыжку, а потым і на бабку,— і яна ўжо не работнік.

— Ты толькі па мне яшчэ дужа не журыся,—не вельмі ветліва адазвалася бабка ад печы. Бацька змоўчаў.

«Кусцюм», як кажа бацька, і «гармоні» — гэта вельмі добра. Важнай быў бы асобай на гулянках у Язэпіхі... Толькі мы з Санькам пойдзем вучыцца на афіцэраў.

— На афіцэраў? — здзівіўся бацька.

— На афіцэраў.

Гэта для нас з Санькам ясна, як дзень. Праўда, датуль, як не прыязджаў на канікулы Юрка, не было ясна.

— Што ж, добра,— згадзіўся бацька.— Толькі глядзі: вайсковая служба — не дружба. Думаеш, што начэпіш пагоны і ты — панбарон? Не, брат, давядзецца і мазаля панасіць, і потам умыцца, і начальству ўважыць. Адно скажу — будзеш чалавекам.

А потым не то жартам, не то сур'ёзна папрасіў:

— Выб'ешся ў чыны, у палкоўнікі ці ў генералы, дык не забывай ужо і нас грэшных з бабай.

— Не бойся, не забуду,— запэўніў я.

— А-а,— махнуў рукой бацька.— Усе так гавораць, а потым не паспее другі зямлю з-пад кіпцяў выкалупаць, а ўжо бацьку з маткай не пазнае. Сусед — і не падыходзь!

«Наша» вучылішча недалёка ў горадзе, дзе раней тыфозны шпіталь быў. І ідзём мы туды яшчэ не на зусім, а толькі здаваць экзамены. Можа, яшчэ назад прыбяжым. Бабка з новага жыта спякла мне праснак і загарнула ў чыстую анучку. Гэта на дарогу. Ды і там, мабыць, нас яшчэ прысмакамі частаваць не будуць. Санька напакаваў у процівагазную торбу яблыкаў. І вось мы выйшлі на вуліцу, а бабка ўслед, за веснічкамі, за рукаў спыніла.

— Не ўбачымся мы з табой болей, унук,— пачала яна шморгаць

носам у свой зашмальцаваны фартух.— Памру я сёлета, хоць на хаўтуры прыедзь...

— Што ты, баба,— здзівіўся я.— Убачымся. Я ж толькі на экзамены, а падвечар буду. Ды можа яшчэ і не здам.

— Здасі, здасі,— супакоіла мяне старая.— Ты ўсё здасі.

— І не памрэш ты яшчэ, — перапыніў я яе.

— А што мне тут болей рабіць? — спытала бабка.— Ты на свой хлеб ідзеш, Рыгору я ўжо таксама не трэба, бацька ажэніцца не сённязаўтра. А я... я ўсё сваё на гэтай зямлі зрабіла. Толькі вось спадніцы яшчэ на смерць не прыдбала...— І цяпер ужо не папрасіла, а строга загадала: — Глядзі ж, можа сёння ўжо і назад не пусцяць, дык, калі пачуеш пра мяне, каб прыехаў.

Падагнаў бацька падводу. Ён сёння снапы ў калгасе возіць, ды дома пугу забыў.

— Ну, садзіцеся,— запрасіў ён нас з Санькам,— падвязу за сяло. Няхай ужо Нінка лаецца — не лаецца.

А Глыжка без запрашэння сеў.

— Дык глядзі ж! — крыкнула бабка ўслед.

Хутка бяжыць Стрыгунок, сцёбае сябе па баках хвастом, адганяючы аваднёў. Мяккі, як попел, пыл з-пад калёс вецер сцеле на прыдарожную траву. Калёсы падкідвае на калдобінах, і бацькаў голас ад гэтага дрыжыць.

— Эх, ты яго! — падганяе ён Стрыгунка.— Занатурыўся, воўчае мяса. Вышкрабся з каросты, задраў хвост!

Мне помніцца, які быў Стрыгунок тры гады назад, такі ўжо зануджаны, што глядзець не было на што. А цяпер, як кажа бацька, вышкрабся. Не такі ўжо і паганы конь. Павазілі мы з ім, пааралі, хоць і не выйшаў з яго скакун.

Мы едзем той жа дарогай, па якой я калісьці вёз з бальніцы дзядзьку Андрэя. Вось каля гэтых вербаў мы тады са Стрыгунком сербанулі ліха. Вербы таксама падраслі, зрабіліся кучаравымі, густымі.

— Дык глядзіце ж там,— вучыць нас з Санькам бацька, як здаваць экзамены.— Гарачку не парыце. Падумай добранька, а тады ўжо і рот адкрывай. І галоўнае — смялей.

За сялом нам сустрэлася Каця Глёкава. Яна ішла з горада з кашолкай за плячыма. Сёлета Глёкі купілі сабе карову, дык, мабыць, насіла на базар малако. Убачыўшы нас, Каця чамусьці разгубілася, пачырванела, апусціла галаву і нават вачэй не падняла. Так і прастаяла, сышоўшы з дарогі, пакуль не мінула падвода.

— Дрэнных людзей сустрэнеце, дык не заводзьце з імі дружбы. Бачыце, што на паганае падбівае — у бок ад яго,— завёў бацька зноў гаворку.— Словам, не будзьце цюхамі-мацюхамі, а галавой думайце, як жыць, каб і сабе было добра і таварышу.

Я думаю галавой, толькі не пра тое, што бацька кажа. Я думаю пра Кацю. Так і не праводзіў яе дахаты. Усё збіраўся-збіраўся і не выйшла. Хоць тут развітацца трэба было, а можа і праўда назад не прыйду. Ды як ты развітаешся, калі бацька побач?

Крадком ад усіх я азірнуўся назад. Каця ўжо на ўзгорку. Засланіўшыся рукой ад сонца, яна глядзіць нам услед. Толькі я павярнуў галаву — нібы спалохалася, падкінула ямчэй на плячо кашолку і пабегла ў сяло ледзь не трушком. Доўга было відаць яе белую хустачку і зліналую сукенку, якую яшчэ ў школе падарылі.

Калі мяне прымуць вучыцца на афіцэра, дык адтуль я ёй напішу. А потым, як Юрка, на канікулы прыеду. Тады ўжо не пабаюся правесці.



— Ну, бывайце,— сказаў, нарэшце, бацька.— Не здасцё, дык не бядуйце. Вяртайцеся дахаты. На хлеб заробім.

Сваю парэпаную руку, як вялікі, працягнуў нам з Санькам і Глыжка. Цыбаты, загарэлы, ён зусім вырас са штаноў. Яму, як і бабцы, відаць, не верыцца, што мы можам прыйсці дамоў, таму ён павесіў нос і хоча заплакаць. Так і паехаў назад з бацькам, чамусьці пакрыўджаны і насуплены. Не журыся, брат, няхай толькі цябе хто пальцам кране — прыйду дамоў у форме, дык будзе ім нямала.

Там за ўзгоркам засталося наша сяло, але і з-за ўзгорка відаць вяршыні школьных таполяў і старых ліп на могілках, дзе ляжыць мая маці. Усё далей і далей пыліць падвода. Вось і не відаць ужо вьігаралай бацькавай кепкі — ён схаваўся ў жыце. Мы з Санькам разулі чаравікі, каб было лягчэй, звязаўшы шнуркамі, перакінулі іх на плечы і падаліся да элеватара. Прыйдзем у вучылішча, там і абуемся.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А неўзабаве нас праводзілі зноў. Толькі цяпер, як і ў салдаты, з песнямі.

**У наступным нумары чытайце**

**аповесць Яўгена РАДКЕВІЧА**

**«БУЯЛА ЛЕТА...»**



Яўгенія **ЯНІШЧЫЦ**





●

Разматаўся ручнікамі
Усіх дарог маіх клубок.
І цяпер я разам з вамі
У вясновы вечарок.
Вось і гукі уваскрэслі.
Не Бетховен і не Бах —
Зацвітаюць буйна песні
У сялянак на губах.
Ад таго і я, напэўна,
Летуценная, пішу,
Што глыбока вашы песні
Мне запалі у душу.

●●

Разлука ўпала на траву
Апошняй пазалотаю.
Пакуль жывеш — і я жыву
Святлом і адзінотаю.

У добры шлях! У добры час!
Трывога адкалосіцца.
Смяешся ты —
і я ў адказ,
Хоць смех на слёзы просіцца.

Журбу на лісце раскладу.
(Хай з ветрам разлятаецца!)
Пакуль ідзеш — і я іду,
І шлях мой не канчаецца.



І хай злятае на траву
Разлука пазалотаю.
Пакуль жывеш — і я жыву
Любоўю і пяшчотаю.

●●●

Упаў твой смех, як лісце
з клёну,
І гама гукаў пад абцасам.
І у вачах маіх зялёных
Адбітак восені заўчаснай.
І ад лясоў святочны водар,
І сонца першае на сёння.
Іду. Вясновая паводка,
І даль ружовая спрасоння.
Вось-вось уздрыгне лісце клёну,
Пасля трывог наступіць яснасць.
Нашто ў вачах маіх зялёных
Адбітак восені заўчаснай?

●●●●

Спалоханыя цені ловіць
дзень,
Апошні снег, як цяжкае
расстанне.
Я ў лес іду. І там з яго
грудзей
Зязюлі на паляны вылятаюць.
Настрою неразлітага настой.
Іду і не шукаю вінаватых.
Тваім забытым словам,
як гранатай,
Узрываю адзіноту і спакой.

## У чэрвені
## з вершамі выступяць
## Ніл ГІЛЕВІЧ,
## Сяргей ГРАХОЎСКІ,
## Павел МАРЦІНОВІЧ



**Вісарыён ГАРБУК**

Мал. У. ПАШЧАСЦЕВА



# ГОРАД БЕЗ ПАПУГАЙЧЫКАЎ

АПАВЯДАННЕ



Валодзя, худзенькі хлопчык з вялікімі задуменнымі вачыма на бледным твары, апрануты ў цёплы пушысты гарнітур, застаўся дома. Бацька з маці пайшлі на работу, а сястрычку адправілі да бабулі. Валодзя доўга хварэў, і ў школу яго пакуль што не пускалі.

Каб не адстаць у вучобе, Валодзя рыхтаваў урокі, чытаў, маляваў. Ён прыбіраў кватэру, сам на электрычнай плітцы падаграваў яду, але ўсё надакучыла. Захацелася да дзяцей на вуліцу, у Дом піянераў. Калі б з ім на гэтыя дні былі хто-небудзь з птушак або жывёлінак. Але вожык і чарапаха спяць у склепе, а кошка і рыбкі ў акварыуме надакучылі.

Хлопчык марыў аб незвычайным. У далёкай Бразіліі ў кожнай сям'і жыве анаконда. Прыгажэй, чым вуж, да дзесяці метраў даўжыні. Без яе кроку ні адно дзіцянё не ступіць. Яна — граза ўсіх ядавітых змей. Пяшчотная, нібы кацянё. Валодзя сядзеў бы з ёю на тахце і забаўляўся.

Вядома, пра анаконду можна толькі марыць. Надзеі ніякай. Але ў аўтобусе аднойчы ён бачыў дзядка, што трымаў на каленях клетку. У клетцы сядзелі два папугайчыкі — зялёны і блакітны. Дзядок падрабляў голас, свіркаў. Птушкі дружна адгукваліся. Было вельмі весела. Гаварыў, што папугайчыкаў вязе ўнучцы. Не можа быць, каб ні ў кога ў горадзе не было гэтых дзіўных птушак...

Хлопчык спрытней прымасціўся ля тэлефона,



паклаў перад сабой кнігу абанентаў і адшукаў спіс хатніх адрасоў.

Абакаліна Н. В.— 29-47, Абакрын В. С.— 74-91, Абалкін Ю. Ю. Можа, лепш пачаць з канца? Вось Яшчук І. І.— 22-00, Якарчэня Н. В. І тут нейкія незнаёмыя, строгія прозвішчы. Не, ні з пачатку, ні з канца, а лепш з сярэдзіны...

Доўгія гудкі з перапынкамі ідуць адзін за адным: ту-у-у- — цішыня, зноў — ту-у-у... ту-у-у... Ніхто не падыходзіць.

Валодзя ўявіў: недзе ў горадзе на другім або трэцім паверсе ёсць кватэра. Кухня, спальня і пакой, калідор і ванна. У пакоі — стол, шафа з кнігамі, тэлевізар, у спальні — канапныя ложкі, шыфаньер з люстэркам. І нідзе нікога. Толькі вада ў прыбіральні: пюнь, пюнь, пюнь.

Хлопчык смялей набраў наступны нумар. Кароткія гудкі: ту-ту-ту. Занята. Хтосьці размаўляе.

Пішуць, хутка тэлефоны заменяць відэатэлефонамі. Ля кожнага апарата — экран, і бачыш, з кім гаворыш. Тады нельга будзе свавольнічаць па тэлефоне: «Дайце трыццаць тры сігналы праверкі» або «У вас прышчэпкі ёсць? Павесьце адну сабе на язык».

21-21. Лёгка запомніць. І прозвішча не страшнае: Папчанка М. М. «Ту-у-у...», і зараз жа — «Я слухаю». Сярдзіты густы бас. Валодзя ўздрыгнуў. «Я слухаю»,— нецярпліва паўтарыў бас.

«Высачэзны, тоўсты, у шэрым, з гальштукам, лысіна, бровы чорныя... Сядзіць за сталом, нібы дырэктар у школе, піша»,— уявілася Валодзю. Але чаго маўчаць? Смялей!

— У вас папугайчыкі ёсць? — Валодзя не пазнаў свайго голасу.

— З падобнымі пытаннямі належыць звяртацца да кіруючай адміністрацыі адпаведных устаноў,— адказаў бас і палажыў трубку.

Расхацелася пытацца.

Воддаль за акном ружаватая сцяна шматпавярховага дома. Цёмныя прамавугольнікі акон. У адным чамусьці ўсе дні гарыць лямпачка. На шэрай зямлі брудныя плямы снегу. І нідзе нікога.

Пазваніць яшчэ...

Пасля першага гудка цікаўнае, нясмелае: «Хто там?»

Дзіцячы голас. Відаць, дзяўчынка. Адна ў пакоі. Бабуля пайшла ў магазін або сядзіць на кухні ля пліты і вяжа.

— У вас папугайчыкі ёсць?

— А хто пытае: хлопчык ці дзяўчынка?

— Хлопчык.

— Мне мама забараніла гаварыць з хлопчыкамі.

— Чаму?

— Бо ад іх набярэшся ўсялякай поскудзі.

Валодзя не ведаў, што адказаць. Дзяўчынка трубку не кідала.

І зноў цікаўнае:

— А навошта табе папугайчыкі?

— Гуляць з імі.

— Ты адзін?

— Але.

— Як цябе зваць?

— Валодзя.

— А мяне — Зіна. А што ты робіш?

— Хварэю.

— І я хварэю. Толькі мне вельмі сумна.

— І мне.

— У цябе таксама нікога — ні брата, ні сястры?

— Сястру адаслалі да бабулі.
— А я зусім адна.
Валодзя пачуў, як дзяўчынка ўздыхнула.
— Ой, нехта! Зараз зойдзе! — заспяшалася Зіна.— Дзе ты жывеш? Скажы нумар! Заўтра пазва...
Не дагаварыўшы, яна палажыла трубку.
Валодзя ўсміхнуўся. Размова па тэлефоне займала яго.
На наступны выклік доўга ніхто не адгукаўся, але хлопчык не клаў трубку — слухаў песню, якая ціха гучала на лініі:

Восемнадцать рыбаков
Накопали червяков,
Нацепили на крючки,
Сели рядом у реки.
— Хорошо бы, хорошо бы
Нам кита поймать большого.
Вот такой...

Рэзкае і кароткае «Алё-ё!» абарвала песню.
— У вас... скажыце, калі ласка... папугайчыкі ёсць?
— Што?
— У вас папугайчыкі ёсць?
— Не паспеў навучыцца трубку трымаць, а ўжо фуліганіш. Вось паклічу міліцыю, і твайго бацьку аштрафуюць, а тэлефон абрэжуць.
Голас хрыпаты. Нейкая зласлівая старая, відаць, падобная на тую, што жыве ў суседнім пад'ездзе. Курыць і крычыць на хлапчукоў. А з пераносся пудра сыплецца.
— Якіх табе, отрак, папугайчыкаў трэба? — здзівіў Валодзю пявучы голас невядомага Памяранцава А. А. Хтосьці, падобны да чарадзея з казак.
— Аўстралійскіх.
— А навошта?
— Навучыць размаўляць.
— Эге, бацечка! А тыгра або гіпапатама табе не хочацца? Кракадзіла ці кобру? Во гэта дзіва. А лепш за ўсіх, ведаеш каго?
— Не-а.
— Нашага верабейку. Ты толькі прыгледзься да яго. Якая своеасаблівасць, незалежнасць. Вось дзе характар! А што такое папугаі і папугайчыкі? Трашчаць, на ўсе галасы паўтараюць даўно поўторанае... Вось яно як, отрак...
Валодзя засмяяўся, хоць і не зусім зразумеў, што сказаў гэты Памяранцаў.
Пры наступных выкліках хлопчыку зноў не шанцавала. Або не адгукаліся, або адказвалі «Не, няма» і адразу клалі трубку. Валодзю абрыдла званіць.
— Ніяк не магла дазваніцца! — здзівілася маці, вярнуўшыся з працы.— Усё занята і занята. Ты з кім размаўляў?
— Я папугайчыкаў пытаў,— адказаў Валодзя.
— І на цябе не сварыліся? — строга сказала маці.— Глядзі, а то і праўда нам тэлефон абрэжуць.
Назаўтра Валодзя ўспомніў пра папугайчыкаў толькі тады, калі ўбачыў праз акно дзяўчынку з школьнай сумкай за плячыма. Пазваніць Зіне? А нумар забыўся. Здаецца, гэты. Вось узрадуецца.
Далікатны жаночы голас: «Я вас слухаю» выклікаў у хлопчыкавай памяці твар тоўстай цырульніцы з атэлье, якая падстрыгала і ўсё распытвала, кім працуе бацька, маці, дзе яны жывуць.
— Скажыце, калі ласка, у вас папугайчыкі ёсць?





— Як вы сказалі?
— У вас папугайчыкі ёсць?
— Даруйце — не разумею. Зараз падыдзе муж.
Валодзя ў здзіўленні пачуў прыглушанае:
— Ідзі ж сюды!.. Я не магу... Там пытаюцца пра нешта падазронае... Ды не, пад дзіцячы голас.
— Я слухаю,— насцярожанае, але непаспешлівае. Інтанацыя, нібы ў настаўніка па арыфметыцы.
— У вас папугайчыкі ёсць?
— А каму вы звоніце?
— Вам.
— Нам! Як прозвішча і па якім тэлефоне?
Валодзя назваў прозвішча і нумар тэлефона.
— А дзе вы ўзялі гэтыя даныя?
— З нашай кніжкі.
Пачуўся шэпт. Ну, якраз сцэнка з нядаўняга тэлефільма.
— Вось што, малады чалавек,— раззлаваны голас гучаў так рэзка, што аж затрымцела ў трубцы.— Такімі пытаннямі не шуткуюць! І вам не раю імі займацца.
— Перапужаліся,— уголас сказаў Валодзя. І ўспомніў вочка, што сядзіць у дзвярах суседняй кватэры. Перш, чым пусціць каго, гаспадар доўга глядзіць у вочка. І ў гэтых тое ж самае. А дзверы на тры замкі. І на паштовай скрынцы нумарны замочак.
— Дзяўчаткі, ціха! — пачулася ў трубцы пасля таго, як хлопчык набраў новы нумар.— Што-што? Папугайчыка? Можа, лепш папугайку? У нас ёсць. Марына, цябе запрашаюць! Хочуць пазнаёміцца.
Валодзя ціхенька націснуў на рычажок.
— Табе з зоамагазінам трэба было б сазваніцца. Але шкада, у нашым горадзе яго няма,— пачуў ён спакойны голас мужчыны, набраўшы яшчэ адзін нумар.— Што ж прыдумаць? Можа здарыцца і так, у каго ёсць папугайчыкі, няма тэлефона. Ты даўно шукаеш?
— Даўно.
—Але, брат, задача нялёгкая. Не рашыць адразу. Настойлівасць і час патрэбны. Мабыць, хварэеш, калі ўзяўся за такія пошукі?
— Я паправіўся, а ў школу не пускаюць.
— У майго пляменніка акурат такая непрыемнасць. Але ён без тэлефона—са знешнім светам ніякіх кантактаў... Ну, вось што. Ты дай свае каардынаты. На рабоце ў мяне заўтра выхадны, я ў сяго-таго разведаю і заўтра пазваню. У гэты ж час — у пятнаццаць нуль-нуль. Дамовіліся?.. Запісваю. Ого, брат, аказваецца, цёзка! Мой нумар не забудзеш? А пошукі працягвай.
— А кім вы, дзядзька Валодзя, працуеце?
— Ну, брат, не ўсё адразу. Спадзяюся, у наступную сустрэчу пагаворым. Ясна?
— Ясна! — адказаў хлопчык.
Ён паклаў трубку. Уявіў сабе дзядзьку Валодзю. Спачатку дзядзька Валодзя меў падабенства да марака Жоры, які мінулым летам вярнуўся са службы і за ім хадзілі ўсе хлапчукі. Шкада, паехаў вучыцца. Потым успомніўся дзядзька Мікола — машыніст электравоза. Потым... Хутчэй бы пазваніў. Калі б ён жыў у гэтым доме...
Шукаць папугайчыкаў расхацелася. Пазваніла маці, потым Соня, шэф з яго піянерскага звяна. Дзяўчынка расказала, што было ў школе, што задалі на заўтра. Валодзя запісаў. Радасць не пакідала яго ні на хвіліну.
— Соня, а мне папугайчыка абяцалі. Я па тэлефоне пазнаёміўся.



Каб ты ведала, які гэта чалавек! Мой цёзка. Вось убачыш, ён з ваенных. Нядаўна дэмабілізаваўся. Так і кажа: «Заўтра ў пятнаццаць нуль-нуль».
Хлопчык ледзь дачакаўся заўтрашняга дня. Яму здавалася, што на іх лініі раптам абарвецца сувязь ці сапсуецца тэлефон у дзядзькі Валодзі. Баючыся забыць, паўтараў нумар. Рупіла пазваніць самому. Ён набіраў першую лічбу, другую, трэцюю, а на апошняй спыняўся. Калі дамовіліся, нельга непакоіць.
У пятнаццаць нуль-нуль пачуўся званок.
— Я слухаю.
— Вітаю цябе, цёзка. Як здароўе?
— Добрае.
— Ты скажы, да цябе можна зайсці?
— А як жа! Я і маме, і тату пра вас казаў.
— Прыемна чуць. Хвілін праз дваццаць буду.
Дзядзька Валодзя аказаўся не падобны на таго, якім сабе ўяўляў хлопчык. Ён быў значна старэйшы, з кіёчкам і накульгваў.
— Праходзьце!.. Сядайце!.. А я думаў...
— Ты ўяўляў — я зусім малады,— рассмяяўся дзядзька Валодзя.
— Вы франтавік, як і мой дзядуля. З «кацюш» стралялі. Праўда? І Берлін штурмавалі.
— Так, брат, адгадаў,— усміхнуўся госць.— Артылерыстам быў. А да Берліна мала не дайшоў. Пад Варонежам параніла. А дзе твой дзядуля?
— У шпіталі. Яму кожны год трэба лячыцца.
— Знаёмая гісторыя. Ну вось, бліжэй да справы.
З кішэні пінжака дзядзька Валодзя выцягнуў невялічкую кардонную скрыначку, напакаваную ватай, і дастаў адтуль адну рэч.
— Што гэта?
Разгубіўшыся, хлопчык не ведаў, што сказаць. Ведаў, але не адважваўся. Раптам у гэтай звычайнай рэчы хаваецца нешта нечаканае.
— Ку... курынае яйка.
— Зусім справядліва!— узрадаваўся дзядзька Валодзя.
Ён асцярожна паклаў яйка на стол пасярод невялічкага колца, якое зрабіў з вяровачкі, што выцягнуў з кішэні. Потым устаў, адышоў ад стала да дзвярэй і прытуліў абедзве далоні да рота.
— Кр-ру, кр-ру! — пачуўся далёкі, нібы крык крумкача, гук.— Кр-ру, кр-ру!
Яйка зрушылася.
— Такога дзіва ніколі не бачыў? — спытаўся дзядзька Валодзя.
— Не-а,— адказаў хлопчык.
— І не ведаеш, чаму яно коціцца?
Валодзя моўчкі пакруціў галавой.
— Скора здагадаешся. А не здагадаешся — скажу... Ну, вось што, брат. Ты чакаеш, а я маўчу. А трэба адразу. Усю знаёмую дзятву апытаў. Яна ж ведае, дзе што. Папугайчыкаў няма. Але, я мяркую,— гаварыў дзядзька Валодзя,— і без іх абыдземся. Сваіх цудаў вакол нас — поўным-поўна... Вось што. Я пакіну яйка са скрыначкай. Давай паставім ля батарэі. Табурэтка ёсць? Цудоўна! Праз паўгадзінкі паслухаеш. А гадзіны праз дзве-тры ты будзеш сведкам... Не будзем забягаць наперад. Тады мне пазвоніш. Дамовіліся? А пакуль — бывай!
Не прайшло і дваццаці хвілін, як Валодзя, прытуліўшы вуха да скрыначкі, пачуў выразнае:
— Тук-тук. Тук-тук-тук. Тук-тук.
— Жывое! — узрадаваўся хлопчык.— Куранятка!

А калі з дзірачкі ў шкарлупіне паказалася дзюбачка, Валодзя кінуўся да тэлефона, хуценька набраў нумар і на момант збянтэжыўся, пачуўшы надта ўжо далікатны жаночы голас:

— Я вас слухаю.

«І зноў тыя самыя баязліўцы,— падумалася хлопчыку.— Як я да іх трапіў?!»

— А папугаі ў вас... Я ведаю, ведаю! — неяк само сабою вырвалася ў Валодзі.— І ў дзвярах — вочка. А дзверы зачыняюцца на тры замкі з ланцужком!

— Хто гэта? Хто гаворыць? Хто га...

Валодзя не стаў слухаць. Ён зразумеў, што, замест двойкі, набраў тройку. І Валодзя нанава круціў дыск.

— Дзядзька Валодзя! Яйка прадзёўбнулася! — крычаў хлопчык.— І я здагадаўся, чаму яно пакацілася...

**У бліжэйшых нумарах**
**апавяданні**
**Івана НАВУМЕНКІ,**
**Ніны МАЕЎСКАЙ,**
**Ніны ГАРАГЛЯД**



## Леанід ЯКУБОВІЧ

● —— ●● —— ●●● ——



●

Не ад нявер'я, не! — Ад веры
Стартуюць новыя шляхі.
Нявер'е зроду не паверне
У шум нязведаных стыхій.

Нам камень ісціны гарачы
Далоні колка апячэ.
Пагляд засвеціцца інача́й,
Пагляд засвеціцца ярчэй.

Гарэць кастры першапраходцаў
Агнём прыветных маякоў.
Ды шлях пазначан не бясконца
Ў глыбокай засені вякоў.

Нявер'е спыніць на спачынак,
Няверны вочы адвядзе.
З даверам вернаму Айчына
На плечы рукі пакладзе.

Адступяць змрочныя бар'еры
І — расхінецца край глухі...
Не ад нявер'я, не! — Ад веры
Стартуюць новыя шляхі.

●●

...І мне прысніцца твой далёкі горад,
Захутаны у коўдру тумано́ў.
Ды раніца, як востры нож да горла,
Як плата за адданасць і любоў.

І будзе роспач біцца у знямозе
Аб адзіноцтва злыя берагі,

І новы дзень пакіне на дарозе
Сляды майго адчаю і тугі.

Жыву надзеяй, што прыносяць сны
мне,
Якім да рання радаваць і грэць...
Так птушка, стрэлам спыненая,—
стыне,
А крылы ўсё трапечуць: узляцець!

●●●

*В. М.*

Каб сустрэцца,
Каб хоць на імгненне сустрэцца
Нашым вуснам і нашым сэрцам —
О, як многа нам трэба прамераць
Кіламетраў крокамі вернасці.

Каб сустрэцца,
Каб сустрэцца на цэлую вечнасць,
Сплесці рукі ў святы вянок,
Нам ісці трэба ўсё праз вернасць,
Ўсё праз вернасць, за крокам крок.

Каб сустрэцца...
З табою нам трэба сустрэцца
І рукамі, і вуснамі, й сэрцам.
Толькі, любая, трэба вернасць
Пранясці праз цэлую вечнасць,
Каб сустрэцца.





Янка БРЫЛЬ



# ПОШУКІ СЛОВА

З ЛІРЫЧНЫХ ЗАПІСАЎ



Я моцна спаў у цяпле, так моцна, як можа спаць здаровы сялянскі дзяцюк, які ўвесь дзень працаваў на марозе і толькі што заснуў. Старэйшаму брату, які раскатурхаў мяне, відаць, дасталося б, прынамсі нямала крыку было б, але ён пабудзіў мяне так асцярожна і, здаецца, нават радасна, што настрой яго перадаўся мне, і ўстаў я адразу і ціха.

Аказваецца, брат прывёў да нас зусім незвычайнага госця.

Наогул ён, мой Міхась, любіў і ўмеў сыходзіцца з цікавымі людзьмі, умеў іх знаходзіць. Трэба сказаць, што і памыляўся ён даволі часта, але ж ніколі не пакідаў, і ў сталасці па-юначы, захапляцца прыгожым у людзях, не мог яго не шукаць.

Госць, які апоўначы, нібыта нейкім цудам, апынуўся за нашым сталом, гэта быў першы для нас, улюбёных у кнігу, жывы, сапраўдны паэт. Не з кнігі, а з трэцяй вёскі, за нейкіх пяць кіламетраў. Ён ужо друкаваўся, мы чулі пра яго, сёння ён прыйшоў да сваякоў, у хаце якіх былі якраз вячоркі, там чытаў свае вершы, і там Міхась не прапусціў нагоды пазнаёміцца. Нават і начаваць забраў да нас — ад родзічаў.

Гэта мне стала ясна пазней. Адразу я быў проста ўражаны. І таму, калі наш незвычайны госць, павітаўшыся са мною, тонам загаду і крыху заікаючыся, прапанаваў мне пайсці памыцца, я адразу пайшоў, нездаволенасць затаіўшы глыбока ў душы. Што ж, мне толькі шаснаццаць, а госцю ажно дваццаць пяць. Што ж, ён ужо друкуецца, а я

толькі пішу, у мяне пакуль што адзін і чытач, і крытык, і выдавец, на тры гады старэйшы брат, які не толькі часамі перапісвае мае творы сваім прыгожым почыркам, але, пад ахвоту, нават і ілюструе іх акварэллю. Я думаў гэта, нехаця ідучы ў кухню-баковачку, нехаця мыючыся над цэбрам. Было ў маіх думках і іншае. Што ёсць — тое ўжо ёсць, а што яшчэ будзе калісьці — тое ведаю я адзін... Ну, і гэтак далей, у падобным сэнсе, што вядома, памятна кожнаму, хто рана ўзяўся за пяро. І наіўнасць і самалюбства, смешныя на сталае вока, але ж таксама і штосьці добрае, натуральнае, без чаго не было б ні пошукаў, ні веры ў самога сябе, ні... проста маладосці.

Таксама як памыцца («Вельмі мне трэба гэта апоўначы!»), мне было проста загадана чытаць свае вершы. На гэта я пайшоў ахвотней, маўклівае бурчанне нездаволенасці саступіла ў маёй душы месца хваляванню, не менш затоенаму, але да напалу ў шчоках адчувальнаму.

Вершы мае былі, вядома, недаацэнены. Так здалося б, відаць, і кожнаму на маім месцы. Госць больш хваліў жаданне пісаць, раіў мне тое ды сёе, і я прыняў гэта праз ветлівасць спакойна, нібы нават удзячна...

Навошта, суме мой, такі вялікі ўступ? Нам куды лепш было б сёння зноў сустрэцца ўтрох за сталом, успомніць тую вясковую поўнач і пасмяяцца — здалёк, праз восеньскую паэтычную смугу так многа пеpaжытага. Не ўспомнім. Бо не сустрэнемся. Іх абодвух ужо даўно няма. Асабліва даўно — таго нашага госця.

На ўрачысты вечар у пісьменніцкім клубе, прысвечаны дню перамогі над фашызмам, былі запрошаны студэнты тэатральнага інстытута. Яны чыталі са сцэны вершы паэтаў, якія загінулі на франтах і ў партызанскіх атрадах. Юнакі, не вельмі старэйшыя за таго мяне, што соладка пакутаваў над сшыткамі першых літаратурных пошукаў, і асабліва мілыя дзяўчаты, што хваляваліся, як мне здавалася, і больш і прыгажэй за хлопцаў.

Адна з іх чытала верш таго начнога госця — Алеся Мілюця.

У кнізе «Мы іх не забудзем», першым пасляваенным зборніку паэзіі нашых загінуўшых сяброў, да вершаў Алеся, якія ўпершыню тады з'явіліся ў савецкім друку, ёсць мая невялічкая прадмова. Яна напісана рукой таварыша, і сёння я не думаю, што быў у той час несправядлівы ў вызначэннях. Аднак, прызнаюся, што за апошнія гады я некалькі разоў міжволі вяртаўся думкай да тае прадмовы — зноў узважваў на правільнасць наступны абзац:

«Алесь Мілюць з'яўляецца адной са шматлікіх ахвяр панскага гнёту, адным з тых, у каго не хапіла сіл самому прабіцца скрозь гушчу рэакцыі да вяршынь майстэрства, хто не здолеў на працягу доўгіх год саматужнай працы вырвацца з межаў бясконцага пачынання».

Ці не залішне сурова, катэгарычна? Ці да канца аб'ектыўна?

Калі я слухаў вершы ў выкананні студэнтаў, асабліва верш майго сябра з голасу маладзенькай, усхваляванай дзяўчыны,— вобраз Алеся — дабрадушнага, шчырага беларускага хлопца, сціплага і вясёлага, захопленага ўсім прыгожым і чыстым — вобраз гэты ўстаў перада мною з небывалай выразнасцю. З ім прыйшоў да мяне водар белае грэчкі і вялых пракосаў, залацістая шчотка — сцяна аўсяных гузыроў над халадочкам старанна падмеценага току, ціхае і вільготнае вуркатанне жывое скібы за плугам, пах адлжнага снегу і свежых бярозавых трэсак,— усё, з чаго складаўся той свет, адкуль ішла і яго, Алесева, апантанасць, адкуль ішла паэзія, якая і жывіла і натхняла нас: Колас, Купала, Багдановіч, Танк. Апошні — сваім голасам, сваім рэальным, блізкім, заходніцкім існаваннем — хваляваў тады, бадай, найбольш, неяк па-асабліваму.

Я не ведаю, як ён, Алесь, памёр — адразу, падбіты куляй або разарваны снарадам, або не адразу — ад ран. Пад гукі ягонага верша мне ўявілася, да слёз зразумела і востра, як ён бяжыць па асенняй нямецкай раллі, недзе ў сцюдзёнай замглёнасці Усходняй Прусіі, як ён — і тут, як заўсёды, з людзьмі — крычыць задыхана баявое «ўра!» Мой сардэчны, заўсёды не надта здаровы, хутчэй не салдат, а ціхі, любімы вясковы настаўнік. Як ён падае — я не бачу: гэты бег па раллі і гэты задыханы крык — апошняе, што мне ўяўляецца з яго апошніх момантаў.

Нядаўна яму споўнілася б шэсцьдзесят гадоў. Дваццаць чатыры з шасцідзесяці забралі ў яго фашысты — заўчасная смерць. Што ён мог бы зрабіць за гэтыя дваццаць чатыры, каб жыў? Кім ён быў бы: ці ўзяў бы сваё, як літаратар, ці, можа, стаў бы, як мне ўявілася, добрым, любімым дзецьмі настаўнікам, выкладчыкам літаратуры? А можа застаўся б, як быў да вайны, пасля Верасня, сціплым сельпоўскім рахункаводам? Адно я ведаю цвёрда — у нашым свеце было б яшчэ на аднаго харошага чалавека больш. Як ён любіў бы родную справу, роднае паэтычнае слова!..

На тым святочным майскім вечары некалькі слоў пра Алеся мне перашкодзіў сказаць, да канца па-мужчынску, пушкінскі верш. Нават не ўвесь той верш, а паасобныя, вельмі адпаведныя майму настрою радкі, што самі, міжволі, як гукі амаль нячутнага рэквіема, усплылі ў балюча абвостранай памяці:

> Грустен и весел вхожу, ваятель, в твою мастерскую...
> Грустен гуляю: со мной доброго Дельвига нет...
> Как бы он обнял тебя! Как бы гордился тобой!

Алесь, вядома, не Дэльвіг, а я, тым больш вядома, не Пушкін. Справа толькі ў адным. Калі б і ён, адзін з найбліжэйшых сяброў мае маладосці, не загінуў за тых, што жывуць, сёння мне вельмі добра было б разам з ім радавацца прыходу новага ў нашу літаратуру. Ён умеў так радавацца. Я ведаю гэта. Я памятаю тую зімовую поўнач. Праз ціхае, няшчодрае, а вельмі ж свойскае, утульнае святло зноў запаленай у нашай хаце лямпы, праз маладую свежасць халоднай вады, якую вочы мае прынялі хоць і не вельмі адразу, але ж ахвотна, праз далячынь трох з палавінай дзесяцігоддзяў я не проста прыгадваю, а выразна бачу яго разумную, заўсёды прыязную для людзей усмешку, чую ягоныя словы, якія толькі тады, толькі адзін раз у жыцці здаліся мне суровымі. Дый то ненадоўга.

Ты мяне, суме мой, так ужо, мусіць, і не пакінеш?..

●

У Іпацьеўскім манастыры, ператвораным у музей, найбольшае ўражанне зрабіла на мяне калекцыя матылёў. Асабліва блакітныя, вялікія — як дзве разгорнутыя далоні. Як жа прыгожа яны выглядалі дома, у тропіках, над травой!

Нешта чароўнае, не зусім усвядомленае — пра красу жыцця, красу казачнага палёту фантазіі, што не вельмі ўжо так і высока паднімаецца над рэчаіснасцю.

Радасна гэта адкрываць.

●

Аўтар «дакументальнай аповесці» піша ў прадмоўцы да яе часопіснай публікацыі:

«У гэтым творы няма нічога прыдуманага».

Як апраўданне.

Бедная «Вайна і мір»!..

●

Раманісту лягчэй, здаецца, схаваць сваё «я», чым апавядальніку. У другім выпадку на «я», на асобе аўтара, на яго духоўнай сутнасці трымаецца твор.

Гэта — калі параўноўваць чыстую «белетрыстыку» і «лірычную прозу».

●

«Унять старую ведьму!» — сказал Пугачев. Тут молодой казак ударил ее саблей по голове, и она, обливаясь кровью, упала на ступеньки крыльца».

У чым таямніцы, у чым законы майстэрства? Чаму казак **малады?**

Адно бясспрэчна: калі б яе, старую жанчыну, ударыў не малады — было б значна слабей. Можа, і не запомнілася б так — з маленства. Бо і цытую па памяці.

●

Дваццаць гадоў таму назад я рэдагаваў беларускае выданне ўспамінаў Кожадуба. Усё, здаецца, забыўся, толькі адно памятаю — як ён, вяртаючыся з баявога палёту, у імгле ледзь не ўрэзаўся ў ферму чыгуначнага моста, як ірвануў крута ўгару і крыкнуў — афіцэр, герой — міжволі падзіцячы і на роднай украінскай:

«Ма-мо!..»

●

Часта, прыбіраючы ў сваім пакоі пасля падлетка-сына, успамінаю Коласа:

Шпурнуўшы лапці і анучы
Сярод двара ў пясок сыпучы.
**Іх маці зараз падабрала,**
**Нічога сыну не сказала,**
Пайшла ў крыніцу і памыла,
На прызбе сохнуць палажыла...

Апошнія два радкі — па школьнай памяці, у зборы твораў яны гучаць інакш.

А ўсё цытую з-за падкрэсленых радкоў: як гэта проста і — на праверку жыццём — як дакладна!

●

Чуў калісьці: «**Гадованае** дзіця памерла». І тут пра беднасць, пра цяжкую беспрасветную працу. Страшная ёмкасць народнага слова.

●

У непісьменнікаў, калі ім часам даводзіцца напісаць што-небудзь, трапляюцца цудоўныя, вялікай мастацкай сілы дэталі, падказаныя жыццём.

Чатырнаццацігадовая дзяўчынка нясе на могілкі маленькага брата. Грамадзянская вайна, бацьку застрэлілі белыя, маці недзе ў камандзіроўцы.

«Я загарнула яго ў прасцінку і панесла на могілкі. **Дзень быў спякотны, але мяне ўсю калацілі дрыжыкі ад холаду гэтага маленькага мёртвага цельца».**

Так успамінае, праз сорак гадоў, колішняя дзяўчынка, выступаючы ў газеце. А тое, што ёй **проста помніцца,** падкрэсліў я.



●

З аднаго выступлення:

«Вялікую цікавасць уяўлялі творы беларускіх кампазітараў у кантатным жанры: «Над ракой Арэсай» і «Сказ пра мядзведзіху». Апошняя рэч **не страціла мастацкай вартасці** і да нашых дзён».

Ці мела мастацкую вартасць рэч першая — не гаворыцца. Лаві гэта паміж радкоў. І не думай, калі ласка, што сапраўдныя мастацкія вартасці застаюцца — дый маюцца — толькі тады, калі яны **ёсць**...

●

У нашу вёску, яшчэ калі я быў малы, Тургенеў прыйшоў зусім выпадкова. У старой, добра такі патрапанай рускай хрэстаматыі, што нейкім цудам трапіла ў адну з суседскіх хат, я прачытаў яго «Щи» і, здаецца, трохі пазней — «Певцов».

З тых дзён я памятаю... з тых дзён мяне хвалюе вобраз старое маці, забітай горам і галечай. Я вырастаў у цяжкай сялянскай працы, сярод бяспраўных і прыгнечаных, якія ведалі цану пасоленай капусце, бачыў шмат старых маці, выпетраных працай і нягодамі. Адну з іх любіў і люблю, ужо даўно толькі па памяці. І тая, з высахлай рукой, з суровым воблікам — тургенеўская маці вось ужо больш за сорак гадоў стаіць перада мною як вобраз да сцішнаты прыгожы, абагульнена народны.

З дзён маленства я памятаю і спеў Яшкі-Турка. Дзіўна — я і дагэтуль амаль не ведаю песню, якую ён спяваў, але ў душы маёй яна пяе — руская «удаль», шырыня, туга і шчымлівая радасць надзеі, ужо не толькі руская... Помню, бачу даўно адлюстраваную ў хлапечым сэрцы белую чайку на марскім беразе, у промнях вячэрняй зары. Боль і мара. І гэта было мне вельмі знаёма. Было і застаецца.

Нядаўна я — першы і хутчэй за ўсё адзіны ў жыцці раз — хадзіў па дарожках старога залаталістага парку ў Спаскім-Лутавінаве. Стараўся пазбягаць людзей, быць толькі з **ім**, у тым ціхім, таямнічым свеце, які жывіў калісьці яго геній. Не ведаю, ці вінавата сіла першых дзіцячых уражанняў, ці вінавата маё працоўнае ды чарнахлебнае паходжанне, аднак мне і там, пад спрадвечнымі дрэвамі Спаскага, раней за ўсё і больш за ўсё ўспаміналіся «Запіскі паляўнічага» — ярка-разнастайнае, шматпакутнае і горача любімае насельніцтва, зямля і неба, дні і ночы гэтай несмяротнай кнігі. І вобраз маці — нястомнай, забітай горам, але ўсё ж такі... Так, так — капуста ўсё ж такі пасолена!..

Каб убачыць гэта на ўсю глыбіню і паказаць на стагоддзі, патрэбны былі дзве рэчы — вялікае чалавечае сэрца і вялікая агульналюдская культура. Яны шчасліва спалучыліся ў яшчэ адным сыне Расіі. Не толькі для яе — для ўсіх, ва ўсім свеце, куды ўжо прыйшло і куды яшчэ прыйдзе непаўторна па-руску цудоўнае слова Івана Тургенева.

●

У Спаскім-Лутавінаве.

Блукаў па дарожках спрадвечнага парку, выходзіў у поле. Пад пошум залатое лістоты ўгары, пад шамаценне яе пад нагамі, гледзячы ў таямнічы гушчар, а пасля на прасторы парэзаных ярамі ды падвяселеных пералескамі палёў, думалася — як быццам сумна, нават трохі абыякава:

Што ж, зямля — як зямля. Апяць яе толькі трэба як след. Урабіць словам.

Ён гэта і зрабіў.
Таму вось мы і ходзім, і любуемся.

●

З выступлення француза на тургенеўскім вечары:
«Слава яго **нікому не замінала**».
Там жа, у Вялікім тэатры, занатаваў гэта з прыпіскай: «Так трэба жыць».
Не пра славу, вядома,— пра сціпласць.

●

Учора, пасля нялёгкага, прыкрага дня службовай тузаніны, позна ўвечары мне вельмі захацелася слова Паустоўскага... «Залатой ружы» не знайшоў, узяў на начное чытанне «Блізкія і далёкія».
«Найцяжэйшае ў смерці для тых, хто застаўся жыць далей, заключаецца ў тым, што яны не паспелі сказаць таму, хто памёр, тое галоўнае, што адчувалі і думалі пра яго. Тыя, хто любіць, як заўсёды, спазніліся. Незразумелая сарамлівасць сціскала ім губы. І цяпер ён, вядома, ніколі не даведаецца, якой бескарыслівай была іх любоў».
Так гаварыў ён пра смерць, пра пачуцці іншых...
Два тыдні таму назад мы з дачкою дабраліся з нашай лясной, надрэчнай глухамані ў раённы цэнтр. І толькі там, у рэстаране, чакаючы абеду, я — страшнае «між іншым»! — заўважыў у старой, пазаўчарашняй «Правде» некралог. Захацелася крыкнуць ад болю. Аднак толькі сказаў пра гэты боль дачцэ. Бо і яна ўжо любіць яго па-даросламу. Хацелася напісаць яго блізкім. Не напісаў. Бо я нікога з іх не ведаю.
На прыёме ў Крамлі, вясной пяцьдзесят дзевятага, нашы сталы стаялі побач. Але я не асмеліўся падысці пазнаёміцца, хоць год перад гэтым меў ад яго пісьмо. У адказ на маё. Неяк нават не верылася аднаму з таварышаў, што Канстанцін Георгіевіч аднойчы ўспамінаў мяне ў Ялце... Я віншаваў яго тэлеграмаю з сямідзесяцігоддзем, потым паслаў кнігу. І горка было, што ён не адказаў і не прыслаў свае. Трохі пазней я даведаўся, што ён цяжка хворы, зразумеў, вядома, што яму не да таго, але... горка было ўсё роўна.
Бо я люблю яго. Адзін? Як многія. Як кожны з многіх — па-свойму.
У безлічы такіх любовей — яго сапраўдная слава, яго вялікае значэнне для жыцця многіх з нас, для святла і цяпла ў многіх душах.

●

Уранні, устаўшы з-за пісьмовага стала, чамусьці раптам успомніў, што «Матушка, голубушка, солнышко мое» — любімая песня Пушкіна. Ад гэтага яна — яшчэ бліжэйшая і прыгажэйшая. Да народнага цуду падключаецца ўвесь цудоўны пушкінскі свет — любоў загараецца ад любові, святло зліваецца са святлом.

●

Ёсць дылетанцтва ведання, няма дылетанцтва любві да чужое літаратуры. Хоць першае і абумоўлівае другое.



●

Абмеркаванне першай кнігі маладога аўтара. Хваляць за змест, за форму — за ўсё. Хваляць густа і соладка. І толькі два чалавекі сярод шматлікіх удзельнікаў гэтай гаворкі ведаюць штосьці адно патаемнае... Сам аўтар і яго рэдактар.
Яны ведаюць рукапіс кнігі — які ён быў пакрэмзаны пасля таго, як па ім пахадзіла рэдактарскае пяро. Колькі там было выкраслена — са згоды аўтара, колькі дапісана ім самім — з удзячнасцю да рэдактара, колькі папраўлена зноў — пасля яшчэ адной, здавалася, самай апошняй рэдакцыі... Яны амаль па-сапраўднаму пасябравалі за тыя нялёгкія дні — малады і старэйшы таварышы. І вось заслужана спажываюць радасць удачы.
Ад першых келіхаў славы аўтар п'янее, і гэта пакуль што прыкметна толькі па чырвані яго шчок. Рэдактар, ён жа, дарэчы, і сам літаратар, радуецца па ўзросту ды па вопыту цвяроза, і амаль ніхто з прысутных не ведае пра яго дачыненне да хмельнай радасці імянінніка.
Потым адна з удзельніц абмеркавання, асоба юная і паэтычная, падносіць імянінніку келіх найбольшы.
— Як гаварыў вялікі Шуман,— цытуе яна звонка і расчулена,— здыміце капелюшы: паміж намі з'явіўся геній! Так, дарагія таварышы. І калі б яшчэ рэдактар гэтай цудоўнай кнігі папрацаваў над ёю хоць трохі...
Ну, што рэдактар, чуючы гэта, маўчыць — яно зразумела. Ён толькі галавою крутануў, злёгку прыгнуўшыся. Што аўтар з месца, адразу не крыкнуў: «Няпраўда!» — гэта таксама зразумела. Цягнучы з келіха — ды вялізнага, ды нагбом — не вельмі што і крыкнеш. Аднак і потым ён,— разгублены, без'языкі ад шчасця,— выступаючы ў заключэнне са словам падзякі ўсім удзельнікам абмеркавання, забыўся сказаць свае слова толькі аднаму...
Хлопцу яшчэ давядзецца ісці да чытача з другою кнігай. А майстры гэтай справы кажуць, што другая кніга якраз найцяжэйшая, што іменна па другой найлепш пазнаецца трываласць і самастойнасць таленту.
«Нічога не зробіш. Памагай яму наш бог. І мы таксама будзем, калі спатрэбіцца».
Так думае рэдактар.
Магчыма, не зусім, а толькі прыблізна так. А вось што горка яму — гэта напэўна.

●

Без'языкасць многіх нібы-інтэлігентаў, прыкрую засмечанасць іх гутаркі «высокакультурнымі» словамі, нахапанымі на прыблізнай вучобе, з лекцый і дакладаў, з радыё і газет, проста, здаецца, з паветра, як нейкі мор,— запомніць, вывучыць цяжэй, чым любую замежную мову.
Такое ўражанне — калі слухаеш. А потым успамінаеш і, без вясёлага натхнення, ніяк не можаш паўтарыць.

●

Прыхварэўшы, добра супакоіцца ад будзённай мітусні, апусціцца да свайго надзейнага грунту, засяродзіцца на галоўным, падумаць, пачытаць, папрацаваць.
Нават прыходзіць, вяртаецца дзіцячая цікаўнасць, вастрыня ўспрымання,— пачынаеш заўважаць тое, чаго раней або даўно не заўважаў.
Задрамаў пасля банек і прачнуўся ўжо цёмначы. Пасля змястоўнага,

светлага дня. Ляжаў у сталовай на канапе, глядзеў у змроку на белыя дзверы свайго кабінета, адчыненыя ў сталовую,— дзіўна, нібыта інакш, чым заўсёды, асветленыя адтуль, дзе мой хлапчук чытае або піша за маім сталом пры маёй настольнай лямпе.

І вось іменна яны, асветленыя белыя дзверы, і напомнілі мне дзіцячую здольнасць ціха, паэтычна засяроджвацца на самым нязначным, самым звычайным.

●

Калісьці **недзе** далёка, **нейкія** страшныя людзі рабілі вялікія злачынствы,— я чытаў пра іх, чуў і не думаў, што гэта таксама былі **звычайныя** людзі.

Ды вось прыйшла вайна і мае знаёмыя — **тут, цяпер** і **назаўсёды** сталі нечакана са **звычайных страшнымі.**

І гэта — найстрашней.

Думаў так, адарваўшыся ад добрых вершаў М. Грубіяна,* думаў — уявіўшы, як знаёмыя мне яўрэі з нашага Турца глядзелі на звычайных, даўно і, здавалася, вельмі добра вядомых мястэчкоўцаў, суседзяў, што сталі паліцаямі і забівалі іх — па нейчаму плану, вельмі далёкаму ад іхніх сапраўдных чалавечых інтарэсаў...

Гэта страшна. Пра гэта трэба пісаць.

●

У цяжкія хвіліны ён думаў, што нядрэнна было б — ой, нядрэнна! — мець недзе далёка бацьку, брата ці друга, каб да кагосьці з іх паехаць і паскардзіцца. Тады, калі яны ў яго былі. Амаль што побач.

А што ўжо гаварыць цяпер, калі іх — і найдалей — няма?..

●

За паўстагоддзя з гакам многа і пражыта, і перажыта, і сёе-тое зроблена. Але яшчэ больш — змарнавана часу...

Што ж, чалавек — не механізм з гарантаванай дакладнасцю. І калі ён не заўсёды мог трымаць сябе ў руках — ёсць, відаць, у гэтым нейкая заканамернасць. Трэба ж яму і **проста жыць,** не толькі тварыць ды змагацца.

А ўсё ж пра гэтую процьму змарнаванага часу я думаю не ўпершыню. Шкада.

●

Едучы ў родную вёску.

Не зазнавайся — ты прыйшоў на ўсё гатовае. І восень — гэтую, што абапал дарогі, у сонцы — назвалі залатой таксама без цябе.

●

Мой найбліжэйшы друг памёр. А я, яго другая частка, амаль адно з ім, здзіўлена бачу, што навокал усё — як было, так і ёсць. Як пасля ўсіх тых, што паміралі на нашай з маім другам памяці. Нібыта ён — гэта я; я і памёр, я і гляджу, правяраю, што ж тут змянілася, **калі нас няма...**

Дзіўнае, горкае і шчаслівае адчуванне.

●

Жыццё чалавечае — як агонь. Быў і няма. Зноў загарэлася і патухла. Зноў гарыць. І так — бясконца. Тая самая вечная, таямнічая і цудоўная з'ява.

Так думаў я ўчора, у Гомелі, неяк па-новаму не толькі зразумеўшы, але і адчуўшы гэта.

Апоўначы, калі мы з Дзімам вярталіся ад яго старэнькай мамы і спыніліся каля помніка героям вайны, каб паглядзець на вечны агонь, адчуванне тое вярнулася. Здалося нават, што калі б пасядзеў там адзін, хоць да дня,— адчуў бы па-сапраўднаму яго паэзію — паэзію вечнай работы гарэння.

...Скромніца, работніца, так хораша спявала за святочным сталом «Ой вы, гусі», а потым — знікла трагічна, сама пажадаўшы гэтага, знікла — як патушаны агонь.

А я — праз дзевяць год, богведама дзе, на Палессі, вяртаючыся ў горад з далёкай пасекі ў рэдкіх бярозках і клёнах — я ўспамінаю яе, як жывую, за тым сямейным сталом, з тою вясёлаю песняй...

Што, мала было на свеце агню? Мала ёсць яго? Мала будзе?

Тут, з чалавекам,— не проста агонь. Больш чагосьці. Больш непаўторнага.

●

Мае найранейшыя творы не засталіся, не выжылі. Але ж дагэтуль засталася ў памяці радасць працы над імі.

Часамі нават нібы ўспамінаецца, што вось было ў мяне... здаецца, вельмі маленькае, ды вельмі ж ёмкае, светлае апавяданне, якое дало мне вялікую радасць стварэння, дало надзею, упэўненасць, што буду пісаць. Дало, а само кудысьці прапала... Дый невядома, ці наогул было. Хоць радасць тая і ўспамінаецца як сапраўдная.

Былі ў тым апавяданні нейкія вельмі скупыя і яркія, вельмі трапныя і каштоўныя словы, куды дакладнейшыя і значнейшыя за тыя, якія ёсць у маіх ранніх надрукаваных творах. Былі? А можа не было? Можа і не... Я памятаю іх як у шчаслівым, але невыразным сне, дзе тыя словы — больш музыка, чым жывапіс. І гэтая музыка — мая першая радасць авалодвання словам — не толькі была тады, але, як вясёлае, чыстае рэха, паўтараецца часта і сёння.

Толькі ж ці часта?

Каб жа часцей!..

●

Чаму вы лічыце, што непрыяцель, пішучы пра мяне, будзе больш аб'ектыўны, чым друг?

* Яўрэйскі паэт.



Васіль ВІТКА



Фота 1942 г.

● Запавет ●● Першамайская песня ●●● Песні паланянак ●●●● Звязда ●●●●● Госць у падпечку. Казка



●

Учора адну папяросу курылі,
Елі ўдвух з аднаго кацялка,
А сёння павекі табе закрыла
Навекі мая рука.

Сэрца гарыць і нямее слова,
Стыне ў вачах сляза,
Нізка схіляюцца ў смутку галовы.
Што табе, дружа, сказаць?

Я зорку здымаю з прабітай пілоткі.
Свіціцца крывінкай яна.
За Нёмнам-ракою твайму аднагодку
Я ў запавет перадам яе: — На.

Не безыменным паў ён так рана,
Цябе вызваляючы, брат,
А сам ад кургана і да кургана
Пайшоў у бяссмерце салдат.

1939 г.

●●

Дзе б ні быў ты, мсцівец мужны,
У святочны гэты дзень,
Ведай, мой сардэчны дружа,—
Мы ідзем!

Па лясах, лугах, загонах
Кліч імчыцца з краю ў край:



*У біяграфіі Васіля Віткі ёсць такія радкі: „З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны працуе ў рэдакцыі газеты „Савецкая Беларусь“, супрацоўнічае ў газетах „За свабодную Беларусь“, „За Савецкую Беларусь“, сатырычных часопісах „Партызанская дубінка“, „Раздавім фашысцкую гадзіну“...*

*Як кажуць, каму дзе давялося біць ворага. Але білі ўсенароднай талакой, білі няшчадна, білі насмерць. І штыком, і пяром.*

*Перагортваючы пажоўклыя ад часу камплекты франтавых беларускіх выданняў, сустракаеш вершы Цімоха Крысько — маладога тады паэта Васіля Віткі.*

*„Радкі далёкіх дарог“ прапануе „Маладосць“ сваім чытачам.*

Беларусь, байцоў чырвоных
Сустракай!

На маёўку сваю выйдзі
З усіх вёсак, з усіх хат,
Каб затросся ў страху злыдзень,
Подлы кат.

З Арміяй Чырвонай разам
Пошасць чорную знішчай! —
Вось з якім прыйшоў наказам
Першамай!

Ён прыйшоў з жаданай весткай
З роднае Масквы, з Крамля —
Будзе вольнаю, савецкай
Зноў зямля.

Ужо Дняпро, Дзвіна і Віцьба
Волі ўбачылі зару,
Пераможны дзень твой прыйдзе,
Беларусь.

Дык выходзь жа на расплату,
На вялікі, гнеўны бой
З ненавіснаю, праклятай
Немчурой!

З Арміяй Чырвонай разам
Пошасць чорную знішчай! —
Вось з якім прыйшоў наказам
Першамай!

1942 г.

●●●

I

Ці ж на тое мяне гадавалі,
Сірацінку-націнку,
Каб чужынцы забралі, прадалі
На нявольніцкім рынку?

Ці ж на тое мне сонца свяціла
У маёй Беларусі,

Белы свет каб зрабіўся нямілы
У няволі, у скрусе?

Колькі вёрст да бацькоўскага краю —
Столькі гора між намі.
Толькі вочы звяду я — гукае
Мяне маці начамі.

Цяжка з нелюддзю жыці мне, быці
З ненавіснай чужынай.
Прыляціце, саколы, вярніце
Вы мяне на радзіму.

Няхай хлеб з лебядою,
Няхай гора з бядою,
Толькі б з роднай сям'ёю,
Толькі б, маці, з табою,
Толькі б чуць тваю мову,
Тваё матчына слова...

II

Напаткалі — забралі, схапілі,
Не сказалі — звязалі, скруцілі,
Не спыталі — завезлі, прадалі,
На няславу салдатам аддалі.

Хай бы рукі мне накрыж зламжылі,
Чым такое я ганьбы дажыла.
П'яны немец мне ў вочы рагоча
Над маёю красою дзявочай.

Абвіваюць, сціскаюць шыю
Ненавісныя рукі чужыя,
А мне думка ўсё страшная рупіць —
То пятля, то пятля, а не рукі,
То бізун, што над роднымі свішча,
Над радзімай, над папялішчам.

Цешся ж, злыдзень, з дзявочае сілы,
Дай і я абдыму цябе, мілы,
І павісну, павісну на шыі,
Сціснуў — воўкам завыеш, завыеш.

Не віном, а тваёю крывёю уп'юся,
Так уп'юся, ажно павалюся.
І не ўстану, не падымуся,
Хай жа словам хоць добрым спамянуць
Мяне ў Беларусі.

1942 г.



Палоннаму савецкаму салдату
Звязду над сэрцам выразалі каты.
Ці снілася калі яму самому,
Што з ордэнам такім ён вернецца дадому?

Прыпаў ён да зямлі сасмаглымі губамі,
Нянавісць напаіў густымі палынамі —
І запалала на грудзях салдата
Звязда, што вочы пасляпіла катам.

Устаў баец, ідзе ступою цвёрдай,
Праз гімнасцёрку зззяе ясны ордэн



Не промнямі вясновай ціхай зоркі,
А кроплямі крыві палыннай, горкай.

Ідзе салдат — і не баіцца смерці,
Ні танкаў, ні гармат, ні аўтаматаў,—
Пакутная звязда гарыць над сэрцам,
Над шляхам да няшчаднае расплаты.

1943 г.



Жыў-быў на свеце певень-галагут,
Галагут-Галагуцкі,
У бабкі Хаўронні,
У вёсцы Кут,
Ні то за Грэскам,
Ні то за Слуцкам.
Так і жылі ўдваіх душой:
Бабцы — скарынка, а пеўніку — крошкі.
Так і вялося ў хацінцы той
На курыных ножках.
Ды ў ноч навагоднюю — шась к бабцы госць.
Рада не рада — просіць садзіцца.
— Як жа завуць цябе, ягамосць?
— Фрыцам.
— Не чула такога. А божа ж мой,—
Дзівіцца бабка,— такія напасці.
Хто заблудзіў да мяне старой:
Насланне?
Няшчасце? —
А госць на покуць, пад абразы
Сеў і шапку ўсё цягне на вушы.
Зірнула Хаўроння — аж два гузы
Госцеву шапку так і варушаць.
«Рогі! — мільганулася ў галаве.—
Бач, як стуліўся, нячысцік абдзёрты,
Думае, мусіць, што я за свой век
Ніколі не бачыла чорта».
А нячысцік скрывіў ухмылкаю рот.
І шнырыць, і шнырыць вачыма па хаце:
— Я вітай вас новы шчаслівы год,
А ві мне гарэльк і саля дайце.—
Пакланілася бабка:
— Паночку, Чорт,
Чым багаты, тым рады,
Садзіся, любы.
Чым фашысту паганаму ў тоўсты жывот,
Лепей лысаму чорту ў зубы.
— Што сказаль? — усхапіўся няпрошаны госць,—
Не пазналь, баба, Швэндаля Фрыца?
— Ды хіба ж я пра вас, пра чарцей, ягамосць,—
Я пра гэтых... каб ім падавіцца.
Абабралі, аб'елі, самі бачыце от...
Я забыла, паночку, як пахне сала.
Хіба ж так сустракалі б мы Новы год,
Каб праклятых халера забрала?
На стале тут было б парасят і курэй
І грыбоў, што улетку сама насушыла...
Што казаць, каб прымела — рукой бы сваей
Таго гіцаля Гітлера я задушыла.
— Фюрар хайль! — аж зароў пабялелы Фрыц,
І канцы б тут насталі Хаўронніну веку.

Ды не вытрымаў певень і як закрычыць:
— Ку-ку-рэ-ку!
— На пагібель маю абвясціў Новы год,
От дурны, от дурны галагут.—
Толькі чуе бабулька — шэпча чорт:
— О, майн гот!
Вас іст дас?
А, пятух!
Гут!
І як кінецца-рынецца снопам наўпрост,
І прапаў.
Стала бабка, ў здзіўленні пытае:
— Чорт, а чорт, а дзе ж твой хвост
І ногі з капытамі?
Ды цяпер і не ўбачыш — пайдзі, дагані.
Сеў на вожаг і недзе вандруе у хмарах...
Раптам голас знаёмы:
— Гэй, хутчэй адчыні,
Ты пра што там так соладка марыш? —
Адчыняе Хаўроння настылыя дзверы,
І вачам сваім бабка не верыць.
На парозе не чорт, а з жардзінаю дзед,
Дзед Мароз — даўні бабін сусед.
— Дзякуй, баба, табе, твайму пеўню,
А то я заблудзіў бы, напэўна.
Хоць памры, не шанцуе мне сёння.
Дай ты рады якое, Хаўроння.
Так жа добра, здаецца, я трэснуў дубінай
Два разы па ілбе таму сучаму сыну...
— Чорту?
— Што ты, бабка, не чорту, а фрыцу,
Каб яму скрозь зямлю праваліцца.
— А ён быў у мяне кагадзе.
— Фрыц?
— Ён то Хрыцам назваўся...
— А дзе ж ён, дзе? —
Так няскора да сэнсу дайшлі б удваіх
Дзед і баба, ды певень зноў выручыў іх.
Як узніме ён крык —
Усхапіўся стары:
— Дай хутчэй, баба, свечку,
Гэта ж госць у падпечку.
Эх, Хаўроння!
Так на старасці год памыліцца —
Не пазнала паршывага фрыца.

1942 г.

**У бліжэйшых нумарах**
**галасы польскіх сяброў —**
**пераклады вершаў паэтаў Лодзі**

# ПУБЛІЦЫСТЫКА







# СПЯВАЦЬ САЛАЎЯМ

У Брэсцкай крэпасці муры пахнуць порахам. Заплюшчы вочы, замры, не дыхай — і пачуеш кананаду стрэлаў, стогны...

Салаўіная пара яшчэ не настала. А тады яна якраз скончылася. Апошнім «ку-ку» азвалася зязюля. Сонца дасягнула зеніту, і вышэйшага напружання дасягнула мірная цішыня — цішыня перад выбухам, цішыня перад самай страшэннай вайной, якую ведала чалавецтва.

Тры гады пасля таго, як шквальныя залпы ўдарылі па Холмскай браме, людзям спявалі іншыя, свінцовыя салаўі. І толькі на чацвёрты год вярнулася на зямлю цішыня.

Яе чакалі ўсе добрыя людзі! Колькі загінула за салаўіную цішыню!..







На месцы загінуўшых — новае, баявое пакаленне.

І самым першым, хто трапіў у бой за яе, былі вы, родныя нашы чырвонаармейцы з Брэста.

У радасны дзень Перамогі першы ўспамін — пра вас, першая знятая шапка — перад вамі.

●

Дзе ты, 333-ці стралковы полк? Дзе ты, капітан Шаблоўскі? Дзе ты, таварыш палкавы камісар Фамін? І ты, лейтэнант Наганаў?

Вунь там, з правай рукі — як уваходзіш у крэпасць з поўначы,— пад-



На вучэнні — як у баі.





мурак казармы 333-га. Апошняя вогненная рыса няроўнага бою, мяжа масавага гераізму. Пакуль жылі байцы 333-га — вораг не мог перастуціць гэтую мяжу.

Даўся фрыцам у знакі ваш полк. Ці ведаеце вы, хлопцы, што рабілі немцы з тымі катэрамі, якія захапілі дваццаць другога чэрвеня ў крэпасці? Яны перавозілі на левы бераг сваіх раненых. Іх было многа, бо сыпанулі вы ім з аўтаматаў, з кулямётаў. Добра сыпанулі.

Не, не проста хадзіць ворагу па нашай зямлі. Нямецкія танкі ламалі пагранічныя шлагбаумы і гарэлі пад сценамі крэпасці. Салдаты райха пад гукі губнога гармоніка прайшлі многія краіны, але палеглі навалам, штурмуючы брэсцкія казематы і форты.

Фашысты не маглі вас скарыць. Казарма гарэла, а вы не здаваліся. Плавілася цэгла, а людзі стаялі насмерць. Дзень — ноч, дзень — ноч у чырвоныя муры ўразаліся снарады і бомбы, а з муроў адзін адказ — аўтаматныя чэргі і град гранат.

333-ці толькі тады заціх, калі дынаміт узняў у паветра ўсю казарму.

Вунь там, з правай рукі ад паўночнай брамы, застаўся толькі яе падмурак.

●

Дзе ты, Яўхім Майсеевіч, палкавы камісар Фамін?

На Холмскай браме белая дошка: тут расстраляны камісар Фамін.

Ёсць ордэн салдацкі, ёсць спецыяльныя камандзірскія ордэны, ёсць маршальская зорка. Няма асобнага ордэна для камісараў.

Для камісараў зрэдку — мемарыяльныя дошкі.

Праз калючыя драты палону прайшло многа мужных. А камісараў немцы ў палон не бралі. Іх забівалі адразу.

Камісарам Фаміным быў падпісаны першы загад геранчнай абароны: стаяць насмерць! Ён свой загад выканаў.



Спі спакойна, камісар. Я раскажу, што было далей, пасля тваёй смерці.

У Беларускім дзяржаўным музеі Вялікай Айчыннай вайны ёсць вельмі цікавы здымак: па Краснай плошчы вядуць палонных немцаў. Абшарпаныя, брудныя калоны, сотні тысяч. Гэта знята ў 1944 годзе, адразу пасля Беларускай аперацыі. Палонныя — з трох беларускіх «катлоў».

Бачыш, камісар, якая іронія лёсу! Як хацелася гітлераўцам прадэфіляваць па Маскве ў сорак першым. Фюрар ажно самалёт загадзя падрыхтаваў, каб не спазніцца на парад! Праз тры гады немцы прайшлі па Маскве. Палонныя, што брыдуць па Краснай плошчы, усміхаюцца. Для іх яшчэ добра скончылася вайна. Яны выжылі, ганебна, ды выжылі...

А паміж тваёй смерцю, камісар, і Беларускай аперацыяй было шмат важных падзей: разгром пад Масквой, Сталінград, Курская дуга...

За вас, камісар Фамін, і за вас, байцы 333-га, адпомшчана поўнаю мерай. За вас помсцілі геранчна, самаахвярна.

Тут, у Брэсце, ведаюць афіцэра-гвардзейца Мікалая Андрэевіча Бабаніна, Героя Савецкага Саюза.

Бабанін пачынаў вайну камандзірам танкавай роты. Быў разведчыкам. Біўся з ворагам на Украіне, фарсіраваў Дунай, пад Будапештам удзельнічаў у разгроме славутых танкавых эсэсаўскіх дывізій «Мёртвая галава», «Вялікая Германія», «Вікінг».

Але тое, што зрабіў Мікалай Андрэевіч пры фарсіраванні Дняпра, удавалася нямногім. 13 сакавіка, як толькі крануўся на Дняпры лёд, ён і яшчэ сем танкістаў пераправіліся на правы бераг. Зразумела, іх «трыццацьчацвёркі» засталіся за ракой. І танкісты былі цяпер пехацінцамі і па-пяхотнаму блакіравалі нямецкі дзот, знішчылі яго гарнізон, захапілі палонных.

Палонных адправілі на свой бераг. З Бабаніным засталося пяць чалавек. Гэтая жменька адолела яшчэ чатыры дзоты і ўвесь наступны дзень абараняла захоплены плацдарм даўжынёй звыш кіламетра. Бабанінцы адбілі сем атак. Тры сотні немцаў палягло перад іх пазіцыяй.



Мікалай Андрэевіч Бабанін — Герой Савецкага Саюза.

Надвячоркам Бабанін атрымаў падмацаванне — роту аўтаматчыкаў. А 16 сакавіка ўзяў горад Берыслаў, авалодаў чыгуначным мостам, па якім рынуўся на Мікалаеў увесь танкавы корпус.

Вайна скончылася чвэрць стагоддзя назад. Усё менш і менш пад палкавымі сцягамі застаецца тых, чые маладыя гады былі апалены жорсткай бітвай з фашызмам.

Сумуючы, з болем развітваюцца са сваёй зброяй ветэраны. Надыходзіць гэты момант і для Бабаніна.

Цяжка табе?

Не, камуніст Бабанін не трывожыцца. Гэта разам з ім служыць



Яны нарадзіліся ў сорак першым — лейтэнант Хведар Алесенка і старшы лейтэнант Уладзімір Капайгара.



Тры танкісты, тры сябры: Фаяс Хуснункінаў, Анатоль Сцяпанаў, Мікалай Бяляеў. Яны служаць у адной часці з Героем Савецкага Саюза Бабаніным.

камандзір выдатнага падраздзялення старшы лейтэнант Пятро Паўлаў. Гэта часць трымае пераходны сцяг ЦК ЛКСМБ. І ўрэшце, самая дарагая замена, якую пакідае Герой Узброеным Сілам — яго сын, афіцэр.

Спіце спакойна, абаронцы Брэста. За вас адпомшчана. А зброю моцна трымаюць вашы сыны.

●

Дзе ты, лейтэнант Наганаў?

Правал у чырвоных мурах: над мостам, што быў цераз Буг, у ліпені сорак першага ўзарвалася вежа Цярэспальскай брамы. Там загінулі мужныя наганаўцы разам са сваім камандзірам.



Наступленне.

У той год, як не стала цябе, лейтэнант Наганаў, нарадзіліся хлапчукі, якія сёння, як і ты, лейтэнанты. Брэст пазнаёміў мяне з двума: Капайгарой і Алесенкам.

Лейтэнант Хведар Алесенка родам з Гомельшчыны, ён аграном па адукацыі. Хлопец вясёлы, нават крыху шумлівы, вельмі кампанейскі і жвавы.

Старшы лейтэнант Уладзімір Капайгара — украінец, кадравы афіцэр. Ён маўклівы, сур'ёзны, у вачах — блакітны сум: бацька Капайгары, ваенны лётчык, загінуў на фронце.

Капайгара з Алесенкам служаць разам, на аднолькавых пасадах, абодва дасягнулі высокага ваеннага майстэрства.

Ты ведаеш, лейтэнант Наганаў, што агульная адзнака «добра», атрыманая на паверцы, у мірны час азначае тое ж, што ў ваенны — поўнасцю разграміць праціўніка. Капайгара і Алесенка так выхавалі сваіх байцоў, што мірныя перамогі сталі для іх законам жыцця.

Ты, лейтэнант Наганаў, не пазнаў бы цяперашнюю пяхоту. Яна закавана ў браню, яна стала імклівай, як вецер. Адным залпам царыца палёў сёння зробіць столькі, колькі ў сорак першым не магла зрабіць трыццацццю.

Але ты, таварыш Наганаў, пазнаў бы байцоў і камандзіраў. Ты пазнаў бы Капайгару і Алесенку. Яны нарадзіліся ў сорак першым, у той год, калі





загінуў ты, узарваўшы Цярэспальскую браму. Яны такія ж баявыя камандзіры, як і ты.

Спі спакойна, лейтэнант Наганаў. Твая мужнасць у слаўных нашчадкаў.

●

Дзе ты, капітан Шаблоўскі?

Ля Заходняй брамы крэпасці, пад зялёным скатам крутога вала, белы камень, на якім тваё імя, капітан. Тут ты абараняў сваю Радзіму і свой народ. Тут і загінуў.

Цвёрдыя людзі служаць у Брэсце. Падраздзяленне афіцэра Купрыянава апынулася на апошніх вучэннях у цяжкіх умовах. Традыцыйны беларускі мароз, вецер, сляпая завіруха — снегу наваліла столькі, што танкі грузлі па самыя вежы. У такое надвор'е немец ужо не ваяка. А купрыянаўцам — хоць бы што. У адной гімнасцёрцы, быццам не трыццаць градусаў мароз, яфрэйтар Уладзімір Рэвін кіраваў цягачом. На маршы яго бачылі адразу ўсюды, усім ён памагаў на цяжкай дарозе. Таму купрыянаўцы своечасова занялі пазіцыі і выканалі баявую задачу. Гэтаму падраздзяленню паставілі ацэнку «добра». Яны атрымалі падзяку вышэйшага начальства. А камандзір усё дзівіўся:

— Што гэта за салдат такі? Калі ён спіць?

І ўвогуле, што за салдат пайшоў — рослы, дужы, спрытны, кемлівы, адукаваны?

Скажу табе, капітан Шаблоўскі, вось што. Чым багацей гісторыя арміі, чым больш высакародных подзвігаў у яе мінулым, тым лепшая, дужэйшая змена прыходзіць на месца загінуўшых. І кроў твая палымнее на нашых сцягах, яна цячэ ў нашых жылах, святая кроў твая і тваіх таварышаў, капітан Шаблоўскі.

●

Перамога над фашысцкай Германіяй — здабытак нашай гісторыі: як-ніяк, а пасля вайны нарадзілася і вырасла новае баявое пакаленне. А само свята 9 мая — такое ж маладое і радаснае, як у першы дзень Перамогі. Незабыўнае для ветэранаў, святое, неўміручае для нас, юных. Бо ў Брэсцкай крэпасці муры яшчэ пахнуць порахам.

Валянцін ЖДАНОВІЧ.
Фота аўтара
і Яўгена КОЛЬЧАНКІ.

# СУЗОР'Е МУЖНЫХ

## ФРАНТАВЫ РЭПАРТАЖ

Чвэрць стагоддзя назад сорак дзевяць гвардзейцаў сталі кавалерамі ордэна Славы за подзвігі, праяўленыя ў адным і тым жа баі.

Старшы сяржант Тарбанаеў-Данскі, яфрэйтар Палкоўнікаў, малодшы сяржант Міранічэнка, радавы Юркін, радавы Хаматнураў і яшчэ сорак чатыры чалавекі служылі ў 2-ім гвардзейскім Ярцаўскім матацыклетным палку. Камандаваў ім маёр Купін.



Старшы сержант Тарбанаеў-Данскі, яфрэйтар Палкоўнікаў, малодшы сержант Міранічэнка, радавыя Юркін і Хаматнураў, яфрэйтар Волкаў.

Позна ўвечары 25 чэрвеня 1944 года матацыклісты занялі важны рубеж у кальцы нашых войск, якія акружылі віцебскую групіроўку праціўніка. Акружэнне было поўнае, але немцы не трацілі надзеі вырвацца з яго. Заманлівай для прарыву здавалася ім дарога Віцебск—Сянно праз вёску Машканы. Вось тут якраз і занялі пазіцыю гвардзейцы Ярцаўскага палка.

Надышла ноч. У палку было ўсё спакойна. Гвардзейцы зрабілі тры лініі траншэй.

Разведка паведаміла, што вораг рыхтуе прарыў, кіруючыся на вёску Зарудніца.

А палове сёмай, калі стаяў яшчэ ранішні туман, фашысты пачалі дзейнічаць. Зрабіць пралом акружэння яны вырашылі нечаканым манеўрам—на пазіцыі гвардзейцаў быў выгнаны табун коней. Бразгаючы страмёнамі (большасць з іх была асядлана), коні з трывожным іржаннем панесліся на нашы акопы. Пастронкі, што цягнуліся за імі, узнялі воблакі пылу. За адным канём, заблытаўшыся ў страмёнах, цягнуўся нямецкі маёр у нашчэнт парваным адзенні, акрываўлены і брудны і спрабаваў нешта крычаць.

— Не страляць! Коней прапусціць!—загадаў камандзір палка.

Нехта кінуўся наперарэз каню, што цягнуў маёра.

— Няхай у тыл едзе!—пачуўся голас камандзіра.

Дружным рогатам праводзілі гвардзейцы незвычайнага палоннага.

Нечаканы манеўр немцаў не парушыў баявых парадкаў гвардзейцаў. Яны самі былі майстры на яшчэ большыя хітрыкі.

Праз паўгадзіны паўтарылася тое ж самае: быў выпушчаны яшчэ большы табун. Адначасова нямецкія гарматы і мінамёты абрынулі на нашы пазіцыі шквал агню, і адразу ж батальён пяхоты рынуўся ў атаку. Немцы ішлі хутка, кароткімі шчыльнымі ланцугамі. З ходу яны атакавалі трэцюю роту, што была размешчана каля вёскі Зазер'е. Усе нашы агнявыя кропкі маўчалі. Маўчалі і аўтаматы. А калі ланцугі наблізіліся да нас на адлегласць пісталетнага стрэлу, іх паклалі шквальным агнём. Перад пазіцыяй трэцяй роты засталося ляжаць каля двухсот забітых немцаў.

У штаб палка прывялі першых палонных. Іх было каля трыццаці. Палонныя прызналіся, што на дзевяць гадзін прызначана другая атака.





Яфрэйтар Ванеркін, малодшы сержант Варанкоў, яфрэйтар Гнятулін, старшына Качанаў, яфрэйтары Цітар і Аданіцкі.

У першым за гэты дзень баявым данясенні штаба палка было адзначана, што пры адбіцці ранішняй атакі асабліва вызначыўся сваёй адвагаю камандзір кулямётнага разліку беларус Аляксей Сяргеевіч Бабарэка.

Пра вытрымку і адвагу, з якімі прынялі бой гвардзейцы, пасля расказваў лейтэнант Зелянецкі.

— Раніцай мы з Чашчыхіным захацелі перакусіць. Знайшлі тэрмас з гарачай прасянай кашаю. Якраз тады другі раз прабеглі коні.. Ну, мы падсілкоўваемся. Раптам бачым—ідуць два немцы. Аўтаматы ў руках, з-за халяў гранаты тырчаць... Прыйшлося тэрмас убок адставіць. А тут яшчэ немцы ідуць, і яшчэ... Страляць пачалі. Далі і мы па іх. Чалавек васемнаццаць у палон узялі. А з жыта ўсё ідуць ды ідуць... Так бой і завязаўся...

Як і казалі палонныя, у дзевяць гадзін на тым жа ўчастку каля Зазер'я дзве роты нямецкай пяхоты зноў пачалі наступленне. На гэты раз яны выкарысталі заслону з мірных жыхароў. Эскадрон коннікаў гнаў перад сабою каля сотні змучаных жанчын і дзяцей. Сцёбаючы іх бізунамі, немцы набліжаліся да нашых акопаў. Ззаду ішла пяхота.

Што было рабіць гвардзейцам? Як знайсці выйсце?

Гвардзейцы другой роты, на якую была накіравана нямецкая атака, прапусцілі ўсіх у сваё размяшчэнне, далі жанчынам магчымасць разбегчыся і толькі пасля гэтага кінуліся ўрукапашную.

Немцы насядалі вялікімі групамі, і гвардзейцы ішлі на неверагоднае: падрывалі сябе гранатамі, каб тым самым знішчыць і ворага, душылі немцаў рукамі, білі гільзамі ад снарадаў. Яфрэйтар Закіраў паласаваў ворагаў кухонным нажом.

Атака была адбіта. Гвардзейцы эвакуіравалі параненых, папоўнілі боезапасы. Апоўдні луг і поле каля Зазер'я ўздыбіліся сотнямі чорных фантанаў зямлі. Нямецкая артылерыя біла з закрытых пазіцый. Праз некалькі мінут пасля першых разрываў пайшла ў атаку пяхота, падтрыманая трыма самаходнымі гарматамі.

Трэцяя рота прыняла ўдар. Праціўнік, які меў колькасную перавагу, ішоў напралом. Зноў дайшло да рукапашнай. Зноў пачалі нашы байцы дзейнічаць і рукаяткамі пісталетаў, і нажамі, і нават каменнем.



Сержант Андрэеў, яфрэйтар Закіраў, сержант Шматанюк, малодшы сержант Кулікоў, сержант Баеў, яфрэйтар Фралоў.

На аддзяленне гвардыі сержанта Караваева, які абараняў невялікі ўзгорак, рынулася асабліва многа немцаў. Гвардзейцы стралялі па іх з блізкай адлегласці, не шкадавалі патронаў. Але наступаўшым удалося заняць першую траншэю. Далей іх не прапусцілі.

З караваеўцаў засталіся жывымі нямногія. Камандзіра аддзялення, які страціў прытомнасць, вынеслі на руках толькі пасля таго, як нямецкая атака захлынулася.

Амаль адначасова з атакаю пад Зазер'ем пачаўся бой у вёсцы Мазурава. Сюды на пазіцыі першай роты кінулася да трохсот немцаў. Яны рухаліся шчыльнымі шэрагамі. У першых ланцугах, правакацыйна дэманструючы сваю бяззбройнасць, немцы, пабраўшыся за рукі, ішлі, не стралялі. Можна было падумаць, што яны здаюцца ў палон. Байцы моўчкі сачылі за набліжэннем ворага. Але калі да нашых пазіцый засталіся дзесяткі крокаў, немцы, усе, як адзін, выхапілі зброю і адкрылі шалёны агонь. Гэтыя хітрыкі выклікалі ў гвардзейцаў такую злосць, што па наступаючых стралялі з усіх відаў зброі. Ланцугі іх імгненна зблыталіся. Агонь з абодвух бакоў нарастаў, раслі страты і сярод нашых байцоў. Загінуў камандзір узвода супрацьтанкавых ружжаў. Яго замяніў старшы сержант Тарбанаеў-Данскі. Па натуры гарачы, ён спраўляўся і камандаваць узводам, і весці знішчальны агонь.

І гэтая атака захлынулася. Гвардзейцы пачалі прыводзіць у парадак абаронныя збудаванні, папаўняць запасы патронаў, мін, снарадаў.

У трынаццаць гадзін зноў пачаўся артылерыйскі абстрэл. Снарады падалі даволі беспарадкава па ўсёй лініі абароны палка. І ў атаку немцы палезлі лавінаю шалёных істот, за спінамі якіх таксама была смерць: нашы часці бесперапынна сціскалі кальцо акружэння.

У гэтым баі легендарным стала імя лезгіна Каджыгая Каджыгаева, камандзіра 45-міліметровай супрацьтанкавай гарматы. Яго разлік з неверагодным спрытам выпускаў амаль што па пяцьдзесят снарадаў у мінуту, аднак лавіна наступаўшых усё насоўвалася, топчучы сваіх параненых. Калі немцы былі амаль за трыццаць крокаў ад гарматы, Каджыгаеў загадаў узяцца за нажы і аўтаматы. Немцы то адкочваліся, то зноў насядалі Каджыгаеў быў тройчы паранены. Сплываючы крывёю, ён разам з лейтэнантам Сакаловым аказаўся ў акружэнні немцаў. Бяззбройныя, яны сталі спіна да спіны, чакаючы нападу кожную хвіліну. Немцы таксама ўжо былі без зброі і вагаліся, ці то рынуцца наперад, ці то ратавацца самім. Высачэзны фашыст, выцягнуўшы ўперад рукі, кінуўся на Сакалова, каб задушыць яго. Каджыгаеў рэзка выгнуўся і схапіў немца за галаву. Моцны рывок на сябе, і вораг на зямлі.





Сержант Губанаў, радавы Міхайлаў, малодшыя сержанты Пчалінцаў і Разумееў, яфрэйтар Ражкоў, сержант Панафідзін.



Недзе ўбаку нехта па-руску клікаў на дапамогу. Сакалоў і Каджыгаеў кінуліся туды. Бегучы, Каджыгаеў убачыў на зямлі супрацьтанкавую гранату, нахіліўся, каб падняць яе, прыслухаўся. Але навокал было ціха, голасу, што клікаў на дапамогу, не было чуваць. Раптам прасвістала куля, і пагон на плячы лейтэнанта раздвоіўся. Сябры пераглянуліся. Зноў прасвістала куля. Сакалоў і Каджыгаеў залеглі.

— Снайпер... — прашаптаў Каджыгаеў. — Па мне пакуль што не б'е, мусіць, бачыць, што я не афіцэр... Эх! Няўжо прыйдзецца так марна памерці?

Яны папаўзлі наўздагад між высокай травы, не бачачы адзін аднаго. Час ад часу Каджыгаеў пытаў толькі:

— Ты цэлы?

— Цэлы, — адказваў Сакалоў.

Каля чатырох гадзін дня назіральнікі зноў далі сігнал пра набліжэнне праціўніка. Немцы выпаўзалі з усіх бакоў, з-за кожнага грудка, з-за кожнага кусціка. Стралялі не цэлячыся.

Гвардзейцы адказвалі знішчальным агнём. Сярод выбухаў чуўся лямант параненых і прарэзлівыя крыкі нямецкай каманды. З фанатычным шаленствам немцы ішлі на захад, толькі на захад — група за групаю, атрад за атрадам. Але ніхто з іх не дайшоў нават да траншэй першай лініі абароны...

Потым трэцяя рота паднялася ў контратаку і ўварвалася ў вёску Узварцы. У хатах гвардзейцы знайшлі забітых сялян. Тут жа стагналі параненыя немцы.

Сярод палонных, якія добраахвотна здаліся ў гэтым баі, быў француз-артылерыст. Дабегшы да адной з нашых батарэй, ён пачаў страляць па немцах і ўвесь час нешта крычаў па-французску.



Старшы сержант Сімкін, сержант Чыстоў, старшына Гарбачоў, яфрэйтар Халадкоў, радавы Бугаёў.

Разведчыкі данеслі, што на поўнач ад вёскі Рудакі заўважана вялікая калона праціўніка з абозам. Адразу ж галава і хвост калоны былі абстраляны артылерыяй, а для поўнага знішчэння быў накіраваны ўзмоцнены матацыклетны ўзвод пад камандаваннем лейтэнанта Суворава. Матацыклісты ўварваліся ў самую сярэдзіну абоза. Было знішчана некалькі дзесяткаў павозак і каля сотні салдат. Немцаў, што здаліся ў палон, пасадзілі на заднія сядзенні матацыклаў і прывезлі ў штаб палка.

А ў гэты час праціўнік атакаваў суседнія часці і прымусіў іх адысці. Для дапамогі леваму флангу быў пасланы ўзвод аўтаматчыкаў. Выклікаўшы паніку сярод немцаў, аўтаматчыкі знішчылі каля дзвюх соцень салдат і афіцэраў, узарвалі і спалілі восем аўтамашын і захапілі каля трыццаці палонных. Палонныя сказалі, што нямецкае камандаванне рыхтуе вялікія сілы для прарыву на правым фланзе палка. Абарона ў раёне Зазер'я была адразу ж узмоцнена, але цішыня, якая панавала тут пасля атакі на Узварцы, нічым не парушалася да ночы. Толькі ў 22 гадзіны 20 мінут кароткая артылерыйская кананада абвясціла пра новае наступленне. На пазіцыі першай роты рынуўся полк пяхоты праціўніка, які меў і гарматы. Бой праходзіў пры ўспышках асвятляльных ракет. Тых, хто прарываўся наперад, гвардзейцы неспадзявана асвятлялі фарамі матацыклаў і расстрэльвалі ва ўпор.

Сярод палонных было некалькі чэхаў і славакаў. Яны паведамілі, што на гэтым участку фронту немцы рыхтуюць новы прарыў сіламі да васьмі тысяч чалавек, але настрой іх надламаны няўдачамі дня.

Немцы і сапраўды зрабілі спробу змесці абарону гвардзейцаў. На працягу ўсёй ночы жорсткія сутычкі ўзнікалі адна за адною. Успышкі артылерыйскіх залпаў прарэзвалі цемру. З крыкам «Ура!» гвардзейцы кідаліся ў контратакі. Ашаломленыя стойкасцю абароны, страціўшы арыенціроўку, немцы групамі здаваліся ў палон. Іх адводзілі ў невялікую лагчыну, акружаную кустамі. Зняможаныя, яны кідаліся на зямлю і тут жа засыналі. Так іх набралася некалькі соцень, а канваіраў было толькі чацвёра.

А другой гадзіне ночы загарэлася некалькі будынкаў ва Узварцах. Пры святле пажару стала відаць, як калона немцаў накіроўваецца на Зазер'е.







Малодшы сержант Панцялееў, яфрэйтары Дымаў і Савасцьянаў, малодшы сержант Баранаў, радавы Сянькоў, старшына Цімашэнка.

Хвіліна на роздум... І вось ужо тры бронетранспарцёры мчаць у контратаку. На іх аўтаматчыкі, гарматы і кулямёты. Машыны рэзка манеўравалі, то ўключалі фары, то выключалі і мчаліся ў поўнай цемры, што павінна было выклікаць у немцаў паніку. І сапраўды, варожая калона стала распаўзацца яшчэ да першых стрэлаў. А як толькі загаварылі нашы гарматы і кулямёты — немцы пабеглі, але не назад, а да нашых траншэй. Яны былі ў поўнай разгубленасці: адны падалі, другія падымаліся і з лямантам кідаліся ўперад. Ім дапамагала цемра. Іх было шмат, і ўрэшце яны дабраліся да нашых траншэй і да пазіцый нашых артылерыстаў. Мы неслі велізарныя страты.

Да раніцы немцам удалося абысці перадавыя пазіцыі каля вёскі Волкава і з тылу атакаваць наша размяшчэнне ў вёсках Зарудніца і Талеркі. На левым фланзе палка становішча таксама ўскладнялася. Абарона расцягнулася.

А праціўнік узмацняў націск. Уступалі ў бой галоўныя сілы. На Зарудніцу і Талеркі наступала ўжо тры палкі.

У гвардзейцаў канчаліся патроны і снарады. Заставаліся воля і вернасць прысязе.

Камандны пункт камандзіра артылерыйскага дывізіёна гвардыі маёра Баранава быў атакаваны. Біліся прыкладамі і нажамі. Баранава паласавалі па жываце. Апрытомнеўшы, ён прыўзняўся і зірнуў праз бруствер. Яго кулямёты вялі агонь са сваіх старых пазіцый. Ён папоўз да іх. Кулямётчыкі заўважылі чалавека і паклікалі. Баранаў адказаў, але так ціха, што яго не пачулі і палічылі за немца. Яшчэ імгненне, і па ім была б пушчана чарга, але ён сабраў апошнія сілы і крыкнуў:

— Я — Баранаў!

Да яго падбеглі, падnялі на рукі.

— Гарматы цэлыя? — спытаў ён і зноў страціў прытомнасць.

Неба на ўсходзе пачало ружавець. Гвардзейцы павесялелі: цяпер і немцаў разгледзець можна і лягчэй шукаць боепрыпасы.

Смельчакі шчыльнымі групамі прабіваліся да пакінутых ноччу пазіцый, знаходзілі там скрыню-другую мін ці патронаў і перацягвалі да сваіх.



**Радавы Сарокін, сержант Конаў, сержант Кошалеў, яфрэйтары Лаўрэнцеў і Рузанаў.**

А немцы насядалі. Іх было многа.

Але гвардзейцы стаялі моцна і пры выпадку нават жартавалі. Калі камандзіру гарматы старшаму сержанту Сапкову асколкам разарвала вуха, ён заўважыў:

— Пасля вайны завушніцы будзем насіць!..

Гармата Сапкова была адрэзана ворагам. Немцы паўзлі з усіх бакоў. Гвардзейцы стаіліся, сціскаючы ў руках нажы і гранаты. Прайшло некалькі мінут. Фашысты вырашылі, што ўвесь разлік знішчаны, і пабеглі да гарматы. Раптам залп страсянуў паветра. За некалькі крокаў ад гарматы чатыры снарады ўзарваліся адначасова. Гэта стралялі свае, таксама палічыўшы, што разлік Сапкова загінуў. Большасць немцаў была знішчана. Сапкоў з двума байцамі ўскочыў у траншэю. Залп паўтарыўся. Уздоўж траншэі да Сапкова беглі ворагі. Ён шпурнуў гранату. Асколкам яму перабіла руку. Сапкоў і яго салдаты папаўзлі ўперад. Дабраліся да ўзгорка, дзе стаяла фурманка. Не зважаючы на небяспеку, кінуліся да яе. Аўтаматы — адзін... другі... трэці... але не зараджаныя.

Немцы ўбачылі групу Сапкова. Ружэйны залп... Сапкова не стала. Яго салдаты дабраліся да бліндажа лейтэнанта Зелянецкага. Неўзабаве немцы пачалі акружаць гэты бліндаж, і гвардзейцы, выбраўшы зручную хвіліну, кінуліся ў контратаку.

Гінулі нашы. Засталіся Зелянецкі, яфрэйтар Дымаў і малады салдат Галкін. Яны таксама былі параненыя, але па-пластунску выбіраліся да сваіх. Павольна, з вымушанымі прыпынкамі, паўзлі ўздоўж ручая.

Дымаў уціснуўся ў траву і ціхенька пакратаў Зелянецкага:

— Таварыш лейтэнант... таварыш лейтэнант...

Адгукнуўся Галкін:

— Што табе?

— Немцы!

— Дзе? — спытаў Зелянецкі.

Чацвёра немцаў у пачарнелых ад крыві кашулях са стогнам паўзлі да вады.

Гвардзейцы глядзелі на іх. Немцы былі без зброі. Адзін з іх, напіўшыся і змачыўшы галаву, агледзеўся. Убачыў нашых. Сказаў нешта напаўголаса сваім, тыя загаварылі злосна, энергічна жэстыкулюючы.

— Хочуць нас задушыць, — зразумеў гутарку Зелянецкі. — Але паглядзім яшчэ, хто каго...

Гвардзейцы прапаўзлі некалькі метраў уздоўж ручая, выбіраючы месца для пераправы. Устаць яны не мелі сілы.

Зелянецкі, Дымаў і Галкін, бледныя ад страты крыві і злосці на сваё бяссілле, зноў страцілі прытомнасць... Толькі ў канцы дня іх знайшлі нашы артылерысты і палажылі на павозкі.

Нягледзячы на часовы поспех, у глыбіню нашай абароны немцы так і не выйшлі. Яны разбрыліся па лясах з надзеяй адсядзецца там да наступнай ночы і ў цемрадзі прабівацца далей. Многія здаваліся ў палон.

Каля гадзіны дня на дарозе з Зарудніцы паказаўся нямецкі грузавік, які цягнуў на прычэпе фургон. Яго суправаджала некалькі коннікаў з аўтаматамі. Па ім адкрылі агонь. Коннікі адразу ж зніклі. Прычэп загарэўся. Некаторы час грузавік яшчэ цягнуў яго, але неўзабаве спыніўся, і немцы пачалі разбягацца ўбакі. Амаль усіх іх забралі ў палон. Гэта была група штабнікоў. Кінутая ўсімі, спрабавала вырвацца з акружэння. Яны былі апошнія...

Канец дня 27 чэрвеня на ўчастку Ярцаўскага палка прайшоў спакойна. Аднавілася сувязь. Эвакуіравалі раненых. Умацоўвалі пазіцыі.

Пад вечар у раёне Зазер'е — Заруднiца з'явіліся нейкія пашкуматаныя атрады. Ніякіх магчымасцей для прарыву яны ўжо не мелі.

На другі дзень стала вядома, што віцебская групоўка нямецкіх войск, па сутнасці, ліквідавана. 2-гі гвардзейскі Ярцаўскі матацыклетны полк атрымаў загад здымацца з пазіцый, адысці на кароткатэрміновы адпачынак, папоўніцца і нанава ўзброіцца...

Ішоў 1944 год...

**Аляксандр ДЗІТЛАЎ.**

Фота **аўтара.**



**Старшы сержант Філіпаў, яфрэйтары Зыранаў і Філіпаў, старшы сержант Бабарэка, яфрэйтары Яфімаў і Чунароў.**

**Тых дзён не змоўкне слава**



Іван Жалезнякоў.

# ГОМЕЛЬСКІЯ МАЛАДАГВАРДЗЕЙЦЫ

Першыя дні ў акупіраваным Гомелі. Трывожна і жудасна. Захопнікі наводзяць свой «новы парадак» — усюды шыбеніцы, расстрэлы, слёзы, кроў. Але вось па горадзе пайшлі радасныя чуткі: нехта падпаліў склад, нехта ўзарваў машыну з нямецкімі афіцэрамі. Значыць, падаюць свой голас падпольшчыкі!

Дзейнічае група Аляксандра Брыксы, былога памочніка машыніста паравознага дэпо. Гарачь буксы вагонаў і паравозаў — гэта пастараліся Аляксандр, яго брат Мікола, камсамолец Яўген Емяльянаў. Выходзяць са строю водаправоды, на перагонах узрываюцца паравозы — таксама іх работа. У паравозным дэпо дзейнічае група Фёдара Вароніна, а на вагонарамонтным заводзе — Мікалая Піваварава. Ёсць першыя дыверсіі і на рахунку групы Вані Жалезнякова.

Пра тое, што іх брат Ваня стаў падпольшчыкам, даведаліся яго сёстры Алена, Марыя і Оля.

— Іванка, ты верыш нам? — уважліва гледзячы брату ў вочы, запытала аднойчы Марыя.

— Веру. І табе, і Олі, і Алене.

— Тады можаш разлічваць на нас...

Перад вайной да Жалезняковых часта наведваліся Ваневы сябрукі Лёва Радзевіч, Косця Давыдовіч, Міша Табанькоў. Добрыя хлопцы. Яны, як і Ваневы сёстры, таксама сталі членамі падпольнай групы. Жалезнякоў тым часам прыглядваўся і да іншых сваіх сяброў. Дзейнічаў асцярожна, стараўся не наклікаць падазронасці. Неўзабаве група вырасла да трыццаці чалавек.

— З чаго пачыналі? — успамінае Марыя Жалезнякова.— Нейк у кастрычніку сорак першага года прынёс Ваня зводку Саўінфармбюро, у якой расказвалася пра жорсткія баі пад Масквой і Ленінградам. Узрадаваліся мы ёй невыказна. І ў той жа дзень я, Оля і Алена перапісалі зводку ў некалькіх экземплярах, а вечарам хлопцы расклеілі яе на вуліцах.

Свежую і праўдзівую інфармацыю аб становішчы на франтах Ваня цаніў гэтак жа, як самую дзёрзкую дыверсію. Таму ўжо з першых дзён акупацыі ён паставіў перад групай задачу — любымі шляхамі набыць радыёпрыёмнік і арганізаваць распаўсюджванне сярод насельніцтва зводак Саўінфармбюро.

На дапамогу хлопцам прыйшоў Іван Іванавіч Швадронаў. Ён аддаў ім свой радыёпрыёмнік, навучыў, як ім карыстацца.

— Па заданні брата,— прыгадвае Алена Жалезнякова,— мы, яго сёстры, часта хадзілі на чыгуначныя вузлы Гомель-Гаспадарчы і Гомель-Сартавальны, што былі забіты эшалонамі з тэхнікай, боепрыпасамі, салдатамі, і ў зручны момант засыпалі ў буксы пясок, расклейвалі зводкі і лістоўкі. Акрамя таго, мы хавалі раненых савецкіх байцоў і людзей, якія былі на падазрэнні ў паліцаяў і здраднікаў Радзімы, збіралі зброю. Рызыкі хапала, ды жадання помсціць фашысцкім захопнікам было болей.

Ваня Жалезнякоў адчуваў, што можна рабіць намнога больш, чым яны робяць. Гэтага патрабавалі і члены групы. Многія з іх мелі каштоўныя звесткі аб размяшчэнні вайсковых часцей, іх узброенасці, назапасілі шмат медыкаментаў, зброі, тытуню.

— Эх, звязацца б нам з партызанамі! — заўважыў неяк на адной «вечарынцы» Пятрок Сцепанцоў.

Пра гэта думаў і сам Жалезнякоў. Аднойчы ён ужо спрабаваў наладзіць з партызанамі сувязь, але з гэтага нічога не атрымалася. Каб жа хто ведаў, дзе шукаць іх! Кажуць некаторыя, што дзесьці ў Чачэрскіх лясах. Мясціны незнаёмыя, далёка не зойдзеш, доўга не паблукаеш. А чакаць таксама нельга. Іншыя вунь што робяць! У горадзе з'явіліся друкаваныя лістоўкі, знішчаны склад з гаручым у Навабеліцы, узарвана афіцэрская сталовая разам з гітлераўцамі, па вуліцы Будзённага спалена майстэрня, у якой немцы рамантавалі танкі, разбурана бензазаправачная калонка на станцыі Гомель-Сартавальны.

І Ваня збіраецца ў дарогу. На гэты раз — удача. Яму ўдалося сустрэцца з партызанамі атрадаў імя Шчорса і імя Будзённага. З першага года вайны быў створаны падпольны гарком камсамола. З ім адразу ж устанаўліваецца сувязь. Па даручэнні сакратара падпольнага гаркома камсамола Сяргея Купцова, які ў той час знаходзіўся ў партызанскім атрадзе «Бальшавік», на сувязь з Жалезняковым выходзіць партызанская разведчыца, член гарадскога камітэта камсамола Валя Блескіна. У групе з'явіліся свежыя газеты, антыфашысцкая літаратура, узрыўчатка і магнітныя міны.

Партызанам патрэбны былі медыкаменты. Люда Мілейка з групы Жалезнякова ідзе на работу ў аптэку нямецкага шпіталя, дзе працавала прыбіральшчыцай яе цётка Неаніла Пятроўна Яськова. Цераз іх рукі медыкаменты пачалі рэгулярна перапраўляцца партызанам.

Ля Палескага чыгуначнага пераезда, які фашысты пільна ахоўвалі, знаходзіўся тэлефонна-тэлеграфны трансфарматар. Узарваць яго камандаванне атрада імя Шчорса даручыла групе Жалезнякова. На заданне ідзе Ваня Жалезнякоў. У памочнікі сабе бярэ толькі Пятра Сцепанцова.

Дзейнічалі асцярожна. Гітлераўцы і падумаць не маглі, што два непрыкметныя хлапчукі, якія штодзень аціраюцца ля пераезда, назіраюць за зменай вартавых, вывучаюць падыходы. Праз некалькі дзён ад трансфарматара засталася толькі варонка. Надоўга



Марыя Жалезнякова.

спынілася сувязь Рэчыцы, Калінкавіч і Жлобіна з Гомелем.

А ўслед — яшчэ дыверсіі. Група падпольшчыкаў, якую ўзначальваў Лёва Радзевіч, прабралася ў механічны цэх паравознага дэпо і пад носам у фашыстаў вывела са строю тры станкі. Другая група замініравала чыгуначны састаў, у якім знаходзіліся нямецкія салдаты і афіцэры. Адышоўшы ад станцыі, эшалон узарваўся. А яшчэ праз некалькі дзён пад адхон паляцеў паравоз і адзінаццаць вагонаў з аўтамашынамі.

Ваня Жалезнякоў працуе стрэлачнікам на чыгунцы. Спадабаўся ён немцам. Паслухмяны хлопец. Нават пропуск яму начны далі. Асцярожна праводзяць сябе і іншыя члены групы, што падаліся на «службу». Лёва Радзевіч працуе дзяжурным качагарам у паравозным дэпо. Хто б мог падумаць, што іменна ён возьме ды ўзарве механічны цэх дэпо! Косця Давыдовіч непаваротлівы, марудны — цялё дый годзе. Ды без Косці не абыходзіцца ніводная дыверсія. Асабліва па «замарожванню» манеўровых паравозаў...

Многія месяцы фашысты не маглі натрапіць на след групы Жалезнякова. Арышты і жорсткія катаванні «падазроных» нічога не давалі. Тым часам Ваня Жалезнякоў атрымаў ад партызанскага камандавання новае заданне: самым падрабязным чынам вывучыць рух воінскіх эшалонаў, устанавіць кірункі руху, нанесці на карту размяшчэнне ў горадзе варожых часцей і ўмацаванняў.

Выконваць гэта заданне выйшла ўся група юных патрыётаў: адны вывучалі дыслакацыю часцей, іх коль-



Пятро Сцепанцоў.

касць, сістэму ўзбраення, род войск, другія не спускалі вачэй са станцыі Гомель-Гаспадарчы. Нарэшце ўсё неабходнае было сабрана і падрыхтавана для адпраўкі партызанам. На сустрэчу з імі збіраліся Ваня Жалезнякоў і Лёва Радзевіч. Заадно яны хацелі перадаць у атрад медыкаменты, мыла, махорку. Усё гэта было запакавана ў дзве карзіны і захоўвалася ў доме Жалезняковых.



Міхась Табанькоў.

Дзевятага верасня — дзень сустрэчы з партызанамі...

Раніца. Імжыць шэры дождж. Ваня толькі што вярнуўся з начнога дзяжурства. Настрой у яго самы ўзнёслы. Дзіва што! Кожная сустрэча з партызанамі была для яго святам, а цяпер Ваня ўжо назусім ідзе да лясных салдатаў. Ён памыўся, папрасіў Алену, каб зашыла падкладку ў скураным паўпаліто і прышыла адарваны гузік, і стаў збірацца ў дарогу. Сёстры прынеслі ў хату і паставілі пад ложак прыгатаваныя карзіны. Неўзабаве зайшоў Лёва Радзевіч. Ваня тут жа паслаў яго да Косці Давыдовіча. Гэта блізка, усяго якіх мінут пяць, калі ісці агародамі.

Ваня з нецярплівасцю чакаў сябрука, час ад часу пазіраючы ў акно. Раптам ён трывожна крыкнуў:

— Немцы! Уцякайце!

Але было позна. На парозе ўжо стаялі нямецкі афіцэр, намеснік начальніка абвергрупы 315 капітан Гартман і здраднік Сакалоў, які таксама насіў форму гітлераўскага афіцэра. Яны падскочылі да Вані, скруцілі рукі, усіх астатніх паставілі ў кутох. Сакалоў ботам з усёй сілы ўдарыў маці — яна страціла прытомнасць.

Гартман у Ваневым пакоі перавярнуў усё ўверх нагамі: былі пераятрэсены кніжкі і рэчы, распораты матрац, агледжана ўсё пад ложкам і сталом. Сакалоў капаўся ў другім пакоі. Там стаяў рэчавы мяшок аднаго таварыша, перапраўленага ў атрад. У мяшку была форма італьянскага афіцэра, мадз'ярскі світэр і шлем. Гэта зацікавіла Сакалова, і ён паклікаў Гартмана. Яны пачалі разглядваць рэчы, перагаворваючыся паміж сабой. У гэты час Марыя схапіла карзіны і пераставіла іх пад Ванеў ложак. Так была выратавана сям'я. Але Ваню ўсё ж забралі. Ад хаты адышлі дзве машыны. Яшчэ адна стаяла ля дома Пеці Сцепанцова. Яго таксама арыштавалі. Той жа раніцай гітлераўцы схапілі Зіну Баравікову, Васіля Семяноўскага і іншых. Як высветлілася пасля, арганізацыю высачыў і прадаў агент СД Франюкевіч.

26 верасня 1943 года, пасля цяжкіх катаванняў, у двары гомельскай турмы ўсіх арыштаваных расстралялі. Ваню Жалезнякову ў той дзень было дзевятнаццаць гадоў.

Назаўтра вароты турмы былі адчынены, знікла варта. Чырвоная Армія наступала на Гомель.

Алена Жалезнякова і маці Пятра Сцепанцова рашылі дазнацца хоць што-небудзь пра лёс хлопцаў. Яны зайшлі ў двор турмы, потым у памяшканне, падняліся на другі паверх. Рэха ішло за імі, бы рота салдат. На сценах надпісы, імёны, прозвішчы. Апошні запіс быў зроблены 26 верасня: «Адпомсціце за нас, не забудзьце нас. Мы маладыя і хочам жыць і стварацъ толькі прыгожае». Жанчыны стукалі кулакамі ў зачыненыя дзверы камер, спадзеючыся, што хто-небудзь адгукнецца. Адгукалася толькі рэха.

У двары яны ўбачылі тры свежыя ямы, прысыпаныя пяском і закіданыя розным ламаччам. Тут жа валялася вопратка. Алена падняла чыгуначную фуражку. Пазнала — Ванева. Да акрываўленага акалышка прыліпла пасма сівых валасоў...

...Камуністычная партыя і Савецкі ўрад высока ацанілі подзвіг гомельскіх маладагвардзейцаў. У дні святкавання 20-годдзя перамогі над фашысцкай Германіяй Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР за мужнасць і адвагу, праяўленыя ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Іван Жалезнякоў пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны I ступені, Зінаіда Баравікова, Пятро Сцепанцоў, Васіль Семяноўскі — ордэнам Айчыннай вайны II ступені. Высокіх урадавых узнагарод удастоены таксама Канстанцін Давыдовіч, Лёва Радзевіч, Марыя і Алена Жалезняковы, Людміла Мілейка і іншыя члены падпольнай камсамольскай арганізацыі.

У Гомелі, на плошчы Працы, узвышаецца помнік героям, якія загінулі ў барацьбе з фашыстамі. Ля яго падножжа гарыць Вечны агонь. Тут пахаваны воіны Савецкай Арміі, кіраўнікі Гомельскага падполля і партызанскай барацьбы, падпольшчыкі. Камсамольцы і піянеры нясуць тут вахту памяці. Ля помніка — кветкі. Іх прыносяць сюды ўдзячныя гамяльчане, госці горада.

**Міхаіл СУВАЛАЎ.**



# ПАРТЫЗАНСКАЕ СЛОВА

Тоўстая ў кардонным пераплёце падшыўка. На ёй надпіс: «За Савецкую Беларусь». Гартаю адну старонку за другой. Некаторыя з іх ужо цяжкавата чытаць: пажоўкла папера. Побач з кірыліцай шмат знакаў лацінскіх. Гэта архіў падпольнай газеты, якая выдавалася на тэрыторыі Лагойскага раёна ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У папку акуратна падшыты таксама лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, звароты да насельніцтва, весткі з Вялікай зямлі. А вось тэкст прысягі партызан. Сурова гучаць яе словы:

«Я клянуся за спаленыя гарады і вёскі, за кроў і смерць нашых жонак і дзяцей, бацькоў і матак, за гвалт і здзекі над маім народам жорстка помсціць ворагу, не спыняючыся ні перад чым».

Не толькі зброяй, але і жывым агністым словам змагаліся з ворагам народныя мсціўцы.

...Суровы 1942 год. На невялікай выспе, сярод дрыгвяністых балот, размясціўся толькі што створаны райком партыі. На самаробным століку—пішучая машынка «Ундэрвуд» і батарэйны прыёмнік. Прынятыя на слых па радыё зводкі апрацоўваліся і друкаваліся на тонкай папяроснай паперы. Іх з нецярпеннем чакалі ў кожнай вёсцы, у кожнай сям'і. Людзі хацелі пачуць праўду і цягнуліся да яе, як да святла.

Райком партыі прымае рашэнне: аднавіць выпуск раённай газеты. Па-



У гэтай зямлянцы друкавалася газета.

чаўся пошук спецыялістаў. Аказалася, што ў атрадзе «Мсцівец» знаходзіцца былы сакратар Брэсцкай абласной газеты «Заря» камуніст Іван Іванавіч Муравіцкі. Па дамоўленасці з камандзірам атрада В. Т. Варанянскім, яго перавялі ў райкомаўскую групу. Пазней удалося знайсці і наборшчыц. Адна з іх, Валянціна Князева, жыла ў пасёлку Плешчаніцы, другая, Еўдакія Маршалава, у вёсцы Аўгустова. Запрасілі — ахвотна згадзіліся.

А як са шрыфтамі і наогул з усім друкарскім абсталяваннем? У той час я жыў непадалёк ад Лагойска ў атуленай лесам вёсцы Ніўкі. Падтрымліваў сувязь з партызанамі. Да вайны працаваў у мясцовай раёнцы карэктарам.

— Табе і карты ў рукі, — сказаў сакратар райкома партыі Іван Мацвеевіч Цімчук.— Звязвайся з падпольнай партыйнай арганізацыяй і даставай усё неабходнае для друкарні.

У будынку лагойскай рэдакцыі ў той час размяшчалася адна з гітлераўскіх устаноў. Уваход туды строга забараняўся. Другая палова будынка, дзе знаходзілася друкарня, была заўсёды пад замком. Доўга мы шукалі спосаб пранікнуць туды і, нарэшце, знайшлі. Праз знаёмую дзяўчыну, камсамолку Н. Рудак, якая ўладкавалася «на службу» да акупантаў, вынеслі каля двух пудоў шрыфту. Гэта была доўгая і небяспечная работа.

Неўзабаве рэдактар і я сядзелі ў зямлянцы сакратара райкома партыі і складалі план стварэння друкарні. Зрабіць наборную касу папрасілі сталяра Рыгора Бохана, які жыў у вёсцы Зарэчча. У якасці талера выкарысталі пліту з узарванага фашыстамі дота. Для націскнога прэса ўзялі барабан ад звычайнай малатарні, паадкручвалі з яго зубы, абцягнулі некалькі разоў сукном. Вось і ўся друкарская тэхніка.

Пачалі з лістоўкі. Тэкст яе напісаў сакратар райкома І. М. Цімчук. Лістоўка называлася «Разгром немцаў на Поўдні». У ёй расказвалася пра перамогу нашых войск пад Сталінградам, пра знішчэнне 330-тысячнай арміі праціўніка.

Лістоўку чыталі і перачытвалі тысячы людзей. Яна дайшла ў кожную вёску і нават у Мінск, Барысаў, Вілейку. Намер гітлераўцаў утаіць ад савецкіх людзей паражэнне на фронце не ўдаўся.

А яшчэ праз тыдзень жыхары нашага раёна ўжо чыталі першы нумар сваёй «раёнкі», якая выйшла ў падполлі. У перадавым артыкуле «Адпомсцім ворагу» газета заклікала да зброі ўсіх, хто застаўся на акупіраванай тэрыторыі. «Дапаможам жа Чырвонай Арміі, — пісала яна, — хутчэй вызваліць наш край ад паганай немчуры... Яшчэ мацней распальвайце полымя партызанскай вайны!»

Газета паведамляла праўду пра становішча на франтах, пра дзейнасць сіл супраціўлення ва ўсіх заняволеных краінах.

У лагойскай друкарні былі набраны і надрукаваны першыя нумары газет «Ленінец» (орган Плешчаніцкага РК КПБ), «Партызанская праўда» (орган Ільянскага РК КПБ) і «Катовец» (орган партызанскага атрада імя Катоўскага).

У ільянскую камендатуру трапіў адзін з нумароў партызанскага выдання.

— Адкуль гэта? — здзівіўся камендант.— З-за фронту?

— Не, — растлумачылі яму. — Гэта партызанская прадукцыя.

Камендант пацісну плячыма.

— Не разумею! Для друкарні ж патрэбны вялікі будынак, машыны. Адкуль яны маглі знайсціся ў лесе?

Але газеты і лістоўкі — гэта сапраўды было работай лясных салдат. Рэдакцыя і друкарня працавалі круглыя суткі. Тыраж аднаго выдання дасягаў пяцісот, а бывала і тысячы экземпляраў. А ўсяго за паўтара года існавання падпольнай друкарні было выпушчана і распаўсюджана на тэрыторыі Лагойскага і суседніх з ім раёнаў 148 тысяч экземпляраў газет, лістовак і заклікаў.

Праз свой друкаваны орган райком партыі выкрываў злачынныя планы гітлераўцаў, папярэджваў насельніцтва аб выгнанні на фашысцкую катаргу, заклікаў распальваць агонь партызанскай барацьбы.

Востра стаяла пытанне ў акупантаў з хлебам. Каб пракарміць сваю армію, яны намерваліся забраць увесь ураджай, вырашчаны сялянамі. Для гэтага аднавілі былыя памешчыцкія маёнткі, стварылі пры іх малацільныя такі.

У адным з нумароў газета «За Савецкую Беларусь» выступіла з перадавым артыкулам: «Нічога не даваць фашысцкім акупантам!»

«Родныя браты і сёстры, — гаварылася ў артыкуле,— убірайце свой ураджай, абмалочвайце і хавайце яго ад рабаўнікоў. Не даць чужынцам ніводнага грама хлеба — такую задачу павінны паставіць перад сабой кожная вёска, кожны двор, кожны селянін».

Гітлераўцы ўсяляк імкнуліся завабіць да сябе на службу моладзь. Быў нават выдадзены загад аб мабілізацыі ў фашысцкую армію. Але і гэты намер пацярпеў крах. Газета папярэджвала юнакоў, каб не з'яўляліся на прызыўныя пункты, а здабывалі зброю і ішлі ў партызаны.

Спецыяльны нумар газеты быў прысвечаны моладзі. «Моладзь, да зброі! — заклікаў перадавы артыкул. — Не давайце магчымасці ашукаць сябе. Уступайце ўсе, як адзін, у рады народных мсціўцаў!»

У кожным нумары — агністы заклік, расказ пра баявыя подзвігі партызан. Газета мела невялікі фармат, але ў ёй знаходзілася месца і для прапагандысцкага артыкула, і для фельетона, і для верша. Друкаваліся творы Якуба Коласа, Максіма Танка, Міхася Машары, Антона Бялевіча.

На Лагойшчыне ў радах народных мсціўцаў змагаўся вядомы беларускі празаік Рыгор Мурашка. Аднойчы ён перадаў у рэдакцыю два рукапісныя творы — апавяданне «Чаму спыніўся шматвяковы род Швайнбергаў» і навелу «Смерць маці». Апошні твор меў невялікі памер, і мы ахвотна яго надрукавалі. Ён прагучаў як грозны прысуд тым, хто ў час цяжкіх выпрабаванняў змаладушнічаў, стаў на няправільны шлях.

Майскім днём 1944 года рэдакцыя была паднята па трывозе. У Руднянскі лес увайшлі вялікія сілы гітлераўцаў. Трэба было ратаваць абсталяванне друкарні і хутчэй хавацца самім. Чарговы нумар увесь не надрукавалі — не паспелі. Гэты нумар, побач з іншымі, таксама падшыты ў папцы.

Раніцай 3 ліпеня 1944 года савецкія войскі з дапамогай партызан вызвалілі Лагойск. Газета прысвяціла



# За Совецкую Беларусь

## Нічога не даваць нямецкім акупантам

## Новая перамога нашых войск

гэтай радаснай падзеі спецыяльны нумар, у якім вітала гераічных савецкіх воінаў са слаўнай перамогай. Вось радкі з верша, надрукаванага ў газеце:

Для нас навечна святам стане
Сустрэчы з вамі дзень святы.
Прыміце ж наша прывітанне,
Падзяку шчырую, браты!

Назаўтра рэдакцыя пераехала ў раённы цэнтр і пачала выпускаць газету на вызваленай зямлі.

**Барыс САСНОЎСКІ,**
**былы адказны сакратар падпольнай газеты.**

**г. п. Лагойск.**

**1944 год. Партызаны ўступаюць у Лагойск.**






# 1970

## ЧЭРВЕНЬ



Я. М. Свярдлоў.

**3**

85 гадоў з дня нараджэння (1885) Я. М. Свярдлова, выдатнага дзеяча Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы. Прымаў удзел у рабоце І з'езда Саветаў Беларусі. Памёр у 1919 годзе.

**3—15**

30 гадоў назад (1940) у Маскве адбылася першая Дэкада беларускага мастацтва і літаратуры.

**5**

80 гадоў назад (1890) у Мінску адбылося адкрыццё гарадскога тэатра (цяпер у гэтым будынку знаходзіцца тэатр імя Я. Купалы).

**15**

75 гадоў з дня нараджэння (1895) В. А. Сярбенты, вучонага-гісторыка, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**23**

70 гадоў з дня нараджэння (1900) І. С. Лупіновіча, вучонага-біёлага, акадэміка Акадэміі навук БССР. Памёр у 1968 годзе.

**ЧЭРВЕНЬ**

50 гадоў назад (1920) адбылося выступленне салдат польскага палка, размешчанага ў Мінску, у падтрымку Савецкай улады.



Сцэна са спектакля «Апошнія» ў тэатры імя Я. Купалы. 1940 год.

Будынак тэатра імя Я. Купалы да рэканструкцыі.



В. А. Сярбента.



І. С. Лупіновіч.



партрэт сучасніка

# СОЛЬ ЗЯМЛІ

## НАРЫС



Васіль Нікіценка.

I

З ім мы пазнаёміліся нечакана.

— Вася Нікіценка, — працягнуў ён руку.

Я дзесьці яго ўжо бачыў. Русыя валасы зачасаны назад. На крыху стомленым твары — шырокая белазубая ўсмешка, а ў вачах — быццам увесь блакіт нябёс.

Год яму за трыццаць. А ўсім, каму цяпер за трыццаць, у сорак першым было два. Паспытаў хлапец і голаду і холаду. Паспрабуй, забудзь гэта!

Гляджу на яго жылістыя рукі. Яны націскаюць на вёслы без стомы, нібы аўтаматы. А Вася ўсміхаецца. Што так усцешыла гэтага хлопца? Можа, сонечная пазалота на хвалях? А можа, белакрылыя чайкі? А мо — проста чалавеку добра?

Я стаміўся ад сваіх здагадак і ўжо прашу без розных падступаў, каб расказаў пра сябе. Ён зноў усміхаецца:

— А што пра сябе гаварыць? Нарадзіўся, вучыўся, працую. А цяпер, як бачыш, адпачываю. Вось табе і біяграфія!

Толькі потым я даведаўся, што Вася Нікіценка родам з Магілёўшчыны. Вёска ёсць такая — Горбавічы. Такіх вёсак тысячы па Беларусі. Дамы пад шыфернымі дахамі. Звонкія. Светлыя. Электрычнае святло. Радыё. Антэны тэлевізараў. Машыны ўздымаюць вулічны пыл.

Горбавічы...

Васілёва маці, Наста Рыгораўна, аж праслязілася:

— Ой, дзеткі мае, працавалі ж, як праклятыя. А што мелі? Толькі і нажывалі што гарбы. Васіль мой таксама рабацяга. З дзяцінства ўцягнуўся. Але кім ён стаў? Ой, і не думалася, не гадалася, што выпадзе яму такая пашана.

Наста Рыгораўна паказвае пажоўклы лісток: «Ваш муж па-ге-

ройску...» Далей яна не можа чытаць і цяпер, хоць паперцы той ужо дваццаць шэсць гадоў.

Але пра гэта я даведаўся значна пазней. А тады ўсё думалася: «Дык дзе ж я ўсё-такі бачыў гэтага хлопца?»

Вася Нікіценка.

Салігорск.

Будаўнік.

Так! Гэта яго фатаграфія абышла ўсе беларускія газеты. Гэта ён — першы ў рэспубліцы кавалер Ганаровага знака ВЛКСМ.

Вечарам я адшукаў у бібліятэцы падшыўку «Комсомолки» за 1966 год. Чытаю: «Ганаровы знак ВЛКСМ — узнагарода асаблівая. Асаблівым гарэннем, асаблівай самаадданасцю і талентам можа быць яна дасягнута...»

Сярод першых 30 шчаслівых, побач з праслаўленым на ўвесь Саюз прозвішчам будаўніка Брацкай ГЭС Барыса Гайнуліна, у спісе ўзнагароджаных чытаем:

«Нікіценка Васіль Канстанцінавіч — брыгадзір камсамольска-маладзёжнай брыгады будаўніцтва салігорскіх калійных камбінатаў Мінскай вобласці Беларускай ССР».

Дык вось з кім пазнаёміла мяне Рубскае возера на далёкай Іванаўскай зямлі!..

## II

50-годдзе Ленінскага камсамола.

Не забыць гэты дзень.

На Цэнтральную плошчу Мінска сабраліся пасланцы беларускай моладзі з усіх канцоў рэспублікі.

Маляўнічыя транспаранты.

Мора сцягоў.

Кветкі.

Музыка.

Дзесяткі тысяч юнакоў і дзяўчат ідуць па Ленінскім праспекце. А ўперадзе — чырвоны сцяг рэспубліканскай камсамольскай арганізацыі. Яго нясе стройны шыракаплечы хлопец.

Пачакайце, ды гэта ж Вася Нікіценка! Ён... Горды такі. Шчаслівы. Дзіва што! Такі давер!

Гэта была мая другая сустрэча з Васем Нікіценкам. І мне захацелася паехаць у Салігорск, каб бліжэй пазнаёміцца з хлопцам. Чым ён так вызначыўся на будоўлі? Якой дарогай ішоў да прызнання? І ці складаная для яго штука — жыццё?

Неўзабаве мне выпала камандзіроўка ў Салігорск.

## III

Дарогі. Тысячы іх на жыццёвым шляху чалавека. Добра гэта ці кепска?

Відаць, добра. Ёсць выбар. Ёсць надзея выбіцца на бальшак. Але ёсць пэўная небяспека ў тым, што чалавек пачынае шукаць самы зручны, самы выгадны шлях. Шукае, шукае, а потым глядзіць — жыццё пражыта...

Лепш за ўсё, калі чалавек ідзе па адной дарозе. Сваёй. Выбранай.

Тады, ліпеньскім днём пяцьдзесят восьмага, маладыя будаўнікі не думалі пра гэта. Іх везлі ў крытай машыне па роўнай дарозе. «Едзеце будаваць новы горад. Галоўнае — не дрэйфіць», — выпраўляючы ў дарогу, гаварыў майстар. Ён сам толкам не ведаў пра будучы Салігорск. А хлопцы тым больш.

Прыехалі ноччу. Выгрузіліся ў вёсцы Мацевічы, недалёка ад Старобіна. Гразь навокал. Перабылі з горам папалам ноч, а раніцай пайшлі пехатою ў вёску Кулакі. У сельскім клубе там асталяваўся будаўнічы трэст.

Будоўля толькі нараджалася. Цяжкасцей процьма. Механізмаў мала.

Жарты прыціхлі.

На другі дзень самастойнай работы Барыс Н. пісаў у Гомель пісьмо: «Мамачка, прыязджай, забяры мяне адсюль...»

Засталіся моцныя духам хлопцы. Выбачайце, цяпер ужо мужчыны, бацькі сваіх сем'яў. Усе яны — ветэраны горада (сярэдні ўзрост салігорцаў не перавышае 30-ці). Сярод іх Васіль Нікіценка.

Ідзём з ім па вуліцы Ленінскага камсамола. Асноўная магістраль горада. У зяляніне ўся, у вясёлцы рэклам. Яе перасякаюць Шахцёрская, Будаўнікоў, Чыгуначная... Назвы вуліц нараджаліся, як кажуць, пад гарачую руку. Але ў іх — уся гісторыя горада.



А вось вуліца імя Дзмітрыя Гуляева. У верасні сорак трэцяга тут разыгралася гарачая бітва. Мужна біўся з фашыстамі камандзір партызанскага атрада Дзмітры Цімафеевіч Гуляеў. Але варожая куля падкасіла яго. Гуляеву пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, і маладыя салігорцы ўвекавечылі яго імя.

Прыгожыя карпусы капроў-волатаў. Шатры складаў сільвініту, і будынак галоўнай абагачальнай фабрыкі. Яны відаць за многа кіламетраў і ствараюць велічны індустрыяльны пейзаж.

Горад маладосці. Сваёй назвай жыхароў, тры школы, тэхнікум, два вучылішчы, 9 дзіцячых садоў, 17 сталовак, аўтабазы на 700 машын, 22 магазіны, 15 бібліятэк. Сваё мора на 56 мільёнаў кубаметраў вады...

«Бач, як вызубрыў», — падумаў я тады пры першай сустрэчы. А потым нават няёмка было за такую думку. Чалавек жа сваімі мазалямі ствараў гэтыя лічбы. Паспрабуй, забудзь.

У Васевым альбоме ёсць фотакартка. Яна зроблена ў першыя дні яго работы ў Салігорску. Стаіць хлапчук сярод бяскрайняй пустэчы. Побач — вывернутая буль-



**Мікалай Шаўчук і Васіль Нікіценка.**

ён абавязан невычарпальным скарбам калійнай і каменнай солі ды самаадданай працы будаўнікоў і шахцёраў.

Вася падвёў мяне да вялізнай каменнай пліты. Чытаем уголас: «10 жніўня 1956 г. тут закладзен горад Нова-Старобінск».

— У спешцы, відаць, такую назву зляпілі, — нібы апраўдваецца Вася Нікіценка. — Але ведаеш, што на гэтым месцы, мне здаецца, з часам будзе? Велічны манумент у гонар рабочых рук. І нават дзеці нашых дзяцей будуць прыходзіць сюды на паклон...

Мы яшчэ доўга хадзілі па вуліцах Салігорска. Вася літаральна засыпае мяне лічбамі: 40 тысяч

дозерам зямля. Крыху далей — груда белай цэглы, труба-пячурка... Тут будзе закладзены горад.

Верылася, і не верылася.

Верылася таму, што з кожным днём на будаўнічую пляцоўку прыбывала ўсё больш народу, машын. «На поўным сур'ёзе ўсё заварваюць». А не верылася таму, што хлопец ніяк не мог уявіць сабе, што тут будуюць, варочаюць зямлю, возяць цэглу... Варушацца. Адна мітусня.

У гэты час Васіль пазнаёміўся з брыгадзірам муляраў Іванам Шыраевым. Душэўны чалавек. І пра будоўлю любіў філасофстваваць. «Вось прыйдзем мы з табой сюды гэтак гадкоў праз дзе-

сяць», — пачне, бывала. Заслухаешся! Побач з такім чалавекам грэх было б не старацца. І Вася стараўся. Яму што? Не прывыкаць.

Аднойчы Васю выклікаў начальнік участка.

— Мне тут брыгадзір твой на цябе нагаварыў.

— Дык я ж нічога... — хацеў апраўдвацца Вася.

Але начальнік палажыў руку на плячо:

— Брыгадзірам цябе хочам зрабіць.

Вася маўчаў. Працаваць — адно, кіраваць — іншае.

— Ну, значыць, лады? — заключыў начальнік.

Брыгада трапілася зборная. Адны прыйшлі на будоўлю, каб набыць спецыяльнасць, другія — грошай «закалпачыць». А трэція самі не ведалі, чаго. Пачаў прападаць інструмент... Вось і кіруй тут, калі табе самому толькі за дваццаць пераваліла.

Вася тры разы насіў заяву на разлік:

— Не выходзіць у мяне з брыгадзірствам.

Начальнік упраўлення Аляксандр Уладзіміравіч Сарокін усаджваў хлопца побач і пачынаў гутарку. Нервы ў начальніка моцныя былі. Жыццё многаму навучыла.

У канцы гутаркі Аляксандр Уладзіміравіч ірваў Васеву заяву.

Яго брыгаду муляраў паставілі побач з Шыраеўскай на будаўніцтва абагачальнай фабрыкі.

— Хлопцы, хіба ж мы горшыя за суседзяў?! — падбадзёрваў малады брыгадзір сваіх сяброў.

Ён быў прыкладам ва ўсім: працаваў да гарачага поту, вечарам хадзіў на курсы і неўзабаве меў ужо сумежныя спецыяльнасці — бетоншчыка, мантажніка, тынкоўшчыка. А неўзабаве паступіў на завочнае аддзяленне горна-хімічнага тэхнікума.

Працавалі дружна. Брыгаду пачалі прыкмячаць, хваліць. Неяк падышоў да Васіля яго былы настаўнік Іван Шыраеў. Ці то жартам ці сур'ёзна павёў такую размову:

— Дык што, Вася, навучыў я цябе на сваю галаву? Абганяеш цяпер...

— Дык гэта ж спаборніцтва, — адказаў Васіль.

— Добра, добра... Толькі яшчэ паглядзім — хто каго, — сказаў, адыходзячы, Шыраеў.

Вася так і не зразумеў: жартаваў яго настаўнік ці ўсур'ёз яго трывожыў поспех Васевай брыгады.

Тэмпаў брыгада не збавіла.

А неўзабаве не тое, што будоўлю, а ўсю краіну абляцела вестка. Яе паведаміла «Правда» 7 лістапада 1963 года: «Над новымі карпусамі Салігорскага калійнага камбіната — ударнай будоўлі сямігодкі — горда ўзвіваецца чырвоны сцяг з партрэтам У. І. Леніна. Гэты сцяг — сімвал працоўных перамог у перадкастрычніцкім спаборніцтве. Права ўзняць яго над будоўляй заваёўвае брыгада, якая дасягнула лепшых паказчыкаў у працы. Напярэдадні свята гэтага гонару ўдастоена комплексная камсамольска-маладзёжная брыгада Васіля Нікіценкі, якая заваявала ў перадкастрычніцкім спаборніцтве званне калектыву камуністычнай працы».

Гэта было і прызнаннем і ўшанаваннем працы дружнага маладзёжнага калектыву будаўнікоў і яго важака Васіля Нікіценкі.

«Каралём будоўлі» сталі называць Васю. Яго прынялі ў члены КПСС. Радзіма ўзнагародзіла ордэнам. Моладзь выбрала дэлегатам на XV з'езд ВЛКСМ.

## IV

Калі падняцца ў кабіну вежавага крана, якая знаходзіцца на вышыні 5 — 6-павярховага дома, уся будоўля, як на далоні. Вася каменцірye:

— Гэта адміністрацыйны корпус. Крыху далей — рабочая сталоўка. А там — надшахтны будынак першага ствала, склад руды, будынак абагачальнай фабрыкі...

Гэта Трэці калійны камбінат. Ён будзе даваць два з палавінай мільёна тон мінеральных угнаенняў у год. Праекціроўшчыкі працуюць над праектамі новых камбінатаў. На Трэцім калійным, — расказвае Вася, — будуць грануляваць







**Васіль Нікіценка пасля работы.**

угнаенне. Такія ўгнаенні даўжэй захоўваюцца ў глебе, не змываюцца дажджом. Я зазначыў у блакноце: «Будоўля гранулюе людзей».

Новыя «каралі» будоўляў з'явіліся на Трэцім калійным. На шчыце працоўнай славы чытаем: Леанід Максімовіч, Віктар Тубальцоў, Яўген Бабшукоў, Пятро Самусевіч, Іван Курылін. Усе кіруюць комплексными маладзёжнымі брыгадамі.

Тут мы сустрэлі і былых выхаванцаў Нікіценкі. Грыша Язерскі цяпер кіруе вежавым кранам. Лёня Асіпенка, Валодзя Сахоўскі самі даўно брыгадзірамі сталі. Саша Клішэвіч і Косця Міцура прысылаюць пісьмы са штампам трыкутнікам. Хлопцы ў адказ пішуць ім пра свае будаўнічыя справы, пытаюцца, як там служыцца.

Цікава, Косця Міцура прыйшоў у брыгаду наогул з «ветрыкам»: «Ды што вы мне», «Ды я і не такое бачыў!» На работу мог і не прыйсці. І падфілоніць таксама... Намучыліся з ім усёй брыгадай. А калі перад адыходам у армію Косця развітваўся, зняў шапку і сказаў:

— Хлопцы, а прымеце мяне потым, калі вярнуся?

Вася Нікіценка цяпер камсорг ЦК ЛКСМ Беларусі на будаўніцтве Трэцяга салігорскага камбіната. Закончыў тэхнікум. Паступіў на завочнае аддзяленне Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КПБ.

...Вечарам засядае штаб будоўлі.

— Хіба ж гэта парадак? — гаварыў Нікіценка. — Будаўнічыя матэрыялы вязуць поездам міма аб'екта да трэста, а потым назад машынамі, 12 кіламетраў!

Хлопцы доўга спрачаліся, доўга варажылі над чарцяжамі: а што, калі поезд будзе рабіць прыпынак прама на будоўлі? Трэба, праўда, абсталяваць дадатковую пляцоўку для грузаў. Але гэта абыдзецца дзешавей, чым гэтыя перавозкі. Падлічылі: эканомія сродкаў складзе сотні тысяч рублёў...

Вярталіся дамоў позна. Вячэрні Салігорск ззяў вясёлкаю агнёў. Мінаючы інтэрнат, мы пачулі ба-

дзёрую песню. Ёй, відаць, цесна было ў пакоі, і быстракрылай птушкай яна пырхнула на прастору.

Стомлены, маўклівы да гэтага часу, Васіль Нікіценка ўсміхнуўся, быццам ажыў.

— Нашы. Спакою ім няма! — А потым ляпнуў мяне па плячы: — Спакой ім толькі сніцца!

V

Кажуць, жыццё — рэч складаная. У аднаго яно коціцца гладка, як кола, у другога — ідзе зігзагам. Адзін лёгка знаходзіць сваю дарогу, другі — тыцкаецца, як сляпое кацяня, то туды, то сюды. А ходзяць жа ўсе па адной зямлі. Пад адным небам. Дыхаюць адным паветрам. Для ўсіх — адны правы, абавязкі. Нашы. Народныя. Савецкія.

Не, жыццё ўсё ж — складаная загадка.

«Чалавек заўсёды быў і будзе самай цікавай з'явай для чалавека», — гаварыў В. Р. Бялінскі. І яшчэ: «жыць — значыць адчуваць і думаць, цярпець і ўпівацца шчасцем; усякае іншае жыццё — смерць».

Сутнасць — у жыццёвай практыцы. А як быць з юнакамі, у якіх няма такой практыкі? Якім нялёгка? Яны ідуць наперад, не затрымліваючыся, не задумваючыся. З пагардай глядзяць на мінулае і не ўмеюць цаніць сучаснае.

І вось гэтыя бязвусыя якраз часцей за ўсё і наракаюць на жыццё. Па прычыне і без прычыны. Бацька забараніў прыходзіць дамоў пасля адзінаццаці: «Ну і жытуха! Казарма». Праваліўся на ўступных экзаменах у інстытут: «Праклянцце! Хоць у палонку галавой». Ніяк не можа падабраць работу — зноў: «Хіба ж можна зразумець мітуслівае жыццё?»

— У чым тут сакрэт? — спытаўся я ў Васі Нікіценкі.

— Жыццё — дзівосная штука. Што тут рэбусы разгадваць... — адказаў ён. Падумаў і дадаў: — Праца і вучоба — вось у чым уся соль.

**Уладзімір ЛІПСКІ.**

## У бліжэйшых нумарах

## падарожныя нататкі

## Аркадзя ТОЎСЦІКА



*Здарылася так, што мы часта сустракаемся з Арленам Кашкурэвічам, шчыра гаворым пра тое, што хвалюе ў мастацтве, спрачаемся... Бывае, вельмі востра спрачаемся. І гэта памагае кожнаму з нас рабіць сваю справу. Вось і пра новую серыю лістоў „Партызаны" ішла ў нас гаворка, калі ў мастака толькі-толькі выспявала задума, калі рабіліся эскізы, калі лісты былі паказаны на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. Каб прасачыць ход мастакоўскай думкі, працэс фарміравання і канчатковага выяўлення задумы, і былі зроблены гэтыя запісы.*

*Уладзімір Бойка.*



# ПРА СВАЕ ТВОРЫ

Кожны раз, калі чую пытанне: «Як нараджаецца задума?» — не ведаю, што адказаць. Бо нараджаецца яна спакваля, недзе ў самых патаемных глыбінях свядомасці. Выкрышталізоўваецца са шматлікіх уражанняў ад жыцця, сустрэч з людзьмі, з асабістых перажыванняў, з роздуму над працаю калег і папярэднікаў. І сам здзіўляешся, і сам радуешся, калі — часцей за ўсё нечакана — акрэсліваецца ва ўяўленні будучы твор. Не, гэта не канкрэтнае нейкае рашэнне: маўляў, вось вазьму і выраму такую тэму!.. Дэталі будучага твора абдумваюцца тады, калі адбылася ўжо не ва ўсім ясная мне самому ўнутраная работа, якая быццам падштурхоўвае: цяпер ты пра гэта не сказаць не можаш...

Сыну майму цяпер дванаццаць. Роўна столькі, колькі было мне, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна. Сын не ведае, што такое вайна, хоць і «гуляе ў вайну» са сваімі аднагодкамі.

Гуляў некалі «ў вайну» і я. Потым прыйшла сапраўдная вайна... Перажытае народам, перажытае кожным з нас увесь час шукае выйсця. Тагачасныя ўражанні, якія цяпер перажываю нанава, мабыць, і былі той глебай, на якой спела думка сказаць пра вайну і сваё слова...

Шмат думаў: ці маю я права гаварыць пра вайну? І — як гаварыць?.. Ясна адно: вайна — тое, з чым прымірыцца немагчыма, і ў той жа час яна — адзіна магчымае, неабходнае, калі твой дом, твая зямля, усё дарагое табе ў жыцці — у смяротнай небяспецы.

Здараецца пачуць словы: рамантыка вайны... Гэтыя словы сказаў нехта, як след не падумаўшы, так кашчунна яны гучаць. Ёсць суровая праўда вайны. Ёсць высакародная праўда аб Душы Чалавечай, якая ў гады вайны — як агалены нерв. Ёсць Мужнасць Чалавека, які бароніць Айчыну. Найвышэйшая мужнасць, і, калі хочаце, мудрасць чалавечая, праяўляецца не толькі ў самім моманце бітвы, але і ў тыя моманты, якія мы завем словамі «будні вайны». Гэтыя будні, бывае, куды больш жахлівыя, чым самі бітвы... І вось тут, мне здаецца, надзвычай яскрава раскрыліся ў ходзе мінулай вайны выключная Мужнасць, Мудрасць, Высакароднасць савецкага чалавека...

У серыі графічных лістоў «Партызаны», якую я не лічу завершанай (будуць, напэўна, і новыя лісты), няма батальных сцэн. Паказ батальных сцэн, мне здаецца, дае магчымасць больш гаварыць пра знешняе напружанне барацьбы. Але, як вядома, у Айчынную вайну вырашальным было не толькі вось гэтае знешняе, звязанае са святой нянавісцю да ворага, але і ўнутранае, тое, што звязана з невідочнымі зрухамі ў душы чалавечай. Тое, што на мове людзей ваенных завецца «маральны фактар». Пра гэта невідочнае ў душы словамі сказаць не так проста. Мабыць, тут і пачынаецца сфера выяўленчага мастацтва.

Ну, як растлумачыць словамі, чаму ў лісце **«На шчасце, на гора»...»** рукі маладых за спіной моцна сціснуты, а побач — кабура рэвальвера? Ведаю: крытыкі скажуць — сімвал. І будуць мець падставы... Але ці так усё проста? Ці так ужо выразна расшыфроўваецца сімвал? Шчыра кажучы, такое зблiжэнне спачатку не было задумана. Яно прыйшло ў працэсе работы. І набыло вось такі сэнс у залежнасці ад усяго астатняга ў лісце. І, мабыць, вось гэтыя счэпленыя рукі маладых побач з кабурой так не «чыталіся», калі б не рука камандзіра, на грудзях якога ордэн, калі б не рукі старога партызана, які трымае вінтоўкі вось гэтых дваіх, маладых. Калі стварауся гэты ліст, думкі мае былі пра нязломнасць і рашучасць савецкіх людзей, пра тое, што ў іх ёсць светлая Будучыня, за якую яны гатовы ў любы момант аддаць жыццё... Шчыра кажучы, хацелася, каб думка гледача выходзіла за рамкі канкрэтнага сюжэта — да пэўнага абагульнення.

Вось бачыце, як няпроста расказаць словамі. Справа ў тым, што жыццё — несмяротнае. Жыццё заўсёды працягваецца, нават, калі аддаецца за яго жыццё. Я некалі прачытаў раман Андрэ Стыля «Любіць будзем заўтра»... Не, любіць будзем сёння! Побач з небяспекай. Побач з пагрозай смерці. Будзем любіць і будзем змагацца за сваё права любіць сёння. І не аддадзім гэтае сваё права нікому і ніколі! Як не аддадзім нашай зямлі. Нашай свабоды. Усяго, што здабылі і абаранілі ад ворагаў нашы дзяды і бацькі.

Не ведаю, ці прачытае гэта глядач...

Ліст **«Маці»...** У кожнага чалавека ёсць маці. Пачатак жыцця. Такая родная ўсмешка... Такая пяшчота... І паспрабуйце перадаць словамі тое, што адчувае маці, калі праводзіць сына на вайну... Паспрабуйце зразумець мудрасць маці, калі яна апошні раз адрывае рукі ад роднага, ад крывінкі сваёй, ад свайго Сусвету і, выціраючы слёзы, недзе ў самай глыбіні душы скрозь боль адчувае: гэта яму, яе сыну, трэба бараніць іншых мацярок, жыццём сваім сплаціць жыццё ненароджаных яшчэ сыноў... Ах, як нялёгка выказаць гэтае жахліва супярэчлівае і складанае ТРЭБА, над сутнасцю якога біўся яшчэ Рафаэль. Яго мадонна аддае сваё дзіця людзям, свету... Аддае на пакуты...

Цяжка расказаць пра гераізм нашых маці, пра той пякельны боль, што жыве ў іх сэрцах. Не ведаю, ці быў у жыцці такі факт, каб маці набівалі патроны ў стужкі і дыскі. Але ведаю, што на вачах у маці катавалі **сыноў**.

Каб расказаць пра маці на вайне, я звярнуўся да вось такога нікім не апісанага, нідзе не вычытанага сюжэта: рукі, якія створаны, каб песціць немаўля, збіраць калоссе, жаць, ткаць дзеля жыцця,— гэтыя рукі ткуць смерць... Вось сказаў так і думаю: усё гэта куды больш складана. Гэтыя рукі ткуць смерць для ворага, а значыць — жыццё для Радзімы.

Ніколі не забуду звычайны рэпарцёрскі здымак — в'етнамскія жанчыны памагаюць байцам. Імгненна ўяўленне падказвае: было так і ў нас, у тую вайну. Было заўсёды. Праз усю гісторыю свабодалюбівых народаў, якія бараніліся ад варожай навалы...

Пра гэта думалі, пра гэта «гаварылі» ў сваіх творах Гойя, Кольвіц... Пра гэта будуць думаць тыя, што прыйдуць пасля нас...

Вайна — гэта не толькі салдаты... Гэта ўвесь народ... Іменна ў барацьбе народу, у яго з'яднанасці — ярчэй за ўсё выяўляецца гераічнае ў савецкім характары...

Лісты **«Смага», «Развітанне»...** Не думаю, што скажу словамі пра іх больш, чым сказана ў саміх лістах сродкамі графікі...

Адно падкрэслю: у маіх работах няма ні аднаго стрэлу. Мяне цікавіла другое — паказаць выбух у самім чалавеку. Выбух яго пачуццяў. Барацьбу яго пачуццяў, у якіх галоўнае — нязгасная любоў да Радзімы, што чырвонай ніткай праходзіць праз усе яго ўчынкі.

**Арлен КАШКУРЭВІЧ.**



# ЛАЎРЭАТЫ ЛЕНІНСКАГА ГОДА

**ПЯТРУСЬ БРОЎКА. Дзяржаўная прэмія імя Янкі Купалы прысуджана за кнігі паэзіі «МІЖ ЧЫРВОНЫХ РАБІН» і «ЗАЎСЁДЫ З ЛЕНІНЫМ».**



У гэтых кніг — жывы, цёплы чалавечы голас. У ім то пачуецца трывога і боль, бо не ўсюды спакойна на нашай зямлі — недзе гінуць на вайне людзі, недзе падаюць, як краскі, скошаныя кулямі дзеці, то адзавецца радасць — ды такая, што ў ёй прасветліцца да самага дна тая глыбінная крыніца, у якую некалі зірнула маладзенькая, з сярпом на плячы, муза Петруся Броўкі ды і задзівілася — на ўсё жыццё.,.

Гартаеш старонку за старонкай і адчуваеш, як суцішана і думна сёння ў паэтавым свеце. Пераважаюць настроі і колеры восені, але не той панурай, дажджлівай і хмарнай, якая прыходзіць, нібы кара за нейкія грахі, а бадзёрай, празрыстай, шматфарбнай, калі шырэйшым становіцца свет, яснейшымі — далі. Прасвятленне — тэма многіх вершаў паэта. Ён пераацэньвае адны свае каштоўнасці, знаходзіць другія, і ў гэтым пафасе роздуму адкрываюцца новыя магчымасці для духоўнага росту, для далейшага ўдасканалення таленту.

Але ў паэта ёсць тое, што не падлягае ніякім пераацэнкам,— гэта яго вернасць народу, роднай зямлі, Ленінскаму сцягу. Пра гэта ён гаворыць у сваіх вершах горача і пераканана.

Пятрусь Броўка — паэт шырокага эмацыянальнага дыяпазону. Імпульсіўны, уражлівы, ён то гляне на свет і на сябе з тою бясстрашнай яснасцю бачання, якую дае чалавеку ўзрост:

Восень, бабіна лета, туман на траву,
Шархатанне асін...
Я з сівой галавой быццам месяц плыву
Між зялёных галін,—

то, адчуўшы ў душы яшчэ не растрачаныя сілы, усклікне молада і бадзёра:

Ах бы зноў аброць у рукі —
Паганяцца за канём!



Развітанне.

Арлен КАШКУРЭВІЧ. Серыя «ПАРТЫЗАНЫ». Афорт.



Маці.

Арлен КАШКУРЭВІЧ. Серыя «ПАРТЫЗАНЫ». Афорт.



На шчасце і на гора.



Смага.

Арлен КАШКУРЭВІЧ. Серыя «ПАРТЫЗАНЫ». Афорт.

Потым полюсы адчуванняў зблiжаюцца, мудрая прасветленасць зліваецца з маладым максімалізмам, і тады ў душы паэта нараджаюцца такія шчырыя, такія харошыя радкі:

Ах, як хутка час праходзіць, ах, як хутка час бяжыць,
Я б хацеў, пяро, з табою доўга-доўга гаварыць.
Я ж яшчэ не ўсё агледзеў і не ўсё адчуў душой,
Працаваць нам, працаваць нам, ранавата на спакой.

Добрая кніга заўсёды выклікае цікавасць і да самое асобы пісьменніка. Што ж, вось вам яшчэ адзін штрых характару Петруся Броўкі.

...Мы з Валянцінам Ждановічам, пераглянуўшыся ад няёмкасці — Пятро Усцінавіч толькі-толькі вярнуўся дадому пасля цяжкай хваробы — ціха і не вельмі рашуча пераступаем парог яго кватэры. І не паспяваем зачыніць за сабой дзверы, як да нас даносіцца характэрны бадзёры паэтаў голас — ён з некім гаворыць па тэлефоне:

— ...яго рэдактарам? А што, будзе працаваць! Ён — хлопец цягавіты.

Усё зразумела: галоўны рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі прыступіў да выканання сваіх абавязкаў.

— Заходзьце, заходзьце,— паяўляецца ў дзвярах свайго кабінета бадзёры, рухавы Пятро Усцінавіч.— Гэта мне з Камітэта па друку званілі — падрыхтаваны другі том энцыклапедыі. Першы бачылі?

— Бачылі. І парадаваліся — добра выдадзены. Але прабачце, Пятро Усцінавіч, як ваша здароўе, як вы сябе адчуваеце?

— Дзякуй. Няблага. Добра такі падлячыў мяне Мікола Мікадымавіч Маліноўскі. Між іншым, наш зямляк, з Вілейкі. Працуе ў Крамлёўскай бальніцы... Дык, кажаце, першы том вам спадабаўся? До-обра. Ад каго ні чуў — усім падабаецца. І другі будзе не горшы!

— Пятро Усцінавіч, і вось так, не паспеўшы закрыць бюлетэнь, адразу ў лямку?

— А вы думаеце, я там што рабіў? — ён ківае галавой некуды за акно.— Пра хваробу думаў? Працаваў патроху! Паэмку невялікую напісаў — «Роздум пра бяссмерце». Гэта і пра бяссмерце герояў, што аддалі сваё жыццё за шчасце людзей, і пра бяссмерце ідэй Леніна, пра бяссмерце народу, жыцця. Відаць, надрукую яе ў «Звяздзе». Вось так. Думаў пра бяссмерце і — не збіраўся паміраць,— смяецца Пятро Усцінавіч, і ў смеху яго малады задзёр і маладая нястомнасць.

Добрага здароўя вам, Пятро Усцінавіч, на доўгія, светлыя гады!



**МІХАСЬ САВІЦКІ.** ***Дзяржаўная прэмія прысуджана за карціны: «ПАКАРАННЕ СМЕРЦЮ», «ХЛЯБЫ», «РАБОЧЫЯ».***

Вялікі светлы пакой, у мастакоў ён завецца — майстэрня. Пах фарбаў, на сцяне знаёмая, па выстаўцы, «Легенда пра Міная Шмырова» («Цікава, чаму менавіта яна?»,— мільгае міжвольна думка.), і зяляніна вазонаў на шырокім акне. Іх многа, і сярод гэтага мноства асабліва выдзяляецца кактус: ён стаіць у кутку акна, натапырыўшы вострыя іголкі, і ў яго выглядзе адчуваецца нейкая ўпартая, задзірыстая сіла.

— Мае гадаванцы,— усміхаецца гаспадар майстэрні Міхась Савіцкі, і позірк яго спыняецца на кактусе крышку даўжэй, чым на іншых «гадаванцах».

Гаворка завязваецца адразу. Міхась — я заву яго так па праву старэйшае — вельмі цікавы субяседнік. Ён шмат чаго бачыў у сваім жыцці, перажыў, шмат чытаў, і за ўсім, што ён гаворыць, адчуваецца нястомная работа думкі.

— Міхась, што вы болей за ўсё цэніце ў мастацтве?

— Вялікую думку. Але вялікія думкі выспяваюць толькі на глебе высокай культуры. Вось чаму так важна з першых крокаў навучання будзіць у будучага мастака імкненне да авалодання культурай, уменне мысліць самастойна, аналізаваць. Не будзе гэтага — не будзе і мастака. Скажаце — элементарна... Добра! Ужо дзесяць выпускаў мае наш Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Мы ведаем Асецкага, Кашкурэвіча, Паплаўскага, Сумарава. А астатнія — дзе яны?.. Я не кажу, акадэмічная вывучка патрэбна, без яе не абысціся, але каб умельства дало выбух, патрэбна іскра думкі.

— Дарэчы, пра вучобу. Хто з вашых настаўнікаў вам запомніўся і чаму? І што вы наогул разумееце пад словам «вучоба»?

— Запомніўся мне вельмі добра мой настаўнік Дзмітры Канстанцінавіч Мачальскі. Цудоўны аналітык! А пра вучобу — складанае гэта пытанне. Закончыў я Сурыкаўскі мастацкі інстытут у Маскве, дыплом мой прыняты быў добра, і тут я толькі зразумеў, што вельмі мала чаго ўмею. Прыйшлося садзіцца самому і заканчваць другі, свой, інстытут. Толькі недзе ў шэсцьдзесят другім годзе я адчуў, што нешта разумею і нешта магу. І пасля гэтага напісаў сваіх «Партызан» і «Партызанскую мадонну». Па-мойму, мастак вучыцца ўсё жыццё. І болей за ўсё — на сваіх няўдачах. Вось у мяне,— Міхась ківае на сваю «Легенду...»,— дрэнная карціна, але мне трэба было рашыць цэлы шэраг задач, для мяне — новых, і я пайшоў на эксперымент. Але скажу, што без гэтай няўдачы ў мяне не было б наступных, лепшых карцін.

— Цікава, якія гэта былі задачы?

— Колер. Святло. Але, можа, болей за ўсё я шукаў шляхоў раскрыцця героя і гераічнага. Стары жывапіс, я маю на ўвазе абразы, вельмі ярка вырашаў праблему героя. Таму я звярнуўся да яго вопыту. А наогул я веру толькі таму, да чаго дакрануся сваімі рукамі.

— Што для вас самае складанае?

— Дамагчыся, каб карціна несла эмацыянальны зарад.

— Ваша далёкая мэта ў творчасці?

— Напісаць свайго цудоўнага чалавека. А самым цудоўным для мяне з'яўляецца чалавек працы.

— Міхась, а пра што цяпер ваша думка?

— Хачу напісаць «Хатынь» — пра лёс беларускай вёскі. Гэта я кажу вельмі агульна... І яшчэ недзе варушыцца задума карціны, якую я для сябе назваў «Праўленцы» — зноў жа пра вёску. Так што думак многа, працы многа, а да шэдэўраў пакуль далёка...

Нехта стукае ў дзверы і напамінае Міхасю, што час ужо збірацца на пасяджэнне нейкай там камісіі.

Мы развітваемся.

**АНАТОЛЬ БАГАТЫРОЎ.** Дзяржаўная прэмія прысуджана за кантату «БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ».



Вядомага кампазітара, загадчыка кафедры кампазіцыі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі прафесара Анатоля Васільевіча Багатырова мы засталі пасля заняткаў у класе. Пасадзіўшы нас за столік, за якім нядаўна сядзелі яго вучні, Анатоль Васільевіч сеў ля раяля і стомлена правёў рукою па твары. Відаць, доўга «мучыць» яго не трэба...

— Анатоль Васільевіч, па якім шляху, на вашу думку, трэба накіроўваць сёння пошукі маладых?

— Перш чым шукаць, трэба ведаць, што шукаеш. А гэтыя веды дае вывучэнне рускай, зарубежнай класікі, а таксама таго лепшага, што ёсць у нашай савецкай музыцы. Самае новае, калі да яго прыгледзецца ўважліва, мае за сабой вялікую традыцыю.

— Што трэба кампазітару, каб быць арыгінальным?

— Каб мець свае аблічча, кампазітар павінен быць цесна звязаны з мастацтвам свайго народа, з яго культурай. Нацыянальнае — ствольны корань вялікага мастацтва. Гэта не ўсе разумеюць, на вялікі жаль... Слабасць нашых многіх музычных твораў у тым, што яны не маюць глыбокіх каранёў у нацыянальнай глебе. Возьмем прыклад з літаратуры. Ну, скажам, чаму для мяне,— ды і не толькі для мяне, —вельмі цікавы паэт Уладзімір Караткевіч? Чаму яго зборнікі паэзіі з ахвотай купляе, як я заўважыў, наша музычная моладзь? Ды таму, што ён дае нам адчуць, якія глыбокія карэнні мае наша гісторыя, наша культура. А з гэтага ж вырастае пачуццё патрыятызму. Або ўзяць яго раман «Каласы пад сярпом тваім» — вельмі патрыятычная кніга. Цікавы для мяне таксама Ніл Гілевіч — у маёй кантаце «Беларускія песні» адна частка напісана на яго словы. Я збіраюся бліжэй пазнаёміцца з гэтым паэтам.

— Помніцца, у вас даўняя дружба з беларускімі паэтамі?

— Так, я напісаў многа песень на словы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Уладзіміра Дубоўкі, Максіма Лужаніна. Не так даўно напісаў цыкл рамансаў на словы Аркадзя Куляшова.

І традыцыйнае пытанне:

— Над чым вы цяпер працуеце?

— Хачу напісаць некалькі твораў для голасу з сімфанічным аркестрам.

Мы дзякуем за гутарку, развітваемся, і мне ўспамінаецца палеская «Чарачка», апрацаваная Анатолем Багатыровым: у выкананні хору Рыгора Шырмы яна гучыць вельмі сімфанічна.

Інтэрв'ю ўзяла **Вера ПАЛТАРАН.**
Фота **Валянціна ЖДАНОВІЧА.**

**ВЕРА ПАЛТАРАН.** Дзяржаўная прэмія імя Лепяшынскага прысуджана за зборнік нарысаў «КЛЮЧЫ АД СЕЗАМА» і нарыс «ДЗІВАСІЛ».



За пяць год сумеснай працы, здавалася б, можна многа даведацца пра чалавека, якога, дарэчы, глыбока паважаеш.

Не адна гаворка была за гэты час паміж намі. І кожная з іх прыносіла ў мой духоўны свет яшчэ адну кропельку святога пачуцця любві да чалавека.

І вось цяпер, калі даводзіцца браць інтэрв'ю з прычыны прысуджэння Веры Сямёнаўне Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне журналістыкі, першае, на што яна звяртае ўвагу, гэта — унутраны свет чалавека. Толькі праз гэта, на яе думку, журналіст можа зразумець свой час.

Я зацікавіўся, чаму Вера Сямёнаўна абрала сабе нялёгкую прафесію журналіста.

— У маёй натуры — умяшанне ў жыццё. Журналіст, па-мойму, як сталявар з гарачай печы, бярэ штодзённыя пробы жыцця і робіць іх дэталёвы аналіз. Чалавек у наш час сталее хутка, і трэба вучыцца як мага лепш уплываць на працэсы яго фарміравання.

— У вашай творчасці вельмі моцна вылучаецца палеская тэма. Вядома, што вы родам з Палесся, але ж, відаць, у вас былі і нейкія іншыя падставы пісаць пра сваіх землякоў?

— Так, былі. Справа ў тым, што на Палессі яшчэ вельмі моцна жывуць народныя традыцыі. Ды і, на маю думку, нішто не адчувае такой вялікай патрэбы ў даследаванні, як наша сучаснае быццё — у самым шырокім разуменні гэтага слова. Як бы мы ні праграміравалі чалавека будучыні, у нас няма для яго іншай глебы, іншага насеўку, як чалавек сённяшні. Таму трэба дэталёва вывучаць сённяшняга чалавека.

— Што вас цікавіць, акрамя вёскі?

— Я працую цяпер над новай кнігай «Гарачая кропля». Калі **атрымаецца** (Вера Сямёнаўна падкрэслівае гэтае слова), я паспрабую ў ёй расказаць пра сённяшнюю гарадскую жанчыну, якой даводзіцца, адклаўшы убок кнігу або выйшаўшы з-за кафедры, станавіцца ля таго катла, дзе кіпіць, варыцца, сыпле гарачымі пырскамі штодзённае чалавечае жыццё.

Спадзяемся, што хутка мы ўбачым новы твор Веры Палтаран. А значыць, даведаемся больш і пра яе самую.

Інтэрв'ю ўзяў **Валянцін ЖДАНОВІЧ.**




**ТРЭЦІ СЕМЕСТР.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.**

# ГАРТАВАННЕ ПРАЦАЙ

Няма патрэбы пераказваць змест гэтай невялікай кніжкі, скажу толькі, што чытаецца яна з цікавасцю. Аўтары, актыўныя ўдзельнікі многіх будоўляў на цаліне, змаглі перадаць у сваёй кнізе і незвычайны каларыт тых мясцін, дзе ім давялося працаваць з беларускім студэнцкім атрадам, і радасць калектыўнай працы, і рамантыку працоўных будняў, і працэс станаўлення характараў сваіх таварышаў.

Пераканаўча, з лёгкім гумарам расказваецца пра расчараванні і няўдачы, якія падпільноўвалі нявопытных будаўнікоў на першым часе, і пра тое, як студэнты з уласцівай ім бадзёрасцю пераадольвалі цяжкасці, загартоўваліся, мужнелі, станавіліся сапраўднымі будаўнікамі — «каралямі» саману, «гросмайстрамі» тынкоўкі, умельцамі на ўсе рукі.

1963 год быў годам вялікай беларускай будаўнічай цаліны. На Урал з Беларусі прыехала 2 500 студэнтаў. 16 вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі ўзнялі свае флагі ў 67 саўгасах, калгасах і пад радных арганізацыях. Рыхтавалі саман, будавалі жылыя дамы, школы, бальніцы, аўтатранспартныя майстэрні, кароўнікі. За першы будаўнічы семестр было асвоена 3 мільёны 700 тысяч рублёў капіталаўкладанняў.

Такі пачатак. А пасля ўсё пайшло ўгору — і колькасць добраахвотнікаў-будаўнікоў, і колькасць здадзеных аб'ектаў, і колькасць асвоеных капіталаўкладанняў. І вось вынік шасці працоўных семестраў: асвоена 30 мільёнаў рублёў капіталаўкладанняў, што роўна тром з палавінаю тысячам двухкватэрных дамоў. Цэлы горад!

На першым усесаюзным злёце студэнтаў-будаўнікоў, які адбыўся ў 1966 годзе ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў, беларускаму зводнаму цаліннаму атраду былі ўручаны Памятныя сцягі ЦК КП Казахстана і Савета Міністраў Казахскай ССР, а таксама Чырвоны сцяг ЦК ВЛКСМ і Цэнтральнага штаба студэнцкіх будаўнічых атрадаў.

Але справа не толькі ў добрых выніках працы, не толькі ў тым, што студэнты-будаўнікі зрабілі вялікі ўклад у агульную справу. Карысць куды большая. Працоўныя семестры зрабілі добры ўплыў на свядомасць маладых людзей, цаліна з'явілася для іх сапраўднай школай камуністычнага выхавання ў працы.

Першы сакратар ЦК ЛКСМБ Г. Жабіцкі ва ўступным слове да кнігі зусім слушна зазначае: «Стваральная дзейнасць студэнцкіх атрадаў — гэта не толькі важкі ўклад у гаспадарчае будаўніцтва, але і апрабаванне новых форм спалучэння працы і выхавання грамадзянскай сталасці кожнага маладога чалавека».

Студэнты на цаліне не толькі будавалі. Увесь свой вольны час, якога было не так ужо і многа, яны аддавалі палітычнай і культурнай рабоце сярод насельніцтва. Многа цікавых спраў і пачынанняў яны паспелі здзейсніць за кароткі працоўны семестр: тут і шэфства над дзецьмі рабочых саўгаса, і арганізацыя лагераў-спадарожнікаў, і даклады, і гутаркі, і афармленне чырвоных куткоў, і правядзенне маладзёжных вечароў, спартыўных спаборніцтваў, паходаў па месцах рэвалюцыйнай і баявой славы... За гэта ім таксама ўдзячны мясцовыя жыхары.

Весела і дасціпна праходзіў адпачынак у саміх студэнтаў. Прачытаўшы раздзел «Зоркі цаліны», чытач пазайздросціць невычэрпнай фантазіі тых, хто наладжваў «Святліцу князя Алега» і кафэ «Вясёлы суслік».

Студэнты набывалі ў будаўнічых атрадах і навыкі гаспадарання. Многія з тых, хто працаваў у штабах будаўнічых атрадаў, у абласным, раённых і саўгасных штабах, сталі ўмелымі арганізатарамі вытворчасці і выхаваўчай работы.

Так, трэці семестр стаў для студэнтаў сапраўдным сур'ёзным экзаменам. І радасна тое, што беларускія студэнты-будаўнікі з гонарам вытрымалі яго.

**Анатоль ВЯРХОЎСКІ.**




**Гаўрыла ШУТЭНКА. ПАМЯЦЬ.**
**Вершы. На рускай мове.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.**

# ЗАЎСЁДЫ Ў СТРАІ

Гэта другі зборнік вершаў Гаўрылы Шутэнкі. Першы зборнік «Мае вочы» выйшаў у свет у 1961 годзе.

Я ведаю гэтага чалавека асабіста — мы пазнаёміліся летась у пансіянаце «Свіцязь» на Навагрудчыне. Было так: ідзе высокага росту чалавек, злёгку абапіраючыся на металічную палку. Ідзе не адзін, а ў даволі шчыльным акружэнні і нешта весела расказвае. Далучыўся і я да гэтай кампаніі. Цяжка было паверыць, што гэты сярэдніх год мужчына з калодачкамі ўзнагарод на грудзях, зусім нічога не бачыць. Але гэта так. Пра сябе ён нічога не расказваў, але размаўляць з ім было вельмі цікава. Потым ён выступіў на літаратурным вечары ў пансіянаце, дзе гаварыў пра паэзію, чытаў свае вершы.

У час вайны Гаўрыла Карнеевіч добраахвотна пайшоў на фронт. Быў разведчыкам. Пры вызваленні сяла Багародзіцкага, каля Славянска, быў цяжка паранены і страціў зрок. Але камуніст Шутэнка знайшоў сілы перамагчы нягоды і зноў вярнуўся да актыўнай дзейнасці ў мірных умовах. Ён стаў паэтам. Цяпер жыве ў Навагрудку.

Вершы Г. Шутэнкі нельга чытаць без хвалявання. Вось ён успамінае сваіх загінуўшых сяброў:

Мне верится, что вы сегодня с нами,
Мне верится, что вы среди живых.

А вось ён гаворыць з намі — даверліва і шчыра, і мы ўсім сэрцам адгукаемся на гэтую шчырасць паэта:

Идти во мраке тяжело,
Но я за солнце отдал зренье.
И оттого, что всем светло,
Во мне не гаснет вдохновенье.

І гэта сапраўды так. Паэт ніколі не смуткуе. На Навагрудчыне яго ведаюць як актыўнага выхавальніка моладзі на баявых і працоўных традыцыях старэйшага пакалення. Шутэнка часты госць у школах, у калгасах і саўгасах, на прадпрыемствах Гродзеншчыны. Былы разведчык, камуніст, паэт і цяпер у страі.

**г. Пружаны.**

**Уладзімір МАКАРЧЫК,**
**удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.**




**Юрка ГОЛУБ.**
**ГРОМ НА ЗЯЛЁНАЕ ГОЛЛЕ.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.**

# ЗАЗІРАННЕ Ў ВОЧЫ ВЕКУ

Кажуць, што кожны паэт павінен прыходзіць у літаратуру са сваёй тэмай, са сваім поглядам на свет. З поглядам — гэта так, А вось што датычыць тэмы...

Чытаючы вершы Юркі Голуба, прызнацца, я не надта думаў пра іх тэматы-

ку. Яны выклікалі ў мяне перш за ўсё эмоцыі — радасць і смутак, хваляванне і гнеў, у залежнасці ад абставін.

*Паэзія Юркі Голуба тоіць у сабе спробу* асэнсаваць жыццёвыя падзеі, факты, з'явы і наогул жыццё ў яго шматлікіх праявах. Яго вершы хвалююць, будзяць думку. Я не схільны сцвярджаць, што з паэтам заўсёды можна адразу згадзіцца, але нельга не адгукнуцца на яго радкі, нельга не задумацца пра тое, пра што думае і сам паэт. Дасягаецца гэтая «адваротная сувязь» цераз апасродкаванасць створаных вобразаў, якія вядуць цябе ад малога да вялікага, ад канкрэтнага да абстрактнага.

У кніжцы многа вершаў, у якіх апяваецца родны кут, бацькоўскі дом. Гэта зразумела. Ён даў сілу, надзяліў любоўю да роднай зямлі, даў песню ў дарогу жыцця. У такіх вершах, як «Дома», «Вясна», «Пачатак», «Бацьку», «Рось», «Вёска», як маладое віно, бродзяць сокі роднай зямлі, пералітыя паэтам у стройныя радкі. Проста карціць працытаваць невялічкі верш паэта «Вёска»:

За абрывамі,
агаленымі лемяшамі вятроў,
у акіяне панурага лесу,
пад вернаю вартай неба,—
вёска,
ты чакаеш мяне...
Ты чакаеш чарадою бяроз,
дзе кожная з іх
падобна на леснікову дачку.
Як даўно мы не бачыліся...
Ты чакаеш вачамі
шыбін
з адбіткамі кляновых далоняў
у зрэнках.
Чакаеш клямкай дзвярэй,
якая не калела ніколі,
сагрэтая рукамі радні
незлічонай.

Крыху псуе гэты малюнак «неадушаўлёнасць» адной дэталі — вёска чакае паэта «клямкай дзвярэй».

Зборнік адкрываецца вершам «Зноў галубіныя веранды». Юрка Голуб спрабуе зазірнуць у вочы свайму часу, свайму веку, хоць зрабіць гэта і нялёгка: «павекі цяжкія ў века». Але паэт лічыць, што «мой век — мой скарб», і таму імкнецца разгледзець яго схаваную дабрату. І не для таго, каб толькі ўбачыць, але і асэнсаваць убачанае. І хоць яшчэ небагата напісана старонак у жыцці — маленства, дзяцінства, юнацтва — ды паэт хоча ператрэсці і тыя, каб пераканацца, ці не дарма іх пісаў, ці не пакрывіў у чым-небудзь душой.

Што зроблена — не перакрэсліць,
Не разламаць, як футарал.
І пада мной трывае крэсла,
Як кроквы дзесь на хутарах.

Такая шчырая споведзь не можа не выклікаць даверу да паэта. Тым больш, *што Юрку Голубу нічога не трэба перакрэсліваць.* У гэтым пераконваешся, калі чытаеш яго кніжку. Што датычыць паэтавага «крэсла», то будзем спадзявацца, што яно перажыве кроквы на хутарах.

*Не ўсе вершы ў зборніку аднолькавыя* па сваіх мастацкіх якасцях, не ўсе напісаны ўпэўненай рукой, аднак юнацкая прагнасць зразумець убачанае, пачутае, прачытанае — сучаснае яно ці мінулае — падкупляе сваёй непасрэднасцю і шчырасцю. І па сённяшні дзень бацькі расказваюць дзецям сваю адысею часоў імперыялістычнай вайны. Пра бежанцаў, пра іх вандраванні па Расіі, пра тугу па родным краі гаворыць паэт у вершы «Бежанцы».

О, беларусы! Белы, русы...
Няўмольнасць сцежак і пакут.
Сасна-падлетак стане брусам,
Выгнанне цягнецца пакуль.

*Не, не ўсё забываецца. Нават час не* можа сцерці, выкрасліць усё перажытае з памяці. Менавіта такую думку выказвае паэт у вершы «Час».

Глухія сцежкі
чорных людзей.
Яны зараслі барамі.
Пуцявіны першых каханых
адцвілі
лёгкімі абдуванчыкамі.
Барвовыя сляды барыкад
сцерла
падэшва жандара.
Барозны танкавых гусеніц
парaслі
бур'янамі і жытам...
Дымкі ў крынічным небе
змыла
слязьмі дажджу...
І ўсё ж сляды застаюцца!

У вершах «Перамога», «Сыны» бачны працяг тэмы: нішто не забыта, ніхто не забыты. Але тэма тут гучыць куды шырэй і больш драматычна. Калі ў «Перамозе» паэт гаворыць пра тое, што «вяртала родзічаў здалёк абдымкаў вольная лавіна», то ў вершы «Сыны» і да гэтага часу маці чакае сваіх сыноў, якіх «забрала заграніца: каго — рублём, каго — сілом!», і што цяпер яшчэ «ручніком сумуе покуць па сіне-спелых чабарах. І на пакосе, проста ўпокат не зграбці суму, не сабраць!», *а бабка не можа забыць,* «што быў сынок — такі, як зяць». Верш заканчваецца радкамі:

Штогод бабуля хату свенціць.
За абразамі — каласы...
Быў Трасцянец...
І быў Асвенцім...
І дзесь жыве далёка сын...

Паэту балюча бачыць, што яшчэ і цяпер «пад гул уквечаных сталіц сляза прапальвае сталы», тыя святочныя сталы, за якімі маці не бачыць сына, жонка — мужа, дзеці — бацьку.

Водгуллем мінулай вайны навеяны вершы «Чэрвень», «Партызанскія зямлянкі», «Хата Янкі Купалы», «Зброя не памірае». *Прызнацца, мяне ўразіла тое, што Юрка* Голуб звярнуўся да тэмы вайны. Здавалася б, што можа сказаць юнак, які сам не нюхаў пораху, пра той суровы час. Але варта прачытаць хоць адзін верш, і ты пранікаешся даверам да паэта. Як мастак адным мазком пэндзля можа змяніць увесь малюнак, надаўшы яму тое ці іншае пачуццё, так і паэт адным вобразам узнаўляе ў памяці да болю знаёмую карціну.

Сягоння жаваранку лёгка
Над травастоем Трасцянца.
А свет расколецца на часткі,
І не жаўрук таму віной,
Што свет жыве птушыным шчасцем
За нейкі міг перад вайной.

Дзе ўладарыць роздум, там скупа на словы. І таму верш паэта сцішаны, запаволены, як чарада аблокаў у высокім чэрвеньскім небе. І ў той жа час у ім ёсць нешта трывожнае.

Зброя не памірае
У руках...
У акопах...
Пад лісцем травы...
Зброя жыве!
Яна глядзіць на аблокі
Чорнай зрэнкай
Ствала.
Засыпае ёй вочы
Жвір траншэі
Забытай.
Б'ецца ў капсуль патрона
Зялёны
Прамень.
Толькі зброя маўчыць...
Так і трэба.

Верш «Эрнеста чэ Гевара», напісаны з вялікай цеплынёй і непасрэднасцю. Твору ўласцівы суровыя фарбы ў абмалёўцы аблічча рэвалюцыянераў. Паэт не хавае горыч страты, але не гэтае пачуццё напаўняе яго сэрца. Верш заканчваецца радкамі:

Маёр барадаты нанач
Цалуе мяне у лоб.

У іх, гэтых радках, сцвярджэнне думкі пра неўміручасць героя-рэвалюцыянера, які назаўсёды застаецца жыць сярод нас,— тут яго пачэснае месца. Але не буду пераказваць змест верша — гэта ўсё роўна, што спачатку кветку засушыць, а потым даць яе панюхаць...

Добрае ўражанне застаецца ад многіх вершаў. Падкупляюць яны лірызмам, свежасцю вобразаў, фарбаў. Наогул, трэба сказаць, што паэзія Юркі Голуба багатая на свежыя сродкі выяўлення думак і пачуццяў. Вось як гаворыць паэт пра надыход восені: хутка «жураў абвесціць, што пара снягі чакаць, ісці ў войска», бо ўжо «і лета згрэбена на сена, і сцежка у ночы не відна». І нечакана інтымнае: «губамі грэю да відна твае радзімкі, як насенне».

Імкненне быць непадобным на іншых, мець свой уласны голас, часам здраджвае паэту. Тады трапныя, пранікнёныя радкі змяняюцца загадкавымі, думкі трацяць сваю выразнасць і крышацца на часткі. Паэт імкнецца сабраць іх у радкі, перасыпаць і аздобіць шматкроп'ем. Але што ні рабі, а цяжка дадумацца, «што ў сабе затоіць спадманнае віно» («Пасля вяселля»). Або ўзяць верш «Зязюльчын лён». Вобразы ў ім настолькі складаныя, грувасткія, што іх цяжка зразумець.

Іду ў цябе, як на маленне.
Іду ў цябе, нібы ў сабор.
Ці рэкі сэрцаў не мялелі
Маёй раўні,
Маіх сяброў?

Куды ідзе паэт? У церам кахання? Чаму ж тады ў яго, як і ў яго сяброў, мялеюць рэкі сэрцаў? Адказу няма, «адказ — дрымучае маўчанне». Маўчаць горы, маўчаць вербы. Праўда, паэт не хоча маўчаць: «свае ж — дрымучымі (?) начамі аддам Сусвету (?) напавер». Што хоча аддаць паэт Сусвету, прачытаўшы верш, так і не ўявіш.

Накладныя выдаткі ў маладога паэта не такія ўжо і значныя і не засланяюць сабой лепшых здабыткаў. Будзем спадзявацца, што Юрка Голуб зазірне ў вочы нашаму веку і пакажа, што ў іх хаваецца.

**Міхась ТРУШКО.**




**Аркадзь ПІНЧУК. МНОГА-МАЛА. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.**

# НА ПАЧАТКУ ДАРОГІ

«Героі гэтага зборніка апавяданняў — савецкія воіны, афіцэры і салдаты нашага часу. Аўтар не імкнецца паказаць нешта незвычайнае ў армей-

скім жыцці, а шукае і знаходзіць цікавае ў паўсядзённых клопатах сваіх герояў, якія жывуць тымі ж чалавечымі пачуццямі, як і іх таварышы ў грамадзянскіх умовах». Так у анатацыі прадстаўлена першая кніжка прозы маладога пісьменніка Аркадзя Пінчука «Мала-многа», так, па сутнасці, вызначаны яе агульны ідэйна-тэматычны змест і асноўны пафас.

Аркадзь Пінчук піша пра тое, з чым непасрэдна звязаны на працягу многіх гадоў, чым жыве, што добра ведае. Гэта адчуваецца ў самім матэрыяле, у спецыфіцы канфліктаў, магчыма, нават у нейкім бадзёра-аптымістычным (у асобных выпадках, праўда, унутрана не матываваным) тоне, што ўласцівы яго апавяданням.

Бадай, найлепш удалося А. Пінчуку паказаць складанасць чалавечых лёсаў у апавяданні «Тыдзень на траіх». Светлая паэтычная плынь кахання, лёгка гумарыстычная — бытавых сяброўскіх адносін і драматычная, звязаная з прафесіяй сапёра, арганічна спалучаюцца, узаемапранікаюць, утвараючы рэальную карціну жыцця.

«Займалася бязвоблачная вясенняя раніца... На бязлюднай вуліцы дворнік ужо шоргаў па асфальце старой мятлой. Нехта з акна трэцяга або чацвёртага паверха прасіў кагосьці купіць кілаграм цукру. Кулямётным пошчакам абудзіў цішыню нейкі ранні матацыкліст. У доме насупроць уключылі радыёпрыёмнік.

Горад абуджаўся».

Такая прастата, натуральная лаканічнасць і дынамічнасць увогуле характэрны апавядальнай манеры маладога аўтара. Яго апавяданні чытаюцца лёгка, не стамляюць. Праўда, гэтая вартасць на нейкай грані можа стаць недахопам: ператварыцца ў легкаважкасць, паверххоўнасць, спрашчэнне.

Сама апавядальная манера — не аналітычная, не малюнкава-пластычная — прымушае пісьменніка адразу весці гутарку па сутнасці. Адчуваецца добрае разуменне жанру апавядання, яго магчымасцей.

Пачынаецца дзень — пачынаецца апавяданне. Жывуць у пакоі чатыры лейтэнанты. Нездарма ж пакой называюць «лейтэнанцкім кубрыкам». Прафесія ў іх адна — сапёры, а інтарэсы і захапленні—розныя. Усе кахаюць адну дзяўчыну — Злату. Аднаго з іх, інжынер-лейтэнанта Дэвіна, няма ў пакоі — ён размініруе завод. Нечакана прыходзіць камандзір і паведамляе, што Дэвін загінуў. Завод не размініраван — давядзецца ехаць некаму з іх. Лепш, калі хто-небудзь згодзіцца сам.

А ў гэтую хвіліну Цімур Зямны, напрыклад, марыць трапіць у зборную Саюза па гімнастыцы. «Вы не ўяўляеце, што значыць гэта... Трапіць у зборную Саюза. Хоць бы запасным. Увосень я вас катаў бы на ўласнай «Волзе». І наогул... Ніякіх табе размініраванняў, самаволак, дзяжурстваў... Толькі трэніроўкі. У лепшых спартзалах. На лепшых снарадах. У лепшых трэнераў».

Ніякай прафесіянальнай рамантыкі. Ніякіх высокіх парыванняў. Да таго ж яшчэ, здараецца так, што якраз у гэты час Цімура выклікаюць тэлеграмай дадому. Чакаеш, што ён якраз і паедзе, каб не ісці на размініраванне. А Цімур адчувае нейкае незадавальненне, трывогу, душэўную патрэбу зрабіць штосьці важнае, істотнае. І ён едзе размініраваць завод. Развязка знешне нібыта нечаканая, але па-мастацку заканамерная, апраўданая.

Сюжэтны прыём вось такога знешне нечаканага павароту, які мае багатую гісторыю ў сусветнай навелістыцы, А. Пінчук выкарыстоўвае даволі часта. На гэтым прыёме пабудаваны апавяданні «Буду верыць», «Заінелыя праўды», «Пятро Пятровіч», «Ліпа», «Двое», «Саната», «Нескладаны варыянт». Поспех чакае аўтара там, дзе, як у апавяданнях «Запрашэнне на «Лебядзінае возера», «Заінелыя праўды», прыём нараджаецца самім матэрыялам, жыццёвай сітуацыяй.

Чытаючы ж такія творы, як «Буду верыць», «Ліпа», нават увогуле цікавае апавяданне «Пятро Пятровіч», адразу адчуваеш, што нешта падобнае ўжо бачыў у кіно, чытаў у іншых, далёка не лепшых, кнігах. Вось адно з такіх апавяданняў — «Двое».

Рыхтуюцца вучэнні з баявой стральбой. Лейтэнант Малышаў марыць пра добрыя вынікі, першае месца. Але нечакана яго назначаюць начальнікам ачаплення. Даводзіцца сядзець ва ўкрыцці. Лёс прыводзіць туды незнаёмую дзяўчыну. Адбываецца шэраг банальна-камічных сцэн, у якіх, на думку аўтара, адбываецца духоўнае зблізжэнне герояў. Лейтэнант Малышаў на развітанне «дапамог ёй забрацца ў кабіну і ціха запытаўся:

— Дзе можна вас убачыць?

— Не ведаю. Дзякую вам.

— Няма за што.

— Не, сапраўды дзякую. За ўсё».

Нейкая ўяўная значнасць, нейкі нібыта падтэкст... А на самай справе ўся гісторыя спатрэбілася пісьменніку для таго, каб паказаць, што Малышаў раптам заўважыў, як наступіла вясна. На жаль, мы гэтага веснавога абуджэння ў душы Малышава не бачым, бо ўнутраны свет яго застаўся не раскрыты.

Іншы раз здаецца, што пісьменнік даследуе ўнутраны свет герояў, іх духоўны і душэўны патэнцыял на вузка асабістых чалавечых узаемаадносінах. Але прыглядзішся — і за прыватнымі падзеямі і фактамі высвечваюцца пэўныя тэндэнцыі часу, з'явы грамадска значныя.

Найлепш адчуваецца гэта ў вялікім апавяданні «Многа-мала». Лётчык Барыс думае пра сябе, пра свайго сябра Алеся...

«Мне ўсяго дваццаць чатыры.

Ужо дваццаць чатыры.

Чорт! Многа гэта ці мала! Калі многа, то чаму я адчуваў сябе бездапаможным блазнюком, які зусім не ведае жыцця? А калі мала, то адкуль у мяне гэта пучуццё перавагі над Алесем? Мы ж аднагодкі. Абодва афіцэры».

Пытае ў Алеся:

«Алесік, ты адкажаш мне? Многа ці мала — дваццаць чатыры?

— Гэта, як жыць... Я так думаю...»

Сапраўды, многа ці мала пражыта або перажыта, многа ці мала зроблена, выканана, адчута, перадумана, выпакутавана — усё залежыць ад аднаго: як жыць.

Апавяданне «Многа-мала» вылучаецца непасрэднасцю і прастатой у падачы жыццёвага матэрыялу. Гэта своеасаблівы ўнутраны дыялог двух сяброў — Барыса і Алеся. Адна і тая ж жыццёвая з'ява падаецца ў розных аспектах, з розных бакоў, з розных маральных пазіцый.

Барыс — практык. Усё ў яго жыцці выходзіць неяк дужа лёгка, проста. Нідзе і ні ў чым ён не сустрэў цяжкасцей, не прыклаў намаганняў. Таму нічога глыбока не адчуў, не перадумаў, не выпакутаваў. Адзін выпадак, калі на поўначы загінуў камандзір эскадрыллі, а жонка праз паўмесяца выйшла за другога, канчаткова разбіў яго веру ў каханне, у прыгажосць і чысціню чалавечых узаемаадносін. Ён дзівіцца з летуценнасці і рамантычнасці свайго сябра Алеся. А той — чалавек зусім іншы. Ён любіць жыццё, адчувае яго прыгажосць, верыць людзям, радуецца навакольнаму свету.

Каб даказаць, што ў поглядах на жыццё яго праўда, Барыс у дзень свайго нараджэння робіць так, што Валя, якую вельмі кахае Алесь, цалуе яго, Барыса. Алесь гэта бачыць. Жарт ператвараецца ў драматычную калізію. Сяброўства парушана.

Узаемаадносіны Алеся, Барыса і Валі паказаны псіхалагічна пераканаўча, адчуваецца драматызм адносін, напружанасць сюжэта. Але канцоўка апавядання засмучае. Аўтар чаго б тое ні каштавала, парашыў перавыхаваць Барыса. Толькі гэтае «перавыхаванне» дужа паспешлівае, у яго не верыш.

Дарэчы, канцоўкі апавяданняў менш за ўсё ўдаюцца пісьменніку. Менавіта тут найбольш відавочна парушаецца логіка жыццёвай і мастацкай праўды, назіраецца спрашчэнне, жаданне ўсё раскласці па палічках, нічога не забыць, карацей кажучы, паставіць усе кропкі над «і». А гэта вельмі шкодзіць мастацкасці.

Заслугоўвае сур'ёзнага папроку і мова апавяданняў. Некаторыя з іх успрымаюцца як дрэнныя пераклады з рускай мовы, а не арыгінальныя творы. «Быць на роўных», «хацела запытацца, ды гэта зусім немысліма», «набегшы вецер прыгнуў галіны», «інстынкт спрацаваў» «мільгаючыя вітрыны магазінаў», «ледаход ужо буяніў ва ўсю іванаўскую» — такія і да іх падобныя выразы не ўпрыгожваюць кнігу. Менавіта тут, у авалоданні моваю, бачыцца нам самая вялікая цяжкасць, якая стаіць перад Аркадзем Пінчуком. І далейшы яго лёс як пісьменніка ў значнай ступені будзе залежаць ад таго, як ён пераадолее гэтую цяжкасць.

З усяго сказанага сам сабою напрошваецца вывад: талент у маладога пісьменніка ёсць. Застаецца працаваць. Многа. Настойліва.

**Серафім АНДРАЮК.**



**І. І. КРАМКО, А. К. ЮРЭВІЧ, А. І. ЯНОВІЧ. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ.**
**Т. II. Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1968.**

# ВЫТОКІ І ШЛЯХІ СЛОВА

Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, якая толькі ў апошняе дзесяцігоддзе вылучылася ў асобную галіну беларускага мовазнаўства, стала прадме-

там пільнай увагі даследчыкаў. Нядаўна выйшаў з друку другі том гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Гэта — як бы працяг сістэматызаванага вывучэння гісторыі нашай літаратурнай мовы, папярэднія этапы якой асвятляюцца ў манаграфіі А. І. Жураўскага, якая склала першы том выдання.

Даследаванне грунтуецца на аналізе шматлікіх пісьмовых помнікаў XIX—XX стагоддзяў, многія з якіх да гэтага часу спецыяльна не вывучаліся. Прааналізаваны яны па арыгіналах, што дало аўтарам магчымасць зрабіць шэраг дакладных назіранняў над гісторыяй развіцця і станаўлення фанетычнай, арфаграфічнай, граматычнай і лексічнай сістэмы новай беларускай літаратурнай мовы.

Развіццё сродкаў і норм беларускай літаратурнай мовы аналізуецца ў шчыльнай сувязі з канкрэтнагістарычнымі абставінамі, якія абумоўлівалі грамадскія функцыі мовы і такім чынам уплывалі на працэс выпрацоўкі яе асноўных структурна-функцыянальных разнавіднасцей.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя падзяліла гісторыю Беларусі на два перыяды. У адпаведнасці з гэтым, аналіз гісторыі фарміравання літаратурнай мовы праводзіцца ў двух асноўных раздзелах: «Дакастрычніцкі перыяд» (аўтар І. Крамко) і «Паслякастрычніцкі перыяд» (аўтары А. Юрэвіч і А. Яновіч).

Доўгі час адзінай сферай выкарыстання новай беларускай літаратурнай мовы была мастацкая літаратура. Толькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя з'явілася публіцыстыка на беларускай мове, а ў пачатку XX стагоддзя ў сувязі з пашырэннем кнігадруку, узнікненнем беларускай легальнай прэсы пачалі друкавацца разнастайныя матэрыялы навукова-папулярнага характару. Зусім зразумела, што асноўную ўвагу пры вывучэнні асаблівасцей развіцця нацыянальнай мовы ў дакастрычніцкі перыяд І. Крамко звяртае на творы мастацкай літаратуры. Даследчык вызначае і падрабязна аналізуе фанетычныя, арфаграфічныя, марфалагічныя, лексічныя (у меншай ступені сінтаксічныя) асаблівасці ананімных твораў, твораў П. Багрыма, Я. Баршчэўскага, А. Рыпінскага, Я. Чачота, вызначае месца і значэнне творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча ў фарміраванні беларускай літаратурнай мовы.

Багаты фактычны матэрыял даў магчымасць сфармуляваць шэраг даволі трапных і пераканаўчых высноў. У прыватнасці, адзначаецца, што характэрнай рысай твораў беларускай мастацкай літаратуры XIX стагоддзя з'яўляецца відавочная сувязь іх аўтараў са сваімі роднымі гаворкамі.

Якасна новы этап у гісторыі беларускай пісьменнасці наступіў у пачатку XX стагоддзя, калі ў сувязі з уздымам нацыянальна-вызваленчай барацьбы ўзнікла беларуская легальная прэса і стала магчымым друкаванне кніг на роднай мове. Перыядычныя літаратурна-мастацкія і грамадска-палітычныя выданні, брашуры і кнігі навукова-папулярнага і навуковага характару пашыралі беларускую літаратурную мову, садзейнічалі яе структурна-функцыянальнаму развіццю, выпрацоўцы адзіных граматыка-правапісных норм, узбагачэнню лексікі і выяўленча-мастацкіх сродкаў. Так, паступова пашыралася ў практыцы беларускага кнігадруку і стала тыповай кірыліца (хоць яшчэ выкарыстоўвалася і лацінка), замацаваўся фанетычны прынцып перадачы на пісьме галосных і марфалагічны прынцып перадачы зычных (з некаторымі адхіленнямі пры перадачы дзекання, цекання і іншых спецыфічных фанетычных з'яў беларускай мовы), склаліся ці вызначыліся асноўныя граматычныя нормы, пачала фарміравацца беларуская нацыянальная тэрміналогія.

Увогуле, як слушна адзначаецца ў даследаванні, дзесяцігоддзе з 1906 па 1915 год было надзвычай важным у фарміраванні нацыянальнай літаратурнай мовы. Моўныя з'явы, характэрныя для ўсёй тэрыторыі Беларусі ці для большай яе часткі, даволі паслядоўна адлюстраваліся на старонках тагачасных беларускіх выданняў. Аналіз гэтага багатага фактычнага матэрыялу прывёў да вываду, што рашаючы ўплыў на выпрацоўку норм літаратурнай мовы зрабілі гаворкі ваколіц Мінска і Вільні. Таму не зусім зразумелая думка аўтара пра тое, што ў фанетыцы, марфалогіі і лексіцы больш прыкметна ўдзельная вага заходніх гаворак. Гэта пярэчыць вывадам самога аўтара. Акрамя таго, некаторыя беларускія даследчыкі сцвярджаюць, што хоць асобныя бакі граматычнай і фанетычнай сістэм беларускай нацыянальнай мовы фарміраваліся на абмежаванай дыялектнай аснове, аднак ва ўсім сваім аб'ёме нормы літаратурнай мовы адэкватныя граматычнай сістэме не асобнай групы гаворак, а ўсёй сукупнасці іх. Значыць, пытанне аб дыялектнай аснове беларускай літаратурнай мовы патрабуе свайго далейшага вывучэння, прычым не толькі на матэрыяле пісьмовых помнікаў, але і на дыялектных матэрыялах. Што да вызначэння лексічнай асновы беларускай літаратурнай мовы, то ва ўступе да работы сказана: «Адсутнасць поўных дыялектных слоўнікаў, асабліва заходняй часткі Беларусі, не дазваляе на сённяшні дзень вырашыць пытанне аб ролі канкрэтных гаворак у фарміраванні слоўнікавай базы сучаснай літаратурнай мовы».

Аналізуючы развіццё лексікі літаратурнай мовы ў дакастрычніцкі перыяд, І. Крамко пераканаўча даказвае, што папаўненне слоўнікавага складу адбывалася перш за ўсё за кошт уласнабеларускіх моўных рэсурсаў, шляхам запазычання і марфалагічнага калькавання. У некаторых выпадках даследчык вызначае, калі з'явілася ўпершыню тое ці іншае слова ў беларускай літаратурнай мове. Аднак асобныя сцвярджэнні недакладныя, а часам і супярэчлівыя. Так, у адным месцы кнігі сказана, што словы *прагрэс, геаграфія, тэкст, універсітэт, сіндыкат* упершыню ўвёў А. Ельскі, а ў другім месцы гаворыцца, што названыя словы засведчаны ўпершыню на старонках беларускіх дакастрычніцкіх выданняў пачатку XX стагоддзя. Увогуле слушна адзначаецца ў даследаванні, што лексіка беларускай літаратурнай мовы на пачатку XX стагоддзя намнога ўзбагацілася, але, таму што нацыянальная мова па-ранейшаму не мела права шырокага функцыянавання, яна заставалася небагатай на моўна-выяўленчыя сродкі.

Толькі пасля Кастрычніка, калі карэнным чынам змянілася становішча беларускага народа, развіццё літаратурнай мовы набыло небывалы ў гісторыі размах. Аналізуючы гэты працэс, А. Юрэвіч і А. Яновіч падрабязна спыняюцца на асаблівасцях функцыянавання літаратурнай мовы ў савецкі час, вывучаюць шляхі і спосабы выпрацоўкі і ўдасканалення яе фанетычных, арфаграфічных, марфалагічных, лексічных і сінтаксічных норм.

Даследчыкі адзначаюць, што працэс выпрацоўкі граматычных норм непарыўна звязаны са стварэннем падручнікаў, у якіх гэтыя нормы тэарэтычна абгрунтоўваюцца і прапануюцца для шырокай грамадскасці як абавязковыя. У першыя гады савецкай улады выйшла некалькі падручнікаў па беларускай мове, але найбольш удалым лічыцца «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча. Ён быў кандыдатам Пецярбургскага ўніверсітэта, вучнем А. А. Шахматава, буйным беларускім грамадскім дзеячам. На аснове аналізу гэтай кнігі А. Юрэвіч і А. Яновіч робяць вывад, што Б. Тарашкевіч, абапіраючыся на пісьмовыя традыцыі тагачасных беларускіх выданняў і кіруючыся асаблівасцямі цэнтральных беларускіх гаворак, даволі ўдала і правільна вызначыў важнейшыя граматычныя рысы новай літаратурнай мовы, а на падставе гэтага сфармуляваў асноўныя правілы нашага правапісу.

«Беларуская граматыка для школ» адыграла важную ролю ў выпрацоўцы мовазнаўчай тэрміналогіі. Аднак сцвярджэнне, што марфалагічная тэрміналогія, якой карыстаецца Б. Тарашкевіч, упершыню стваралася пры складанні гэтага дапаможніка, не зусім правільнае. Беларуская лінгвістычная тэрміналогія пачала фарміравацца яшчэ ў дакастрычніцкі перыяд, і сярод тэрмінаў, засведчаных на старонках дарэвалюцыйных выданняў пачатку XX стагоддзя, сустракаецца каля 30 розных марфалагічных тэрмінаў.

Нармалізацыя арфаграфічных і граматычных сродкаў беларускай літаратурнай мовы ў далейшым адбывалася побач з вялікай работай па развіццю і ўнармаванню лексікі, што знайшло сваё адлюстраванне ў шматлікіх слоўніках літаратурнай і дыялектнай мовы, у распрацоўцы беларускай навуковай тэрміналогіі. Аўтары аналізуюць лексікаграфічную працу нашых лінгвістаў першых паслякастрычніцкіх дзесяцігоддзяў як значную з'яву ў беларускім мовазнаўстве і ў культурным будаўніцтве рэспублікі наогул. Тагачасныя перакладныя беларуска-рускія і руска-беларускія слоўнікі, так званыя практычныя слоўнікі, а таксама тэрміналагічныя і дыялектныя зборнікі мелі вялікае значэнне для сістэматызацыі багатага лексічнага матэрыялу і тым самым садзейнічалі выпрацоўцы адпаведных лексічных норм. Тыя ж памылкі, якія сустракаюцца ў слоўніках, А. Юрэвіч і А. Яновіч тлумачаць складанасцю шляхоў развіцця нацыянальнай мовы, наяўнасцю розных поглядаў на крыніцы і рэсурсы ўзбагачэння і ўдасканалення слоўнікавага складу мовы.

Аналіз лексічных сродкаў, як адзначаецца ва ўступе да кнігі, абмежаваны «асаблівасцямі двух асноўных адгалінаванняў літаратурнай мовы — мовы мастацкай і навукова-публіцыстычнай літаратуры, якія выразна супрацьстаўляюцца адна адной рознымі функцыямі слова — камунікатыўна-мастацкай, з аднаго боку, і толькі камунікатыўнай — з другога боку». Заўважым, аднак, што ў публіцыстычных творах слова выконвае не толькі камунікатыўную функцыю, але і вобразную, з'яўляецца сродкам стварэння яркіх эпітэтаў, метафар і г. д. Больш таго, у мове публіцыстычнай літаратуры выкарыстоўваюцца прастамоўныя і нават стылістычна зніжаныя словы, што недапушчальна ў навуковых выданнях. Таму мэтазгодна, мабыць, вылучаць навуковы і грамадска-публіцыстычны стылі як асобныя структурна-функцыянальныя разнавіднасці мовы.

На падставе багатага фактычнага матэрыялу даследчыкі робяць вывад, што слоўнікавы склад беларускай літаратурнай мовы папаўняўся перш за ўсё за кошт стварэння новых моўных адзінак на базе наяўнага лексічнага матэрыялу, у выніку пераасэнсавання асобных слоў, шляхам запазычання і марфалагічнага калькавання.

Шмат цікавых назіранняў у апошнім раздзеле кнігі, у якім даецца агульная характарыстыка беларускай літаратурнай мовы 30-х—60-х гадоў XX стагоддзя,

разглядаюцца тэндэнцыі развіцця лексікаграфіі, аналізуюцца лексічныя сродкі мастацкай, навуковай і публіцыстычнай літаратуры.

У адной кнізе, зразумела, нельга вырашыць усе пытанні гісторыі фарміравання і станаўлення беларускай літаратурнай мовы. Патрабуе далейшага вывучэння, у прыватнасці, пытанне пра сувязі беларускай літаратурнай мовы на розных этапах яе развіцця з вуснапаэтычнай творчасцю народу і з іншымі мовамі, паколькі гэта не толькі вызначае агульныя і спецыфічныя рысы ў развіцці той ці іншай мовы, але і абумоўлівае ў значнай ступені яе ўнутраную структуру. Да нашага часу не вывучаны ў нас такія праблемы, як паняцце «норма» і яе «варыянт», асаблівасці фарміравання розных структурна-функцыянальных разнавіднасцей мовы, тэндэнцыі прагрэсу беларускай літаратурнай мовы ў адпаведнасці з агульнымі тэндэнцыямі развіцця нацыянальных літаратурных моў ва ўмовах сацыялістычнага грамадства.

«Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» — каштоўны ўклад у беларусазнаўства. Яе з поспехам выкарыстаюць студэнты і настаўнікі і з удзячнасцю прымуць усе, каго цікавіць і хвалюе гісторыя роднай мовы і літаратуры.

Віктар КРАСНЕЙ.

● ● ●

# ПАБРАЦІМЫ

Сувязі паміж народамі — матэрыяльныя і духоўныя — гэта аб'ектыўны працэс гістарычнага развіцця грамадства. Яшчэ К. Маркс і Ф. Энгельс у «Маніфесце Камуністычнай партыі» адзначалі, што па меры развіцця буйнай прамысловасці пры капіталізме «на змену старой мясцовай і нацыянальнай замкнёнасці і існаванню за кошт прадуктаў уласнай вытворчасці прыходзіць усебаковая сувязь і ўсебаковая залежнасць адной нацыі ад другой». Пры сацыялізме эканамічныя, палітычныя і культурныя сувязі паміж нацыямі становяцца яшчэ шчыльнейшымі, бо яны свядома накіроўваюцца воляю працоўных мас і іх авангарда — Камуністычнай партыі.

Дружба паміж беларускім і ўкраінскім народамі завязалася ў самыя першыя гады савецкай улады. Ужо тады яны пачалі абменьвацца сваімі духоўнымі каштоўнасцямі. І таму з'яўленне ва ўкраінскім друку вершаў М. Багдановіча «Як птушка ў гібкіх трасніках» (1923) і М. Чарота «Маладняк» (1924) у перакладзе В. Чугая і І. Шаўчэнкі, а ў беларускім друку верша О. Олеся «Я болей не плачу...» (1921) ў перакладзе У. Жылкі было з'явай заканамернай.

Пра тое, як завязвалася гэтая дружба, гаворыцца ў артыкуле Ц. Гартнага «Начаснае пытанне». У маі 1923 года рэдакцыя часопіса «Полымя» атрымала ліст ад украінскай арганізацыі пралетарскіх пісьменнікаў «Гарт». Украінскія калегі пісалі, што задаліся мэтаю «пазнаёміцца самім і азнаёміць найбольш шырокія колы рабочых і сялян Украіны з творчымі дасягненнямі Савецкай Беларусі». Зразумела, што рэдкалегія «Полымя» горача адгукнулася на гэтую прапанову. Праз месяц «Полымя» паведаміла сваім чытачам, што аб'яднанне беларускіх пісьменнікаў «Маладняк» устанавіла шчыльныя кантакты з украінскімі пралетарскімі пісьменнікамі, і сведчаннем гэтага з'яўляецца перапіска, абмен выданнямі, работа над перакладамі і г. д.

Устанаўленне асабістых кантактаў пісьменнікаў Беларусі і Украіны прывяло да больш глыбокага знаёмства з літаратурнай творчасцю кожнага народа. У гэты час Янка Купала публікуе ў часопісе «Полымя» пераклад паэмы В. Палішчука «Ленін», а Ц. Гартны перакладае апавяданні ўкраінскіх празаікаў.

Аднак першыя крокі не задавальнялі ні беларускіх, ні ўкраінскіх пісьменнікаў. Развіццё літаратуры, пошукі форм і метадаў паказу чалавека сацыялістычнага грамадства патрабавалі больш плённага абмену духоўнымі набыткамі. Менавіта гэтым і кіравалася Цэнтральнае бюро «Гарта», калі ў пачатку 1925 года прыслала афіцыйнае запрашэнне Цэнтральнаму бюро «Маладняка» на І Усеўкраінскі з'езд пралетарскіх пісьменнікаў. Беларускі «Маладняк» прадстаўлялі на з'ездзе Я. Пушча і У. Дубоўка. Яны выступілі разам з І. Мікітэнкам, У. Сасюрам і іншымі ўкраінскімі паэтамі на вечары паэзіі ў Дзяржаўным драматычным тэатры імя Івана Франка. Аўдыторыя асабліва цёпла сустрэла выступленні беларускіх паэтаў.

Каб замацаваць дружбу з украінскім «Гартам», ЦБ «Маладняка» пасылае на Украіну кіраўніка арганізацыі М. Чарота, а таксама А. Вольнага і У. Дубоўку. Дэлегацыя прабыла на Украіне больш за два тыдні. Госці з Беларусі прысутнічалі на пленуме ЦБ «Гарта», інфармавалі сваіх украінскіх сяброў пра літаратурна-мастацкае жыццё рэспублікі, выступалі са сваімі творамі на вечарах паэзіі перад грамадскасцю Харкава і Кіева. М. Чарот на адным з такіх вечароў чытаў сваю паэму «Карчма».

З украінскімі калегамі было дамоўлена, што Дзяржаўнае выдавецтва Украіны выдасць два альманахі. У першы, меркавалася, увойдуць творы маладнякоўцаў, перакладзеныя на ўкраінскую, а ў другі — творы гартаўцаў у перакладзе на беларускую мову.

У пачатку 1929 года на Украіне быў выдадзены альманах «Нова Білорусь» пад рэдакцыяй С. Піліпенкі. У зборнік увайшлі вершы, апавяданні і байкі Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, З. Бядулі, М. Чарота, У. Дубоўкі, К. Чорнага, П. Труса і іншых у перакладзе вядомых украінскіх пісьменнікаў. Развітваючыся з гасціннай Украінаю, маладнякоўцы запрасілі сваіх калег наведаць Беларусь. Запрашэнне было прынята. Аднак з-за вострай літаратурнай дыскусіі, якая ў той час праходзіла на Украіне, паездка не адбылася.

Толькі ў канцы лістапада 1925 года прадстаўнікі «Гарта» У. Сасюра, М. Іагансен, У. Гадзінскі прыехалі ў нашу рэспубліку і прынялі ўдзел у І Усебеларускім з'ездзе «Маладняка». Яны мелі шматлікія гутаркі з кіраўнікамі арганізацыі, завязалі асабістыя знаёмствы, прынялі самы актыўны ўдзел ва ўрачыстым вечары-канцэрце ў гонар другой гадавіны існавання «Маладняка».

У часе прабывання ўкраінскіх літаратараў на Беларусі ў друку з'явіўся верш У. Сасюры «Стаю і мару і дзіўлюся...» (пераклад Я. Пушчы) і артыкул У. Гадзінскага «Сучасны момант украінскай рэвалюцыйнай літаратуры», у якім аўтар знаёміў беларускіх чытачоў з літаратурным жыццём сваёй рэспублікі, расказваў пра пошукі новых арганізацыйных форм у літаратуры. Вярнуўшыся на Украіну, У. Сасюра змясціў у часопісе «Червоний шлях» новы верш «Білорусь», а М. Іагансен надрукаваў свае ўражанні пра І з'езд «Маладняка».

І беларускія, і ўкраінскія пісьменнікі разумелі, што толькі ў дружбе і ўзаемаабмене творчымі здабыткамі можна паспяхова развіваць як агульнасаюзную, так і сваю, нацыянальную культуру. Таму рэзалюцыя І Усебеларускага з'езда «Маладняка» даручыла ЦБ распрацаваць пытанне пра больш шчыльныя кантакты з усесаюзным аб'яднаннем пралетарскіх пісьменнікаў, а таксама з адпаведнымі аб'яднаннямі ўсіх саюзных рэспублік. Разумелі яны і тое, што нацыянальная літаратура будзе развівацца больш плённа, калі ўсе пісьменнікі будуць аб'яднаны ў адну літаратурную арганізацыю. Менавіта так ставілі пытанне М. Чарот і М. Зарэцкі, выступаючы ў газеце «Савецкая Беларусь» з артыкулам «Да пытання аб арганізацыі саюза пісьменнікаў Беларусі».

Пасля ўзаемнай перапіскі, асабістых кантактаў, абмену творамі ў беларускім друку паявілася больш перакладаў з украінскай мовы, ва ўкраінскім — з беларускай.

Так рабілі першыя супольныя крокі ў развіцці сваіх нацыянальных літаратур беларускія і ўкраінскія пісьменнікі, пісьменнікі-пабрацімы. І калі сёння мы гаворым пра шырокае прызнанне беларускай савецкай літаратуры, то ў гэтым немалую ролю адыгралі яе сувязі з літаратурамі братніх народаў.

Іван САРАКАВІК.

# ПАРАДЫ БУДУЧЫМ ГІСТОРЫКАМ

ВЕДАЦЬ ГІСТОРЫЮ краіны, дзе нарадзіўся і тварыў Ленін, справа гонару кожнага юнака і дзяўчыны.

Ад паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы гістарычнага профілю патрабуецца не механічнае завучванне фактаў, а іх свядомае засваенне, разуменне ўзаемасувязі паміж імі.

*Пры падрыхтоўцы курса гісторыі СССР неабходна на канкрэтна-гістарычным* матэрыяле прасачыць, як народы Савецкага Саюза ствараюць матэрыяльныя і культурныя багацці, змагаюцца за пабудову камунізма, як клапоцяцца яны пра мір ва ўсім свеце і нацыянальную незалежнасць нашай краіны.

Неабходна на канкрэтных прыкладах раскрыць аб'ектыўную заканамернасць развіцця чалавечага грамадства, растлумачыць два бакі грамадскай вытворчасці — вытворчыя сілы і вытворчыя адносіны, іх непарыўную сувязь паміж сабой.

Вынікі ўступных экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы па гісторыі СССР пасведчылі, што многія абітурыенты не змаглі адказаць на шэраг істотных пытанняў: «Што такое клас?», «Як узнікла дзяржава і ў чым яе сутнасць?», «Што такое грамадска-эканамічная фармацыя?», «Што такое феадалізм, капіталізм?», «Якія войны справядлівыя, а якія несправядлівыя?» Некаторыя абітурыенты недастаткова ўдзяляюць увагі вывучэнню першабытна-абшчыннага ладу. Яны не разумеюць, што першапачатковы этап у гісторыі чалавечага грамадства, які заняў сотні тысяч гадоў, праходзіў у цяжкай барацьбе людзей з сіламі прыроды. Прылады, якія выраблялі першабытны чалавек, былі прымітыўныя і недасканалыя. Вось чаму толькі *ў вялікіх калектывах людзі маглі паспяхова паляваць*, будаваць жыллё. У той час не было асноў для ўзнікнення прыватнай уласнасці і класаў, значыць, і эксплуатацыі чалавека чалавекам.

Часам паступаючыя не могуць растлумачыць прычыны распаду першабытнай абшчыны і ўзнікнення маёмаснай няроўнасці. Яны, звычайна, тлумачаць, што *прычынай* узнікнення прыватнай уласнасці і класаў з'явіліся войны. А гэта ж зусім не так.

У свой час К. Маркс і Ф. Энгельс гаварылі, што «ўзнікненне прыватнай уласнасці ў гісторыі зусім не вынік рабавання і прыгнёту». Войны толькі паскорылі развіццё маёмаснай няроўнасці. Ф. Энгельс пісаў, што маёмасць «наогул павінна быць спачатку здабыта працай і толькі пасля гэтага яе можна адабраць рабаваннем».

Прыватная ўласнасць узнікла дзякуючы ўдасканаленню сельскагаспадарчых прылад працы, дзякуючы паяўленню сахі і развіццю земляробства. У выніку гэтага стала пад сілу весці гаспадарку адной сям'і. Сумесная праца родавых абшчын — вялікіх бацькоўскіх сем'яў — стала непатрэбнай. Родавая абшчына замяняецца сельскай.

Раней прылады працы і здабытыя прадукты былі агульнай уласнасцю ўсёй родавай абшчыны. А калі яна распалася, гэта пераходзіла ва ўласную маёмасць асобных сем'яў і стварала зацікаўленасць кожнай сям'і ў накапленні багацця. Такім чынам, на аснове індывідуальнай гаспадаркі ўнутры сельскай абшчыны ўзнікла прыватная ўласнасць, маёмасная дыферэнцыяцыя грамадства, класы і дзяржава.

У тэме, прысвечанай **утварэнню старажытнарускай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве** неабходна звярнуць увагу на *прычыны ўзнікнення дзяржавы*. Тут дарэчы прачытаць працу У. І. Леніна «Аб дзяржаве» і помніць яго словы пра тое, што «дзяржава не заўсёды існавала. Быў час, калі дзяржавы не было. Яна ўзнікла там і тады, дзе і калі ўзнікла дзяленне грамадства на класы, дзе паявіліся эксплуататары і эксплуатуемыя».

Пры асвятленні тэмы **«Феадальная раздробленасць Русі»** нельга тлумачыць прычыны яе распаду імкненнем князёў дасягнуць самастойнасці ад кіеўскага вялікага князя, панаваннем «натуральнай гаспадаркі». Прычыны распаду старажытнарускай дзяржавы трэба шукаць не ў заняпадзе Русі, а ў далейшым развіцці яе вытворчых сіл, у развіцці феадальнай уласнасці на зямлю, у пашырэнні і паглыбленні феадальных адносін. Усё гэта патрабавала адпаведнай змены феадальнай палітычнай надбудовы. Па меры таго, як у асобных абласцях, што ўваходзілі ў склад старажытнарускай дзяржавы, раслі вытворчыя сілы (пашыралася земляробства, павялічвалася гаспадарчае значэнне гарадоў) узніклі і абасобленыя дзяржаўныя цэнтры. Распад старажытнарускай дзяржавы быў непазбежны.



**Утварэнне Рускай цэнтралізаванай дзяржавы** нельга тлумачыць толькі абаронай ад знешніх ворагаў, барацьбой з татара-мангольскімі захопнікамі. Асноўныя прычыны ўтварэння цэнтралізаванай дзяржавы вось якія: 1. Эканамічнае развіццё рускіх зямель, рамяства і гандлю, у выніку чаго пашырыліся сувязі паміж асобнымі гарадамі і землямі; 2. Зацікаўленасць феадалаў у моцнай уладзе маскоўскага вялікага князя, які здольны падавіць супраціўленне сялян, заняволіць іх яшчэ больш; 3. Знешнепалітычныя ўмовы, якія патрабавалі цэнтралізаванай дзяржавы для барацьбы са знешняй небяспекай, у першую чаргу, з татара-мангольскім ігам.

Пытанні пра **сялянскія войны XVII—XVIII стагоддзяў** не выклікаюць цяжкасцей. Варта толькі адзначыць, што пры адказах на гэтыя пытанні трэба расказаць аб прычынах сялянскіх войнаў, іх рухаючай сіле, іх значэнні і аб прычынах паражэння.

Сялянская вайна пад кіраўніцтвам Івана Балотнікава ўспыхнула тады, калі ўтварылася Руская цэнтралізаваная дзяржава і адбылося заканадаўчае афармленне сістэмы прыгоннага права ў маштабе ўсёй краіны. Гэта вайна з'явілася выражэннем народнага антыфеадальнага пратэсту супраць феадальна-прыгоннага рэжыму, які атрымаў заканадаўчае афармленне. Паўстанне Балотнікава адбылося тады, калі феадалізм яшчэ не зжыў сваіх рэзерваў, у яго нетрах яшчэ не наспелі ўмовы для развіцця новых буржуазных элементаў. Таму ў руху, нягледзячы на тое, што ён быў антыфеадальны, на пэўным этапе спадарожнікамі Балотнікава былі і паны.

Паўстанне пад кіраўніцтвам Сцяпана Разіна адбылося на іншым этапе феадалізму, калі пачаўся працэс зараджэння капіталізму. У гэтай вайне побач з сялянамі прымалі ўдзел плебейскія элементы горада, работныя людзі промыслаў, «гуляшчыя людзі», гэта значыць, тыя сацыяльныя слаі, якія былі ўцягнуты ў працэс першапачатковага накаплення.

Паўстанне пад кіраўніцтвам Емяльяна Пугачова было апошняй, але па свайму размаху і моцы самай буйной сялянскай вайной у гісторыі феадальнай Русі. Яно адбылося ў перыяд распаду феадальна-прыгонніцкага ладу і развіцця капіталістычных адносін. Асаблівая рыса гэтай вайны ў тым, што ў ёй, побач з рускім і не рускім сялянствам, плебейскімі слаямі горада, прынялі ўдзел горназаводскія рабочыя Урала. У гэтым паўстанні моцна адчуваюцца элементы арганізацыі, пэўную канкрэтнасць набываюць лозунгі барацьбы, глыбей і шырэй разгортваецца агітацыя.

Рыхтуючыся да экзаменаў, трэба сабе ясна ўяўляць, чаму ўсе сялянскія войны па сваёй сацыяльнай прыродзе насілі антыпрыгонны, антыфеадальны характар і, разам з тым, стыхійны і царысцкі.

Вывучаючы пытанне пра зараджэнне ў нетрах феадальнага ладу капіталістычных адносін у другой палове XVIII стагоддзя, неабходна ведаць, што гэта было выклікана далейшым ростам купецкіх і сялянскіх мануфактур з вольнанаёмнай працай, развіццём таварнага абмену, павелічэннем вытворчасці хлеба і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў на продаж, ростам унутранага і знешняга гандлю, пераводам сялян на аброк у нечарназёмных раёнах і пашырэннем панскага вобрыва, масавым адыходам сялян на промыслы і г. д.

Высвятляючы пытанні **грамадскага руху і рэвалюцыйныя выступленні XIX стагоддзя**, трэба добра вывучыць паўстанне дзекабрыстаў, якое было выклікана ўсім ходам сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця краіны. Гэта быў першы этап у развіцці рэвалюцыйнага руху ў Расіі. Распад памешчыцкай гаспадаркі, развіццё капіталістычных адносін, цяжкае становішча сялян, застой феадальна-прыгонніцкага ладу — вось спрыяльная глеба дзекабрысцкага руху. Пры тлумачэнні прычын паражэння паўстання дзекабрыстаў неабходна кіравацца ацэнкай гэтага руху У. І. Леніным.

Аналізуючы сацыяльна-эканамічныя перадумовы падзення прыгоннага права, варта адзначыць, што ў Расіі былі тры прызнакі рэвалюцыйнай сітуацыі: 1. «Крызіс вярхоў». 2. «Абвастрэнне вышэй звычайнага, пакуты і беднасць прыгнечаных класаў» і 3. «Рост рэвалюцыйнай актыўнасці мас». Аднак, як пісаў У. І. Ленін, «Ні прыгнечанне нізоў, ні крызіс вярхоў не створаць яшчэ рэвалюцыі, — яны наладзяць толькі гніенне краіны, — калі няма ў гэтай краіне рэвалюцыйнага класа, які здольны ператварыць пасіўны стан прыгнёту ў актыўны стан абурэння і паўстання». У Расіі ў той час не было рэвалюцыйнага класа, здольнага ўзначаліць барацьбу рэвалюцыйных мас, і таму рэвалюцыйная сітуацыя 1859—1861 г.г. не перарасла ў рэвалюцыю. Таму «падзенне прыгоннага права адбылося на грэбні рэвалюцыйнай сітуацыі, і рэформа з'явілася пабочным прадуктам рэвалюцыйнага руху». Але разам з тым наступае новы перыяд у гісторыі рускага вызваленчага руху — перыяд разначынцаў.

Вывучаючы **адмену прыгоннага права**, трэба яшчэ раз успомніць развіццё гэтага працэсу на Русі, а таксама асноўныя заканадаўчыя акты («Руская праўда», «Судзебнік 1497 г.», «Судзебнік 1550 года і прыгонныя акты царскага ўрада другой паловы XVI—першай паловы XVII стагоддзяў—загады пра запаведныя гады, пяцігадовы тэрмін вяртання беглых сялян, саборнае ўкладанне 1649 года).

Як пасведчылі ўступныя экзамены, цяжкай тэмай трэба лічыць **першую рускую буржуазную рэвалюцыю.** Абітурыенты не маглі адказаць, якія былі яе рухаючыя сілы. Раскрыццё прычын рэвалюцыі часта падмяняецца апісаннем рэвалюцыйнага крызісу. Адказ жа на гэтае пытанне трэба пачынаць з таго, што рэшткі феадалізму затрымлівалі развіццё вытворчых сіл. Варта ўспомніць пры гэтым словы У. І. Леніна, што ў Расіі спалучаліся: «...самае адсталае землеўладанне... і самы перадавы прамысловы і фінансавы капіталізм!» Галоўнымі феадальнымі перажыткамі былі землеўладанне памешчыкаў і самадзяржаўе.

Большасць абітурыентаў правільна называюць рэвалюцыю 1905—1907 гг. буржуазна-дэмакратычнай, але раскрыць змест гэтага не могуць—яны нярэдка абмяжоўваюцца наступным тлумачэннем: буржуазна-дэмакратычнай з'яўляецца такая рэвалюцыя, якую «робіць народ». Яна была буржуазнай таму, што ў ёй была зацікаўлена буржуазія (або таму, што яе мэтай было звяржэнне самадзяржаўя), а дэмакратычнай таму, што яе рабілі (ці прымалі ў ёй удзел) народныя масы.

Вывучаючы гісторыю **лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі,** варта адзначыць, што яна перамагла ў выніку паўстання рабочых і прымкнуўшых да іх салдат, гэта значыць, сялян, апранутых у салдацкія шынялі.

Адным з важных пытанняў гэтай тэмы трэба лічыць высвятленне прычын, якія прывялі да ўтварэння двоеўладдзя. Некаторыя абітурыенты лічаць, што меншавікі атрымалі большасць у Саветах у лютым 1917 года па наступных прычынах: пераважная колькасць бальшавікоў была ў ссылках і турмах, парадак выбараў у Саветы даваў перавагу меншавікам. Пра абуджэнне да палітычнага жыцця мільёнаў дробнабуржуазных мас паступаючыя ці зусім не ўпамінаюць, ці адрываюць гэтую акалічнасць ад пытання пра склад Саветаў. Абітурыенты часам не разумеюць, што «дробнабуржуазная хваля» прывяла ў Саветы меншавікоў і эсэраў, а іх кіруючая роля ў Саветах зрабіла магчымым двоеўладдзе.

Неабходна памятаць, што лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя не задаволіла карэнных эканамічных і палітычных інтарэсаў рабочых і сялян, не пазбавіла іх ад прыгнёту капіталістаў і памешчыкаў. Лютаўская рэвалюцыя не закранула асновы панавання эксплуататарскіх класаў: фабрыкі і заводы заставаліся ў капіталістаў, зямля—у памешчыкаў, захаваліся перажыткі прыгонніцтва. Як і раней, існаваў нацыянальны прыгнёт, павялічвалася залежнасць Расіі ад англа-амерыкана-французскага капіталу. Скончыць з гэтым памагла толькі сацыялістычная рэвалюцыя.

Геніяльны план пераходу ад буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі да рэвалюцыі сацыялістычнай даў У. І. Ленін у славутых «Красавіцкіх тэзісах». Яны давалі ўстаноўку на мірнае развіццё рэвалюцыі. У. І. Ленін улічваў той факт, што ў Саветах рабочых і салдацкіх дэпутатаў бальшавікі былі тады ў меншасці. Таму ён ставіў перад партыяй задачу: цярпліва і настойліва растлумачваць масам, што Саветы рабочых і сялянскіх дэпутатаў адзіна магчымая ў тых умовах форма рэвалюцыйнага ўрада, заклікаць да пераходу ўсёй дзяржаўнай улады да Саветаў з тым, каб масы на ўласным вопыце зразумелі свае памылкі, вылечыліся ад давер'я да двурушніцкіх партый, разгледзелі іх сапраўднае аблічча.

Мірны перыяд у развіцці рэвалюцыі, двоеўладдзе скончыліся ліпеньскімі падзеямі 1917 года. Прааналізаваўшы палітычную абстаноўку, якая склалася ў краіне пасля ліпеньскіх падзей, VI з'езд партыі прызнаў: «У цяперашні час мірнае развіццё і пераход улады да Саветаў сталі немагчымы, бо ўлада ўжо на справе перайшла ў рукі контррэвалюцыйнай буржуазіі». Буржуазія, незадаволеная «паўперамогай», дасягнутай у ліпеньскія дні, згаварыўшыся з імперыялістамі Антанты і ЗША, стварыла контррэвалюцыйную змову на чале з генералам Карніклавым, які хацеў захапіць Петраград і ўстанавіць у краіне ваенную дыктатуру.

Змова Карнілава і яго разгром паказалі рабочым, сялянам, салдатам, што меншавікі і эсэры з'яўляюцца двурушнікамі і падручнымі контррэвалюцыйнай буржуазіі, што сапраўднымі абаронцамі рэвалюцыйных мас з'яўляюцца толькі бальшавікі. Вось чаму пасля разгрому карнілаўскага мяцяжу пачалася хуткая бальшавізацыя Саветаў. Яны сталі бальшавіцкімі, ператварыліся ў магутную сілу рэвалюцыі. На парадак дня зноў стаў лозунг: «Уся ўлада Саветам!»—праз узброенае паўстанне супраць часовага ўрада.

Вывучэнне **ўзброенага паўстання ў Петраградзе** ў кастрычніку 1917 года варта пачынаць з высвятлення пытання пра заканамернасць сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі. Неабходна памятаць, што рэвалюцыя была непазбежна перш за ўсё таму, што Расія з'яўлялася імперыялістычнай краінай з усімі ўласцівымі імперыялізму супярэчнасцямі. А, як вядома, імперыялізм з'яўляецца апошняй стадыяй капіталізму, пярэднем пралетарскай рэвалюцыі. Акрамя таго, лютаўская рэвалюцыя не вырашыла задач, якія сталі перад ёй. Ажыццявіць іх можна было толькі перадаўшы ўладу ў рукі рабочых і бяднейшых сялян, гэта значыць, здзейсніўшы сацыялістычную рэвалюцыю.





Многія паступаючыя дапускаюць памылкі пры адказе на пытанне пра **арганізацыю савецкай дзяржавы.** Трэба ведаць, што адразу ж пасля перамогі Кастрычніка ўся ўлада перайшла ў рукі Саветаў. II Усерасійскі з'езд Саветаў, які адкрыўся 25 кастрычніка 1917 года ў Петраградзе, прыняў рашэнне аб перадачы ўсёй улады ў цэнтры і на месцах у рукі Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. На гэтым жа з'ездзе былі створаны вышэйшыя заканадаўчыя і выканаўчыя органы савецкай улады—Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў на чале з У. І. Леніным. На месцах улада пераходзіла ў рукі губернскіх, павятовых і валасных Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў і іх выканкомаў.

Пры вывучэнні пытання пра **пераход да мірнага гаспадарчага будаўніцтва** асаблівую ўвагу трэба звярнуць на высвятленне сутнасці і значэння новай эканамічнай палітыкі. Многія абітурыенты зводзяць нэп толькі да замены прадразвёрсткі прадналогам, не разумеюць галоўнага, гэта значыць таго, што новая эканамічная палітыка была разлічана на ўмацаванне саюзу рабочага класа і сялянства, на эканамічнае спаборніцтва сацыялістычных і капіталістычных элементаў, на аднаўленне гаспадаркі краіны і пабудову сацыялізма. Нэп—гэта палітыка, якая праводзілася ў нашай краіне ў перыяд ад заканчэння грамадзянскай вайны да 1936 года, гэта значыць, да перамогі сацыялізма, а не да 1925 года, як часта сцвярджаюць паступаючыя.

Адной з важных падзей гэтага перыяду было **ўтварэнне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.** Пры вывучэнні гэтага пытання трэба мець на ўвазе, што развіццё савецкага федэратыўнага ладу, утварэнне саюза савецкіх рэспублік прайшло цераз шэраг этапаў. Асноўным зместам першага этапа ў развіцці нацыянальнай палітыкі пралетарскай дзяржавы (кастрычнік 1917 года—лета 1918 г.) было разняволенне прыгнечаных царызмам нацыянальнасцей.

«Дэкларацыя правоў народаў Расіі», апублікаваная другога лістапада 1917 года, абвяшчала адмену ўсялякіх нацыянальных прывілей і абмежаванняў, роўнасць і суверэннасць народаў Расіі, іх права на свабоднае самавызначэнне, на свабоднае культурнае і гаспадарчае развіццё.

На наступным этапе (лета 1918 г.—1920 г.), у перыяд іншаземнай ваеннай інтэрвенцыі і грамадзянскай вайны, склаўся ваенна-палітычны саюз савецкіх рэспублік. Яны аб'ядналі ваенныя арганізацыі і ваеннае камандаванне, а таксама Саветы народнай гаспадаркі, наркаматы шляхоў зносін, фінансаў і працы. Гэта знайшло заканадаўчае замацаванне ў дэкрэце Усесаюзнага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта ад першага чэрвеня 1919 года «Аб аб'яднанні савецкіх рэспублік—Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы, Беларусі». Пасля грамадзянскай вайны, калі савецкія рэспублікі ўзяліся за аднаўленне народнай гаспадаркі, ваенны саюз быў дапоўнены гаспадарчым саюзам. Ён быў зафіксаваны ў саюзных дагаворах, заключаных у 1920—1921 гадах паміж РСФСР і кожнай незалежнай савецкай рэспублікай.

Ваенна-гаспадарчы саюз савецкіх рэспублік быў падмацаваны ў той жа перыяд стварэннем іх адзінага дыпламатычнага фронту. На агульнаеўрапейскай эканамічнай канферэнцыі ў Генуі (10 красавіка—19 мая 1922 г.) дэлегацыя РСФСР выступіла ад імя ўсіх рэспублік. На гэта яе ўпаўнаважыла канферэнцыя, якая адбылася ў лютым 1922 г. з удзелам усіх незалежных савецкіх дзяржаў. У гэтым жа годзе савецкія рэспублікі выказалі жаданне аб'яднацца ў дзяржаўны саюз. 30 снежня 1922 года ў Маскве адкрыўся першы з'езд Саветаў СССР, які разгледзеў і зацвердзіў дэкларацыю і дагавор аб утварэнні СССР.

Пры вывучэнні тэмы **«СССР у перыяд барацьбы за сацыялістычную індустрыялізацыю»** трэба засвоіць сутнасць індустрыялізацыі і яе прынцыповае адрозненне ад капіталістычнай. Неабходна мець на ўвазе, што сацыялістычная рэканструкцыя народнай гаспадаркі ажыццяўлялася планава, ішла па ўзыходзячай лініі. Яна мела свае цяжкасці, але ніколі не ведала крызісаў, якія ў той час калацілі капіталістычныя краіны і адкідвалі іх эканоміку на многія дзесяцігоддзі назад.

Поспехі ў галіне індустрыялізацыі нашай краіны выклікалі жыццёвую неабходнасць у перабудове сельскай гаспадаркі, якая рэзка адставала ў сваім развіцці ад прамысловасці. Савецкую ўладу і сацыялістычнае будаўніцтва нельга было далей базіраваць на двух розных асновах—на буйной сацыялістычнай прамысловасці і на дробнай аднаасобнай сялянскай гаспадарцы, якая параджала капіталістычныя элементы. Шляхі перабудовы сельскай гаспадаркі былі распрацаваны У. І. Леніным у яго кааператыўным плане. XV з'езд партыі ў снежні 1927 года

ўзяў курс на калектывізацыю—пераход ад дробнай прыватнаўласніцкай сялянскай гаспадаркі да буйной сацыялістычнай гаспадаркі, заснаванай на новай тэхніцы.

Пры вывучэнні дасягненняў савецкага народа ў перадваенныя гады неабходна звярнуць увагу на пытанне пра **культурную рэвалюцыю.** Многія абітурыенты не могуць растлумачыць змест гэтага паняцця. Трэба мець на ўвазе, што культурная рэвалюцыя была падрыхтавана заваёвамі Кастрычніцкай рэвалюцыі. Яе мэта—ліквідацыя непісьменнасці і культурнай адсталасці большасці насельніцтва, фарміраванне народнай інтэлігенцыі і стварэнне новага, вышэйшага тыпу культуры—сацыялістычнай.

Вывучаючы **гісторыю Вялікай Айчыннай вайны,** абітурыенты павінны ведаць факты, падзеі, імёны выдатных герояў, палкаводцаў, удзельнікаў партызанскага руху і г. д. Трэба помніць, што гісторыя Вялікай Айчыннай вайны дзеліцца на тры этапы.

Першы этап—ад пачатку вайны да лістапада 1942 года, гэта значыць, да пераходу савецкіх войск у контрнаступленне пад Сталінградам. Гэта быў пачатковы перыяд вайны, калі Савецкая Армія, па шэрагу прычын пакінуўшы вялікую тэрыторыю, вяла цяжкія абарончыя баі з ворагам.

Другі этап—ад паражэння нямецка-фашысцкіх войск пад Сталінградам (канец лістапада 1942 года—пачатак лютага 1943 г.) да канца 1943 года. У гэты час адбываецца карэнны пералом у ходзе вайны.

Трэці этап (1944—1945 гг.)—час рашаючых перамог Савецкай Арміі, якая выгнала фашысцкіх акупантаў за межы Савецкага Саюза. Гэты перыяд завяршаецца перамогай Савецкай Арміі над фашысцкай Германіяй і мілітарысцкай Японіяй.

У тэме **«Завяршэнне будаўніцтва сацыялізма ў СССР** (1945—1958 гады)» асаблівую ўвагу трэба звярнуць на вывучэнне міжнароднай абстаноўкі пасля заканчэння другой сусветнай вайны. Неабходна, па-першае, падкрэсліць змену ў расстаноўцы сіл на міжнароднай арэне і, па-другое, ахарактарызаваць дзве лініі ў знешняй палітыцы—мірны курс СССР і сацыялістычнага лагера, з аднаго боку, агрэсіўны курс ЗША і капіталістычнага лагера— з другога.

Вывучаючы матэрыялы пра аднаўленне народнай гаспадаркі СССР у пасляваенны перыяд, можна вылучыць некалькі асноўных пытанняў:

1. Страты, якія нанесла народнай гаспадарцы СССР вайна.
2. Пяцігадовы план аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1946—1950 гады.
3. Адмена картачнай сістэмы і грашовая рэформа 1947 года.
4. Вынікі і значэнне першай пасляваеннай пяцігодкі.

Паступаючыя павінны глыбока ўсведамляць, што поспехі савецкага народа ў галіне эканомікі і культуры, дасягнутыя ў выніку ажыццяўлення рашэнняў XX з'езда партыі, які адбыўся ў лютым 1956 года, забяспечылі канчатковую перамогу сацыялізма ў СССР, стварылі магчымасць для ўступлення нашай краіны ў новы, важнейшы перыяд развіцця грамадства. Пад канчатковай перамогай сацыялізма марксісты разумеюць яго перамогу ў міжнародным маштабе. Наша краіна, пабудаваўшы сацыялізм, доўгі час была адзінай у свеце сацыялістычнай краінай і знаходзілася ў варожым капіталістычным акружэнні. Яна не магла лічыць сябе гарантаванай ад ваеннай інтэрвенцыі і небяспекі насільнага аднаўлення капіталізму намаганнямі міжнароднай рэакцыі.

Цяпер становішча ў свеце карэнным чынам змянілася. Няма капіталістычнага акружэння вакол нашай краіны. Ёсць дзве сусветныя грамадскія сістэмы: адмываючы свой век капіталізм і поўны росквіту жыццёвых сіл сацыялізм. У свеце няма цяпер такіх сіл, якія змаглі б аднавіць капіталізм у нашай краіне, перамагчы сацыялістычны лагер.

Асвятляючы тэму **СССР у перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма,** абітурыенты павінны добра ведаць матэрыялы XXI, XXII і XXIII з'ездаў КПСС. Рашэнні XXIII з'езда КПСС, новы пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі з'яўляюцца важным этапам на шляху далейшага развіцця нашай прамысловасці, уздыму матэрыяльнага дабрабыту народу, бо «камунізм,—як гаворыцца ў Тэзісах ЦК КПСС «50 год Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі»,—можа быць пабудаваны толькі на аснове дасягненняў сацыялізма, на аснове далейшага развіцця і ўдасканалення яго эканомікі, сацыяльнай структуры, палітычнай арганізацыі і духоўнага жыцця».

***Аляксандр* ІГНАЦЕНКА,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**дацэнт кафедры гісторыі БССР БДУ імя У. І. Леніна.**

***Леў* МІХАЙЛОЎСКІ,**
**старшы выкладчык**
**кафедры гісторыі СССР БДУ імя У. І. Леніна.**



● ***Вадзім* САЛЕЕЎ**

# ЧАЛАВЕК АЦЭНЬВАЕ МАСТАЦТВА

У мастацтве сустракаюцца такія, на першы погляд, дзіўныя рэчы. Кніга, мастацкія вартасці якой не выклікаюць ніякага сумнення, якая напісана рукой арыгінальнага пісьменніка, мастака, не знаходзіць жывога водгуку ў чытача. Пра яе ідуць гарачыя спрэчкі ў вузкім коле пісьменнікаў і крытыкаў-прафесіяналаў, але яна залежваецца на прылаўках кнігарань, пакрываецца пылам на паліцах бібліятэк. Другая ж кніга, якая, часам, не мае высокіх мастацкіх вартасцей, лёгка знаходзіць дарогу да чытачоў. Гэта было заўважана яшчэ ў глыбокай старажытнасці, і рымскі пісьменнік Цярэнці сказаў: «Кнігі маюць свой лёс, адпаведна таму, як іх прымае чытач».

Як і кнігі, свой лёс маюць і тэатральны спектакль, і сімфонія, і кінафільм, і тэлепастаноўка.

Зразумела, у гэтым лёсе не апошнюю ролю адыгрываюць і майстэрства і сапраўдная таленавітасць мастака, але статыстыка, гэта сучасная служка Фяміды, з няўмольнай дакладнасцю паказвае, што мастацкасць і папулярнасць знаходзяцца ў складаных узаемаадносінах, якія толькі ў лепшым выпадку могуць быць вызначаны суцяшальным англійскім «фіфці-фіфці», г. зн. палавіна на палавіну.

У цікавай кнізе Л. Когана «Мастацкі густ» прыводзяцца вынікі сацыялагічнай анкеты, праведзенай аўтарам сярод кінагледачоў Свярдлоўскай вобласці. Паводле гэтых вынікаў, фільм «Чалавек-амфібія», напрыклад, далёка апярэджвае па сваёй папулярнасці стужку «Дзевяць дзён аднаго года», якая выйшла на экраны прыкладна ў той жа час.

Апытанне, праведзенае ў 1968 годзе часопісам «Советский экран» па выніках чарговага кінематаграфічнага года, дало яшчэ больш цікавы прыклад адносін гледачоў да мастацтва. Фільм «Ліпеньскі дождж» (кінастудыя «Масфільм», рэжысёр М. Хуціеў) прагледзела 6 160 удзельнікаў абмеркавання, з якіх 9,5 працэнта назвалі яго лепшым, а 14,8 — горшым. За фільм, прызнаны лепшым («Журналіст», кінастудыя «Масфільм»), было пададзена 41,2 працэнта галасоў гледачоў, а за фільм, які заняў другое месца («Моцныя духам» — Свярдлоўская кінастудыя), 17,3 працэнта галасоў. Фільмы «Чалавек-амфібія» і «Дзевяць дзён аднаго года» прагледзелі адпаведна 31 720 і 33 480 чалавек. Лёгка сабе ўявіць, што, пры аднолькавай колькасці гледачоў, «Ліпеньскі дождж» мог заняць першае месца, або ўжо напэўна—другое. Але ж, гэты фільм быў адзіным, які палічылі самым слабым 14,8 працэнта гледачоў.

Гэты прыклад палярызацыі ацэнак гледачоў паказвае, які недакладны барометр «папулярнасці» або «непапулярнасці» твораў мастацтва ў асяроддзі чытача, слухача, гледача. Між тым, і сёння некаторыя мастацкія крытыкі не супраць таго, каб схавацца за фармуліроўкамі тыпу: «чытач не зразумеў», «глядач не прыняў», якія яшчэ не так даўно здаваліся ім беспамылковымі.

Размахваючы жупелам «масавасці», гэтыя крытыкі, якіх у нашай эстэтыцы прынята называць вульгарнымі сацыёлагамі, былі не супраць пашукаць і больш салідНага абгрунтавання сваёй тэарэтычнай пазіцыі. З гэтай мэтай яны звярталіся да крылатых ленінскіх слоў: «Мастацтва належыць народу», у якіх з геніяльнай сілай падкрэслена грамадская функцыя мастацтва, але тлумачылі гэтыя словы адназначна і прымітыўна, нібы

зусім забыўшыся, што літаральна праз некалькі радкоў ніжэй (гаворка ідзе пра запіс гутаркі Леніна з Кларай Цэткін) У. І. Ленін прама засцерагаў ад спрошчанага разумення дамініруючай ролі «мас» у ацэнцы твора мастацтва: «Для таго, каб мастацтва магло наблізіцца да народу і народ да мастацтва, мы павінны спачатку ўзняць яго агульны адукацыйны і культурны ўзровень».

І сапраўды, прасцейшае даследаванне самога разумення «масавая публіка» адразу ж паказвае яго неаднароднасць. Людзі рознымі шляхамі прыходзяць у светлы храм мастацтва і з розным эстэтычным багажом. Багаж гэты складае асабісты вопыт адносін кожнага чалавека да твораў мастацтва, узровень яго эстэтычнага выхавання.

Эстэтычнае перажыванне — складанае, супярэчлівае і разам з тым эмацыянальна напоўненае адчуванне. Аднак і не толькі адчуванне. Эстэтычны густ мае і ацэначны характар, ён звязаны з разважаннем, з рацыянальным аналізам. Пра гэта вельмі добра пісаў у свой час І. С. Тургенеў: «Дарэмна думаюць іншыя, што для таго, каб адчуваць асалоду ад мастацтва, дастаткова аднаго прыроджанага пачуцця прыгажосці, без разумення — няма і поўнай асалоды».

Эстэтычны густ мае глыбока асабісты характар, хоць ён і не пазбаўлены ўплыву грамадскага асяроддзя. У сваю чаргу, грамадскі густ можа быць пададзены як збіральнік мастацкіх ацэнак шматлікіх груп людзей.

Вельмі лёгка ўбачыць, што гэты збіральнік неаднародны і што найбольш моцны ўплыў на чалавека, які ацэньвае мастацтва, мае яго бліжэйшае асяроддзе — група людзей, што характарызуюцца прыблізна аднолькавымі мастацкімі інтарэсамі, у выніку чаго іх ацэнкі цалкам або ў большай частцы супадаюць. Адрозненне груп — носьбітаў мастацкіх ацэнак можа быць (і бывае) вельмі значным. Гэта можа быць адрозненне ў сацыяльна-эканамічнай сферы, у сферы ідэалогіі, і мы бачым, што гэтае адрозненне з'яўляецца самым галоўным і істотным, калі гаворка ідзе пра буржуазнае грамадства.

Пры аналізе структуры савецкага сацыялістычнага грамадства гэтыя праблемы «здымаюцца» самі па сабе, аднак у нас ёсць менш значныя, з сацыяльнага пункту гледжання, адрозненні, якія нараджаюць розныя адносіны людзей да мастацтва.

Гэтыя адрозненні могуць быць узроставымі. Аўтары новай кнігі «Чалавек і мастацтва», якая выпушчана выдавецтвам «Мысль» у 1968 годзе, А. Вахеметса і С. Плотнікаў у ходзе канкрэтна-сацыялагічных эксперыментаў устанавілі, што існуе вялікая розніца ў ацэнках кінафільмаў паміж групамі падлеткаў да і пасля чатырнаццаці гадоў. Адрозненні могуць быць звязаны з розным узроўнем адукацыі людзей, з аддаленасцю іх ад вялікіх асяродкаў культуры, з характарам эстэтычнай падрыхтоўкі ў сям'і і г. д.

Але пры супадзенні шэрагу прыкмет фарміруецца дастаткова ўстойлівы характар эстэтычных поглядаў. І калі людзі вам гавораць, што яны пайшлі паглядзець фільм ці спектакль таму, што пра яго добра адгукаліся іх сябры, то вы часта ўжо не здолееце адрозніць, дзе гэтыя людзі выказваюць сваю думку пра той фільм ці спектакль, а дзе думку сваіх сяброў, такое вялікае будзе тут супадзенне поглядаў і густаў.

І ўсё-такі адрозніваць трэба. Успомнім вялікага музыканта Л. Стакоўскага, які сцвярджаў, што «...ніхто не можа адчуваць асалоду музыкі за нас — мы павінны гэта зрабіць самі». К. Станіслаўскі таксама не ўяўляў сабе тэатра без гледача, якога ён называў «трэцім творцам спектакля».

Так, у канчатковым выніку, чалавек заўсёды застаецца сам-насам з мастацтвам. Менавіта ў гэтыя хвіліны ён адчувае сябе чалавекам у поўным сэнсе гэтага слова. Напружанасць яго думкі спалучаецца са складаным светам высокіх пачуццяў і перажыванняў. Гэтае спалучэнне здольна даць чалавеку найвышэйшую радасць і асалоду і па сваёй прыродзе з'яўляецца магутнай дзейснай сілай. Дастаткова ўспомніць вядомае апавяданне Г. Успенскага «Выпрастала», дзе расказваецца пра павятовага настаўніка, якога «выпрастала» цудоўнае ўздзеянне сапраўднага мастацтва.

Але так «прапусціць» мастацтва праз сваю душу можа далёка не кожны. Успрыманне мастацтва мае такі творчы характар, як і яго стварэнне. Чуласць, тонкае адчуванне прыгожага ў мастацтве (як і наогул, у жыцці) — гэта таксама талент. На гэта ўказваюць як дзеячы мастацтва (тут дарэчы ўспомніць словы М. Горкага: «Чалавек па натуры сваёй мастак»), так і вучоныя. М. Шамота, напрыклад, у сваёй кнізе «Мастак і народ» пісаў: «Актыўная роля чытачоў у развіцці літаратуры вызначаецца ў першую чаргу тым, што мастацкі тып мыслення ўласцівы не толькі выключна таленавітым асобам, але і ў большай або меншай ступені кожнаму чалавеку таму, што ён неабходны людзям як спосаб асваення рэчаіснасці».

Аднак на практыцы, у жыцці не кожны чалавек можа рэалізаваць свой талент разумення, успрымання мастацтва. Гэтаму могуць замінаць абставіны яго асабістага жыцця, яго выхавання, а яшчэ ў большай ступені — грамадскія, класавыя бар'еры. Нездарма ўсе вялікія мастакі адзначалі варожасць буржуазіі мастацтву. Шылер — вялікі нямецкі паэт і эстэтык — пісаў, што капіталістычны прагрэс «купляецца вельмі дарагой цаной», а чалавек ва ўмовах капіталістычнага грамадства «не здольны развіць гармонію сваёй асобы». Яго думка становіцца вельмі зразумелай, калі ўспомніць, колькі сіл і сродкаў кладзе капіталізм на ўдасканаленне сваёй машыны прыгнечання, на вытручванне з чалавека ўсяго чалавечага, на нівеліроўку асобы.

У процілегласць гэтаму, наша грамадства ставіць сваёй цэнтральнай задачай выхаванне новага чалавека, гарманічнае развіццё яго асобы, і таму на сцягу марксізма рукой К. Маркса напісаны гордыя словы: «Кожны, у кім сядзіць Рафаэль, павінен мець магчымасць развівацца без перашкод».

Чалавек, які імкнецца стаць асобай, чалавекам з вялікай літары, — вось ідэал сацыялістычнага (і камуністычнага) грамадства. І як далёка стаіць ён ад той безаблічнай, сярэдняй істоты, якая, знішчыўшы ў сабе самы нязначны намёк на творчы пачатак, пакорліва ўспрымае ўсё, што толькі ёй хто не скажа. Прычым гэта «ўсё» можа ўключаць у сябе ідэі палітычныя, сацыяльна-грамадскія, культурныя. Прыгадаем хоць бы прапаганду групы Мао ў Кітаі, якая схільна бачыць у людзях толькі пакорлівых выканаўцаў волі «вялікага стырнавога».

У буржуазнай эстэтычнай літаратуры пашыраецца сёння тэорыя «масавай культуры». У адрозненне ад элітарысцкай тэорыі, якая сцвярджае, што сапраўднае мастацтва здольны зразумець толькі некаторыя асобы, у той час, як усе астатнія з'яўляюцца неадукаванай «масай», здольнай задаволіцца толькі самай непераборлівай мастацкай «спажывай», тэорыя «масавай культуры» ў цэнтр увагі ставіць так званага «чалавека з масы». Ва ўяўленні лідэраў гэтай тэорыі «чалавек з масы» цалкам (або часткова) пазбаўлены асабістага, не мае пэўных эстэтычных поглядаў, бо для іх набыцця яму давялося б выканаць велізарную, спецыяльна накіраваную работу. Таму ён вымушаны запазычваць звонку свае ідэалы, погляды, каштоўнасці і патрэбы.

Спажывецкія адносіны да культуры, стандартызацыя жыцця, якая ўсё ўзмацняецца, служаць асновай развіцця «масавай культуры». Характэрным для ўсіх тэорый «маскульта» з'яўляецца тое, што яе тэарэтыкі ўводзяць эканамічныя тэрміны і паказчыкі ў дачыненні да самога разумення духоўнай культуры.

«Масавае мастацтва» — гэта сукупнасць прадуктаў мастацкай дзейнасці, якая не толькі карыстаецца шырокай папулярнасцю, але якая ствараецца спецыяльна ў арыентацыі на запатрабаванні «масавай публікі». А запатрабаванні гэтыя, натуральна, нескладаныя. Галоўнае тут заключаецца ў тым, што мастацтва павінна паказваць звычайнае і прывычнае, не ставіць глыбокіх і складаных філасофскіх праблем, абмяжоўваючыся паказам асабістага, інтымнага свету чалавека, яно павінна служыць сродкам забавы, прыхарошваць жыццё. У сэнсе формы такое мастацтва павінна прытрымлівацца вядомых ужо ўзораў, выкарыстоўваць прывычныя калізіі.

Прыкладам такога мастацтва з'яўляецца «каўбойская» прадукцыя Галівуда, якая ствараецца пры дапамозе штампаў у разліку на вельмі нізкі мастацкі густ масавага спажыўца. Больш таго, такая «прадукцыя» фарміруе новы, ніжэйшы густ — у гэтым і вызначаецца свядомая мастацкая палітыка буржуазных заправілаў ад мастацтва. Трэба сказаць, што на

гэтым шляху ім часам удаецца дасягнуць значных поспехаў. Шэраг сацыялагічных даследаванняў, праведзеных замежнымі вучонымі, паказвае, што 23 працэнты наведвальнікаў кіно ходзяць туды толькі для таго, каб правесці час, 40 працэнтаў — шукаюць у кіно «ўяўнае жыццё», якое не падобна на іх асабістае, і толькі 24 працэнты — ідуць у кіно дзеля самаадукацыі і дзеля таго, каб атрымаць асалоду ад мастацтва.

Разам з тым, ёсць многа прыкладаў, якія сведчаць, што шырокія масы не задавальняюцца нізкапробнымі рэчамі, а цягнуцца да сапраўднага, вялікага мастацтва. Апытанне наведвальнікаў Сусветнай выстаўкі ў Бруселі, напрыклад, выявіла найбольш папулярных пісьменнікаў, якімі былі названы В. Шэкспір, Ф. Дастаеўскі, Э. Хэмінгуэй.

Успрыманне мастацтва ва ўмовах сацыялістычнай рэчаіснасці само па сабе адмаўляе тэорыю «маскульта». Імкненне да мастацтва ў савецкіх людзей унікальнае. Зарубежныя турысты, якія пабывалі ў СССР, у адзін голас сцвярджаюць, што самай характэрнай дэталлю нашых гарадоў з'яўляюцца людзі з кніжкамі ў руках.

Паводле статыстыкі, у 1965 годзе лік наведвальнікаў кінатэатраў у СССР перавысіў 4 мільярды, а наведванняў тэатраў — сто тысяч. Кожны тыдзень у нас наведваюць кінасеансы 80 мільёнаў чалавек.

У нас існуе ў масавых маштабах асобная форма зносін чалавека з мастацтвам — самадзейная творчасць саміх мас. Лепшыя дасягненні самадзейнасці часам дасягаюць узроўню прафесіянальнага мастацтва. Але справа тут у іншым — удзел у самадзейнасці адкрывае новыя магчымасці для разумення невычэрпнай прыгажосці мастацтва.

Мы можам ганарыцца, і мы справядліва ганарымся тым, што ў нас вырас адукаваны глядач, чытач, слухач. Гэта — чалавек, якога нават і няёмка называць спажыўцом мастацтва. І самае галоўнае, што абнадзейвае — гэта агульная зацікаўленасць мастацтвам, актыўнасць савецкага чалавека ў імкненні пазнаць прыгожае, пранікнуць у яго законы.

Аднак гэта зусім не азначае, што тут няма сваіх праблем. Менавіта ў гэтай актыўнасці ўспрымання многія нашы эстэтыкі і крытыкі яшчэ і сёння бачаць падставу для меркавання: «народ не прыняў». Між тым, далёка не кожны, хто імкнецца да мастацтва, мае права апрануць судзейскую тогу: тут трэба абавязкова ўлічваць эстэтычны ўзровень чытача, гледача, слухача.

Адносіны да мастацтва, як да забавы, можна сустрэць і ў нас. «Тэатр — гэта забава, зрабіць сур'ёзны ўплыў на асабістае жыццё ён не можа», — піша ў сваёй анкеце 29-гадовы інжынер-канструктар. А такіх меркаванняў мы сустрэнем нямала.

Варта адзначыць і павярхоўнасць успрымання, неразуменне спецыфікі розных відаў мастацтва. Многія аматары класічных твораў тлумачаць гэтую сваю прыхільнасць тым, што ім усё там зразумела. А калі пачынаеш з імі гаварыць падрабязна, выяўляецца, што гэта далёка не так. Толькі эстэтычна развітаму чалавеку даступна глыбокае ўспрыманне мастацтва, нават складанага па сваёй форме.

Нарэшце, нельга не сказаць і пра тое, што працяглыя, пазбаўленыя крытычнага аналізу «сустрэчы» чалавека з тэлевізарам садзейнічаюць таму, што ў чалавека ствараецца ілюзія, быццам ён усё ведае, усё спазнаў. Між тым, гэта спазнанае не заўсёды адпавядае высокім крытэрыям мастацкасці. Адсюль — рост усяяднасці, інфляцыя мастацкіх густаў, паніжэнне іх узроўню.

Дзе шукаць вырашэнне ўсіх гэтых праблем? Можа, у стварэнні заніжанага «мастацтва для мас», як гэта сцвярджаюць тэарэтыкі «маскульта»? Не, і яшчэ раз не!

Не ў стварэнні сурагату мастацтва, а ў далучэнні мас да сапраўды высокага, прафесіянальнага мастацтва, якое памагае чалавеку спасцігнуць сутнасць творчасці, робіць яго саўдзельнікам творчага працэсу — вось адзіна правільны шлях. Тады мастацтва паможа чалавеку ў яго ўдасканаленні, у станаўленні яго асобы. Тады захаваецца стымул развіцця самога мастацтва. І тады сапраўдным знаўцам мастацтва і яго суддзёй стане чалавек, узбагачаны новымі ведамі мастацтва і жыцця.





● **Мікалай ЮРКЕВІЧ,**
**доктар юрыдычных навук**

# СЯМ'Я І СУЧАСНАСЦЬ

Тэму гэтую нельга вычарпаць нават у вялікім манаграфічным даследаванні. Таму мы закранем толькі тыя пытанні, якія ўяўляюцца найбольш важнымі.

### ШТО ГАВАРЫЎ ЛЕНІН

Выказванні У. І. Леніна аб сям'і вельмі часта ўпамінаюцца, цытуюцца як у вусных лекцыях і дакладах, так і ў друкаваных выданнях. Яны добра вядомы шырокім колам чытачоў. З гэтай прычыны абмяжуемся кароткімі тэзісамі.

1. Ленінскі падыход да ўсякай грамадскай з'явы — падыход класавы. У вядомых пісьмах да І. Арманд У. І. Ленін гаварыў пра «**аб'ектыўную логіку** класавых адносін у справах кахання», пра тое, што справа не ў «казусах» (яны могуць быць самыя розныя), а ў супрацьпастаўленні «класавых тыпаў». Уплыў класавых інтарэсаў, класавай свядомасці на сямейныя адносіны і каханне быў для яго бяспрэчным.

2. Таксама як К. Маркс і Ф. Энгельс, У. І. Ленін бачыў у каханні «душу сям'і». Шлюб без кахання, які нярэдка сустракаўся ў мяшчанска-інтэлігенцка-сялянскім асяроддзі, ён называе «пошлым і брудным». Узорным для новага грамадства ён лічыў пралетарскі шлюб з каханнем.

3. Вялікі заснавальнік нашай дзяржавы гаварыў, што каханне і шлюб павінны быць свабодныя ад матэрыяльных разлікаў, рэлігійных забабонаў, самавольства бацькоў, забабонаў «грамадства», умяшання паліцыі і гэтак далей. Але ён рашуча адвяргаў тэорыю, згодна якой каханне павінна быць свабодным ад якіх бы там ні было абавязкаў.

У першыя гады савецкай улады сярод часткі моладзі бытавала тэорыя, быццам у камуністычным грамадстве задаволіць палавое імкненне і патрэбу кахання будзе гэтак жа проста, як выпіць шклянку вады. Прыхільнікі тэорыі «шклянкі вады» лічылі яе марксісцкай. Рознага роду абвяргальнікі марксізма да гэтага часу спрабуюць наперакор фактам звязаць «свабоду кахання» з марксізмам і даказаць такім чынам недаказальны тэзіс аб разбурэнні камуністамі сям'і. У. І. Ленін даў вычарпальны адказ адным і другім. Ён гаварыў: «Нястрыманасць у палавым жыцці — буржуазная: яна прызнак разбэшчанасці. Пралетарыят — клас, які ўзыходзіць. Ён не мае патрэбы ў ап'яненні, якое аглушала б яго або ўзбуджала. Яму не трэба ні ап'янення палавой нястрыманасцю, ні ап'янення алкаголем». «...Лішак палавога жыцця,— падкрэсліваў ён, — не прыносіць з сабой жыццярадаснасці і бадзёрасці, а, наадварот, змяншае іх. А гэта не адпавядае інтарэсам грамадства, якое патрабуе ад сваіх членаў сканцэнтраванасці і напружання сіл для пабудовы камунізма...» Але справа не толькі ў гэтым. У каханні ўдзельнічаюць двое, і ўзнікае трэцяе, новае жыццё. У новым жыцці, у дзіцяці, таксама тоіцца вялікі грамадскі інтарэс, узнікае абавязак у адносінах да калектыву. Пры «свабодзе кахання» гэты абавязак не можа быць выкананы належным чынам.

4. У. І. Ленін гаварыў, што жанчыну «давіць, душыць, атупляе, прыніжае дробная дамашняя гаспадарка». Ён сцвярджаў, што для свабоды жанчыны абсалютна

неабходна «масавая перабудова» гэтай дробнай гаспадаркі «ў буйную сацыялістычную гаспадарку». Гэта з аднаго боку. З другога, у Леніна выклікалі абурэнне старыя адносіны да жанчыны ў сям'і. «Вельмі нямногія мужы, нават з пралетарыяў, — гаварыў ён,— думаюць аб тым, як моцна яны могуць аблегчыць цяжар і клопаты жонкі або нават зусім зняць іх з яе, калі б захацелі дапамагчы ў «жаночай рабоце». Але не, гэта ж не адпавядае «праву і гонару мужа». Ён патрабуе, каб у яго быў адпачынак і камфорт». У. І. Ленін паставіў задачу «вытравіць стары рабаўласніцкі пункт погляду да апошніх самых дробных яго каранёў».

Гэтыя думкі вялікага Леніна ляглі ў аснову палітыкі КПСС і Савецкага ўрада ў пытаннях сям'і. Яны знайшлі адлюстраванне ў Асновах заканадаўства аб шлюбе і сям'і Саюза ССР і саюзных рэспублік і ў новым сямейным кодэксе БССР.

Сёння паклёпнічаць на Савецкі Саюз стала значна цяжэй. Тым не менш, некаторыя клерыкальныя і іншыя дзеячы ў капіталістычных краінах працягваюць абвінавачваць нашу Камуністычную партыю і Савецкую ўладу ў разбурэнні сям'і. Як бы адказваючы на гэты паклёп, заканадаўцы ў прэамбулах Асноў і Кодэкса канстатуюць: «Клопаты аб савецкай сям'і, у якой гарманічна злучаюцца грамадскія і асабістыя інтарэсы грамадзян, з'яўляюцца адной з важнейшых задач Савецкай дзяржавы.

У нас створаны самыя добрыя ўмовы для ўмацавання і росквіту сям'і. Няўхільна расце матэрыяльны дабрабыт грамадзян, паляпшаюцца жыллёва-бытавыя і культурныя ўмовы жыцця. Многа ўвагі аддаецца ахове мацярынства і дзяцінства.

Неабходна, аднак, памятаць, што савецкая сям'я, як і савецкае грамадства ў цэлым, знаходзіцца ў стане няспыннай перабудовы. Усякая ж перабудова звязана з ломкай. Ёсць падставы думаць, што гэтаю ломкай у большай або меншай меры тлумачыцца вялікая колькасць разводаў і некаторыя іншыя адмоўныя з'явы ў сям'і.

Асновы і Кодэкс правільна лічаць першай і найбольш важнай задачай сямейнага заканадаўства **ўмацаванне** савецкай сям'і, заснаванай на камуністычнай маралі. Далей новае заканадаўства гаворыць пра будаўніцтва сямейных адносін на пачуццях узаемнага **кахання**, сяброўства, павагі, пра выхаванне **пачуцця адказнасці** перад сям'ёй. Асновы і Кодэкс падкрэсліваюць **роўнасць** правоў мужчыны і жанчыны ў сям'і. Гэта цалкам адпавядае таму, што гаварыў У. І. Ленін. Разам з тым, сацыялагічныя даследаванні паказваюць, што без кахання, пачуцця адказнасці, сапраўднага раўнапраўя мужа і жонкі нельга ўмацаваць сям'ю, рашыць адну з найбольш важных задач нашага грамадства ў працэсе будаўніцтва камунізма.

## ДАСЛЕДАВАННЕ

У лютым-сакавіку 1969 г. аўтар гэтых радкоў пры дапамозе і падтрымцы сацыялагічнай лабараторыі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна правёў на трох буйных прадпрыемствах Мінска ананімную анкету. Апытанне праводзілася на камвольным камбінаце і гадзіннікавым заводзе, дзе, у асноўным, працуюць жанчыны. У калектыве трэцяга прадпрыемства (завода трактарных запасных частак) большасць складаюць мужчыны. Апытваліся сямейныя рабочыя і работніцы ў тыповых для гэтых прадпрыемстваў цэхах і зменах. Звычайна невялікія групы апытваемых (15—20 чалавек) запрашаліся ў чырвоны куток або іншае адпаведнае памяшканне. Сацыёлаг, які не быў супрацоўнікам прадпрыемства, коратка растлумачваў сэнс і парадак правядзення даследавання, а потым раздаваў анкеты. Рэспандэнты (так сацыёлагі завуць людзей, якія адказваюць на іх пытанні) ва ўсіх без выключэння выпадках папярэджваліся, што запоўненую анкету трэба кінуць у спецыяльную ўрну, якая была апячатана і стаяла на стале. Так ствараліся ўпэўненасць, што ананімнасць адказаў не можа быць раскрыта.

У гэтым артыкуле аналізуюцца некаторыя вынікі апытання 612 работніц і 365 рабочых. Анкеты, у залежнасці ад ступені задаволенасці рэспандэнта сваім шлюбам, былі падзелены на тры групы і апрацаваны ў вылічальным цэнтры ЦСУ БССР на ЭВМ «Мінск-22».

Класіфікацыя анкет праводзілася на аснове думкі саміх анкетуемых. А думка выяўлялася пры дапамозе пытанняў: «Ці лічыце Вы, што Ваша шлюбнае жыццё ўвогуле склалася добра?», «Ці ўступілі б Вы ў шлюб з жонкай (мужам), калі б ведалі, якімі будуць Вашы адносіны?» Калі адказы на абодва пытанні былі станоўчыя, мы лічылі, што шлюб рэспандэнта шчаслівы, і анкету адносілі да першай групы. Пры двух адмоўных адказах шлюб рэспандэнта лічыўся няўдалым (трэцяя група). Усе астатнія анкеты трапілі ў другую, прамежкавую, групу. Гэта былі анкеты мужчын і жанчын, якія не ведалі, як адказаць на памянёныя пытанні, або давалі няўстойлівыя адказы: адзін раз — «так», другі раз — «не». Шлюбы гэтай групы атрымалі назву здавальняючых.

У якасці дапаможнага крытэрыя класіфікацыі былі выкарыстаны адказы на пытанне аб адносінах рэспандэнта да мужа або жонкі ў момант правядзення даследавання. Да гэтага пытання даваўся наступны веер магчымых адказаў: каханне, сімпатыя, звычка, абыякавасць, непрыхільнасць. Калі рэспандэнт адзначаў, што ён да шлюбнага партнёра абыякавы або адчувае непрыхільнасць,— анкета трапляла ў другую групу нават пры станоўчых адказах на пытанні, пра якія гаварылася вышэй. Але пры двух адмоўных адказах на гэтыя пытанні анкета заўсёды трапляла ў трэцюю групу. У такім разе нават каханне да шлюбнага партнёра не мяняе справы, паколькі гэта каханне нешчаслівае.





Вынікі мы бачым у табліцы (тут і ў далейшым у працэнтах да выніку).

| №№ пп | Пол рэспандэнта | Шлюбы | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Шчаслівыя | Здавальняючыя | Няўдалыя | Разам |
| 1. | Жанчыны | 40,7 | 40,3 | 19,0 | 100,0 |
| 2. | Мужчыны | 45,0 | 38,6 | 16,4 | 100,0 |

Пачуццё задаволенасці шлюбам суб'ектыўнае. Але суб'ектыўныя адчуванні адлюстроўваюцца ў аб'ектыўных паводзінах. Таму ў анкеце быў прадугледжаны шэраг пытанняў, якія датычаць аб'ектыўнага боку ўзаемаадносін паміж мужам і жонкай. Адказы на гэтыя пытанні паказалі агульную дастатковасць выкарыстанага крытэрыя класіфікацыі, аб чым, у прыватнасці, сведчыць табліца (па адказах жанчын).

| №№ пп | Ці бываюць сваркі | Шлюбы | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Шчаслівыя | Здавальняючыя | Няўдалыя | Разам |
| 1. | Калі і бываюць, то несур'ёзныя | 78,71 | 65,45 | 20,69 | 62,36 |
| 2. | Бываюць і сур'ёзныя, але рэдка | 16,87 | 24,80 | 18,29 | 20,45 |
| 3. | Сур'ёзныя сваркі бываюць нярэдка | 0,80 | 5,28 | 54,31 | 12,74 |
| 4. | Няма адказу | 3,61 | 4,47 | 6,03 | 4,42 |
| | Разам: | 99,99 | 100,00 | 100,00 | 99,99 |

З табліцы I відаць, што мужчыны лічаць свае шлюбы шчаслівымі часцей, чым жанчыны. Магчыма таму, што мужчыны менш патрабавальныя. Сярод шчаслівых у іх меншы працэнт такіх, якія кахаюць. Сімпатыю і звычку яны часцей лічаць дастатковымі для сямейнага шчасця. Можна думаць, што гэта звязана з меншым узроўнем эмацыянальнага развіцця мужчын, аб чым гавораць псіхолагі. З другога боку, мужчыны радзей адзначаюць абыякавасць і нядобразычлівасць да шлюбнага партнёра, у іх менш шлюбаў, якія існуюць, нягледзячы на нярэдкія сур'ёзныя сваркі. Гэта можна паспрабаваць растлумачыць тым, што сярэднестатыстычны мужчына смялей ліквідуе шлюб, які яго не задавальняе. Жанчына больш стрыманая. Яна мае большае пачуццё адказнасці і больш баіцца адзіноты. У яе менш шанцаў яшчэ раз уступіць у шлюб (асабліва, калі ёсць дзіця).

У цэлым табліца I дазваляе аптымістычна глядзець на сем'і рэспандэнтаў. Напрыклад, па адказах мужчын 83,6 працэнта шлюбаў не з'яўляюцца няўдалымі. Пры гэтым здавальняючыя шлюбы (ва ўсякім разе адносна сварак) значна бліжэй да шчаслівых, чым да няўдалых. Важна адзначыць таксама, што шчаслівых шлюбаў у 2 з лішнім разы больш, чым няўдалых. Аднак на праблему няўдалых шлюбаў нельга глядзець скрозь пальцы. Кожны такі шлюб кладзецца вялікім цяжарам на плечы мужа, жонкі і дзяцей. А 16—19 працэнтаў нешчаслівых шлюбаў — немалая грамадская праблема.

## АД ЧАГО ЗАЛЕЖЫЦЬ СЯМЕЙНАЕ ШЧАСЦЕ

Як і ўсё жывое, сям'я з'яўляецца найбольш слабай у момант узнікнення. Ужо ў першыя тры месяцы перастае існаваць значная колькасць сем'яў. А ў цэлым на

першы год сумеснага жыцця мужа і жонкі прыпадае каля трэці распадаў. Прыблізна столькі ж — на чатыры наступныя гады (ад 1 года да 5). Гэта азначае, што ў першыя 5 гадоў распадаецца каля $^{2}/_{3}$ такіх сем'яў, адносна якіх узнікаюць справы аб скасаванні шлюбу. У наступныя 5 гадоў распад сустракаецца значна радзей, а потым — яшчэ радзей. Чым больш муж і жонка жывуць разам, тым меншая статыстычная верагоднасць распаду шлюбу.

Ад чаго залежыць устойлівасць сям'і? Перш за ўсё ад таго, ці адпавядаюць муж і жонка адно аднаму. Патрэбы, інтарэсы аднаго павінны адпавядаць патрэбам, інтарэсам другога. Для гэтага ў адных выпадках патрэбы павінны быць аднолькавыя, а ў другіх — кампліментарныя. Кампліментарнымі лічаць такія розныя патрэбы, якія ўзаемна дапаўняюцца. У прыватнасці, кампліментарнымі павінны быць некаторыя псіхалагічныя патрэбы мужа і жонкі. Калі, напрыклад, адзін з іх мае псіхалагічныя рысы лідэра, вядучага, то другі павінен мець характар чалавека, які прывык, каб яго вялі. Такія муж і жонка маюць патрэбу адзін у адным. Гэта іх звязвае. Наадварот, два «лідэры» не змогуць жыць мірна, іх характары несумяшчальныя.

Калі адпаведнасць паміж мужам і жонкай з'яўляецца аб'ектыўнай умовай стабільнасці шлюбу, то псіхалагічны настрой на сумеснае жыццё, жаданне супрацоўнічаць у інтарэсах сям'і павінен разглядацца як суб'ектыўная ўмова. Абедзве ўмовы ўзаемазвязаны. Псіхалагічная настаўленасць на супрацоўніцтва перш за ўсё складваецца з кахання або іншай узаемнай схільнасці і пачуцця абавязку.

Першапачатковая слабасць сям'і ў значнай меры тлумачыцца тым, што неадпаведнасці паміж мужам і жонкай максімальныя адразу пасля шлюбу. Першы перыяд жыцця сям'і — гэта перыяд, калі неадпаведнасці паступова ліквідуюцца, маладыя прыстасоўваюцца адзін да другога. Не ўсе шлюбныя пары здольны пражыць гэты перыяд ўдала, не ўсе пазнаюць асалоду «мядовага месяца». Для многіх ён мае вельмі горкі смак. Але каханне істотна памагае маладым мужу і жонцы выпрацаваць адзіны стыль жыцця, кансалідавацца ва ўстойлівую сям'ю. Тыя, хто кахае, лёгка ідуць насустрач адзін аднаму, без пакут мяняюць свае патрэбы, звычкі, характары. Таму шлюбы па каханню з'яўляюцца самымі моцнымі.

## КАХАННЕ І АБАВЯЗАК

У анкеце, якая праводзілася на трох мінскіх прадпрыемствах, было пытанне аб матывах шлюбу. Вынікі падліку адказаў на гэтае пытанне адлюстраваны ў табліцы. Лічбы па здавальняючых шлюбах не прыводзяцца.

| №№ пп | Матывы шлюбу | Жанчыны | | Мужчыны | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Шчаслівыя шлюбы | Няўдалыя шлюбы | Шчаслівыя шлюбы | Няўдалыя шлюбы |
| 1. | Каханне | 75,10 | 27,59 | 62,80 | 17,74 |
| 2. | Сімпатыя | 13,88 | 17,24 | 17,68 | 12,90 |
| 3. | Імкненне пазбавіцца адзіноты | 2,86 | 12,93 | 10,37 | 16,13 |
| 4. | Кароткачасовае захапленне, легкадумнасць | 1,63 | 14,14 | 3,05 | 25,80 |
| 5. | Іншы адказ | 4,50 | 12,04 | 4,47 | 25,81 |
| 6. | Няма адказу | 2,04 | 6,03 | 1,63 | 1,61 |
| | Разам: | 100,00 | 100,00 | 100,00 | 99,99 |

У прыватнасці, 75,10% шчаслівых жанчын лічаць, што яны выйшлі замуж па каханню. Наадварот, жанчыны ў якіх шлюбы няўдалыя, назвалі каханне толькі ў 27,59% выпадкаў. У астатніх выпадках гэтыя жанчыны гаварылі пра сімпатыю, імкненне пазбавіцца адзіноты, кароткачасовае захапленне, легкадумнасць і г. д. Падобныя адказы далі і мужчыны. Цікава адзначыць, што ў мужчын з няўдалых шлюбаў больш палавіны прыпадае на кароткачасовыя захапленні, легкадумнасць і іншыя адказы, сярод якіх знаходзіцца і імкненне палепшыць сваё матэрыяльнае становішча (9,68 працэнта).

Вядома, рэспандэнты глядзяць на матывы сваіх шлюбаў скрозь прызму адносін, якія склаліся пазней. Але ў гэтым ёсць і дадатны бок. З адлегласці лягчэй даць





слушную ацэнку любой з'яве. Прыведзеныя лічбы прымушаюць нас думаць аб наступнай заканамернасці: чым больш цёплым было пачуццё, тым больш шанцаў, што шлюб будзе шчаслівым. Калі гэта так — нішто другое не можа вытрымаць канкурэнцыі з каханнем.

Такім чынам, каханне — фактар, які добра працуе на ўмацаванне сям'і ў сацыялістычным грамадстве. Трэба аддаць яму належнае. Гэта, аднак, не азначае, што можна недаацэньваць ролю абавязку.

Каля чатырох год таму назад у Мінску мы правялі некалькі другую анкету. 94 працэнты яе ўдзельнікаў лічылі, што, у прынцыпе, шлюбы павінны брацца толькі па каханню. Гэта маральны ідэал. 70 працэнтаў сказалі, што і самі яны ўзялі шлюб па каханню. Але толькі 47 працэнтаў назвалі каханне як пачуццё да жонкі (мужа) у момант, калі праводзілася апытанне.

Даю лічбы яшчэ раз: 94, 70, 47. Па такіх прыступках мы спускаемся з вяршыні маральнага ідэалу ў цясніну жыцця. Застаецца сказаць, што сярод рэспандэнтаў пераважалі асобы з вышэйшай адукацыяй. Вынікі пазнейшай анкеты, якая праводзілася сярод рабочых і работніц трох мінскіх прадпрыемстваў, былі яшчэ менш суцяшальныя.

| №№ пп | Як адносіцца да мужа | Шлюбы | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Шчаслівыя | Здавальняючыя | Няўдалыя | Разам |
| 1. | Каханне | 63,67 | 32,93 | 5,22 | 40,10 |
| 2. | Сімпатыя | 13,88 | 13,01 | 1,74 | 11,22 |
| 3. | Прывычка | 19,18 | 39,43 | 44,35 | 32,19 |
| 4. | Абыякавасць | — | 4,47 | 33,04 | 8,09 |
| 5. | Нядобразычлівасць | — | — | 10,43 | 1,98 |
| 6. | Няма адказу | 3,27 | 10,16 | 5,22 | 6,44 |
| | Разам: | 100,00 | 100,00 | 100,00 | 100,02 |

Многія мужчыны і жанчыны лічаць, што ў шлюбе яны абыходзяцца без кахання. Гэта, як нам здаецца, дае падставы думаць, што абавязак у падтрымцы псіхалагічнай настаўленасці на захаванне сям'і выконвае вельмі важную ролю. Як відаць, роля абавязку ў захаванні сям'і тым большая, чым ніжэй тэмпература пачуццяў, якія звязваюць мужа і жонку.

Між іншым, каханне і абавязак нельга супрацьпастаўляць. Калі чалавек не мае пачуцця абавязку, яго каханне не будзе працяглым. Каханне і абавязак дапамагаюць адно аднаму рашаць адну і тую ж задачу. Яны не канкурэнты, а супрацоўнікі. Каханне робіць выкананне абавязку лёгкім і прыемным. Абавязак, у сваю чаргу, падтрымлівае каханне. Пра гэта апошняе варта сказаць больш падрабязна.

Некаторыя лічаць, што паняцце абавязку нельга дастасаваць да сямейных адносін. Э. Святланава пісала ў «Литературной газете»: «Выконваць абавязак? Але як разумець сэнс «абавязку», калі гаворка ідзе пра пачуццё кахання, якое, на жаль, намаганнем волі не стварыць, не знішчыць пакуль не ўдаецца?» Для большай пераканаўчасці слова абавязак яна ўзяла ў двукоссе. Ю. Рурыкаў у кнізе «Три влечения» гаворыць пра манагамію «на час кахання». Скончылася каханне, трэба скасоўваць шлюб, як амаральны.

Гэтыя таварышы не ўлічваюць, па-першае, таго, што муж і жонка могуць быць задаволены сваім шлюбам, хоць думаюць, што кахання няма. Нават у шчаслівых шлюбах каля 20 працэнтаў жанчын, напрыклад, лічаць, што тое, што іх звязвае з мужам, можа быць названа толькі прывычкай. Пачуццё ўжо страціла вастрыню. Але муж і жонка прывыклі быць разам, яны паважаюць і падтрымліваюць адзін аднаго. Іх звязваюць дзеці, пачуццё сямейнай салідарнасці, агульныя інтарэсы. Таму Ф. Энгельс гаварыў не толькі пра каханне, але і пра «іншую ўзаемную схільнасць» — маральную аснову кахання.

Па-другое, нельга разумець заклік да выканання абавязку проста як патрабаванне, каб разам жылі муж і жонка, якія сталі чужымі або нават адчуваюць узаемную антыпатыю. Гэта сапраўды амаральна. Але мы добра ведаем, што нават з невялікай іскры можна зноў раздзьмухаць агонь. І грамадства мае права патрабаваць, каб муж і жонка, узаемныя пачуцці якіх патухлі не канчаткова, прынялі меры

да ўзнаўлення нармальных адносін. Гэта іх абавязак. асабліва, калі ёсць дзіця. І яны могуць гэты абавязак выканаць. Акрамя таго, муж і жонка з самага пачатку павінны так будаваць свае адносіны, каб захаваць каханне. Кажуць: «Іваноў ужо не можа нічога зрабіць — у другой нарадзілася дзіця, ды і жонка наўрад ці даруе яму. Справа зайшла вельмі далёка». Магчыма. Але раней, калі ён толькі сустрэўся з другой? Мог ён не пачынаць гэтую сувязь? Як правіла, мог. Пра алкаголіка Пятрова таксама кажуць: «Ён хворы чалавек, не можа кінуць гарэлку». Уявім сабе, што гэта сапраўды так. Але раней, калі звычка яшчэ не была хваравітай, мог ён спыніцца?

### РОЎНЫЯ АБАВЯЗКІ

Вельмі актуальнай з'яўляецца праблема справядлівага падзелу абавязкаў паміж мужам і жонкай па дамашняй гаспадарцы і выхаванню дзяцей. Адна з мэт даследавання на мінскіх прадпрыемствах заключалася ў тым, каб пераканацца, як падзел гэтых абавязкаў уплывае на задаволенасць шлюбам. Вынікі чытач знойдзе ў табліцы, якая складзена па адказах жанчын.

| №№ пп | Падзел дамашніх абавязкаў | Шлюбы | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Шчаслівыя | Здавальняючыя | Няўдалыя | Разам |
| 1. | Цалкам або амаль цалкам выконвае жонка | 21,60 | 38,27 | 40,12 | 99,99 |
| 2. | Муж дапамагае жонцы | 44,98 | 43,12 | 11,90 | 100,00 |
| 3. | Абавязкі дзеляць пароўну | 60,80 | 33,60 | 5,60 | 100,00 |

Там, дзе дамашнія абавязкі цалкам або амаль цалкам выконвае жонка, амаль у 2 разы больш няўдалых шлюбаў, чым шчаслівых. А там, дзе муж і жонка дзеляць гэтыя абавязкі роўна, шчаслівых шлюбаў амаль у 11 разоў больш, чым няўдалых. Адказы мужчын былі іншыя. Але і яны адпавядаюць правілу: чым справядлівей дзеляцца дамашнія абавязкі паміж мужам і жонкай, тым часцей муж і жонка шчаслівыя.

Прыведзеныя лічбы, на нашу думку, добра стасуюцца да вынікаў вывучэння спраў аб разводзе ў народных судах Брэсцкай і Віцебскай абласцей за IV квартал 1966 года. Часцей за ўсё прычына разводу — у алкагалізме або няверпасці. Нярэдка сустракаюцца таксама спасылкі на жорсткасць. Усяго па гэтых трох прычынах ідзе больш 40 працэнтаў спраў.

Злоўжываюць алкагольнымі напіткамі мужчыны. Выключэнні сустракаюцца, але рэдка. Звычайна мужчыны і жорстка адносяцца да жонак. З іх боку часцей за ўсё мае месца і няверпасць. Суд не заўсёды ўстанаўлівае, хто вінаваты ў распадзе сям'і. Але калі мы возьмем усе тыя выпадкі, што віна была ўскладзена на мужа ці жонку, то ў цэлым вінаватых мужчын у некалькі разоў больш, чым жанчын. У прыватнасці, даследаванне 1966 г. сведчыць, што мужчыны нясуць адказнасць за распад сям'і ў чатыры разы часцей, чым жанчыны. Чаму?

У пошуках адказу на гэтае пытанне мы зноў сустракаемся з тым фактам, што многія мужчыны свабодныя ад дамашніх абавязкаў. Летам у дварах гарадскіх дамоў можна бачыць кампаніі мужчын, якія гуляюць у даміно або карты, пакуль іх жонкі — яны таксама толькі што вярнуліся з работы — вараць, мыюць, бегаюць па магазінах, займаюцца з дзецьмі. Але нельга «забіваць казла» ўвесь час. Таму пазней пачынаюць «скідвацца на траіх». Гарэлка аслабляе пачуццё адказнасці, у большай або меншай меры выключае маральныя тармазы. Муж адплывае ў пошук забавы... Калі ён вернецца дамоў, сварка будзе амаль непазбежнай. Але не на многа лепш абстаіць справа і ў тых выпадках, калі муж проста нічога не робіць, пакуль жонка адна цягне сямейны воз. (Стомленая, яна не ў стане задаволіць патрабаванні мужа, які адпачыў, набраўся сіл. Фізічныя перагрузкі не робяць жонку прыгажэйшай і знешне). Яна стамляецца, становіцца сварлівай, нервовай і таму — менш прывабнай. Ці не тут адказ на вядомае пытанне: «Усе дзяўчаты добрыя. Адкуль жа бяруцца дрэнныя жонкі?»

Параўнаць фактычны падзел абавязкаў з уяўленнямі аб тым, як трэба іх дзяліць, дазваляе табліца (па адказах жанчын са шчаслівых і няўдалых шлюбаў).





| №№ пп | Падзел дамашніх абавязкаў | Шлюбы | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Шчаслівыя | | Няўдалыя | |
| | | павінна быць | ёсць | павінна быць | ёсць |
| 1. | Цалкам або амаль цалкам выконвае жонка | — | 14,00 | — | 58,56 |
| 2. | Муж дапамагае жонцы | 39,76 | 48,40 | 41,74 | 28,83 |
| 3. | Абавязкі дзеляць пароўну | 58,23 | 30,40 | 52,17 | 6,31 |
| 4. | Іншы адказ. Няма адказу | 2,01 | 7,20 | 6,09 | 6,30 |
| | Разам: | 100,00 | 100,00 | 100,00 | 100,00 |

З лічбаў вынікае, што разрыў паміж фактычнымі паводзінамі і ўяўленнем аб тым, як павінна быць, ёсць як у шчаслівых, так і ў няўдалых шлюбах. Аднак у шчаслівых ён значна меншы і часта тлумачыцца якімі-небудзь прычынамі (напрыклад, вельмі працяглым рабочым днём мужа). Акрамя таго, гэта, звычайна, разрыў на адзін крок: жонка лічыць, што абавязкі трэба дзяліць пароўну, а муж толькі дапамагае ёй. У няўдалых шлюбах гэты разрыў пагражальна вялікі і, як правіла, не мае апраўдання. У прыватнасці, кідаецца ў вочы той факт, што за роўны падзел абавязкаў выказалася больш палавіны жанчын з абедзвюх груп. І ў той жа час значна больш палавіны жанчын з няўдалых шлюбаў (58,56%) сцвярджаюць, што мужы нават не дапамагаюць ім. Тут тоіцца адна з галоўных прычын разводаў. У гэтым жа і галоўны рэзерв далейшага ўмацавання савецкай сям'і.

### ВЫВАДЫ

1. Сёння, калі ўсё прагрэсіўнае чалавецтва адзначае стагоддзе з дня нараджэння У. І. Леніна, мы зноў і зноў пераконваемся ў актуальнасці і неадольнай сіле яго ідэй. Толькі выкананне ленінскіх запаветаў аб прынцыпах пабудовы сям'і і адносін у ёй гарантуе стабільнасць шлюбу і адпаведныя ўмовы для выхавання чалавека камуністычнага грамадства.

2. Калі трывалая псіхалагічная настаўленасць на супрацоўніцтва паміж мужам і жонкай немагчыма без пачуцця адказнасці, то кожны павінен ведаць, што ад яго чакае грамадства і можа патрабаваць шлюбны партнёр. Адсюль вынікае патрэба ў падрабязна распрацаваным маральным кодэксе адносін паміж мужчынам і жанчынай, мужам і жонкай. Найбольш важкія нормы гэтага кодэкса варта было б замацаваць і ў юрыдычным сямейным кодэксе.

3. Слова шлюб тлумачыцца як урачыстае абяцанне. Гэта наводзіць на думку, што патрэбен кароткі, але ёмісты тэкст такога абяцання. Маладыя павінны заявіць адзін другому і грамадству, што яны зробяць усё магчымае для шчасця сям'і. Гэта абяцанне ў момант, калі бярэцца шлюб, садзейнічала б умацаванню пачуцця адказнасці за сям'ю, роля якога асабліва вялікая ў першы перыяд пасля шлюбу.

4. Сацыёлагі могуць пры дапамозе спецыяльных методык вызначыць, наколькі характары, звычкі, інтарэсы жаніха і нявесты адпавядаюць адзін другому. Гэтыя методыкі зводзяцца да збору неабходнай інфармацыі, якая магла б потым апрацоўвацца на камп'ютары. Ступень адпаведнасці выяўлялася б для таго, каб жаніх і нявеста ведалі, якія цяжкасці іх чакаюць пры сумесным жыцці. Кансультант мог бы даць ім таксама канкрэтныя парады, як пераадольваць гэтыя цяжкасці. Тады маладыя больш ясна ўяўлялі б сабе, што тоіцца за абстрактнай формулай урачыстага шлюбнага абяцання.

5. Далейшае павелічэнне колькасці шлюбаў, якія заснаваны на поўнай роўнасці бакоў, з'яўляецца не толькі адной з ідэалагічных задач нашага грамадства, але і найбольш важкай умовай умацавання сям'і. У той жа час правільна пабудаваную сям'ю варта разглядаць як своеасаблівую школу камуністычных адносін. Той, хто не можа справядліва, па-камуністычнаму адносіцца да самых блізкіх, наўрад ці будзе сапраўдным камуністам у адносінах з другімі.

Сацыялістычнае грамадства стварае добрыя ўмовы для перабудовы ўнутрысямейных адносін, а перабудова гэтых адносін, у сваю чаргу, з'яўляецца неабходнай умовай далейшага грамадскага прагрэсу, неабходным элементам будаўніцтва камунізма.

# ДЗВЕ ЛАБАРАТОРЫІ, ДЗВЕ ПРАБЛЕМЫ

**Ці даўно ў Акадэміі навук БССР працавала пяцьдзесят хімікаў? А сёння іх пяцьсот. І кожны пяты — доктар або кандыдат навук. Яны многа зрабілі для развіцця маладой хімічнай прамысловасці Беларусі. Мы пераканаліся ў гэтым, пабыўшы ў Інстытуце агульнай і неарганічнай хіміі. Важныя даследаванні праводзіць лабараторыя калійных солей і мінеральных угнаенняў. Рэкамендацыі вучоных укаранёны на двух Салігорскіх камбінатах і дазваляюць эканоміць у год да трох мільёнаў рублёў.**

**Але ёсць праблемы, якія нельга вымяраць рублём. Гаворка ідзе пра жыццё і здароўе чалавека. Пра надзённыя нашы клопаты.**

## ПАЛІМЕРЫ НА СЛУЖБЕ ЗДАРОЎЯ

Здароўе чалавека... Здавалася б, гэта манаполія медыкаў. Але часта людзі і не здагадваюцца, што сваім выздараўленнем абавязаны не толькі медыкам, але і вучоным іншых профіляў.

Шчыра кажучы, мы і самі не здагадваліся, што ў лабараторыі сінтэзу фізіка-хіміі і жараўстойлівых матэрыялаў сутыкнемся з праблемамі пераўтварэння каровінага малака... у мацярынскае, або з пытаннямі кансервавання крыві. Наш спадарожнік, кіраўнік гэтай лабараторыі **Ігар Мікалаевіч ЯРМОЛЕНКА,**— малады доктар хімічных навук, прафесар, аўтар 160 навуковых работ і вялікай колькасці вынаходніцтваў,— тлумачыць:

— Урачы ўжо даўно вывучаюць палімерныя тканкі, валокны для хірургічнага лячэння ўнутраных органаў. У апошні час іх асабліва цікавяць тыя матэрыялы, якія, выканаўшы сваю ролю каркасу, паступова раствараліся б у арганізме. Сінтэтычныя палімеры, якія шырока прымяняліся яшчэ нядаўна, як паказвае практыка, гэтай уласцівасцю не валодаюць. Адналітныя, яны не прарастаюць жывой тканкай і застаюцца чужародным целам у арганізме.

І вось супрацоўнікі лабараторыі разам са спецыялістамі беларускіх навукова-даследчых інстытутаў гематалогіі і пералівання крыві, тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці прапанавалі для гэтай мэты спецыяльна распрацаваныя вугляводныя валокны. Пратэз з такога матэрыялу, «уведзены» ў жывы арганізм, не робіць ніякага шкоднага ўздзеяння, паскарае зажыўленне тканак і, «раствараючыся» ў арганізме, замяшчаецца з цягам часу здаровай тканкай.

Трыкатажныя пратэзы са звычайнай таннай цэлюлозы, якія сумяшчаюцца з арганізмам, адразу ж выклікалі ў медыцынскім свеце вострую да сябе цікавасць. Міністр аховы здароўя СССР Б. В. Пятроўскі, міністр лёгкай прамысловасці СССР М. Н. Тарасаў і міністр аховы здароўя рэспублікі М. Я. Саўчанка актыўна падтрымалі беларускіх вучоных. Выдзелены неабходныя сродкі для атрымання новых матэрыялаў належнай тэкстыльнай формы (напрыклад, палатно, павязкі, трубкі і г. д.) у колькасці, дастатковай для шырокай іх апрабацыі. Некалькі месяцаў назад да гэтых пошукаў далучыліся вучоныя Мінскага медінстытута.

Прафесар Ігар Ярмоленка.

Сёння няма яшчэ раўназначнага замenніка гаючага і спажыўнага мацярынскага малака. Каровіна ж малако без адпаведнай апрацоўкі нельга даваць грудным дзецям, бо ў ім многа кальцыю. Таму яго разбаўляюць дабаўкамі іншых прадуктаў або, як гэта робяць, напрыклад, у Маскве і Каўнасе, прапускаюць праз сінтэтычныя смолы. Але прадукт пры такім спосабе можа атрымліваць непажаданыя прымесі, ды і працэс яго атрымання складаны.

А што, калі прапусціць каровіна малако праз марлю з вугляводнага сарбенту,— прапанавалі ў інстытуце. Прапусцілі. Новы від малака самым старанным чынам выпрабавалі ў лабараторыі тэхналогіі дзіцячых малочных прадуктаў Украінскага навукова-даследчага інстытута мясной і малочнай прамысловасці. Якасць — самая высокая.

— Укараненне новага спосабу — нескладанае і недарагое,— гаворыць Ігар Мікалаевіч.— Спадзяёмся, што хутка наша прамысловасць наладзіць масавы выпуск такіх фільтраў, і тады нават у хатніх умовах будзе няцяжка прыгатаваць патрэбную колькасць малака для дзяцей. Спосаб гэты мы распрацавалі разам з мінскім урачом Міхаілам Львовічам Лонгіным.

Кажуць, усё геніяльнае — простае. Менавіта гэтую фразу ўспомнілі мы, калі пачулі расказ Ігара Мікалаевіча яшчэ пра адну арыгінальную работу іх лабараторыі.

Лячэнне многіх хвароб сёння проста немагчыма без своечасовага пералівання донарскай крыві. Каб кроў, узятая ў донара, не згарнулася, у яе адразу дадаюцца пабочныя рэчывы для стабілізацыі.

Ужо вось паўстагоддзя для гэтай мэты карыстаюцца лімоннакіслым натрыем ці іншымі комплексаўтваральнымі злучэннямі. Яны звязваюць частку кальцыю, і кроў стабілізуецца на дастаткова працяглы час.

Але ёсць тут адно «але». Утвораныя злучэнні застаюцца ў плазме. Пры малых і нават сярэдніх пераліваннях гэта не мае істотнага значэння, пры вялікіх— ужо не пажадана. У такіх выпадках урачы звяртаюцца да прамога пералівання. А гэты метад, у сваю чаргу, складаны і неаператыўны.

Вучоныя многіх краін ужо даўно працуюць над тым, каб у кансерваванай крыві не было хімічных дабавак. Для гэтага спрабавалі прапускаць кроў праз іонаабменныя смолы, але і гэта не давала належнага эфекту.



Апарат для атрымання сарбентнай крыві.

Метад, распрацаваны групай навуковых супрацоўнікаў інстытута пад кіраўніцтвам І. М. Ярмоленкі і ў садружнасці з вучонымі Беларускага навукова-даследчага інстытута гематалогіі і пералівання крыві, зусім просты. Для стабілізацыі крыві яе прапускаюць праз тонкі пласт марлі, апрацаванай рэактывамі, якія папярэджваюць згортванне крыві. Новы спосаб паспяхова апрабаваны не толькі ў Мінску, але і ў клініках Масквы, Ленінграда, Тбілісі, Львова... Тысячы пераліванняў такой крыві хворым паказалі яе высокую тэрапеўтычную эфектыўнасць. Яна блізкая па сваіх уласцівасцях да натыўнай, г. зн. крыві без пабочных дабавак. Яе пераліванне праводзіцца без абмежавання тэрмінаў, не патрабуе абавязковага ўвядзення прэпаратаў кальцыю: яна прыгодная для аперацый з апаратамі штучнага кровазвароту.

На распрацаваны сарбент і спосаб стабілізацыі Камітэт па справах вынаходніцтва і адкрыццяў пры Савеце Міністраў СССР выдаў некалькі аўтарскіх пасведчанняў. Афармлена патэнтаванне ў ЗША, ФРГ, Францыі, Японіі і іншых краінах. Даклад аб рабоце беларускіх вучоных быў уключаны ў парадак дня XII Міжнароднага кангрэсу па пераліванні крыві, які адбыўся летась.

## У ЗАРАЛЁЦЕ... АГАРОД

«Вельмі палепшыла рацыён салата, якую мы гатавалі з раслін, што выраслі ў нашай аранжарэі. У гэтым, магчыма, адна з прычын добрага апетыту». Гэта сказаў Андрэй Бажко, адзін з удзельнікаў медыка-біялагічнага эксперыменту, праведзенага крыху больш як год таму назад у савецкім «зямным заралёце». Чытаючы ў тыя дні газеты, усе мы шчыра радаваліся поспехам айчыннай навукі: «Сёння год работы ва ўмовах, набліжаных да касмічных, а заўтра, магчыма, рэальнасцю будзе шматмесячны рэйс у Сусвет». *Так думалася.* І яшчэ думалася: «Магчыма, надыдзе дзень, калі ў радыёрапартах касманаўтаў, акрамя звыклых дакладаў, будзе сказана пра работу «на агародзе». І даведаюцца людзі, што на караблі, які баразніць касмічную прастору, пасадзілі салату, агуркі, капусту, пасеялі кроп...»

Гэта не фантастыка. Думаецца, што так будзе, *бо людзі прадаўжаюць штурм* Сусвету. І вельмі важна з многіх пунктаў гледжання, асабліва, з маральнага, стварыць *для* чалавека па-за Зямлёй зямныя ўмовы. Сёння мы можам сказаць, што маладыя беларускія вучоныя сваімі даследаваннямі рэальна памагаюць *вырашэнню гэтай важнай* задачы. Мы маем на ўвазе, перш за ўсё, творчы калектыў *лабараторыі тэрмадынамікі іонаабменных працэсаў.* Дырэктар інстытута **Уладзімір Сямёнавіч КАМАРОЎ** падрабязна гаворыць пра поспехі, пра планы гэтай лабараторыі, пра яе супрацоўнікаў.

— Для выпрабавання ў «зямным заралёце» *нашы вучоныя прапанавалі* ў якасці заменніка глебы ўжыць спецыяльныя іонаабменныя смолы, насычаныя спажыўнымі рэчывамі,— расказвае Уладзімір Сямёнавіч.— Аўтарамі іанітнай глебы з'яўляюцца загадчык лабараторыі, доктар хімічных навук Уладзімір Салдатаў і кандыдат фармацэўтычных навук Наталля Пёрышкіна.

Ды хіба толькі ў космасе прыдасца гэтая глеба? Нядаўна крыху «касмічнай глебы» ўзялі палярнікі станцыі «Маладзёжная» ў Антарктыдзе. Ёсць адрасы і бліжэй. У парніковых гаспадарках пад Мінскам *на плошчы ў некалькі соцень* квадратных метраў выпрабоўваецца ўплыў дадавання іанітаў у звычайную глебу. Вынік таксама добры.

Першыя крокі заўсёды нясмелыя. Але верыцца, тое, што сёння ўзялі на ўзбраенне спецыялісты мінскай парніковай *гаспадаркі, заўтра* смела пачне прыжывацца і ў іншых месцах.

Як паказалі доследы вучоных з Інстытута эксперыментальнай батанікі АН БССР, іаніты прыдатныя для шэрагу культур: бульбы, капусты, морквы, радысу, усялякіх зялёных раслін. Ураджаі атрымліваюцца значна вышэйшыя, чым



Наталля Пёрышкіна — адзін з аўтараў іанітнай глебы.

на натуральных глебах. Так, напрыклад, з аднаго квадратнага метра карыснай плошчы вучоныя атрымалі больш за восем кілаграмаў бульбы, што ў пераліку на гектар азначае 80 тон.

Але што ж усё-такі ўяўляе сабой цуд-*глеба? Іаніты — адна з* разнавіднасцей пластмас, якія маюць электрычна зараджаныя групы. Іанітная глеба складаецца з сумесі двух відаў: катыянітаў (адмоўна зараджаныя электрычнымі часцінамі групы) і аніянітаў (дадатна зараджаныя групы). Праз кожны кілаграм *сумесі прапускаюць да* трохсот літраў спажыўнага раствору. У іанітныя смолы ўводзяцца іоны кальцыю, *магнію, калію,* фосфару і іншыя мікра- і макраэлементы. Атрымліваецца глеба, якая ў дзесяткі разоў больш урадлівая, чым *на*зямн. Іанітная глеба значна лягчэйшая за натуральную, а адпаведна — і больш транспартабельная. Усе гэтыя ўласцівасці *і дазваляюць гаварыць, што* недалёка той час, калі іанітная глеба будзе выпускацца на звычайных фабрыках у вялікіх колькасцях.

Уладзімір Сяргеевіч Салдатаў пазнаёміў нас з перапіскай, якую вядзе інстытут з Ніжнетагільскім заводам пластмас. Інжынеры-практыкі з энтузіязмам узяліся за асваенне вытворчасці іанітнай глебы. І *калі неўзабаве ў магазінах* з'явяцца поліэтыленавыя шкляначкі і мяшэчкі, напоўненыя лёгкімі дробнымі пацеркамі з паэтычнай назвай «Жывіца», на паліцах гэты тавар, можна смела сказаць, не залежыцца. Усесаюзнае аб'яднанне «Саюзбытхім» ужо даручыла аднаму з маскоўскіх заводаў пачаць гандлёвую расфасоўку першых партый іанітнай глебы. Гаспадыні, і ўвогуле аматары пакаёвых раслін, будуць задаволены гэтым падарункам.

У «касмічнай глебы» знайшліся вельмі зямныя справы. Сёння яна яшчэ не выйшла за межы аранжарэй і цяпліц, але заўтра яе шлях можа пралегчы на прасторы калгасных палёў, ператвараўшы непрыдатныя глебы ва ўрадлівыя.

●

Дзве лабараторыі, дзве праблемы, якія вырашылі маладыя вучоныя-хімікі. Праблемы гэтыя маюць дзяржаўнае значэнне.

На XXIV з'ездзе ЛКСМБ кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС першы сакратар ЦК КП Беларусі Пятро Міронавіч Машэраў сказаў: «...асноўным ядром нашых вядучых навуковых цэнтраў, а таксама базавых лабараторый і канструктарскіх бюро, якія ўносяць істотны ўклад у развіцці навукі і тэхнікі, з'яўляецца моладзь».

І адзін, але характэрны прыклад гэтага — навукова-даследчы Інстытут агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР.



Яны растуць на глебе «Жывіца».

**Уладзімір ФРЭЙДЗІН,**
**Анатоль КУДРАЎЦАЎ.**
Фота **аўтараў.**

**сур'ёзнае і кур'ёзнае**

# У СВЕЦЕ РЫБ

### ПРА КОЛЕР І ФОРМУ...

На зямным шары вядома звыш дваццаці тысяч відаў рыб. Многія з іх маюць самую незвычайную афарбоўку і форму.

Рыбы, што жывуць у верхніх слаях вады, маюць срабрыстую афарбоўку, а глыбіннаводныя — больш яркія і цёмныя колеры. Марскі акунь, які жыве на глыбіні да ста метраў, чырвонага колеру, ліпарыс — ружовага, пінагор — цёмна-карычневага. У акіянскіх глыбінях — звыш 1 700 метраў — рыбы маюць сінія, фіялетавы і чорны колер, а іншыя зусім бясколерныя, як глыбакаводная байкальская галамянка.

Марскія рыбы, асабліва ў трапічных водах, па стракатасці і яркасці могуць паспаборнічаць з райскімі птушкамі. Здзіўляе правільнае спалучэнне рубінавага, бірузовага, чорна-аксамітнага колераў, якімі афарбаваны іх спіны і плаўнікі. Яны ўпрыгожаны рознакаляровымі палоскамі, плямамі. Між каралаў і марскіх лілей такія насельнікі выглядаюць дзівосна казачнымі...

Колер рыб залежыць у значнай ступені ад таго, якога колеру дно, вада. Напрыклад, у рэках, што цякуць з балот, сустракаюцца жоўтыя і нават сіняватыя акуні, а ў забалочаных азярцах акуні зусім чорныя. У Волхаўскай губе і ў рацэ Волхаў водзіцца сіг, які мае светлую луску, а ў паўночнай частцы Ладажскага возера плодзіцца чорны сіг.

Звычайна глыбінныя рыбы маюць зусім цёмную ці чырвоную афарбоўку. Чаму? На вялікай глыбіні чырвоны колер здаецца чорным, і ён не так кідаецца ў вочы драпежніку.

Некаторыя рыбы маюць здольнасць мяняць свой колер, прыстасоўваючыся да асяроддзя і ўмоў жыцця.

Вельмі разнастайныя рыбы па форме. Цела калючай акулы, напрыклад, нагадвае падводную лодку ці тарпеду. Такой жа формы ласосі, скумбрыі. Яны, як і змеепадобныя міногі і вугры, выдатныя плывуны.

У трапічных морах водзіцца месяц-рыба, бо яна нагадвае сярпок Месяца, а хвост кароткі, як абсечаны, плаўнікі завостраныя і ссунуты назад. Яе даўжыня больш за два метры, і яна важыць звыш тысячы кілаграмаў.



Кузоўка.



Акула.



Вугор.



Месяц-рыба.

У водах далёкаўсходняга Прымор'я водзіцца невялічкая рыба-кузоўка. З выгляду яна нагадвае верацяно. Як толькі надыходзіць небяспека, кузоўка надзімаецца і становіцца падобная на пухір. Плыве такі пухір угару жыватом, які пакрыт мноствам калючак, і да яго не надта кінецца вораг. Як небяспека мінае, кузоўка выпускае з жывата паветра, апускаецца ў ваду глыбей і набывае сваю ранейшую форму.

У водах Аўстраліі жывуць невялікія, даўжынёй каля 25 сантыметраў, рыбы, якія з выгляду нагадваюць водарасці. Іх яшчэ называюць «марскім анучнікам». Калі глядзець збоку на такую рыбу, то здаецца, што яна абвешана анучамі, стужкамі рознай даўжыні і шырыні, пад колер водарасцяў.

Незвычайныя па форме акварыумныя рыбкі, якія ўсе паходзяць ад звычайнага карася. Адна з іх мае хвост у выглядзе памяла, другая з плаўнікам, як хвост у пеўня, чорныя рыбкі маюць хвасты ў выглядзе веера.

Незвычайнай прыгажосці залатыя рыбкі, выведзеныя акварыумістамі Кітая і Японіі ад хатняга карася. Яны вельмі яркія, з арыгінальнымі плаўнікамі.

### РЫБЫ-МАЛЮТКІ І РЫБЫ-ГІГАНТЫ

На Філіпінскіх астравах водзіцца бычок-містыхіс — даўжыня 1—1,5 сантыметра. Ён лічыцца самай маленькай рыбай. Яго ловяць і скарыстоўваюць для харчавання.

У водах СССР самая малая рыба бычок Берга даўжынёю каля трох сантыметраў. Яго можна сустрэць у Азоўскім, Каспійскім і Чорным морах. Потым ідзе колюшка, якая водзіцца ў Заходняй Дзвіне, Нёмане, Заходнім Бугу, у азёрах Браслаўскай групы, у вадаёмах Прыбалтыкі. Нядаўна шмат колюшкі выяўлена ў сажалцы Батанічнага саду Акадэміі навук БССР.

Байкальскі бычок, каменная шыракалобка — таксама рыбы-малюткі, яны ў даўжыню не больш за восем сантыметраў.

Самымі вялікімі з рыб лічацца акулы. У паўночнай Атлантыцы, часткова ў Баранцавым моры, жыве акула-волат. Асобныя рыбы дасягаюць у даўжыню 15 метраў. Ударам хваста такая акула можа разбіць марскую лодку.

Ёсць волаты сярод асятровых. У Каспійскім моры вылоўліваюць бялугу вагою ў паўтары тоны. Па тоне і большай вагі ловіцца бялуга ў Амуры. Балтыйскія марскія асятры важаць па 280 і больш кілаграмаў.

З касцістых рыб вялікай лічыцца арапайма. Яна дасягае ў даўжыню чатыры метры і важыць да 200 кілаграмаў. Водзіцца ў рэках трапічнай Амерыкі.

Між самоў вылоўліваюцца экземпляры даўжынёй у пяць метраў. У Дняпры ёсць самы па два цэнтнеры, у Каспійскім моры — па 160 і больш кілаграмаў.

Якой велічыні шчупакі? Вельмі рэдка сустракаюцца рыбіны вагою каля 50 кілаграмаў і даўжынёю паўтара метра.

Траска звычайна мае памеры 50—70 сантыметраў і вагу ў 4—7 кілаграмаў. У 1940 годзе ў Баранцавым моры злавілі траску даўжынёю 169 сантыметраў, вагою ў сорак кілаграмаў.

Ёсць гіганты сярод селядцовых рыб. Гэта атлантычны тарпун. Сустракаюцца тарпуны даўжынёй да двух метраў і вагою да 50 кілаграмаў.

Адным з самых небяспечных акіянскіх драпежнікаў лічыцца рыба-молат, якая дасягае 3—4 метраў у даўжыню і водзіцца ў трапічных морах. Часам яна сустракаецца і ля берагоў Еўропы.

Уладзімір ПІНЯЗЬ,
кандыдат біялагічных навук.



Рыба-молат.



Бычок.



Марскі анучнік.



**Уладзіміра Захарына — інжынера-канструктара Мінскага мотавелазавода і яго сяброў — інжынера Генадзя Пілюкевіча і выпрабавальніка Анатоля Мохава аб'ядноўвае не толькі прафесійны занятак. Заўзятыя падарожнікі, яны ўдзельнічалі ў аўтамотаралі «Радзіма-66», мотапаходзе «Сцяг Кастрычніка» — па дарогах СССР, Польшчы, ГДР, Чэхаславакіі, Венгрыі, Югаславіі, Балгарыі, Румыніі, зрабілі пераход па Каўказе. Летась тры мінскія мотападарожнікі зрабілі яшчэ адзін паход: «Брэст — Уладзівасток». Адзін з іх, Уладзімір Захарын, падае тут свае нататкі.**

# НА ПОКЛІЧ ДАРОГ

## З БЛАКНОТА МОТАТУРЫСТА

Гэтая ідэя нарадзілася ля кастра ў Карпатах. Нас было шасцёра: хлопцы з політэхнічнага інстытута, з універсітэта і нашы, заводскія. Загаварылі пра падарожжы, і Саша Чуланаў сказаў:

— А што, браткі, давайце наступным летам з'ездзім ва Уладзівасток?..

— Гэта было б здорава!

— І пачнем з Брэста, — прапанаваў Генадзь Пілюкевіч. — Пройдзем па ўсёй краіне, ад заходніх да ўсходніх граніц...

...І вось пачатак паходу. Стартавалі з Брэста. Перад гэтым пабывалі ў крэпасці-героі, паглядзелі музей. Жменьку свяшчэннай зямлі, дзе ў суровым 1941-м сталі насмерць героі бессмяротнага гарнізона, мы ўзялі з сабою, каб завезці яе на далёкаўсходні фарпост нашай Радзімы.

Праязджаем па роднай беларускай зямлі. Помнікі, абеліскі... Героям Мінскага напрамку, героям баёў на Бярэзіне, падпольшчыкам «Асінторфа»...

Імклівa разгортваецца стужка шасэ. Насустрач ляцяць стракатыя ўказальнікі, дрэвы ў пахучай лістоце, палі, пасёлкі, вёскі, гарады.

Непадалёк ад дарогі — помнік. У імклівым віражы набірае вышыню знішчальнік. На пастаменце надпіс: «Адважным абаронцам маскоўскага неба 1941—1945 гг.». У гады Вялікай Айчыннай вайны героі тылу перадалі героям фронту 36 тысяч знішчальнікаў «Як-3», у адзнаку гэтага подзвігу — народны помнік.

Пад Масквой мы аглядалі траншэі, зарослыя травой, супрацьтанкавыя надаўбы, уздыблены танк. Тут адбывалася смяротэльная сутычка з фашыстамі, тут, на подступах сталіцы, быў спынены вораг.

Масква! Дастаткова ўбачыць рубінавыя зоры Крамлёўскіх вежаў, пабыць ля Маўзалея У. І. Леніна,



Наперадзе — вялікая дарога.

паслухаць, як плыве ў вячэрняй цішы меладычны звон курантаў Крамля, ціха прайсціся каля яго зубчатых сцен, каб сказаць, што ты быў у Маскве, і табе гэтага ўражання хопіць на ўсё жыццё.

Можна, не адрываючы позірку, бясконца любавацца новымі гмахамі на Арбаце. Зачаруе сваёй веліччу будынак СЭВ, які, нібы дзівосны карабель, сваімі вострымі вугламі разразае сіняву нябеснага акіяна. Нібы горад у горадзе, раскінуліся павільёны ВДНГ, дзе можна не заўважыць, як пройдзе ўвесь дзень.

Зноў ляцяць кіламетры. Залацістымі купаламі, белакаменнымі саборамі, што параскіданы па зялёных пагорках, запрашае ў гісторыю Уладзіміршчына. Пралятаюць кіламетры чарназёмных прастораў — Чувашыі, Башкірыі, Татарыі. То тут, то там бачны нафтавыя вышкі, гараць яркія факелы, і іх водсветы відаць далёка-далёка. Ля вежаў — рэзервуары, трубы нафтаправода. Ля вышак — зямля чорная, масляністая...

Здзіўляе, што мы нібы гонімся за вясной. З Мінска мы ад'язджалі, калі ўжо адцвілі сады, а тут, на Паволжы, яшчэ толькі-толькі распускаюцца дрэвы. Зямля яшчэ сырая, увечары, калі настае пара ставіць палаткі, даводзіцца доўга выбіраць высокае, сухое месца.

Ехалі праз горад Горкі. Дождж, вецер, стынь. Па вуліцы марудна плыве паток машын. Нас прыціснулі да самай асявой лініі. Рэгуліроўшчык пільна ўзіраецца ў надпіс на пярэднім матацыкле: «Брэст — Уладзівасток» і паціскае плячыма:

— Хлопцы, я вам не зайздрошчу!..

Кіламетры камяністай і пясчанай дарогі. Пад'ёмы і спускі. Горы, пакрытыя лесам і хмызняком. Лясы ідуць далёка, як хапае вока, знікаюць ў мроіве нізін.

Урал... Урал... Гэта і быстрыя рэкі, і векавыя лясы. Гэта і водар чаромхі, і сінія іскры чыстых азёр. Прыгадваюцца ўральскія майстрыўмельцы. У Златаусце мы з захапленнем разглядаем сталёвыя дэкаратыўныя рашоткі. Адным росчыркам майстар-мастак выпісаў са сталі крылатага каня. Пазней мы сустракалі такі ж сілуэт аленя пры ўездзе ў Міяс...

Надоўга застанецца ў памяці ноч, якую мы правялі на мяжы Еўропы і Азіі. Праз дзень у дзённіку з'явіўся наступны запіс: «На вялікі жаль, скончыўся Урал. Цягнуцца стэпы з скупымі вадаёмамі і астраўкамі бярозак».

Чарговы прыпынак у Чалябінску. Вялікі горад захапіў нас шумлівасцю вуліц. Гарачыня. Едзем да паштамта. У добра афармленай зале ўтульна і свежа. Спяшаемся напісаць лісты дадому. Але, як вядома, у дарозе лісты ідуць толькі ў адзін бок — зваротнага адрасу няма.

У магазіне запчастак нас акружылі цікаўныя — гэта былі, найбольш, матацыклісты. Між іх аказаліся і мотатурысты. Нас запрасілі ў мотаклуб. Мы сустрэліся з хлопцамі, якія ўжо рабілі паездку ў Краснаярск. І было, вядома, карысна ўведаць сёе-тое пра дарогі, якія нас чакаюць наперадзе.

Нас праводзіць вялікая група. Па вуліцах горада рухаецца незвычайная калона — наперадзе зялёны «Масквіч-407», за ім нашы «скакуны» М-106. За намі — хлопцы на «Явах», «Іжах»...

Ля гарадской мяжы — развітанне. Робім фота- і кіназдымкі. Абменьваемся адрасамі. Развітваемся. Чалябінцы абяцаюць прыехаць у Шушанскае, дзе меўся адбыцца фінішны злёт турыстаў.

За Уралам усё радзей пачалі трапляцца па дарозе калодзежы. Потым і зусім зніклі. Іх можна было знайсці з дапамогай мясцовых жыхароў. Затое пачалі з'яўляцца азёры з шаравата-зялёнай вадой. Берагі бялеюць узбітай пенай, зямля пакрыта соллю, шалясціць высокая пасохлая трава. Гэта — саланчакі.

Неўзабаве ўпершыню давялося нам сустрэцца з пыльнай бурай. Гэта было 13 чэрвеня. Начавалі мы непадалёку ад мяжы з Казахстанам. Раніца была сонечная. Дзьмуў моцны заходні вецер. Ехаць на матацыкле пры такім ветры — невялікая прыемнасць. А сонца ўсё пячэ і пячэ. Дыхаць цяжка: гарачае сухое паветра перасядае ў горле, стрымлівае дыханне. І тут мы заўважаем, што дарога наперадзе пачынае курыцца, зацягваецца туманам. І вось ужо вецер гоніць хмары пылу. З вачэй знікаюць нізкія, прыпаўшыя да зямлі, кусцікі кавылю. На зубах трашчыць пясок. І сонца — не сонца, а нейкая ледзь прыкметная пляма. Нават не бачу свайго пярэдняга, Генку. Збаўляем хуткасць, павольна прадзіраемся праз пясчаную пеляну-заслону. Пяску — поўныя вушы, рот. Здаецца, ён вось-вось праглыне нас зусім. Так цягнулася больш чвэрці гадзіны. Потым зноў паказалася сонца, і толькі вецер ды нашы ўшчэнт занесеныя пылам машыны, вопратка, твары гаварылі пра тое, што мы толькі што сустрэліся са злосным буранам, які цяпер, на гарызонце, здаваўся бясконцай бялесай аблачынкай.

На другі дзень з «аблачынкай» давялося сустрэцца яшчэ раз. Па дарозе да Петрапаўлаўска ішлі зноў скрозь пыльны буран. І тут у нас была адна нечаканая сустрэча. У Анатоля раптам заглух матор — скончыўся бензін. І ў запасе няма. Насустрач імчыцца «газік». Толя падымае руку. Машына спынілася, і з кабіны выйшла маладая жанчына. Твар і рукі апалены моцным загарам.

— Ну, арлы, што здарылася?

— Ды вось, бензінчыку б...

— А адкуль, хлопчыкі, будзеце? Нумары нейкія не нашы...

Пакуль Анатоль запраўляў матацыкл, Галіна Васільеўна, — так звалі нашу знаёмую, — абышла нашы матацыклы, з цікавасцю прачытала на першай надпіс, і твар яе палагаднеў ад усмешкі:

— Браточкі! Гэта праўда, што тут напісана?

— Вядома.

— Ой!..

У яе на вачах бліснулі слёзы.

— Я ж таксама з Брэста. Землякі...

Далей на нашым шляху Омск, Новасібірск, Кемерава, Ачынск... Многія гарады добра запомніліся. Едзеш дзесяткі, сотні кіламетраў, і — ні аднаго паселішча. І дзень, і два, а то і тыдзень — і толькі палі ды лес, які здаецца бясконцым. Тады раптам перад табою — белыя сілуэты дамоў-камяніц. Ці не сон гэта? Здавалася ж, што ўжо наперадзе — ні гарадоў, ні стрэчных машын.



На беразе свяшчэннага Байкала.

Каля Новасібірска нам сустрэліся два матацыклісты. Машыны нашы — М-105. І сумкі ля багажнікаў. Значыць, свае, падарожнікі. Спыніліся. Прывіталіся.

— Гэта праўда, што ў вас тут напісана? — пацікавіліся яны.

— Вядома, праўда, — азваўся Анатоль. — З Мінска прыехалі ў Брэст, а адтуль, — хочам, канечне, — да Уладзівастока. А вы?

— З Сахаліна. І — да Масквы.

Гутарым ужо як добрыя знаёмыя. Тым часам зайшло сонца, звечарэла. Разам уладкоўваемся на начлег. Нашы сустрэчныя — Галя і Саша — масквічы. Галя скончыла Маскоўскі аўтадарожны тэхнікум, Саша — Маскоўскі аўтадарожны інстытут па спецыяльнасці «выпрабаванне аўтамабіляў».

Доўга палаў на сібірскай прасторы наш касцёр. Нам было пра што пагаварыць...

Кемерава.

На прыпынку да нас падышоў прахожы:

— Адкуль, хлопцы?

— З Мінска.

— А куды?

— Да Ціхага акіяна.

— Малайцы, беларусы! І матацыклы новыя. Ведаем пра вашы машыны. Вы нам трактар, мы — метал. Вы нам самазвал, мы — вугалёк. Дружба!..

...Суботні дзень. Перапраўляемся праз раку Чулым. Уз'язджаем на паром першыя. Глядзім, як уладкоўваюцца грузавікі. Раптам да нас прабіраецца матацыкліст. Завязваецца размова. Наш спадарожнік Толік — работнік Ачынскага райкома камсамола. Захапляецца мотаболам. Капітан каманды.

Увечары мы гасцілі ў Толіка. Люда, — гаспадыня, Толікава нявеста, — частавала нас смачнай вячэрай: юшкай са стэрлядзі і сахацінай — так тут называюць сушаную аленіну. Нам прыемна было пагаварыць з новымі людзьмі, якія сталі для нас блізкімі знаёмымі.

Апоўдні на ўскраіне Ачынска спыніліся тры нашы сінія матацыклы. За намі — цэлы ланцуг матацыклаў. Гэта Толікава каманда праводзіла нас, жадаючы шчасця ў дарозе.

Краснаярск сустрэў нас мноствам электрамачт. Спачатку здалося, што горад невялікі, загубіўся ва ўпадзіне, між хрыбтамі. Але потым мы здзівіліся: вялікія кварталы новых дамоў, стромкія коміны заводаў; на беразе славутага Енісея стадыён уражвае сваёй элегантнасцю і смеласцю формы.

Далей нас чакала тайга. Пералівамі зяленаватых хваль разлеглася яна па горных схілах. Узбоч дарогі — высачэзныя травы, мноства кветак; вялікія аранжавыя, жоўтыя, бы ружы, дробныя белыя, блакітныя... Пахне смалой, кветкамі. Пыльны шлейф увесь час цягнецца за матацыкламі.

Ніколі не забудзецца Байкал, падарожжа па Забайкаллі. Вось некаторыя запісы, што засталіся ў дзённіку.

«...28 чэрвеня. Ноч за Слюдзянкай. Палатку і машыны паставілі на схіле гары. А ў дымцы, унізе, здаецца, свеціцца ружовы Байкал, самае глыбокае і самае дзівоснае возера ў свеце. Агні Слюдзянкі і Култука — гэта незабыўнае ўражанне. Яны як бы люструюцца ў возеры. Ноч халодная. У паветры вялікая вільготнасць, але мы гэтага не заўважаем. Нас саграваецца касцёр і цёплыя зоры над Байкалам».

«...29 чэрвеня. Вось і сам легендарны сівы Байкал! Камяністыя берагі, усыпаныя круглым каменнем. Бярозы, сосны. Дрэвы аж пад неба.

Вада ў возеры чыстая, крыштальная. Зганяем смагу, мыемся. Назіраем, як між камянёў у вадзе гуляе рыба».

Потым быў заход у паўнеба. Была ноч на Байкале. Да нас на агеньчык прыйшлі мясцовыя хлопцы і дзяўчаты. Чарнавокая бураткa Рая расказвае пра сваё жыццё, пра таварышаў.

Пад шолах байкальскай хвалі моцна спіцца ў палатцы. Ранкам зарадка і купанне. Бераг тут пясчаны, метраў дзвесце ад берага возера неглыбокае. Дно цвёрдае. Вада ласкавая, хвалі, бы на моры.

Над возерам чайкі — крылатыя рыбаловы палююць за рыбай. На даляглядзе, у мроіве, лодкі рыбакоў. І ледзь прыкметныя на тым беразе прывіды гор, натоўп дрэў...

Забайкалле. Прамая гравійка вядзе проста на ўсход і зліваецца з небам, дзе цямнее хрыбет Дарасун. Трымаем кірунак на Чарнышэўск. Надвячорак. Але яшчэ горача, звыш дваццаці градусаў вышэй нуля.

Увесь час то спускаемся ўніз, то падымаемся ўгору. З-пад колаў уздымаюцца воблакі пылу. Ні машын, ні пешаходаў. Рэдка дзе ўбачыш непадалёк ад дарогі вёсачку ці кашару для жывёлы.

І раптам насустрач з пагорка спускаецца веласіпедыст. На багажніку — вялізны рукзак, па баках — чамаданчыкі. Спыняемся. У падарожніка на рулі дошчачка з надпісам: «Магадан — Ленінград — Магадан». Падарожнік таксама спыніўся — загарэлы моцны мужчына гадоў трыццаці пяці. Усміхаецца.



— Добры дзень, — пачынае размову Гена.

— Добры дзень, хлопцы!

— Адкуль і куды? — разам гаворым мы.

— З Магадана ў Ленінград. А вы?

Пазнаёміліся. Валянцін Зянкоў — з пасёлка Ягаднае пад Магаданам. Інжынер-геолаг. Мы пажадалі таварышу шчаслівай дарогі і развіталіся, як сябры.

«...12 ліпеня. Раніцою яшчэ ва ўсіх быў добры настрой, а цяпер нешта хлопцы засумавалі. Па спідометру, па карце павінна быць Атаманаўка. Але яе няма. «Штурмуем» рачулкі, балоты, зараснікі травы. Дзе вельмі цяжка, падкідваем галлё. Да поўдня адолелі шэсць кіламетраў».

Нарэшце — нечаканасць. Між бярозак — пунька. Заглянулі — у ёй конь. Непадалёк студня. Хлопцы павесялелі, значыць — блізка жыллё. Рашылі зрабіць невялікі прывал. Прабіраемся з купіны на купіну. Сцяжынка забірае ўлева і ўпіраецца ў агароджу. За ёй — дамок і два хлеўчукі. Чуцен брэх сабакі. Праз хвіліну выходзіць хударлявы стары. На лоб ссунуты акуляры. Жылістыя рукі ласкава гладзяць сабаку.

— О, бачу, хлопцы ў бяду трапілі, — гаворыць ён, спагадліва ўсміхаючыся.

— Так. Падкажыце, бацька, як праехаць да Атаманаўкі...

— Няма яе, Атаманаўкі. Дзесяць гадоў, як знеслі яе, а можа і больш...

Ягор Паўлавіч — гаспадар дамка — запрасіў нас адпачыць. Ён — пчаляр. З унукамі даглядае калгасных пчол.

Мы сядзім у хаце з тоўстых смалістых круглякоў. Замест дзвярэй — металічная густая сетка, мусіць, ад машкары. У куце — печ, ложак. У другім — стол, услончыкі. На іх пасечнікава начынне.

На сцяне выразка з плаката — Спаская вежа Крамля. Нам стала неяк весялей: значыць, не так ужо далёка яна, наша Масква-сталіца...

Тым часам на стале з'явіліся сухары, мёд, чай. Стары, частуючы нас, расказваў, як летась уначы да яго завіталі госці — матацыклісты. Спачатку зайшоў адзін. Сказаў, што яны ўдвух на матацыклах, выбіліся з сіл. Суткі не елі.

— Жылі хлопцы ў мяне трое сутак, — закончыў стары. — Вельмі ўжо яны змардаваныя былі.

Развітваючыся з намі, стары даў на дарогу вадзіцы ды добрыя пажаданні: «Добра, каб к вечару дабраліся да Зарэчнага, бліжэйшай вёскі».

Мы прабіраліся праз балоты, цераз рэчкі. Праехалі яшчэ дзве пасекі. Прыцемкам пачулі рокат матора. Зарэчнае. Ля магазіна стары малдаванін запрасіў нас да сябе:

— Беларусія! — усклікнуў ён. — Ды гэта ж суседзі, блізка ля



Этапы падарожжа.

Малдавіі! Мы ж амаль што земля-кі. Не крыўдзіце, хлопцы, старога, заходзьце.

...У Чыце нас акружылі цікаў-ныя. Мы спыніліся ля будынка геалагічнага ўпраўлення. Быў час абеду, і да нас падышла група геолагаў. Між іх аказаўся і супрацоўнік газеты «Комсомолец Забайкалья» А. Кузняцоў. Пачаліся пытанні, роспыты.

— Цераз хрыбты (Чэрскага і Даурскі) не ідзіце! — чуюцца галасы з грамады.

— Чаму? — здзіўляемся мы. — Дарога ж нанесена на карту.

— Снег там, кажуць, яшчэ. Замерзнеце...

А другія раяць:

— Толькі праз хрыбты трымайцеся. Бо дарогі будуць дрэнныя, не прабярэцеся...

Тут адзін з геолагаў прынёс нам карту Чыцінскай вобласці, уручыў запісныя кніжкі геолагаў, дзе аказалася шмат добрых парад.

...Зноў дарога. Прывалы, пераправы, начлегі... Былі вятры і навальніцы, былі маўклівыя прасторы. Былі Амур і Даурыя, квяцістыя лугі Прыамур'я і сопкі Прымор'я. Іншы раз было цяжка ў дарозе, але радасць адкрыццяў, цяпло сустрэч дапамагалі пераадольваць цяжкасці і нягоды.

...Гарачы сонечны дзень. Прыморскія сопкі купаюцца ў сонцы. Шэрая стужка шасэ. Непадалёк ад Ніжнеміхайлаўкі спыняемся ля транспаранта: «Востраў Даманскі — савецкі востраў! Ганьба правакатарам з Пекіна!». Вось тут, на Амуры, нашы равеснікі дастойна нясуць варту, берагуць спакой нашай Радзімы!

...У Бірабіджане спыняемся на цэнтральнай вуліцы. З натоўпу, які нас акружыў, выходзіць дзяўчына, звяртаецца да Гены:

— Скажыце, хто з вас самы малады?

— Ёсць у нас такі, — смяецца Гена і паказвае на мяне.

— Хачу падараваць яму букет...

Вось і Уладзівасток. Пры ўездзе транспарант: «Уладзівасток — горад маракоў, рыбакоў, пагранічнікаў».

І яшчэ горад нашай мары. Ён сустрэў нас туманам. Але што туман, калі раскручваюцца апошнія метры дарогі, калі паход завершаны! Доўга ездзім па вуліцах, пакуль трапляем у цэнтр — на вуліцу Леніна. Спыняемся ля помніка змагарам за Савецкую ўладу на Далёкім Усходзе. Цяпер спяшацца няма куды. Спыталі ў маладой жанчыны, як праехаць да будынка крайкома ВЛКСМ. Яна спынілася, прачытала таблічку на пярэднім матацыкле, усміхнулася:

— А родныя ж вы мае! Я таксама з Беларусі!.. — і раптам заспяшалася некуды.

А нас тым часам акружае натоўп. Сыплюцца пытанні, жарты. І тут вяртаецца тая жанчына. У яе тры цудоўныя букеты. Далей ездзем з букетамі. Ветрык злёгку кратае чырвоныя півоні...

Нас цёпла сустрэлі ў крайкоме камсамола. Потым мы знаёміліся з горадам. Пабылі на набярэжнай бухты Залаты Рог, праехалі трамваем да канечнага прыпынку і назад, агледзелі кінатэатр «Акіян», наведалі гавань, сустракаліся з рабочым «Дальзавода», з марскімі пехацінцамі...

Хутка праляцелі два дні ва Уладзівастоку. Успамін аб ім застанецца назаўсёды.

Мы спяшаемся пабыць на фінішы ралі ў Шушанскім. З Уладзівастока едзем поездам да Ачынска. Затым — на матацыклах. 24 ліпеня зрабілі апошнія дзвесце кіламетраў.

Шасэ перасякае шырокую раку Оя. Па берагах хмызнякі, лугавіны. Мы заўважылі палатку, матацыклы. Звярнулі сюды — гэта лагер матацыклістаў. З палатак вы-йшлі хлопцы, глядзяць на «саперні-каў». І раптам — знаёмая пос-таць. «Гэта ж Саша Астапец! Вось дык сустрэча!» Два гады назад мы разам хадзілі ў паход па краінах народнай дэмакратыі.

— Сашка, якім ветрам!

— О, браткі, вітаем вас! — смяецца Саша. — Мы от прымаем прыбыўшыя каманды...

Ён сапраўды ўдзельнік адной з каманд, якія заўтра фінішуюць у Шушанскім. Пачынаюцца роспыты пра маршрут, пра цяжкасці, што былі на шляху. Да нас падыходзяць Сашавы сябры — члены каманды з Масквы. Між імі нашы старыя знаёмыя па паходу «Сцяг Кастрычніка» Жэня Осіпаў і Валера Жыжыкін. Твары іх расплываюцца ва ўсмешцы:

— Цесны свет... Цесны свет!..

26 ліпеня 1969 года. Шушанскае. На стадыёне адбылося адкрыццё фінішнага злёту аўтамотаралі «Іскра». У чоткай шарэнзе — удзельнікі ралі, своеасаблівага спаборніцтва аўта- і мотатурыстаў па рэгулярнасці руху, з асабістым і камандным залікам. Гэта — мотатурысты з многіх рэспублік краіны.



Заглушаны маторы. І не верыцца, што паход закончан.

Фота аўтара.

Выступаюць члены аргкамітэта злёту. Турыстаў вітаюць старыя бальшавікі, прадстаўнікі моладзі Краснаярскага краю, піянеры.

Кветкі, радасныя ўсмешкі...

Кіраўнікі каманд здаюць рапарты.

Рапартуе Юры Гаранін, капітан каманды Масквы. Масквічы прыбылі сюды трыма групамі — каля 30 чалавек.

А гэта дакладвае Яўген Сырнікаў, капітан каманды Ленінграда. Ленінградцы, як і ўсе аўта- і мотатурысты, ішлі па месцах, звязаных з жыццём і дзейнасцю У. І. Леніна. Пройдзена звыш 7 000 кіламетраў. Пасля Шушанскага каманда трымае курс на Уладзівасток. Яўген ад імя маладых ленінградцаў перадае ў дарунак музею У. І. Леніна ў Шушанскім зямлю ад шалаша ў Разліве.

— Каманда горада Мінска, — дакладвае наш зямляк Уладзімір Белакосаў, — у складзе дзесяці чалавек прайшла па ленінскіх мясцінах звыш 9 000 кіламетраў. На фініш прыбыла ў поўным складзе...

А гэта дакладвае Генадзь Пілюкевіч:

— Каманда спартыўна-тэхнічнага клуба Мінскага мотавелазавода з трох чалавек, завяршыўшы паход па маршруце Брэст — Уладзівасток, прыбыла ў Шушанскае. Пройдзена 18 000 кіламетраў. Усе турысты адчуваюць сябе выдатна...

Генадзь уручае дырэктару му-

зея У. І. Леніна наш заводскі вымпел, які прайшоў з намі праз усю краіну.

Пасля заліковых спаборніцтваў усе ўдзельнікі злёту наведалі ленінскі музей, зрабілі экскурсію на Жураўліную Горку, Пярова возера, дзе любіў адпачываць Ільіч. Мы былі на Кастры дружбы, які арганізавала моладзь пасёлка, знаёміліся з новабудоўлямі Шушанскага, купаліся ў Енісеі.

Потым на стадыёне аб'яўляліся вынікі ралі «Іскра». Першае месца было прысуджана камандзе Масквы, другое — камандзе Мінскага мотавелазавода. Гэта — дыпломы, вымпелы, узнагароды.

...А дарогі клічуць, і нашы сэрцы, сэрцы падарожнікаў, адгукаюцца на іх покліч.

**Уладзімір ЗАХАРЫН,**
**інжынер аддзела галоўнага канструктара Мінскага мотавелазавода.**





**Раздзел вядзе**
**міжнародны майстар**
**Макс ШАВЕЛЬ**

# ПАРТЫЯ Ў ВЕРШАХ

Аляксандр Іванавіч Шошын — адзін з самых цікавых шашыстаў Расіі. Яго творчасць вялікая і markrознабаковая. Па сваім уплыве на далейшае развіццё шашак цяжка паставіць кого-небудзь побач з ім. Нават такіх вялікіх энтузіястаў шашачнай гульні, як настаўнік гімназіі Павел Мікалаевіч Бадзянскі, які аб'ездзіў дзесяткі гарадоў Расіі ў пошуках моцных ігракоў і потым арганізаваў на свае сродкі Першы ўсерасійскі турнір, ці як вядомы даследчык шахмат і шашак Дзмітры Іванавіч Саргін, або шашыст-самародак Сяргей Андрэевіч Варанцоў, які трымаў званне чэмпіёна краіны на працягу 23 год. Ніхто з іх не раскрыў столькі новых шашачных ідэй у дэбюце і мітэльшпілі, у канцоўках і кампазіцыі, як Шошын.

Выхадзец з сялянскай сям'і Яраслаўскай губерні, Аляксандр Шошын навучыўся гуляць у шашкі ад сваіх старэйшых братоў і, як гэта часам бывае, хутка апярэдзіў сваіх настаўнікаў. Неўзабаве роўных па сіле праціўнікаў не было для яго нават у Пецярбургзе, куды пераехала сям'я. Слава пра моцнага ігрока пайшла далёка, і неўзабаве Бадзянскі спецыяльна прыехаў з Кіева, каб пазнаёміцца з Шошыным і запрасіць яго ўдзельнічаць у чэмпіянаце Расіі.

Аляксандру Шошыну было дваццаць гадоў, калі ён выступіў у сваім першым буйным спаборніцтве ў Маскве на Трэцім усерасійскім шашачным турніры. Адразу ж стала зразумела, што па сіле гульні ён мацнейшы за ўсіх вядомых ігракоў таго часу. І хоць быў заваяваны толькі другі прыз, у сяброўскім матчы Шошын выйграў у пераможца чэмпіяната Фёдара Каўлена. У наступным першынстве Расіі Шошын зноў заваёўвае другі прыз і зноў у таварыскім матчы бярэ перамогу над чэмпіёнам Расіі Сяргеем Варанцовым.

У іншых больш-менш буйных спаборніцтвах Шошыну не давялося ўдзельнічаць, бо ён раптоўна памёр, калі яму было 27 гадоў.

Пад рэдакцыяй Шошына ў 1903 годзе пачаў выходзіць часопіс «Шашечный листок». Артыкулы Шошына пра асноўныя патрабаванні да шашачных кампазіцый, яго дэбютныя аналізы, якія звярталі на сябе ўвагу прыгажосцю задумы і ювелірнай дакладнасцю пабудовы, былі краевугольным каменем для дэбютных даследаванняў іншых шашыстаў. Многія ідэі, распрацаваныя ім у канцоўках партый, цяпер перанесены на стоклеткавую дошку. Выключна дакладна Шошын сфармуляваў патрабаванні да шашачных задач на запіранні і на падставе гэтых патрабаванняў стварыў свае задачы, якія і цяпер лічацца класічнымі.

Вельмі цікавая задача Шошына, якая атрымала прэмію на конкурсе часопіса «Шахматное обозрение» (1901 год):




Белыя пачынаюць і запіраюць дамку чорных.

Прыгожае двухварыянтнае рашэнне знаёміць нас з цудоўным сплавам казачнай фантазіі і высокай тэхнікі складальніка задачы. Асабліва эфектна выконваецца задание ў другім варыянце, калі дамка чорных пазбаўлена магчымасці хадзіць на сярэдзіне поля.

1. b4—a3 d2 : b4, 2. c5—b6 c7 : a5, 3. h2 : b8 f8 : d6, 4. b8 : g3 h4 : f2, 5. g1 : e3 c1 : f4, 6. h6 : c1 b4—c3, 7. a1—b2 c3 : a1, 8. a3—b4 a5 : c3, 9. c1—b2 c3—d2, 10. e1 : c3×.

**Другі варыянт.**

1. b4—a3 d6 : b4, 2. h2 : b8 f8 : d6, 3. b8 : g3 h4 : f2, 4. g1 : d4 c1—b2, 5. h6 : c1 b4 : d2, 6. e1 : c3×.

Паглядзіце, як фантастычна выглядае фінальная пазіцыя задачы.



Аляксандр Іванавіч Шошын быў таленавітым чалавекам. Абставіны яго жыцця склаліся так, што ён не атрымаў афіцыйнай адукацыі, але ўсё, чым ён ні займаўся, дасягала заўсёды высокай ступені дасканаласці. Шахматныя задачы Шошына не раз заваёўвалі першыя месцы на міжнародных конкурсах, яго афарызмы і вершы друкаваліся ў сатырычных часопісах.

У адным са сваіх жартоўных вершаў Шошын апісаў турнірную партыю, якую ён выйграў у вядомага шашыста Аляксандра Овадава.

...Считая игроком себя
Сильнейшим в этом мире,
Пошёл с уверенностью я
c3 на d4.

И, не заставив долго ждать,
Противник без сомненья
Ответил мне: d6—e5.
И... началось сраженье.

d2—c3, e7—d6,
g3 на h4—
Противник мой готовит месть
На удивленье миру.

Глаза его огнем горят.
В них страха нет следа;
Прекрасный ход h6—g5
Он делает тогда.

И вижу я: ходов мне нет,
И лишь с трудом, едва
Нашел я правильный ответ —
Ход e1—d2.

Противник, к горю моему,
Сыграл b6—a5;
Я поспешил во след ему
Ответ скорее дать.

a3 на b4 я
Решительно пошёл,
И этот слабый ход меня
К погибели привёл!

Что было дальше — вспоминать
Теперь не в силах я,
И предлагаю доиграть
Другому за меня!..

Калі зрабіць на дошцы ўсе хады, апісаныя ў вершы, узнікне наступная пазіцыя, дзе чорныя дасягаюць перамогі нечаканай ахвярай трох шашак:

| | |
|---|---|
| 1. | g5—f4! |
| 2. e3 : c5 | c7—b6 |
| 3. d4 : f6 | b6 : d4 |
| 4. c3 : e5 | a5 : c7, |

і белыя здаліся.



**Міхась БУТКЕВІЧ**

# ТАМ, ЗА БАЙКАЛАМ

Сяброўскі шарж Пятра ЛЫСЕНКІ




*З вяршыні сопкі зірнеш, як з вежы:*
*З усіх бакоў — тайга і тайга...*

*Перавярнуўся б камень, далібог,*
*Ды, небарака, так зімой настыне —*
*За лета ўсё адзін не ўгрэеш бок.*

*...Было жніво нядаўна ў Беларусі*
*І ў хлопцаў*
*Недзе вершаў па пуду...*

*Мікола КУСЯНКОЎ.*

Скакаў я з купіны на купіну,
Ды так, што вывіхнуў нагу.
І ў ботах, што у Гомлі куплены,
Прайшоў амаль усю тайгу.

Не клаўся, як мядзведзь, я ў спячку,
Я жыў, пісаў, не гараваў.
Хоць і страчаў я сібірачку,—
Аб камень бок свой саграваў.

І па тайзе ганяў я гнуса.
Ад гнуса рабацінеў твар...
Тайга, тайга, я не сагнуся,
Не збочу я на тратуар.

Прыеду ў госці (час той блізка),
Дык будзе добрых вершаў нізка...

## СЕРЭНАДА Ў СУЧАСНЫМ СТЫЛІ

Мал. В. Швяцова.



# нашы аўтары

●

**БУРАУКІН Генадзь** нарадзіўся ў 1936 годзе на Полаччыне.
Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працуе карэспандэнтам газеты «Правда» па Беларускай ССР.
Аўтар зборнікаў паэзіі «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Голоса расстояний», «Дыханне».

●

**ЯНІШЧЫЦ Яўгенія** нарадзілася ў 1948 годзе ў вёсцы Рудка Пінскага раёна. Вучыцца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

●

**ГАРБУК Вісарыён** нарадзіўся ў 1913 годзе ў вёсцы Шкілякі на Полаччыне.
Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Аўтар кніг «Не шукаю спакою», «Алачка-забывалачка», «На маім акне», «Лицо в полоску».

●

**ЯКУБОВІЧ Леанід** нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Радкава Салігорскага раёна. Працаваў у рэдакцыі раённай газеты, цяпер — шахцёрам на руднiку. Завочна вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна.

●

**БРЫЛЬ Янка,** вядомы беларускі пісьменнік, нарадзіўся ў 1917 годзе ў Адэсе. Аўтар кніг «Нёманскія казакі», «Вераснёвая рунь», «У Забалоцці днее», «На Быстранцы», «Птушкі і гнёзды» і многіх іншых. Выйшаў збор яго твораў у чатырох тамах. Многае перакладзена на мовы народаў Савецкага Саюза і краін народнай дэмакратыі. Янка Брыль — сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР і літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа.

●

**ЮРКЕВІЧ Мікалай** нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Сяргеевічы Пухавіцкага раёна. Скончыў Мінскі юрыдычны інстытут. Аўтар кніг «Заключэнне шлюбу», «Падставы разводу», «Сям'я ў сучасным грамадстве».



Уладзімір ПАШЧАСЦЕУ. У лаву. Літаграфія.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 5**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктар **Лідзія ТАУЛАЙ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854 — сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592 — аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775 — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 1/IV-70 г. Падпісана да друку 24/IV-70 г.
АТ 26199. Тыраж 14713 экз. Зак. 834. Цана 40 кап. Папера 70×108[1]/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі прасп., 79.**